ГАРАДЗЕНСКАЯ БІБЛІЯТЭКА

www.facebook.com/knihizhrodna

*ГАРАДЗЕНСКАЯ БІБЛІЯТЭКА прысвячаецца той Гародні, якой мы ганарымся.*

*Дзякуем усім, хто з намі.*

**Каардынатар кніжнай серыі**
**«ГАРАДЗЕНСКАЯ БІБЛІЯТЭКА»:**
Павал Мажэйка (p.mazheika@gmail.com)

**Ідэя серыі:** Эдвард Дмухоўскі

**“Паэзія прозы”** – гэта чарговая кніга кніжнай серыі ГАРАДЗЕНСКАЯ БІБЛІЯТЭКА.

**Аўтар:** Віктар Сазонаў

**Рэдактар:** Аля Роман
**Графічная апрацоўка і вёрстка:** Алесь Паўлёнак

**Карэкцыя:** Аля Роман, Катажына Ляўдацкая

**Вокладка і малюнкі:** Ірына Саранчукова

ISBN



**Віктар Сазонаў.** Нарадзіўся 18 кастрычніка 1963 года, сто год пасля Паўстання. Паходзіць з славутых Гальшанаў. Жыве ў Гародні. Па нацыянальнасці – беларус, па веравызнанні – праваслаўны, жанаты, выхаваў сына і дачку, па адукацыі – гісторык, вайсковая спецыяльнасць – разведчык спецназа, сёння – журналіст, публіцыст, пісьменнік. Аўтар кнігі “Занатоўкі кантрабандыста”, якая была перакладзена на польскую мову. З канца 80-х гадоў XX ст. актыўны ўдзельнік грамадска-палітычнага руху на Гарадзеншчыне і ў Беларусі.

*Прысвячаецца вязню сумлення*
*Алесю Бяляцкаму*

## Прадмова

Кніжкі прозы Віктара Сазонава за апошнія гады здабылі дастаткова шырокае прызнанне ў беларускай літаратурнай прасторы. Дзякуючы мастацкім перакладам, добра знаёмы аўтар і польскамоўнаму чытачу. Вялікі поспех выпаў на долю ўжо першай кніжкі Віктара Сазонава – “Занатоўкі кантрабандыста”, зборнік адразу пасля выхаду стаў надзвычай папулярным, заняў высокае месца ў літаратурных рэйтынгах, быў прыязна прыняты крытыкамі. А сама галоўнае – атрымаў прызнанне ў звычайных чытачоў, стаў перадавацца з рук у рукі, што складае, напэўна найбольшую маральную сатысфакцыю для кожнага творцы. Потым пабачылі свет яшчэ дзве кніжкі – “Сандалі мітрапалітыка” і “Суседскія былі”, якія таксама не расчаравалі прыхільнікаў творчасці аўтара. Стыль аўтара ў гэтых зборніках збольшага захаваны і пазнавальны, дадаліся толькі новыя фарбы беларускай рэчаіснасці, яшчэ больш гумару і народнай мудрасці.

Віктар Сазонаў – адзін з нямногіх празаікаў, які звяртаецца да падзей сучаснасці, апісвае ва ўласцівым яму іранічным стылі грамадска-палітычныя рэаліі сённяшняга дня. Аўтар у сваіх аповедах і навелах абапіраецца на жыццёвы досвед, спалучае прыродную беларускую дасціпнасць і філасофскія развагі, вастрыню сарказму і мяккасць, лірычнасць роднага слова. Сюжэт і форма ягоных апавяданняў маюць надзвычай арганічны характар.

Творы Віктара Сазонава глыбейшыя, чым часам здаецца на першы погляд. За звычайнымі і незвычай-

ными бытавымі гісторыямі, пададзенымі з гумарам, прыхавана жыццёвая філасофія, праз простыя рэчы ўздымаюцца галоўныя пытанні чалавечай існасці і сэнсу быцця. А ў зборніку, "Паэзія прозы" весялосць і гумар спалучаюцца з глыбокай філасофіяй і смуткам, што яскрава адпавядае характару самаго аўтара. Да гэтага далучаецца прапанова чытачу самому задумаца над рэчаіснасцб, самому пашукаць шляхі яе ўдасканалення.

Зборнік пачынаецца кніжкай аповедаў "Дзедавы мудрасці". Гэта погляд аўтара ў нядаўную мінуўшчыну, дзе жыццёвы досвед і народная мудрасць перадавалася вусна, ад спрактыкаваных дзядоў да малых унукаў. Гэтыя мудрыя парады, як сістэма абароны і код самазахавання, лагічна пераплываюць у рэчаіснасць сённяшняга дня, якую чытач сустрэне ў другой частцы, на старонках пяці апавяданняў. Апавяданняў, якія ўздымаюць моц беларускага духу тых, хто і сёння не выракліся старых мудрасцяў і запаветаў, жывуць і дзейнічаюць у імя Беларусі.

Апавяданні і аповеды аўтара лёгка чытаюцца ў цягніку і перад сном, у вольную ад працы хвіліну і на прыродзе. Яны ўжо атрымалі шырокае прызнанне чытачоў, няма сумневу, што і новы зборнік "Паэзія прозы", які выходзіць у 50-ыя ўгодкі аўтара, чакае папулярнасць і поспех.

Аўтар – асоба незвычайная ў нашай беларускай прасторы. Акрамя літаратурных, валодае таксама мастацкімі, канструнтарскімі талентамі. Схільны да рэлігійна-філасофскага асэнсавання жыцця. Яшчэ зусім маладым хлопцам выехаўшы з роднага

мястэчка Гальшаны, ён застаўся патрыётам сваёй малой Радзімы і ўсёй Беларусі. А беларуская літаратура праз два дзясяткі гадоў знайшла цікавага і адметнага творцу. Многія творы Віктара Сазонава варты экранізацыі.

Адметна, што зборнік “Паэзія прозы” прысвячэны Алесю Бяляцкаму, зняволенаму праваабаронцу, вязня сумлення, кіраўніку праваабарончага цэнтра “Вясна”. Алесь Бяляцкі – вядомы літаратурны крытык, дысідэнт, змагар за правы чалавека. Віктар Сазонаў – таксама “вясновец”, – прысвячае сваю новую кніжку сябру, чалавеку, які заўсёды ёсць прыкладам ахвярнасці і змагання за справядлівасць.

Да працы над зборнікам далучыліся і іншыя людзі. Знайшоўся і такі чалавек, які быў не толькі ініцыятарам выдання кнігі, але і аказаў матэрыяльную падтрымку. А той калектыў, які спрычыніўся да выдання зборніка, з энтузіязмам і натхненнем аператыўна зрабіў сваю работу. Таму працу над гэтай кнігай, прысвечанай палітзняволенаму Алесю Бяляцкаму, можна ўспрымаць як прыклад нашай беларускай салідарнасці.

**Уладзімір Хільмановіч**

## На ўсё жыццё

Хіба толькі маладыя, з прычыны сваёй юнацкай дурноты, чакаюць ад вяселля і далейшага паслявясельнага жыцця доўгага і пяшчотнага шчасця, насычанага вечнай узаемнай павагай і паразуменнем ды іншымі немажлівасцямі. А таксама кахання, перасыпанага дабрабытам, які невядома адкуль павінен узяцца, але абавязкова мусіць прысутнічаць у колькасці прама прапарцыянальнай іх бязглуздым жаданням.

Усе ж астатнія людцы, асабліва блізкія сваякі і сваячкі, пачынаюць праяўляць цуды празорлівасці і, як чарадзеі ў трэцім калене, выразна бачаць будучыя непераадольныя праблемы маладой пары. На іх думку, якая грунтуецца на жаданні не даць іншым шчасця больш, чым маюць самі, гэтыя цяжкасці абавязкова мусяць прама з неба зваліцца на галаву закаханай пары ў такім аб'ёме, які ў некалькі разоў перавысіць іх каханне і здольнасць супрацьстаяць няшчасцям.

У дадатак, усе навокал, аж да моманту шлюбу, дзе на кароткі час мяняюць свае перакананні на супрацьлеглыя, яскрава бачаць, што маладыя аніяк не падыходзяць адно другому. Пры гэтым, сваякі маладога ўжо ведаюць столькі фізічных недахопаў маладой, колькі ў аднаго чалавека не можа быць увогуле. Іх, тых недахопаў, магло б хапіць на ўсю нацыю і яшчэ на суседнія малыя і вялікія народы.

Галоўная выснова адначасова прыходзіць у галовы ўсёй радні адразу: маладая не падыходзіць іх прыгожаму хлопцу ні па адным параметры знешнасці.

А пра выхаванне і гаварыць не хочацца. І гультайка, як яе маці, і неахайная, як даўно забытая ўсімі цётка, што выйшла замуж за ваеннага і з’ехала адсюль яшчэ трыццаць гадоў таму, а каб не гэтае вяселле, то ніхто пра яе і не ўспомніў бы. Карацей кажучы, дзяўчына сабрала ўсе недахопы сваёй нядбайнай радні ажно да сёмага калена ў глыбіню вякоў.

Сваякі ж маладой ужо раскапалі ўсе злачынствы і пачварствы радні маладога, пачынаючы з часоў Адама і Евы і заканчваючы сённяшнім днём. І калі ва ўсё гэта паверыць, то ні адно злачынства на свеце не адбылося без іх непасрэднага ўдзелу, уключаючы ўсе сусветныя і несусветныя войны, знішчэнне канкістадорамі культуры майя ды навядзенне сурокаў на суседскіх свіней. Яны гатовы абгаворваць радню маладога да бясконцасці, пацвярджаючы тым самым выказанае кімсьці меркаванне, што праўдзівымі людзі толькі нараджаюцца, а жывуць і паміраюць ілгунамі.

Толькі закаханыя не бачаць, якія жарсці бушуюць вакол іх, і паводзяць сябе як дурненькія авечкі, якія нават з прыстаўленай да горла касой мяркуюць, што іх проста хочуць пакарміць.

Найпрасцей пераносяць шок ад заканчэння нармальнага жыцця сваіх дзяцей іх таткі. У гэтых незадаволенасць выбарам дзетак доўжыцца толькі да першага сумесна выпітага кілішка. Пасля з мудрасцю і логікай, уласцівымі выключна мужчынам, якія ўжо зведалі пратэсты і няўдзячнасць сваіх дарослых нашчадкаў і супакоілі нервы саракаградуснай вадкасцю, яны меркаваныя беды сваіх дзетак пачынаюць успрымаць па-філасофску, усё спісваючы на фатум.

З матулямі ўсё больш складана. Маці маладога амаль заўсёды перакананая, што яе нявіннага дзіцёнка нейкая разбэшчаная дзеўка абдурыла, як буфетчыца піяку. Хіба яны мяркуюць па сабе, успамінаючы, як абышліся з бацькамі сваіх сыноў. Маці ж маладой ненавідзіць усіх ужо з прычыны таго, што цешчы мусяць быць такімі злымі па даўно існуючай народнай традыцыі. А традыцыі шанаваць трэба. А яшчэ будучая цешча не можа змірыцца з думкай, што жыццё ўжо прайшло і хутка яна будзе бабуляй. І менавіта гэты факт пакажа ўсяму чалавецтву, што яна ўжо кабета не маладая, хоць і лічыць сябе юначкай. Таму перад вяселлем яна не знаходзіць сабе месца, як шалёны сабака, у якога за сняданкам адабралі міску з засмажаным катом.

Пра дзядзькаў, цётак і больш далёкіх сваякоў, якія маладых упершыню ўбачаць толькі на вяселлі і да канца не ведаюць, хто ім радня - малады ці маладая, увогуле гаварыць не прыходзіцца. Яны заўсёды гатовы ўгледзець у іншай радні злодзеяў і ашуканцаў, якія і падарункаў нармальных маладым зрабіць не ў стане, і ядуць ды п'юць зашмат, і, увогуле, на людзей мала падобныя.

Добра, калі хоць нехта талковы з'яўляецца сярод усёй радні. Тады хоць нейкі шанс ёсць, што маладыя не ўзненавідзяць свой далейшы лёс і будуць сваё сумеснае жыццё ладзіць не пад цяжкія ўздыхі родных цётак, якія суправаджаюцца словамі: “А я ж табе гаварыла! Але ж мяне ніхто не слухаў!”

Васілю з Ларысай пашанцавала. Сярод перадвясельнай мітусні і дэманстратыўных стогнаў усёй радні з абодвух бакоў, калі нават суседзі лічаць сваім абавяз-

кам хоць раз перасцерагальна запытаць: "А куды ж ты, дзетачка, лезеш?!" або "Ці ўсё ты добра абдумаў?!", быў адзін чалавек, які не сказаў ні слова. Гэта быў Васілёў дзед. Ён толькі слухаў ды пасміхаўся сабе. Ні з кім у размовы не лез, не спрачаўся і не падтакваў. Як бы чакаў свайго часу, каб сказаць мудрасць тады, калі дурні ўжо нагаворацца і ўсе глупствы скажуць па тры разы.

А глупствы сыпаліся, як снег вайной. Ужо і маладыя пачалі сумнявацца, ці добра яны робяць. Ужо і кінулі б адно другога ды разбегліся ў розныя бакі, каб толькі не чуць таго і не бачыць. Ды каханне іх трымала разам. А маці Васіля як зразумела, што дзеля таго, каб ашчасліваць усю радню, яе сын не збіраецца адракацца ад свайго ўласнага шчасця, выкарыстала тайную зброю, што трымала на самы крайні выпадак, – мужа.

– Ідзі, дурань, з сынам пагавары, – пачала яго падбухторваць. – Родненькае дзіцятка жыццё губіць, а ён п'е, як конь! А яму абы напіцца!

Бацька Васіля сапраўды ўжо паспеў пагадзіцца з рашэннем сына і з бацькам Ларысы ўжо абмяркоўваў за кілішкам, як унукаў называць будуць. З жонкай спрачацца забаяўся. Таму напружыў мужчынскую логіку і прыдумаў, што сыну сказаць. Думаў, фраза будзе разумная і перасцерагальная.

– Ці добра ты падумаў? – запытаўся ён, абняўшы сына за плечы. – Ты добра падумай, сынок. Гэта ж на ўсё жыццё!

І тут выказаўся дзед. І пасля яго слоў усе спрэчкі спыніліся, і людцы, змірыўшыся з лёсам, сталі шукаць добрыя рысы ў абранніках іх дзяцей.

– Не слухай, унучак, гэтага малакасоса, – выгукнуў дзед. – Што ён кажа? Усё жыццё. На ўсё жыццё. Нават галаву не задурвай сабе такімі сумневамі. Бо ўсё жыццё - гэта не так ужо і доўга. Праляціць імгненна. Таму не бойся на ўсё жыццё штосьці зрабіць.

## Трапны адказ

У часы Савецкага Саюза людзі як агню баяліся дзвюх дзяржаўных арганізацый. Адна з іх, вядомая на ўвесь свет, называлася Камітэт Дзяржаўнай Бяспекі. КДБ. Другая арганізацыя ўвесь свет цікавіла менш, але ў краіне яе не любілі хіба што больш, чым тое КДБ. Гэта быў Аддзел па Барацьбе з Крадзяжом Сацыялістычнай Уласнасці. АБКСУ. Назва доўгая, як колькасць часу, які мусіў правесці чалавек пад арыштам, калі ім заняліся людзі з гэтай арганізацыі. І дурная. Бо само спалучэнне слоў сацыялізм і ўласнасць больш нідзе не сустракаецца, акрамя як у назве гэтай арганізацыі.

Калі да чалавека завіталі прадстаўнікі АБКСУ, гэта азначала, што той ад астрога не ўратуецца, нават калі ні ў чым невінаваты. Хоць выкруціцца было можна. Трэба было даць на лапу. Прычым хабар павінен быў быць вельмі вялікі, як брухачы і морды супрацоўнікаў АБКСУ. Таму савецкі чалавек, які меў хоць нейкую пасаду, каб не патрапіць у астрог за крадзеж, мусіў красці як мага больш, каб мець грошы на хабар і ад астрога адкупіцца. Людзі жартавалі, што хабарніцтва ў Савецкім Саюзе прыдумалі акурат супрацоўнікі з гэтага міліцэйскага аддзела, які мусіў змагацца акурат з хабарніцтвам.

Такім чынам, атрымлівалася, што работнікі Аддзела па Барацьбе з Крадзяжом Сацыялістычнай Уласнасці садзілі ў турмы выключна чэсных людзей, якія не кралі, таму і адкупіцца не маглі. Прытым садзілі яны тых людцаў абсалютна з чыстым сум-

леннем, бо былі перакананыя на ўсе сто, што чэсных людзей на свеце не бывае.

А народ між сабой разважаў так: КДБ займаецца тымі людзьмі, якія не задаволеныя савецкай уладай. А вось тымі, хто савецкай уладай задаволены, павінен займацца Аддзел па Барацьбе з Крадзяжом Сацыялістычнай Уласнасці. АБКСУ.

У гэты час развітога сацыялізму пайшла неяк мода на дублёнкі. Тады ўвогуле грамадзяне самай вялікай краіны вымушаны былі выглядаць больш-менш аднолькава. Бо народная прамысловасць не песціла асабліва сваіх любімых грамадзян разнастайным таварам. Таму і называлі СССР краінай без колераў. А тых любімых народам дублёнак увогуле не вырабляла. А народ ажно млеў ад іх, як ад манатонных выступаў тагачаснага кіраўніка гэтай краіны. Добра, што на вёсках яшчэ не зусім развучыліся кажухі вырабляць. А ад кажуха да дублёнкі адзін крок. Крыху знізу падрэзаць на вока, каўнер зрабіць менш кудлатым ды пашыць у талію, калі такая ў заказчыка ёсць у наяўнасці.

Таму дзед Валодзя адразу ўгледзеў у гэтай модзе сваю матэрыяльную карысць. А заадно зразумеў, як ён зможа адпомсціць савецкай уладзе, якую сам цярпець не мог, як злы сабака тоўстага ката, і ўнукаў навучаў такой жа мудрасці. Казаў, што менавіта дублёнкі загубяць камуністычную краіну. Бо сацыялістычная эканоміка іх рабіць у прамысловых маштабах так і не навучыцца з тае прычыны, што яна няздольная і няздатная па сваёй прыродзе і нічому добраму для людзей навучыцца не можа ў прынцыпе. Бо людзей не любіць. А вось як пач-

нуць вырабляць людцы дублёнкі сваімі рукамі, то гэта ўжо будзе азначаць, што капіталізм пачне сваё пераможнае шэсце па шырокіх прасторах краіны камуністычнай прапаганды.

Чалавек дзед Валодзя быў разважны, і калі што задумаў, то даводзіў справу да канца, незалежна ад таго, ці гэта дублёнкі вырабляць, ці Савецкі Саюз развальваць. А лепш сумясціць карыснае з прыемным. Праўда, крыху пазней тупаватыя камуністычныя ідэолагі абвінавачвалі ў развале СССР Міхаіла Гарбачова. Але я з упэўненасцю сцвярджаю, што гэта няпраўда. Гарбачоў толькі завяршыў ужо відавочны развал тае краіны. А пачаў гэтую працу дзед Валодзя і такія ж, як і ён, звычайныя людзі.

Паколькі выраб дублёнак спрыяў перамозе капіталізму, дзед Валодзя рабіў іх з такім задавальненнем, з якім моцна закаханыя людзі робяць сабе нашчадкаў. Таму тавар быў на ўзроўні, па прыгажосці і якасці быў нашмат лепшым, чым усё, што вырабляла савецкая краіна. І кліентаў стала - хоць у чаргу выстройвай. Толькі дзед Валодзя не рабіў чэргаў з прычыны ўсё таго ж непрымання нічога камуністычнага.

Неўзабаве і грошай стала намнога больш, чым павінна быць у грамадзян краіны, якая будуе светлую камуністычную будучыню для ўсяго чалавецтва, якое пра тое будаўніцтва нікога не прасіла.

– Дам сто рублёў таму, хто адгадае з трох разоў, хто да мяне першы завітае: Камітэт Дзяржаўнай Бяспекі, бо я тут падрываю асновы сацыялізму, ці Аддзел па Барацьбе з Крадзяжом Сацыялістычнай Уласнасці, бо я незаконнай працоўнай дзейнасцю

займаюся і грошы атрымліваю не з калгаснай касы, – кажа неяк дзед Валодзя.

– А і сапраўды нехта да цябе з іх прыйдзе, – разважаюць людзі. – А можа, і тыя і другія. Што ты ім тады скажаш? – пытаюцца.

– Знайду, што сказаць, – адказвае дзед. – Усё сваё жыццё думаў, што ім сказаць. І не прыдумаў. Што ў галаву прыйдзе, тое і скажу. А вы адгадвайце. Сто рублёў на дарозе не валяюцца.

Спрэчку выйгралі хітрыя браты Місюкевічы. Глянулі адзін на другога, пераміргнуліся, і адзін сказаў КДБ, а другі АБКСУ.

І гэта сапраўды быў АБКСУ. Зайшлі з партфелямі ў левых руках. Правыя лапы не заняты. Гатовыя, каб хабар хапнуць. Ці як па-іншаму сабе карысць выціснуць.

– Аўчынкі робіш? – пытаюцца.

– Умею, то і раблю, – адказвае дзед. – А вы як не ўмееце, то і не зробіце.

– А грошай колькі страсаеш з кліентаў? – працягваюць тыя.

– З каго колькі, – разважае дзед Валодзя. – Па чалавеку гляджу. Звычайна пяць рублёў за аўчынку са звычайных людзей.

– Ну, а з нас колькі возьмеш? – паціраюць тыя рукі, мяркуючы, што напалоханы стары задарма ім і іх бабам дублёнкі зробіць.

– А з вас па дваццаць пяць вазьму, – спакойна заяўляе дзед.

У тых вочы павылазілі як у жабаў, на азадкі якім конь наступіў.

– А чаму гэта з нас так шмат? – загаласілі яны ў адзін голас, нібыта сапраўды плаціць былі вымушаны.

А дзед Валодзя яшчэ спакайнейшым голасам агучыў фразу, пасля якой тыя з хаты кулямі павылятали, больш самі не з'яўляліся, і ў КДБ, відаць, паведамілі, каб не прыходзілі ніколі:

– А з вас я бяру больш, бо вы больш маеце. І заробкі ў вас не такія, як у працоўнага класа ды пітушчага сялянства, і хабару навалам. А мы ж пры сацыялізме жывём. Такіх багатых, як вы, быць не павінна. Таму дзяліцеся з іншымі.

## Мудры адказ

Дзеда Яську шанавалі не толькі ў яго вёсцы, але і па ўсёй акрузе. І перш за ўсё за мудрасць і прыстойнасць. А яшчэ за ўменне трапна пажартаваць. Яго кожнае слова было ўзважанае, важкае ды важнае, як дакумент на гербавай паперы, падпісаны кіраўніком краіны.

А жартаваць - гэта вялікая навука. Умець трэба. Там столькі тонкасцей, што не кожны можа зарыентавацца. Бо жартам можна нехаця і чалавека пакрыўдзіць. Асабліва калі чалавек дурны, як дзіравы валёнак з левай нагі, і жартаў не разумее.

Але ўменне жартаваць - гэта не самая складаная навука. Намнога складаней не пакрыўдзіць чалавека не няўдалым жартам, а ўдалай мудрасцю. Бо большасць людзей можа сцярпець нават адкрытую абразу. А вось спакойна ўспрыняць мудрэйшага за сябе чалавека не кожны хоча. Бо многія сённяшнія нашчадкі колішніх чалавекападобных малпаў па незразумелых для іншых людзей прычынах мудрымі лічаць менавіта сябе. І прызнаваць сваю разумовую паразу яны не збіраюцца ні ад кога, нават ад каня, хоць у таго галава большая. Іх не хвалюе і той факт, што іншыя далёкія сваякі Адама з Евай, уключаючы і іх родных бацькоў, братоў, сясцёр, жонак, мужоў, суседзяў і нават школьных настаўнікаў, ні разу за ўвесь час з дзяцінства да старасці не заўважалі пробліску інтэлекту ў іхніх вачах.

Таму, каб такіх людзей не пакрыўдзіць мудрасцю, трэба быць настолькі мудрым, што мудрасці сваёй не паказваць. І старацца больш маўчаць. Рот дзеля

ўласнай бяспекі ўвогуле не рэкамендуецца разяўляць. Бо калі вы бачыце кагосьці з падбітым вокам або перабінтаванай галавой, то можаце смела сцвярджаць, што ў гэтага індывіда нейкі час рот не закрываўся. Як выключэнне, рот адкрываць дазваляецца толькі ў дантыста, і то не вельмі шырока. Ну, а калі ўсё ж ёсць надзвычай вострая неабходнасць, па дабраце сваёй ці на карысць каму даць якую-небудзь параду, то трэба старацца зрабіць гэта ў выглядзе нявіннага жарту ці анекдота ад трэцяй асобы. І яшчэ можна рот разявіць для такой фразы, пасля якой спрэчкі адразу перапыняюцца, нібыта апанент язык праглынуў. Вось такая рэдкая здольнасць была ў дзеда Яські. Таму людзі не абражаліся яго мудрасцю, а вельмі яе шанавалі.

У дадатак дзед Яська быў працавіты і да гарэлкі стрыманы. Піў зрэдку і не абы з кім. Лічыў гарэлку вельмі шляхетным напоем, каб злоўжываць ёй часта або абразіць кампаніяй нявартага кумпеля. Але ўжо калі сустрэне вартага чалавека і надумаецца з ім закінуць за каўнер, то гэта ўжо ад душы і са смакам. Яшчэ і назаўтра прыйдзецца адлежвацца. Як сам жартаваў, залізваць раны пасля загулу трэба столькі ж часу, колькі сам загул доўжыўся.

Яго натуру добра ведала жонка і, каб цалкам адбіць ахвоту да спіртнога і сяброўскай кампаніі, зранку, пасля п'янкі, будзіла яго ды надакучала няўдалымі рэплікамі ды пустымі пытаннямі. Так і на гэты раз здарылася. А пачалося ўсё як у святых. З малення ў Гальшанскай царкве.

- Здароў, Яська, - пачуў ён неяк знаёмы голас, выходзячы пасля нядзельнай службы з царквы.

Аклікнуў яго дзед Валодзя. Абодва дзяды вельмі ўсцешыліся ад сустрэчы, бо шанавалі і паважалі адзін другога. А гэта - дастатковая прычына ды і нагода, каб раздушыць сумесна бутэлечку чаго-небудзь мацнейшага за настойку валяр'янкі.

- Можа, дзянёк нядзельны дазваляе нам не папрацаваць, а павесяліцца? - прывітаўся дзед з дзедам.

- А чаму ж не? - адказаў дзед дзеду. - Ці ж мы з табой не радня?

- І сябрукі ў дадатак.

Весела ім было. Добра. Выпівалі, жартавалі, успаміналі маладосць. Анекдоты травілі, спявалі, смяяліся, цешыліся з мажлівасці павесяліцца. Пра жыццё гаварылі, пра лёс і мудрую збудову сусвету. Шкада, што ў тыя часы дзяцей не пускалі да стала, дзе выпівалі дарослыя. Як многа можна было б даведацца! Але тое пакаленне па-іншаму малых навучала. Пераважна ўласным прыкладам.

Праблемы, як заўсёды, пачаліся сонечным ранкам у панядзелак. Як толькі першыя промні палашчылі праз вокны хатку, бабуля штурханула дзеда Яську пад бок.

- Ну што, піяка, - прывіталася яна. - Касіць пойдзеш?

Хоць добра ведала, што стары ў гэты дзень з хаты выйдзе толькі ў прыбіральню. А так будзе, як ён сам гаворыць, раны залізваць пасля ўчарашняга.

- Сёння касіць нельга, - хоць нешта адказаў дзед і стаў думаць, што сапраўды мудрае прамовіць, каб жонка адчапілася.

- А чаму? - не супакойвалася тая. - Што гэта за свята сёння?

- Сёння дзень роздумаў пра сэнс жыцця, - падняў дзед палец угару. - Вось адкажы мне, жоначка. Цэлае жыццё ты пражыла. А ці зразумела хоць пад старасць, дзеля чаго чалавек жыве?

- Як дзеля чаго? - стала напружваць розум бабка. - Ясна дзеля чаго. Каб прыстойным быць, каб людзі шанавалі...

- Я так і думаў, што цябе жыццё анічому не навучыла, - усміхнуўся стары. - Ты гаворыш тое самае, што нашым унукам школьныя настаўнікі расказваюць. Але ж яны маладыя, дык і плятуць абы-што. А ты жыццё пражыла. Саромся.

- Можа, ты што больш разумнае скажаш? - зазлавала старая.

- І скажу, - зрабіў дзед надзвычай сур'ёзны твар. - Быў я ўчора ў царкве. Слухаў, пра што бацюшка распавядаў. Дык вось, ён сцвярджаў, што галоўнае для чалавека - душу зберагчы для вечнасці. Менш грашыць.

- І якое гэта мае дачыненне да твайго сённяшняга ляжання? - засмяялася старая.

- А самае прамое, - заявіў дзед Яська. І пасля сказаў такую фразу, што бабка больш яго не турбавала ніколі, калі ён хацеў адляжацца. - Дачыненне такое, - яшчэ раз падняў ён палец угару, каб надаць важнасці сказанаму. - Ляжаць буду столькі, колькі змагу. Бо чым пазней падымуся, тым меней награшу.

## Камяні

Бульбу справядліва хтосьці назваў бічом беларускай нацыі. І справа не ў тым, што яе беларусы зашмат ядуць. Нібыта яны такія рахманыя і спакойныя, бо бульба сама па сабе сродак заспакаяльны, і быццам бы таму кожны беларус на працягу ўжо трох сотняў гадоў штодзённа прымае заспакаяльных сродкаў у эквіваленце роўным тром таблеткам дымедролу.

Прыдумана гэта дзеля смеху ці, можа, які звар'яцелы прафесар сапраўды паверыў у сваё бульбянае вынаходніцтва і зараз чакае дзяржаўнай прэміі, сказаць цяжка. Калі яго ўзнагародзяць, то толькі бульбяным ордэнам. Але ёсць яшчэ адна думка. Невядома, верыць у тое ці не, што з-за бульбы наша нацыя стала абыякавай да таго, якая ўлада ёй кіруе. Маўляў, нам да ўлады аніякай справы няма. Нам абы бульба была. А будзе бульба, то будзе і сала. А значыць, неяк пражывём, і хто там намі кіруе, нас цікавіць не больш, чым каларадскага жука яго гістарычная радзіма. Нам, маўляў, як таму жуку, каларадскаму, абы бульба была.

Усё гэта гучала б смешна, каб не было такім сумным. Справа ў тым, што бульба сапраўды апраўдвае назву "біч нацыі". Былі часы, калі вясковы жыхар дзякуючы бульбе не толькі выжываў, але і жыў. Калі яе садзілі або капалі, то мусілі ўсе родныя прыехаць на гэтую "імпрэзу", як паганцы на танец вакол вогнішча. І паспрабуй толькі не з'явіцца! Гэта ўсе ўспрымалі як абразу для бацькоў.

– А што ж людцы скажуць, калі вы, дзеткі, не прыедзеце? – лямантавалі старыя бацькі, калі дзеці ім

тлумачылі, што прыехаць не могуць, бо іх з работы папруць за прагул.

Ніхто аніякіх апраўданняў і слухаць не хацеў. Бо бульба - гэта святое. А на тлумачэнні дзяцей, што можна знайсці якую больш карысную культуру для апрацоўкі і больш лёгкую ў вырошчванні, старыя бацькі адказвалі фразай:

– А табе абы не працаваць!

Пасля такога аргумента сказаць не было чаго, як няма чаго сказаць сваёй жонцы мужчыну, які пайшоў вечарам у краму па хлеб і вярнуўся дахаты толькі раніцай і без хлеба. Заставалася толькі ўсе справы кідаць і, праклінаючы бульбу, ехаць яе капаць.

А ўжо калі хто асмельваўся сказаць, што на паліва больш грошай расходуецца, каб даехаць да тае бульбы, чым увесь яе ўраджай каштуе, то гэта была трагедыя, і такі ўчынак не меў ніякіх апраўданняў. Таму на капанне бульбы людзі нават з Сібіры на самалётах прылятаў, хоць на адзін дзянёк, а то, не дай бог, праклянуць яшчэ ды адракуцца, калі з гачкай у адной руцэ і з кашом у другой не будзеш стаяць ракам на полі ў вызначаны час, побач з астатняй раднёй, якая прыме дакладна такую ж позу, як і ты, і зарыецца ў зямлю ў пошуках некалі экзатычнай культуры.

У Беларусі ў тыя савецкія часы на капанне бульбы спынялася ўся іншая дзейнасць. Войска пераставала ахоўваць межы вялікай краіны і строем, як і мусяць жаўнеры, рухалася на калгаснае поле. Студэнты пераставалі вучыцца і таксама, як краты, рылі бульбу то на калгасных плантацыях, то на бацькоўскіх сотках. Іх выкладчыкі рабілі тое самае, з вялікай неахвотай

і лянотай падбадзёрваючы сваіх студэнтаў і з сумам натхняючы іх на вялікія працоўныя дасягненні.

Нават школьнікаў выганялі на калгаснае поле. І яны, як і ўсе астатнія бульбакапальнікі, начытаўшыся пра неэфектыўнасць выкарыстання рабскай працы, даказвалі гэта сваімі паводзінамі, пакідаючы ў зямлі большую палову ўраджаю.

Як бульбу выкопвалі, то ўсе вярталіся да сваіх спраў. Толькі не ў нас, на Ашмяншчыне. У нас пачынаўся другі этап здзеку са школьнікаў. Нас выганялі на калгаснае поле збіраць камяні. Ашмяншчына - мясцовасць гарыстая і камяністая. Там тых камянёў больш, чым бульбы. Я ў дзяцінстве нават думаў, што яны таксама растуць. Зрэшты пасля пераканаўся, што так яно і ёсць.

– Эх, што ж вы робіце? – уздыхнуў неяк дзед Яська. – Што ж вы зямельку губіце?

– Як гэта губім? – пытаюся я.

– Навошта вы ад яе камяні забіраеце? – цікавіцца дзед.

– От, дзядуля, – адказваю я. – Нічога ты не разумееш. Мы жывём у краіне прагрэсу. У нас на поле ўжо не коні выходзяць, а тэхніка выязджае. Камбайны розныя, бульбакапалкі. Яны ад тваіх камянёў псуюцца. Таму камяні з поля прыбраць трэба, каб тэхніка магла працаваць.

– Што ж гэта за тэхніка, як яна ад каня горшая, – уздыхнуў дзед. – Я табе, унучак, вось што скажу, – працягвае ён. – Не мы свет стварылі, не нам мяняць яго. Вось, прыкладам, як на тарфянай раўніне камень не патрэбны, то яго там і няма. А калі ў нас ён ёсць, то без яго нельга. У нас пагоркі. Камень днём награваецца і ўночы,

як замаразкі спускаюцца на вяршыні, не дае зямельцы перамерзнуць. А за ноч сам астыне і назаўтра ўдзень не дае зямельцы перасохнуць. Бо як на пагорках зямля перамерзне ды перасохне, то з яе вецер усё карыснае выдзьме. І з гадамі не толькі бульба, але і крапіва расці там не будзе. Бо камні на полі баланс падтрымліваюць. Запомні, што я кажу. Як прыйдзе час, вярніце камяні назад. - Пасля памаўчаў, і дадаў: – Вось так і з душамі людскімі. Чалавек лічыць, што яму трэба як мага лягчэй жыць. І хоча камяні, якія яму перашкаджаюць жыць без клопатаў, павыкідаць. Вера перашкаджае яму, бо шмат да чаго абавязвае. Традыцыі перашкаджаюць, бо мусіш іх трымацца. Вось, прыкладам, каб не прыезд на капанне бульбы, то родныя людцы адзін другога гадамі не бачылі б. А так мусяць на бульбу прыехаць, дык хоць бацькоў пабачаць. А выкінь з людскіх душаў гэтыя камяні, што тады там баланс падтрымліваць будзе? Адзін чарнобыль расці пачне, і чалавек бутэльку гарэлкі шанаваць будзе больш, чым сэнс жыцця.

Шмат гадоў прайшло з тае размовы. Усе сабакі, якія нарадзіліся тады, даўно ўжо передохлі. Успамінаю яе зараз заўсёды, як еду па Ашмяншчыне і гляджу на пагоркі, з якіх вецер усё карыснае выдзьмуў. Пясок там ды палын. І не здзіўляюся, чаму мы так і не вызначыліся з гістарычным выбарам: на ўсход ісці ці на захад. І чаму мы як нацыя яшчэ не з'яднаяліся. І чаму мовы ды традыцый не шануем належным чынам. Хіба зашмат камянёў павыбіралі з нашых палёў за савецкія часы.

Вось і думаю, якім мудрым быў дзед. Трэба вяртаць тыя камяні. І тады, з гадамі, адновіцца баланс. І там, дзе расце палын, зноў пасадзяць бульбу. А мы прыедзем яе капаць, каб чарговы раз сустрэцца з роднымі.

## Піянерскі гальштук

Усе аднакласнікі Віктара яшчэ ў школе ўступілі ў камсамол, як авечкі, якіх воўк хвастом гоніць да сваёй зграі, а яны мяркуюць, што гэта пастух вядзе іх да новай пашы з сакавітай травой. А як па-іншаму? Краіна такая была, што ад сваіх грамадзян патрабавала абсалютнай паслухмянасці, аднолькавасці ў выглядзе і падабенства ў мысленні. Нібыта гэта не людзі былі, а плот, роўненькі такі ды аднолькавы да болю ў зубах. І за ім так утульна было хавацца кіраўніцтву той краіны ад цэлага свету. Але ж, як ні намагайся, хай хоць морда трэсне, заўсёды знойдзецца нехта, хто не захоча быць штыхецінай у плоце, нават калі плот агульны ды пафарбаваны ў аднолькавы колер.

А ў камсамол уступалі па розных прычынах. Большасць ішла туды таму, што так было трэба. Каму гэта трэба было? Ніхто такім прымітыўным для таго часу пытаннем не перагружаў сабе галаву. Не было ў галаве для гэтага месца. Трэба было ёй асвойваць абавязковую праграму сярэдняй школы.

А некаму ж было тое трэба. І людзі жылі згодна з думкай, закладзенай у адной песні, што раз на небе запальваюцца зоркі, значыць, некаму гэта трэба, хоць ты здохні. А ці патрэбна гэта табе канкрэтна? Вось з гэтым пытаннем усё значна складаней. Бо некаторыя нават нараджаюцца з разуменнем пабудовы сваёй кар’еры і яшчэ ў маміным жываце ведаюць, што такое камсамол і што ён ім патрэбны, каб па кар’ернай лесвіцы апярэдзіць усіх, з кім разам ляжаў у радзільным доме.

Другіх бацькі намовілі. Маўляў, па-іншаму нельга, бо так усе робяць. І Віктар так зрабіў бы, каб не яго дзед Валодзя.

А пачалося ўсё яшчэ з піянерскай эпапеі. Маленькія хлопчыкі і дзяўчаткі, як кураняткі, стаялі на школьнай лінейцы і чакалі, калі іх прымуць у піянеры. Выглядала ўсё настолькі ўрачыста на той момант, наколькі смешна і абсурдна ўспрымаецца гэта зараз. Найбольш камічна глядзелася піянерская важатая. Цётка ўжо ў такіх гадах, калі прыдурвацца не дазваляе ўзрост. Але яна пачапіла на шыю піянерскі гальштук і, як прыдзіцянелая, салютавала направа і налева піянерскім салютам, паказваючы ўсім, што інтэлектам яна з піянерскага ўзросту не толькі не выйшла, але ўжо не мае надзеі, што хоць некалі гэта ў яе атрымаецца.

Не менш бязглузда выглядаў і сівавалосы дырэктар, які, запінаючыся, расказваў небыліцы пра тое, як піянеры зашывалі гальштук на сэрцы падчас вайны, каб кавалак чырвонай матэрыі не дастаўся ворагу. Пра тое, што вораг таксама меў сімволіку чырвонага колеру, дырэктар палічыў неабходным не нагадваць.

Нешта плёў і завуч. Але Віктар, як і ўсе рамантычныя дзеці, чакаў галоўнага: калі яго прымуць у піянеры. Баяўся, каб настаўнікі не забыліся пра яго. Тыя не забыліся. Каб забыліся, то настаўнікамі не былі б ужо назаўтра. І пад грук барабанаў і пішчанне горнаў хлопчыку завязалі на шыю піянерскі гальштук.

Столькі было з гэтага радасці, колькі ў сабакі з вязанкі сасісак. Дзіцянё ляцела па вуліцы сваёй вёскі, як усходні вецер, мяркуючы, што ўсе яго бачаць і ўсе зай-

здросцяць, што ён піянер. Нават куры зайздросцяць. І сабакі, і каты, і карова бабкі Ганны. Ну, а людзі яшчэ больш. Такая падзея вялікая ў яго жыцці. Прынамсі, піянерская важатая, як дарослы чалавек, якому мусіў верыць, сказала, што падзея гэта самая вялікая. Іншыя настаўнікі гэта не аспрэчылі.

– Тата, тата!!! – закрычаў Віктар, убачыўшы ля сельсавета бацьку. – Глянь, што мне далі, – паказаў ён на піянерскі гальштук. – Я цяпер піянер, малодшая змена камсамольцаў.

– Добра, – пахваліў яго бацька, пагладзіўшы па галаве. – Маладзец. Глядзі, цяпер вучыся яшчэ лепш.

– Так, так, – сталі падыгрываць бацьку Віктара навакольныя. – Вучыся добра, а то гальштук забяруць.

А хлопчык куляй ужо ляцеў на работу да маці, каб і там пахваліцца сваім піянерствам.

– Маладзец, сынок, – ласкава пахваліла яго маці, як быццам было хоць крыху яго заслугі ў тым, што яму завязалі на шыі дзіцячы сімвал камуністычнай улады. – Бачыш, ты ўжо стаў вялікім. Таму слухайся бацькоў, настаўнікаў і добра вучыся.

Якая сувязь паміж тым, што ён стаў вялікім і яго абавязкам яшчэ больш кагосьці слухацца, Віктар не зразумеў ніколі. Ён і хацеў вырасці хутчэй, каб можна ўжо было нікога не слухацца. А то абрыдла, як штодзённа цябе вучаць жыць усе, каму не лянота. Адзін дзед ніколі не павучаў. Дарэчы, хлопчык узгадаў, што яшчэ яму гальштукам не пахваліўся.

Прыбегшы на свой падворак, ён выставіў, як певень, грудзі наперад, мяркуючы, што дзед сам заўважыць гальштук. Толькі, замест чаканага хвален-

ня, той незадаволена выгукнуў:

– А што гэта за анучу ты пачапіў сабе на шыю? І не сорамна табе паміж людзей паказвацца ў такім выглядзе?

У Віктара ажно дух пераняло, як у старога пеўня, які ўзяў для свайго ўзросту завысокую ноту і яшчэ да ўсходу сонца.

– Ты што, дзед? – пачаў спрачацца ён. – Гэта не анучa! Гэта ж часцінка нашага чырвонага сцяга.

– Нашага, кажаш, чырвонага, – адгукнуўся дзед. А пасля дадаў, як адрэзаў: – А наш не такі.

І не сказаў больш ні слова. Толькі гэта так моцна было сказана, што захацелася разабрацца насамрэч, які ж тады наш сцяг.

І разабраўся. І ў камсамол ужо і за кар’еруісці не захацеў. І ні за што не захацеў.

Так адна праўдзівая фраза можа стаць мацнейшай за ўсю падманную прапаганду. З тае пары хлопец усё жыццё быў удзячны дзеду за мудрасць. Аб адным толькі Віктар шкадаваў праз усё жыццё: не ўсім так з дзедам пашанцавала.

## Справядлівы свет

Пра несправядлівасць пабудовы свету можна пачуць усюды, амаль у кожнай кампаніі. Прычым больш за ўсіх наракаюць на гэтую несправядлівасць пераважна вельмі добра ўладкаваныя ў жыцці людзі, якія самі тую несправядлівасць чыняць на кожным кроку, куды можа ступіць іх нага ў абутку не самай кепскай абутковай фабрыкі. А калі хочуць пажартаваць, што свет усё ж збудаваны больш-менш правільна, то кажуць, што бог дзеліць пароўну. Адным дае добры апетыт, а другім добрую ежу. Пры гэтым звычайна так падсмейваецца тая катэгорыя людзей, у якіх і ежы навалам, і апетыт воўчы.

Аднойчы патрапіў я ў кампанію, дзе гэтае пытанне стаяла вельмі востра. Мае знаёмыя супакойвалі нейкую маладую дзяўчыну, якая раўла, пускаючы ў зямлю слёзы не меншыя за сліву, як галодны бабёр. І чым больш яе супакойвалі, тым больш салёнай вадкасці вылівалася з яе вачэй.

Каб яна не плакала сорак дзён і сорак начэй і не нарабіла яшчэ аднаго страшнага прыроднага катаклізму, я вырашыў уключыцца ў размову:

– Я завітаў на крык, – пачаў з жарту, – бо ёсць чалавекам смелым і не пабаяўся. Іншыя ад гэтага крыку ўжо паўцякалі як мага далей і пачынаюць эвакуацыю з горада, мяркуючы, што адпаведныя службы ўключылі сірэну, якая папярэджвае пра мажлівую ядзерную атаку на нас з боку Сінгапура.

– Дык Сінгапур ядзернай зброі не мае, – запярэчылі мне.

– Правільна, – пагаджаюся я. – Навошта тады ўключылі сірэну і народ баламуціце?

Жарт не прайшоў. І ўсе ў адзін голас пачалі тлумачыць, якая ў дзяўчыны бяда:

– У яе бацька-алкаголік, каб ён здох. Чарговы раз налізаўся, падла, скандал закаціў. Пабіў усіх, каго мог, ды з хаты павыганяў зімой на мароз. Тыя нават вопратку не паспелі пахапаць.

– Ці ж можна так на роднага бацьку наракаць? – не ўстрымаўся я, паколькі сам ужо даўно бацька і ведаю, якія ў бацькаў пачуцці да родных дзетак і як крыўдна бывае, калі гэтыя пачуцці не заўважаюць або недаацэньваюць.

– Ды вы проста не ведаеце, што гаворыце, – са звярынай злосцю вылупілася на мяне заплаканая дзяўчына. – Ён прыйшоў напіты, нас з хаты выгнаў, хоць я сяброўку ў госці чакала. Мы пакутуем, а яму там добра. Гэта ж нелюдзь! Паваліўся недзе, п'яны, на падлогу, як жывёла, не распранаючыся. Ляжыць у цяпле сабе, заліўшы рыла. Можа нават і засцаўся…

Хоць я спачатку заняў пасаду абаронцы бацькі гэтай дзяўчыны, але не мог не ўлічваць новых фактаў пра мароз, цяпло, п'яную морду і валянне на падлозе. Ну, як жывёла, толькі з той розніцай, што ў вопратцы, як нелюдзь. Але так зразу не мог вырачыся перакананння, што родны бацька - гэта ўсё ж родны бацька. Ды не меў аргументаў. І тут мне ўспомніўся адзін момант пра дзеда Валодзю.

Было гэта неяк восенню на вёсцы. Я малым яшчэ быў. Вецер лісце ганяў, сабакі брахалі. І жанчыны на лаўцы паміж сабой пра нешта размаўлялі, круцячы

галовамі пасля кожнай сказанай фразы, пацвярджаючы тым самым згоду з пачутым. Я памагаў дзеду нешта рабіць. Гэта было блізка ад жанчын, і размова была чутнай.

– Ой, бабы, - кажа Верка Садоўская, рэдкай прыгажосці маладая жанчына. – Які свет несправядлівы! Паглядзіце вы на мяне і на Зінку. Я ж прыгожая баба, а гэты прыдуркаваты кабель да яе паляцеў. Што ён там знайшоў? Яна ж страшнейшая за раздзярылу.

– Няправільны свет, – падтакваюць жанчыны. – Вунь глянь, Сарочыха, якая ўжо дурная. Дурней толькі пень яловы. А якога сабе мужа адхапіла. Прыгажун якога і не знойдзеш.

– Усё тут несправядліва, – працягвалі жанчыны накручваць сябе, шкадуючы свой загублены лёс і лічачы, што з імі ён абышоўся несправядліва, як Гітлер з Еўропай.

– А паглядзіце на Зойку, – зноў падтрымала размову Верка Садоўская. – Якога багатага знайшла сабе. Зараз у такіх дарагіх і прыгожых ботах ходзіць. А куды тыя боты на яе крывыя, як у старога кавалерыста, ногі. Але ж не, ёй яны дасталіся, а не мне. А як бы глядзеліся на маіх нагах тыя боты!

– Ды замаўчыце вы, – не вытрымаў дзед Валодзя. – Не блявузгайце, чаго не ведаеце, і бога не гнявіце. Свет ім, бачыш, несправядлівы. А свет збудаваны так правільна і так справядліва, што і паправіць няма чаго. Вось ты, Верка. Наракаеш, што боты табе больш пасавалі б, чым Зойцы. Дык памяняйся з Зойкай. Яна табе боты прыгожыя. А ты ёй свае прыгожыя ногі без ботаў. Думаю, Зойка пагодзіцца на абмен з радасцю.

Але ж не. Табе трэба і ногі роўныя, і боты дарагія. А справядлівасць свету на тым і палягае, што нехта прыгажосць атрымаў, а нехта мужыка багатага, камусьці розум дадзены, а іншы шчасце мае, а нейкі ўдачу. Кожны мае нешта. Па-чэснаму ўсім. А ты называеш свет несправядлівым, бо гэта ўсё не табе адной дадзена. Але падумай сваёй прыгожай, але дурной башкой, што акурат тады свет быў бы несправядлівы, каб усё аднаму: боты дарагія і ногі роўныя. І нічога іншым: і ногі крывыя, і ботаў няма. Таму заўсёды ведайце адно: свет несправядлівым толькі мы зрабіць можам. І робім яго такім. А зроблены спачатку ён надзвычай справядліва, бо Справядлівы яго рабіў. А вы толькі пра сябе думаеце і пра справядлівасць у дачыненні толькі да сябе.

Успомніў я дзеда і гавару заплаканай дзяўчыне яго словамі:

– Толькі пра сябе думаеш. Але, калі ты лічыш, што табе зараз кепска, а твайму бацьку добра, ці хацела б памяняцца з ім месцамі?

– Як гэта? – пытае яна.

– А так, – тлумачу. – Ты напілася, пабіла бацьку, выгнала на мароз, сама паваліліся пасярод хаты і спіш у цяпле ды вопратцы.

– Я так не хачу, – вылупіла вочы дзяўчына.

– Дзіўна, – смяюся я. – Не хочаш благі стан памяняць на добры. Дык можа, калі так, яму не так ужо і добра, як табе здаецца. А табе не так ужо і кепска, як мяркуеш.

Дзяўчына нейкі час маўчала. Пасля ўскочыла, папрасіла ў некага пазычыць паліто і рушыла да дзвярэй.

– Мне сапраўды не так і блага, – заявіла яна развітваючыся. – У мяне мае сябры, мае мары, зрэшты. А ў яго што? Ляжыць, бедны, пасярод хаты, у вопратцы, як жывёла. Можа дзе засікаўся. Пайду пагляджу, можа, чым памагу яму. Бо ў мяне ўсё ёсць, а ў яго толькі я.

А я чарговы раз успомніў дзеда. Што б я рабіў без яго?

## Размова з жонкай

Які сапраўдны мужчына не любіць добрай сяброўскай кампаніі, шляхетнага і моцнага напою пад добрую гарачую закуску, ад якой аж вушы круцяцца, як у маладзенькага парсючка, калі яго за плечы чэшаш. І слінкі цякуць, як у камодскай яшчаркі. Толькі слінкі ўжо менавіта ад таго шляхетнага і добрага напою цякуць. А потым, як перастаюць круціцца вушы, то ад яго ж, таго напою, пачынае круціцца ўся частка цела, з якой тыя вушы тарчаць. А калі гэта пры вогнішчы, на прыродзе, то можна ў тым факце ўгледзець праваобраз раю ці правобраз больш сціплай ад раю краіны мужчынскіх мараў пад назвай "Эльдарада".

Кажуць, што сама назва "Эльдарада" гаворыць, пра што марылі мужчыны ва ўсе вякі. І хоць называлі гэтым словам мноства месцаў, дзе можна знайсці золата і хутка разбагацець, само слова паходзіць ад ангельскіх маракоў. Эль – гэта такі правобраз піва, якое пілі калісь ангельцы ў вялікіх аб'ёмах, большых, чым іх коні ваду. А дарада – гэта рыба, якую маракі салілі і ўжывалі пад той эль. Эль і дарада. Вось што стварыла назву краіны мужчынскіх мараў. Піва і салёная рыба і каб жанчыны не перашкаджалі – вось у агульных рысах месца, куды мужчына час ад часу не толькі хоча патрапіць, але і мусіць.

Калі хтосьці, у каго ёсць яскрава акрэсленыя прыкметы мужчынскага полу, скажа, што ён не любіць добрай кампаніі і добрага напою, то вам варта моцна насцеражыцца, як вартавому склада ядзерных боепрыпасаў, які пачуў у некалькіх метрах ад сябе размо-

ву на мове ворагаў. Варыянты могуць быць у такой сітуацыі два. Першы - гэты чалавек да знямогі цярпець не можа іншых людзей. І другі, больш верагодны. Гэты чалавек вам ілжэ. Усё ён любіць, што і іншыя, толькі баіцца жонкі, таму і не можа дазволіць сабе такой выключна мужчынскай раскошы.

Увогуле, чалавекі мужчынскага полу таму і марань хутчэй вырасці, каб нікога не баяцца. А то з дзяцінства слухайся ды бойся бацькоў, школьных настаўнікаў і іншых дарослых, якія даўно ўжо забыліся, што некалі былі дзецьмі. І марыць гэты маленькі чалавечак, што як падрасце, то не будзе баяцца нават страшыдлаў з мульцікаў, не гаворачы ўжо пра страшыдлаў з рэальнага жыцця.

Але потым ім камандуюць у войску, пасля на працы, а як толькі стварае сям'ю, то вымушаны назіраць дзіўную метамарфозу, як мілая і паслухмяная, закаханая ў яго па вушы дзяўчына ператвараецца ў жорсткую і сварлівую кабету, каторая працягвае здзек у выглядзе захопленага права камандаваць ім. І якое ўжо тады "Эльдарада".

Таму і хаваюцца некаторыя мужыкі па завуголлях, як школьнікі, што выдзерлі з дзённіка ліст з двойкай і цяпер баяцца паказацца ў хаце, каб іх не засцябалі. І выпіваюць у хуткім тэмпе, баючыся, што зараз зазвініць мабільнік і прыйдзецца пры сябрах чырванець і лгаць у слухаўку, што затрымаўся на працы і ні з якімі паскуднымі сабутэльнікамі выпіць ніхто не збіраецца. І ўвогуле, што няма ніякіх сяброўсабутэльнікаў і ніякай гарэлкі.

А ўсе тыя праблемы толькі таму, што не спыталі ў сваіх дзядоў перад вяселлем, як лепш жыццё ўпа-

радкаваць. Думалі, што свайго розуму хапае, і ажно зашмат. Могуць з кім падзяліцца нават. Але ж які там розум у маладыя гады?!

– Пайшлі дзе ўмажам па сто пяцьдзясят, – прапанаваў неяк Толік. – Настрой паскудны. Трэба нервы супакоіць, – патлумачыў.

– А дзе ты зараз умажаш? Усё зачынена, – сплюнуў Віталік. – Позна ўжо. А ў рэстараны крутыя ісці заробак не дазваляе.

– Дык, можа, у пад'ездзе зашыемся ў кут, – пачаў прапаноўваць варыянты Толік. – Ці ў парку схаваемся.

– О не, – замахаў рукамі Валодзя. – Мы што, сабакі бяздомныя, каб закусваць на сметніках? Як ёсць такое жаданне, то пайшлі да мяне дахаты.

– А ты ў жонкі спытаў, ці можна? – загаласілі разгубленыя калегі па жаданні выпіць. – Мо пазвані і спытай.

Валодзя ўсміхнуўся. Успомніў сваё вяселле. Усе ў клопатах, мітусяцца, што дурныя. Сварацца, як блышывыя сабакі, абмяркоўваюць праз шчарбатыя зубы, каго дзе пасадзіць, каму якую пашану аддаць, як не пакрыўдзіць нікога, каго запрасіць, а каго не, як спланаваць, каб усім хапіла месца і талерак з закускай.

Адзін толькі дзед быў спакойны і пасмейваўся з усіх, як з вар'ятаў, якія толькі што паўцякалі з псіхушкі, а мо і не паўцякалі яшчэ. А прама там рыхтуюць імпрэзу.

– Ідзі сюды, унучак, – кажа ён. – Усё, што яны робяць, вельмі патрэбна. Ды гэта не галоўнае. Госці ўсё з'ядуць і вып'юць і абгавораць ва ўсякім выпадку.

Няважна, добра ўсё было ці паскудна. Усядно абгаварaць. А галоўнае - намовіць цябе на сур'ёзную і знакавую размову з будучай жонкай. Перш чым поп у царкве спытае ў яе, ці згодная стаць тваёй жонкай, а яна адкажа: “Так”, ты мусіш задаць ёй некалькі пытанняў пра будучы ваш быт. Я іх падрыхтаваў, тыя пытанні. І калі яна на кожнае з іх адкажа: “Так”, то тады смела валачы яе да папа.

– Ды што ты, дзед, – смяецца Валодзя. – У нас каханне. У нас і так усё добра будзе.

– Унучак, – не здаецца стары, – з павагі да маіх гадоў задай ёй тыя пытанні. Толькі зрабі гэта сур'ёзна, знакава, каб на ўсё жыццё тыя адказы “Так” былі не менш важнымі, чым адказы на пытанні бацюшкі.

З павагі да дзеда Валодзя гэта зрабіў.

– Дык пазвані жонцы і спытай, – вывелі яго са стану ўспамінаў сябры, – ці можам мы зараз, сярод ночы, завітаць да вас, каб бутэльку раздушыць. А то яшчэ павыганяе і нашым жонкам данясе.

– А я ўжо спытаў яе, – адказвае Валодзя.

– Калі ты паспеў? – здзіўляюцца тыя.

– А неяк гадоў дваццаць таму спытаў. Можа, крыху больш прайшло. За пару дзён да шлюбу, – усміхнуўся Валодзя. І дадаў: – Дзякуючы мудрасці дзеда, спытаў. А каб тады не спытаў, то цяпер за кожным разам пытацца прыходзілася б.

## Тэст на шляхецтва і эстэцтва

Госці бываюць розныя. Некаторыя стараюцца паводзіць сябе шляхетна, культурна, з падкрэсленай ветлівасцю ды ўдзячнасцю, нібыта на сцэне іграюць п'есу. А некаторыя робяць усё, каб гаспадары не любілі гасцей аніякіх, як не любяць людзі праблем у сваёй хаце. Асабліва гаспадары не церпяць гасцей няпрошаных. Народная мудрасць сцвярджае, што няпрошаны госць горшы за татарына. Праўда, некаторыя даследчыкі ўдакладняюць, што гэта сказаў сам татарын, каб падкрэсліць, што на свеце ёсць яшчэ нехта, горшы за яго.

Але, акрамя няпрошаных, ёсць і напрошаныя госці. Якія самі так напрошваюцца ў хату, што адмовіць няма мажлівасці, як няма мажлівасці пасля яго выпхнуць з хаты, пакуль ён не ўсё яшчэ з'еў і выпіў і не стаў пры малых дзецях спяваць саромныя песні і распавядаць непрыстойныя анекдоты. Такі госць хіба што горшы і за татарына, і за няпрошанага, і за чужака нават.

Ёсць госці, якія адчуваюць сябе ў гасцях як гаспадары, і тады гаспадары збянтэжана пачынаюць сябе паводзіць так, нібыта яны ў гасцях, а не ў сябе ў хаце. Такія госці паказваюць усім сваім выглядам, што яны робяць ласку, што завіталі да вас, а таксама дэманструюць нічым не абгрунтаваную абразлівасць з любой нагоды.

Зрэшты, людзі ад гасцей ужо гадоў трыста стомленыя, як ад жыцця. Але па нейкай старадаўняй традыцыі робяць выгляд, што кожнаму з іх так цешацца, як

выйгрышу ў латарэю ці нечаканай вялікай спадчыне ў выглядзе кучы наяўных грошай, вялікай нерухомасці і таго-сяго яшчэ з рухомасці.

А вось дзед Яська зусім інакш да ўсяго гэтага ставіўся. Казаў, што няма чаго прыдурвацца. Не ў цырку. І калі хто не падабаецца, то так і сказаць трэба, а не крывіць морду ў ліслівай усмешцы, ад якой званітаваць можа і гасцей, і саміх гаспадароў. Але калі чалавек даспадобы, то яму такі прыём трэба зрабіць, які хіба і ў царскіх палатах не кожнаму могуць аказаць.

У людзях дзед Яська так разбіраўся, як цыган у конях. А аднаго разу вырашыў і ўнука навучыць, як прыстойнага чалавека ад хама адрозніць.

– Трэба, унучак, у людзях навучыцца разбірацца, – сказаў ён. – Як чаго не ведаеш, то мяне пытайся, а не бабку, – жартуе так. – Я жыццё пражыў, тое-сёе ведаю. Тут усё проста. Як кажуць, відаць пана па халявах. А з іншымі трэба так сябе паводзіць, як народная мудрасць патрабуе: з панам па-панску, а з хамам па-хамску. Да тых мудрасцяў прыслухоўвацца варта. Іх вякамі адшліфоўвалі і правяралі жыццём.

Аднойчы, – працягваў ён, – яшчэ ў трыццаць дзявятым годзе завіталі да мяне ажно два савецкія афіцэры. Адразу было відаць, хто такія. Бо яшчэ праз вакно заўважыў, што коні ў іх худыя, як чахотныя сабакі перад смерцю. А калі чалавек сваю жывёлу не шануе, то што ад яго чакаць, акрамя клопатаў?

Заходзяць, значыць, да мяне, і кажуць, што ў нашай вёсцы іх вайсковая частка будзе дыслацыравацца, каб яе трасца ўзяла, тую частку. Як быццам мы яе клікалі сюды. І, не пытаючыся, за стол сядаюць. Ха-

цеў я адразу сякеру ўзяць ці пугу, але дай, думаю, пагляджу на іх паводзіны.

А яны як у сябе ў хаце. Ды дзе там як у хаце. Як у хляве разваліліся, і аніякай прыстойнасці. Я сабе думаю, што непатрэбна нам ні такой культуры, ні такой улады, ні такога войска. Але сачу далей, чакаю, што ім у тупыя мазгі стукне.

Пачалі яны кілішкі прасіць. Выпіць захацелася. Недзе ўжо і гарэлку сцягнулі ці адабралі ў каго. У аднаго бутэлька была ў кішэні, а ў другога ў рукаве. Я паставіў кілішкі, шляхетныя такія, прыгожыя. На ножках. Каб праверыць, як рэагуюць. Два паставіў. Думаю, зараз прапануюць, каб трэці данёс, для гаспадара.

Але не туды тое. Яны вылупілі вочы, як і іх галодныя коні, ды кажуць: "А што гэта ты нам паставіў? Гэта ж мензуркі! Ты нам двухсотграмовыя пастаў шклянкі. Як дзвюх не маеш, то нам і адной хопіць".

Вось пасля гэтага, унучак, ніхто ўжо не мог мяне пераканаць, што такіх гасцей цярпець трэба. Тым больш шанаваць.

Маленькі ўнук запомніў і тое, як у хату да яго бацькоў завітаў госць, стаў прыглядацца да яго паводзін так уважліва, як біёлаг да закаханага вожыка.

А госць быў як франт разадзеты, спіну трымаў роўна, гаварыў гучна. І як кілішкі на стол паставілі, узяў ды запярэчыў:

– Ну што гэта за шклянкі? Мы ж каньяк будзем піць. А гэта напой шляхетны. Ён шляхетных фужэраў патрабуе.

Гаспадары паставілі на стол фужэры, а ўнук куляй паляцеў да дзеда.

– Дзед! – крычыць. – Там дзядзька ў нас у гасцях. Запатрабаваў фужэры. Відаць, чалавек шляхетны.

– Не, унучак, – адказвае дзед. – Ведаю я таго дзядзьку. Ён заўсёды з сябе эстэта строіць. Але ніякі ён не шляхетны. Заўтра я пакажу табе.

І назаўтра, узяўшы ўнука за руку, пасунуўся дахаты да таго госця. Прывітаўся з ім ды кажа:

– Пазыч, сусед, два фужэры. Чакаю гасцей важных, хачу ўсё культурна зрабіць.

– Ды няма ў мяне ніякіх фужэраў, – адказвае той. – І не было ніколі.

– Ну, няма дык няма, – уздыхнуў дзед Яська і павалок унука назад дахаты. А па дарозе тлумачыць яму:

– Шляхетны чалавек, унучак, у гасцях п’е з таго, што яму гаспадары паставілі. Таму гэты госць быў хамам, і запрашаць яго больш не трэба. І зусім не эстэт ён. А вось бацькі твае і шляхетныя, і яшчэ ў дадатак эстэты. Бо эстэт не той, хто запатрабаваў фужэр для добрага напою ў гасцях, а той, хто ў сваёй хаце мае і шляхетны напой, і адпаведны бакал.

## Чаму людзі п’юць

– Вось вам і статыстыка, якая прыводзіць нас да лагічнай высновы, што п’янства прыносіць выключна шкоду і гарэлкі трэба пазбягаць, як агню, – пазяхнуў стомлены лектар, які па загаду Міністэрства савецкай культуры прыехаў у калгас, каб прачытаць спітым і чырвананосым работнікам палёў павучальную лекцыю пра шкоду п’янства.

Калгаснікам лекцыя спадабалася, як дурням новыя фанцікі. Можна сказаць без перабольшання, што яна прывяла іх у пэўны экстаз. З жанчынамі то ўсё зразумела. Любая тэма, якая хоць неяк падводзіць да высновы, што іх мужы вінаватыя ў іх кепскім быце з прычыны злоўжывання саракаградуснай, прымаецца імі як найвышэйшае дасягненне чалавечай навуковай думкі, якую яны нібыта ведалі і раней, але не здагадваліся, дзе жывуць навукоўцы, каб расказаць ім гэта.

Калгасныя мужыкі таксама засталіся вельмі задаволенымі. Па-першае, з лекцыі яны даведаліся, што п’юць не толькі яны адны і што іхні калгас не лідзіруе па колькасці выпітага алкаголю, што само па сабе ўжо натхняла іх на новыя дасягненні ў сацыялістычным спаборніцтве ў экзатычным відзе спорту па паглынанні гарэлкі, які тут жартаўліва і ласкава называлі літарбол.

Па-другое, гэта дало ім мажлівасць яшчэ раз сабрацца вечарком, каб абмеркаваць лекцыю пра шкоду п’янства за бутэлечкай моцнай вадкасці, выробленай на тэрыторыі іх калгаса. А такую падзею трэба асабліва адзначыць.

Гэта цяпер набралася безліч даследчыкаў, якія шукаюць вытокі п’янства ў сацыяльных умовах, незадаволенасці жыццём, непаразуменні з блізкімі, праблемах на рабоце, цяжкасцях творчай рэалізацыі, хваробах псіхікі, яшчэ ў безлічы прычын псіхалагічнага характару і ў дадатак – у генетычнай спадчыннасці. У тыя часы ўсё было прасцей, і праблема, з пункту гледжання навукі, зводзілася да наступных фактараў: хто п’е, той сволач, неадказны чалавек і нягодны будаўнік светлай будучыні. Хоць ні тады, ні цяпер ніхто не змог агучыць той простай версіі, якую даўным-даўно выказаў дзед Валодзя. А шкада. Здаецца, яна цалкам завершаная і аб’ядноўвае ў сабе ўсе тагачасныя і сённяшнія версіі, бо атрымала жыццё з вуснаў мудрага чалавека.

А ў той дзень мужыкі сабраліся ў хаце ўсё таго ж дзеда Валодзі і спрачаліся ажно да пасінення.

– Мужык павінен піць, – рашуча не пагадзіўся з лектарам калгасны конюх, які па сумяшчальніцтве падпрацоўваў самагоншчыкам і браканьерам. – Вось я паляўнічы. Усё пра звера ведаю. Дык магу вам сказаць, што ўсе самцы любой пароды выпіваюць. Вось лось, напрыклад. Адкапае капытом корань вярбы і зжуе яго. Ад таго кораня лось п’янее. Скажыце, навошта гэта яму? У такім стане і ваўкам яго задзерці лягчэй, і паляўнічы заўважыць хутчэй. А ён п’е. Ласіхі таго кораня не чапаюць. Бо бабам алкаголь непатрэбны. А мужык мусіць ужыць.

– Праўда, праўда, – падтрымаў яго мясцовы трактарыст Сцёпка. – Паглядзіце на ката. Ён наліжацца валяр’янкі - і шчаслівы. А коткам той валяр’янкі можа і не быць.

Пасля другой бутэлькі размова пачала набываць больш філасофскі характар. Прынамсі, мова падпітых вяскоўцаў стала намнога больш складнай ды ладнай, чым у іх разумнага лекара, і дасягнула па лагічнасці і сэнсе ўзроўню даследчыкаў алкагольнай залежнасці, якія стануць агучваць свае высновы гадоў так дваццаць пасля іх.

– Я вам так скажу, мужыкі, – запярэчыў раней выказанаму мясцовы фельчар Мікалай Пятровіч, вясковы інтэлігент у трэцім калене. – Мужчыны п’юць для таго, каб панізіць свой інтэлект. Бо ён у прадстаўнікоў мужчынскага полу вельмі высокі. Занадта высокі. А такога быць не павінна. Ён не дае мужчыну нармальна жыць. Наводзіць на думкі ўсялякія: пра збудову свету; пра тое, правільна ці не ты паступіў сёння і ўчора; пра тое, што будзе, як сонца патухне або калі бульба не ўродзіць ці калі свіначкі здохнуць. Як тады жыць? З такімі думкамі жыць страшна. Вось таму мужчыны па ўсім свеце і зніжаюць узровень свайго інтэлекту як могуць. Індзейцы Амазоніі лісты раслін жуюць розных, азіяты маслам дурманлівага насення мажуцца, індусы кураць нешта, а мы гарэлку п’ём. І гэта самы натуральны шлях. Тым больш што гарэлка, у адрозненне ад гэтых паскудстваў, што ўжываюць іншыя народы, яшчэ і смачная.

Пасля гэтых слоў стала так ціха, што палёт начной мухі вакол электрычнай лямпачкі здаваўся нападам верталётнай брыгады на танкавую калону. Большасць прысутных з высноваў вясковага інтэлігента ў трэцім калене зразумела толькі тое, што гарэлка смачная. І цалкам з гэтым пагадзілася. І паколькі Мікалай Пятровіч гаварыў так доўга і заблытана, што

ўсе паспелі працверазець, то было вырашана выпіць адразу па дзве чаркі. І абавязкова поўныя.

– І ўсё ж такі той лектар мае крыху рацыю, – заявіў ужо добра падпіты сельпоўскі механізатар Антось з выглядам чалавека, які, наеўшыся мяса, з упэўненасцю заяўляе, што лёгка можа стаць вегетарыянцам. – Я вам так скажу…

– Хопіць ужо гэтай п'янай гавэнды, – перабіў яго дзед Валодзя, які ўвесь гэты час ляжаў за печкай. Ён хоць і не піў цяпер, бо ўвогуле без дай прычыны не піў ніколі, але ўсё слухаў і аналізаваў. – Панапіваліся і плецяце абы-што. На гаворку ўсе здатныя. А каб што сказаць, трэба спачатку пра гэта падумаць гадоў дзесяць, а потым высновамі дзяліцца.

– А ты падумаў? – пачалі дапытвацца тыя.

– А як жа ж.

– І што?

– А ўсё проста. І вашы развагі не варты выядзенага яйка. – заявіў дзед. – Шукаеце нейкіх неіснуючых і складаных прычын. А людзі п'юць па прычыне простай. Таму што гэты свет на цвярозыя вочы не выглядае і не здаецца ім лепшым.

## Нехта лжэ, а дурні верацць

Жыццё ў вёсцы мае свой непаўторны каларыт. Там, у адрозненне ад горада, узыходзіць і заходзіць сонца, вада ў сонечных праменях пераліваецца і цячэ не з-пад крана, сабакі брэшуць не ў сярэдзіне памяшкання, а знадворку, певень спявае не ў будзільніку і не для таго, каб пабудзіць людзей, а выключна для курэй. Каб знала і не забываліся, хто ў куратніку гаспадар.

Кажуць, што галоўнае адрозненне вясковага жыхара ад гарадскога ў тым, што вясковы чалавек курыць папяросы ў хаце, а ў прыбіральню ідзе на вуліцу. Гарадскі ж уладальнік жытла са шкла і бетону робіць усё наадварот: курыць выходзіць на вуліцу, а па патрэбе ляціць у родненькую хатку. Пасля нядоўгага роздуму прыходзіш да высновы, што дзеянні вяскоўца больш натуральныя і лагічныя. Зрэшты, як і ўсё астатняе, чым ён займаецца і як ён жыве.

Жарты жартамі, але тыя, хто вывучае аспекты вясковага жыцця, даўно заўважылі, што не тое галоўнае адрозненне, хто дзе курыць. Галоўнае тое, што на вёсцы людзі гуртуюцца па палавой прыкмеце. Жанчыны самі сабе, мужчыны самі сабе. І пры працы, і калі пасля працы пасядзець і патрапаць языкамі хочуць. Аж пакуль скаціна па хлявах не разыдзецца. Тады ўжо ўсе па сваіх хатах і сваіх сем'ях разлятаюцца і нарэшце перамешваюцца паміж сабой па прыкмеце ўжо сямейнай. Такая там гендарная сістэма.

А вось калі ўдзень або ўвечары мужчыны з жанчынамі перамяшаюцца, то чакай бяды, як ад дзіцяці з пісталетам. І аднойчы так сталася. Невядома, з якой

такой нагоды вечарам на адной і той жа лаўцы аказаліся і мужы, і жонкі. Як гарадскія ўсё адно. Глядзець было гадка. Усе ўжо ў гадах, і ў гадах немалых, але яшчэ галасістыя, як галодная сава, якой падсунулі пластыкавае мышаня на вячэру. Бо праз нейкі кароткі час сварыцца ўсе сталі, як быццам бы ночы ім мала ў роднай хатцы папсаваць нервы адно другому ды абазваць апошнімі словамі.

– І хто ты такі? – прылюдна раўла на мужа цётка Алка. – Каб не я, ты ўжо спіўся б даўно і здох бы. Толькі маім стараннем яшчэ і жывеш, брыда.

– А ты хто такая? – агрызаўся той. Але вяла неяк агрызаўся. Без фанатызму. І нават без энтузіязму. – Чаго ты без мяне вартая?

– Я?! – галасіла Алка. – У кожнага чалавека спытай. Мяне ўсе шануюць. Мне на рабоце сам дырэктар грамату даў. І хваліў, як лепшую работніцу. А ты ж нават есці сабе згатаваць не можаш. Здох бы з голаду без мяне.

– У цябе з гатавання ежы атрымліваецца толькі куплянне прадуктаў, – парыраваў муж.

Ды жонка яго не слухала. Так разышлася, як свіння на дождж. Ды яшчэ якая свіння і на які дождж! Не на дождж, а на лівень з перуном і маланкамі.

– Ай, я дурная, – крычала яна. – Дзе ж мае вочкі былі?! Нашто ж я за цябе замуж выйшла?! Чаму ж я маму не слухала?! У мяне кавалеры гуртом пад хатай стаялі. Выбірай любога. І ніхто слова мне кепскага не сказаў. Усе хвалілі і расхвальвалі. І такая я добрая, казалі, і такая. Нават як замуж выйшла за цябе, злыдня, хваліць не пераставалі. Як сустрэнуць, так і кажуць,

якая я гаспадарлівая. Гавораць, не тое, што іхныя жонкі, лайдачкі. Шкадуюць, што я не ім дасталася. І куды я ні прыйду, і куды ні прыеду - усюды мяне заўважалі. І якая прыгожая, і якая статная, і якая працавітая. Адзін ты, алкаголік, мяне не цаніў ніколі. Апошнімі словамі абзываў. Біў нават. А як я ўчастковага выклікала, знаеш, што ён мне сказаў? Не ведаеш! А казаў, што яшчэ адно маё слова, і ён пасадзіць цябе. Бо ты мяне не варты. Магла б я сказаць тое слова, ды пашкадавала цябе, гада.

І тут, быццам спрэчка была заразная, як грып, другая пара сварыцца стала. Цётка Людка свайго мужа пачала праклінаць. І хоць пары розныя, а тэматыка адна. Хоць ты Алкіну размову перапісвай слова ў слова.

– Каб цябе пярун забіў, – галасіла цётка Люда на мужа. – Ты ж маю маладосць загубіў. Лепшыя гады мае забраў. І не шанаваў таго. Іншыя выстройваліся, каб хоць голас мой пачуць. Ніхто пра мяне кепскага слова не сказаў. Усе хвалілі. І за розум, і за характар, і за прыгажосць, і за працавітасць. Гадочкаў маіх шкада. А тых добрых слоў, што людцы мне казалі, успамінаць не хочацца. Сэрца разрываецца.

Сведкам гэтай групавой сваркі нявольна стаў адзін малады хлопец, які некалькі гадоў таму з войска вярнуўся, збіраўся жаніцца і таму задумваўся, як людзі, жывучы сумесна, могуць адно аднаго не разумець, чаму пахвалу чужых шануюць, я сваіх ганьбяць. Але тут з’явіўся дзед Яська, узяў яго за руку і кажа:

– Пойдзем адсюль, унук. Нельга чужыя сваркі слухаць. Хай самі разбіраюцца.

– А скажы мне, дзед, – пытаецца той. – Ніяк не ўцямлю. Як паслухаю іх, то атрымліваецца, што ў нас жанчыны - сама дасканаласць. І людзі іх хвалілі, і начальства. Адны толькі мужы не цанілі.

– А, вось ты пра што, – усміхнуўўся дзед. – Мая табе парада. Калі захочаш некалі даведацца пра сваю жонку, то не пытай ні ў кога, і асабліва ў яе. А проста прыйдзі да свайго сябра і скажы, што яго жонка яму здраджвае. Вось тады ты ўсё і пра сваю даведаешся. Але лепш не выведвай нічога. Не патрэбна гэта. І яшчэ. Галоўнае. Жаніся на якой хочаш кабеце, толькі не на дурной. Бо гэтыя, што ты чуў сёння, гады і прыгажосць сваю згубілі, а дурнымі як былі ў маладосці, так і засталіся. Бо разумны чалавек ганарыцца сваімі ўчынкамі і здабыткамі. А дурны тым, што яго нехта пахваліў. А чаму мужыкі бабу хваляць - справа вядомая. Як падмануць яе захочуць, то хваляць тады яе ўзахлёб, як шпакі заліваюцца. І яе хваляць, і яе сукенку. Каб тая разамлела ад той пахвальбы і хутчэй ім у лапы патрапіла. А як баба дурная патрапіцца, то і верыць таму хваленню. А як вельмі дурная, то потым сама ўсё жыццё хваліцца, што яе іншыя хвалілі. А іншыя толькі пасмейваюцца, што дурніцу падманулі.

## Выхаванне

У хаце цёткі Лількі скандал быў не навіной. Там сварыліся ўсе. Цётка Лілька з мужам, цётка Лілька з матуляй мужа, цётка Лілька з суседзямі, цётка Лілька са сваімі бацькамі, цётка Лілька са свойскай жывёлай, з суседскай жывёлай, са знаёмымі на вуліцы і яна ж з абсалютна незнаёмымі людзьмі. Яе, цёткі Лількі, хапала на ўсіх, як дажджу з неба або як ветру з поля ці як гарэлкі з крамы. Ніхто не быў абдзелены яе ўвагай, як народ абяцаннямі ўрада палепшыць умовы жыцця для ўсяго насельніцтва.

Яе хату спакойныя і нясхільныя да спрэчак людзі абміналі полем, нібыта ў той хаце жыло жудаснае страшыдла, якое магло загрызці, як шалёны воўк, кожнага, хто трапляў на яго вочы. Нібыта тую хату насялялі шаблязубыя тыгры, і ніхто не мог прайсці каля яе, каб не патрапіць пад напад тых крыважэрных драпежнікаў.

Дайшло неяк аж да камічнага. Бабка Люба неяк у краме была пасварылася з цёткай Лількай. Перамагла, зразумела, Лілька. Але, паколькі яна ніколі не была знаёма са спартовымі правіламі, проста чыстай перамогі ёй падалося замала. Ёй трэба было знішчыць праціўніка цалкам, каб той больш ужо ніколі не змог паўтарыць метамарфозу птушкі Фенікс. Ну дык яна такога гвалту нарабіла на ўсю вёску, што нават у раённым цэнтры людзі заснуць не маглі. А ёй усё мала. Стала клясці апошнімі словамі і страшнымі праклёнамі не толькі бабку Любу, але і ўсю радню яе да сёмага калена і на будучыя пакаленні, і на мінулыя. Усе

косткі перамыла і жывым, і нябожчыкам, і тым, хто яшчэ не нарадзіўся.

Кляла нават скаціну бабкі Любы. Людзі казалі потым, што бедныя жывёліны насіліся па хляве, шукаючы пяты кут. Сабака ланцуг перагрыз і ўцёк у лес да ваўкоў, якіх да гэтага Лільчынага скандалу баяўся больш, чым бабка Люба баялася ядзернай вайны.

Зрэшты, цяпер і старая бабка ўжо не так той вайны баялася, як цёткі Лількі. Такі спалох тая навяла ў вёсцы. З усіх вясковых жыхароў адзін толькі суседскі кот выглядаў спакойным. Але хіба што толькі выглядаў так. Бо назаўтра здох, так і не паведаміўшы нікому ад чаго. А быў яшчэ не стары. Яшчэ гэтай вясной так міла і пяшчотна з коткамі выў пад вокнамі, настройваючы і людзей на рамантычны лад, што ў вёсцы ледзьве не кожная другая кабета зацяжарыла.

Ну дык вось. Пасля таго алярму бабка Люба, каб не звязвацца чарговы раз з Лількай і не напароцца на новы скандал, вырашыла абысці яе хату агародамі. Старой трэба было да крамы хлеба купіць пражэрлівым гусям. Каб іх пярун пабіў, тых гусей. Ды і гусі тыя, каб ведалі, чым усё скончыцца, самі пайшлі б у краму.

Няшчасная старая прабіралася агародамі акурат тады, калі цётка Лілька пайшла туды агуркоў вырваць. Штосьці ёй зеляніны захацелася. Відаць, сала пераела. Бабка як угледзела яе, то так ірванула, што на месцы яе старту яма з метр засталася. Два платы напалоханая старая пераляцела, як маладая каза. А вось з трэцім праблема атрымалася. Акурат за ім стары Антон яму для новай прыбіральні вырыў. Ну дык бабка туды і плюхнулася. І мову ёй ад страху заняло.

Хоча клікаць на дапамогу, ды толькі шыпіць, як тыя гусі. Добра яшчэ, што яма была свежая, ні разу не выкарыстаная па прызначэнні.

Праз тыдзень Антон знайшоў яе. Выцягнуў. А праз месяц мова вярнулася. Толькі вось гусі паздыхалі. Хто кажа ад голаду, а іншыя жартуюць, што самагубства ўчынілі з тае долі гаротнай. Ды хто там ведае, як было насамрэч. Не ў тым справа.

Нават чужым людзям было сорамна жыць з Лількай у адной вёсцы. А сваякі ад сораму гарэлі, як заход сонца перад цёплай ноччу. Ды вось радасная навіна прыйшла. Лілька зацяжарыла. Хоць суседскі кот спяваў свае рапсодыі ўжо не ў іхняй вёсцы, неяк і ў яе атрымалася. Усе цешыліся, як звар'яцелыя бабры, што цяпер дурная баба супакоіцца і справай займецца. Дзіцём значыць. А неўзабаве і дзіцё зараўло, ды на ўцеху ўсёй радні, здаецца, не матчыным голасам.

Але рана радаваліся. Сядзіць цётка Лілька над немаўлём і разважае:

– Ах ты, маё золатка! Я цябе ўсяму навучу, што сама ўмею. Ты будзеш у мяне бойкі, смелы, нікому спуску не дасі. Не такім лопухам будзеш, як твой аблавухі бацька. Усё маўчыць, нават калі яго абдурваюць. А ты ў мяне, як што, зразу ў рыла біць будзеш. Ці за гарляк браць. З людзьмі па-добраму нельга. Калі хочаш што ад жыцця ўзяць, трэба душыць іх, як сляпых кацянят. Як хочаш, каб паважалі цябе, то нікому не даруй крыўды. І абавязкова бі сваіх, тады і чужыя баяцца будуць.

Уся радня няшчаснага немаўляці напалохалася такога выхавання, але і слова баялася ўставіць насупе-

рак Лільцы. Бо тая такога гвалту нарабіць можа, што яшчэ год пасля яго жыццё паганым здавацца будзе. Яна ўсё горлам браць прывыкла і дзіцё гэтай нялюдскасці вучыла. Прыбеглі да дзеда Яські, бо вельмі мудрым яго лічылі, і паратунку просяць:

– Зрабі, – кажуць, – што-небудзь. Маліцца за цябе будзем.

Дзед злітасціўся з іх. А мо хацеў, каб яны і сапраўды часцей маліліся.

– Перш чым пачаць дзіцё выхоўваць, – сцвярджае, – трэба выхаваць яго матку.

Зайшоў да Лількі, нібыта немаўля паглядзець, а сам сядзіць і слухае, што тая над маленствам вярзе.

– Жыць яго ўжо вучыш?

– Ага, – адгукнулася тая. – Што, правільна вучу? – больш хваліцца, чым пытаецца.

– Гэта гледзячы для чаго ты сваё дзіцятка гадуеш, – адказвае дзед, павольна падымаючыся з крэсла. – Калі ты яго гадуеш для пекла, то робіш усё правільна, – падкрэслівае ён шматзначна. – А як не для пекла яго гадуеш, то я не ведаю, што табе параіць.

І пайшоў. У цёткі Лількі рот так шырока адкрыўся, што ўмяў у грудзі кулон. Цэлы тыдзень не закрываўся. Толькі ні аднаго гуку адтуль не вылятала. Сядзіць яна так, ловіць мух раскрытай пашчай, усё нешта думае ды абмазгоўвае дзедавы словы. А як гукі з'явіліся, то пайшла яна да бабкі Любы з прабачэннямі. І сварыцца перастала. Ні з кім не сварыцца. Толькі развагамі дзеліцца:

– Не ведаю, ці адмалю я сваю душу, – кажа. – А

вось дзіцёнка свайго навучу жыць прыстойна. Гэта іншыя не ведаюць, чаму дзяцей вучыць трэба. А я знаю. Людскасці іх вучыць трэба. Не для пекла ж я дзіцянё сваё гадую.

## Погляды на жыццё

– Эх, долечка мая гаротная, – так цяжка ўздыхнула цётка Лёнька, нібыта пахавала ўсіх сваякоў адначасова. Яна акурат закончыла расказ з уласнай унікальнай версіяй пра свой няўдалы шлюб. – Пайшла б замуж за Пецьку Шыдлоўскага – бяды не ведала б. – працягвала яна. – Жыла б як каралева, прыпяваючы. Сядзела і рукой паказвала б, што каму рабіць. А сама палец аб палец не ўдарыла б. А то пайшла за гэтага алкаголіка, каб яму гэта гарэлка ў горле стала, і зараз пакутую, як прыблуда ў чужой хаце. Ніхто не паспачувае, ніхто не пашкадуе, ніхто не прытуліць, нібыта я сіротка бяздомная. Хоць у вяроўку лезь. А ён, злыдзень гэты, кожны дзянёк лыкае. Прыходзіць дахаты чорны, як зямелька, і аніякага жыцця за ім няма.

– Што праўда, то праўда, – пачалі падтакваць ёй іншыя жанчыны, якія сабраліся на вясковай лаўцы ў гэты цёпленькі летні вечарок, які на ўсе сто адрозніваўся сваёй ласкай і пяшчотай ад іх хмурых твараў.

А скучыліся кабеты, каб патачыць лясы і паскардзіцца адна другой на свой няўдзячны лёс. Часамі, ды не так ужо і рэдка, вясковыя, ды і не толькі вясковыя, жанчыны мусяць скінуць нейкі негатыў з душы менавіта такім спосабам. І можна заўважыць, колькі эмоцый яны ўкладаюць у свае прамовы. І вераць кожнаму свайму слову, нават калі ведаюць, што нахабна лгуць.

Такая моцная адмоўная энергетыка ў іх аповедах, што нават каты, якія звычайна любяць пасядзець пры людзях, ніколі не падыходзяць да такіх кампаній

бліжэй чым бачаць іх вочы. І каровы, якія вяртаюцца з пашы, стараюцца прайсці неяк бокам, а то малако гарчыць пачне, калі не прападзе ўвогуле. І нават калі не прападзе, то страшна, што нехта можа атруціцца ім. Яшчэ калі кату першаму нальюць, то добра. Той не дурны. Піць не стане. Панюхае ды кінецца як апараны ў поле або ў лес, каб адсядзецца дзянёк-другі. Пакуль жаночыя жарсці не ўлягуцца.

З мужчынамі таксама не так страшна. Яны малака шмат не п'юць. Глыток-другі, і то толькі тады, калі не разабраліся, што там у шклянку налітае. Такая малая доза не пашкодзіць. Яны і да горшай атруты прывычныя. А калі дзіцяці дадуць папіць такога напою? У дзетак тады пік агрэсіі пачынаецца, як у салдат падчас псіхічнай атакі. Гэта ў лепшым выпадку. А бывае і жывот схопіць. І не праходзіць некалькі дзён, аж пакуль кот не вернецца дахаты.

Найгорш у гэтай сітуацыі тым сабакам, якія на ланцугу. Бедныя, нікуды ўцячы ад гэтай адмоўнай энергетыкі не могуць. Ланцуг не пускае, халера яго бяры. А сабакі энергетыку вельмі востра адчуваюць, амаль як каты. Толькі з той розніцай, што сабакі больш дабрадушныя, і таму намнога вастрэй успрымаюць боль ад гэтага негатыву. Яны тады выць пачынаюць, і не як ваўкі на месяц, а проста выць. У зямлю. І брэшуць тады не на тых, на каго трэба. А так, на ўсіх брэшуць. На ўсялякі выпадак. Зусім, няшчасныя, дэзарыентоўваюцца.

– Ды што там гаварыць, – пусціла слязу і цётка Ганна. – Мяне некалі, у маладосці, кавалер у сталіцу забіраў. Але ж я, дурная, не пайшла. Шчасця свайго

не ўгледзела. Тут засталася. Так і пражыла жыццё ў хляве. То свіней кармлю, то за каровай прыбіраю. Ужо і ручак не чую. За што ж мне лёс такі?! Хто ж так награшыў, што ўсё жыццё маё ў клопатах прападае? А жыла б у сталіцы, бяды не ведала б. Ні табе соткаў, ні табе агарода. І ванна ёсць, і дзень працоўны. Адпрацавала – і ў рэстаран схадзіла. Ці ў тэатр. У кіно можна. Або ляжы сабе ў хаце, ногі задраўшы, і глядзі тое кіно па тэлевізары.

– А мне, думаеце, лягчэй? – загаварыла кабета з суседняй вёскі. Яна сюды да сваякоў прыходзіла ды і прызямлілася на лаўку да мясцовых жанчын. Вельмі ж ёй тэматыка размовы спадабалася. Можна было выплакацца, як у дзяцінстве з-за неатрыманай ад бацькоў цукеркі. – Тая праца з мяне ўсе жылы павыцягвала, усе сокі павыпівала. А ўсё працаваць трэба і трэба. І канца і краю не відаць.

І так жаласна жанчыны свой лёс вымалёўвалі, што маленькі хлопчык, які гуляў побач і ўсё чуў, зарумзаўся слязамі, як вылуплены бацькоўскай дзяжкай. Так яму тых кабет шкада стала, што маленькія грудзі ледзьве не разарваліся ад такой несправядлівасці лёсу. Бо ведаў многіх гэтых жанчын як вельмі мілых і добразычлівых людзей. Неаднойчы яны яго частавалі цукеркамі і тартамі свайго вырабу. Цацкі давалі. А тут такая бяда ў кожнай, што хоць завый, як тыя сабакі. У зямлю.

Узяў ён сваю машынку за вяровачку і паплёўся да дзеда за супакоем.

Дзед толькі ўсміхнуўся і нават работы не спыніў. Касу кляпаў.

– Ты думаеш, унучак, што жонка Пецькі Шыдлоўскага, пра якога тут цётка Лёнька шкадавала, на мужа не наракае? – сказаў ён неяк проста, але вельмі даходліва. Так, што кожнае слова хацелася слухаць і запамінаць. Зусім не так, як жанчыны гаварылі. – Наракае яшчэ больш, чым Лёнька на свайго. Кляне на чым свет стаіць. Сам чуў неаднойчы, – сцвердзіў ён. – Ці, можа, мяркуеш, што ў сталіцы бабы толькі па тэатрах ходзяць і іншага занятку не маюць? Ды некаторыя з іх і не ведаюць, дзе тыя тэатры і рэстараны знаходзяцца. А каторыя і ведаюць, дык шчасця ім гэта не прыбавіла. Яны так, як і нашы, на лёс наракаюць. Не ўсе, канешне. Як і ў нас не ўсе. А толькі тыя, што мазгоў не нажылі за жыццё.

Ты яшчэ маленькі і зараз не зразумееш, – гаварыў далей дзед. – Але як не забудзешся, што табе кажу, і пасля ўспомніш, то шмат табе гэта дасць. Запомні раз і назаўсёды. Жыццё не павінна быць лёгкім, а лёс добрым. Як убачыш лёгкі лёс і добрае жыццё, уцякай адтуль, як ад чорта. Бо як усё лёгка і проста, то сэнс чалавечага існавання губляецца. Ніхто не ствараў бы чалавека, каб ён толькі цешыўся з жыцця. Так толькі псіхі робяць. Чалавек не для таго створаны, каб адбаляваць жыццё, як на вяселлі алкаголік. У цяжкасці лёсу і ёсць яго вартасць. І трэба мець вялікую смеласць, каб прачынацца раніцай, бо кожны дзень насычаны хцівасцю, зайздрасцю, подласцю, спакусамі і іншымі цяжкасцямі, якія чалавек мусіць пераадолець, бо менавіта для гэтага і створаны. Лёс мусіць быць такім, і толькі такім, які ёсць. Таму не маркоцься з нічога, бо нічога не зменіш. Лёс змяніць немагчыма, але можна змяніць

сваё погляды на жыццё. А падарункаў у жыцця не менш, чым праблем. Як яно табе іх даваць будзе - не адмаўляйся. Каб потым, як гэтыя кабеты, не наракаць на лёс.

## Навука для галодных

Хто б мог падумаць, што, атрымаўшы свабоду выбару пасля развалу Савецкага Саюза, постсавецкае грамадства ў Беларусі абярэ дэпутатамі збольшага менавіта тых, каго і так прызначала ў народныя абраннікі савецкая ўлада. Перад людзьмі, якія змагаліся за перамены, паўстала лагічнае пытанне: навошта тады было ўсё мяняць, калі анічога не памянялася? Загадка не для сярэдняга розуму. І не для моцнага. Бо калі людзі з сярэднім узроўнем інтэлекту пасля гэтай падзеі пачалі, як апантаныя вар'яты, аналізаваць, што там і да чаго, якія прычыны і чаму іх няма, то людзі з высокім інтэлектам папросту залезлі ў бутэльку, як мядзведзі ў зімнюю бярлогу, ды заляглі там на самае дно. Зрабілі дакладна так, як гэта рабілі і раней, у часы развітога сацыялізму. І не выпаўзалі адтуль, як барсукі з нораў, ажно да выспявання адпаведных умоў. Аж да наступных выбараў, чым здзівілі не толькі барсукоў ды мядзведзяў, у якіх заканчэнне спячкі ёсць лагічная патрэба біялагічнага гадзінніка, але і пераможцаў першых выбараў, якія лічылі, што апазіцыі больш няма чаго рабіць на палітычным полі краіны.

А павылазілі яны выключна з адной мэтай – каб заявіць усяму свету і свайму грамадству, а найперш асабіста сабе, што нармальных, празрыстых выбараў у Беларусі больш няма. Было, было - і скончылася. Гэта не спорт, не гульня ў “Адгадай слова”, і трэцяй спробы ніхто не дае. Нават другой не атрымаць. Не дзеці, і не на пстрычкі бавіліся. Маўляў, разок памыліліся, як той сапёр, і цяпер ад памылак цалкам застрахаваныя.

Больш зрабіць іх не дадуць. Гэта тое самае, як папасціся на хабары. Адна памылка - і больш хабару табе ніхто не дасць. Далей хабар даеш толькі ты. Калі маеш што даваць.

Віталік, у адрозненне ад большасці сваіх аднадумцаў дэмакратычнай і праеўрапейскай скіраванасці, не здзіўляўся такому выбару грамадства, якое так моцна хацела хуткага паляпшэння бытавых умоў свайго гаротнага і занядбанага жыцця, што абавязкова мусіла нарабіць яшчэ горш. І не толькі горш, чым было, але нават горш, чым можна было зрабіць. Закон жанру. Не здзіўляўся таму, што і сам такі выбар зрабіў бы, як большасць прадстаўнікоў тагачаснага грамадства, каб не яго дзед. А чаго яшчэ чакаць ад згаладалых людзей, якія за семдзесят год кіравання бальшавікоў кавалак не важна якой ежы не маглі купіць проста за грошы. Мусілі мець яшчэ моцнае-моцнае знаёмства. Або быць сябрам КПСС, у дадатак ветэранам Вялікай Айчыннай вайны, дзеючым партызанам, ідэйным будаўнікам камунізму. І ўсё адно мець моцнае-моцнае знаёмства.

Нават адмысловую краму для ветэранаў вайны, якую ў Гародні самі ветэраны празвалі “У Гітлера”, прыходзілася штодня браць штурмам, але “языка” маглі ўзяць толькі дырэктар той крамы і пара-тройка давераных асобаў. На фронце “языка” можна было ўзяць значна прасцей. Прычым цёпленькага, з дакументамі і афіцэрскімі пагонамі. А тут нават свінога або ялавічнага, цвілога і пратухлага ўзяць немажліва.

Добра, што паўкілаграма курыных пупоў можна было ўхапіць тым, хто прабіўся, як на фронце, узмоцнена працуючы локцямі ды каленямі, у першую

дзясятку жадаючых. Ветэраны вайны, у якіх, насуперак такім умовам жыцця, заставалася тонкае пачуццё гумару, у той час жартавалі па-чорнаму, смеючыся, што каб немцы вайны не пачалі, то і курыных пупоў купіць было б немажліва.

– А які выбар можа зрабіць чалавек, які так моцна думае пра каўбасу, што вакол яго пачынаюць збірацца валацужныя і галодныя сабакі? – сказаў Віталіку неяк даўно, задоўга да тых выбарчых катаклізмаў, яго дзед.

Тады унук з дзедам размаўлялі пра тое, ці могуць людзі збудаваць сабе самі справядлівае існаванне.

– Зразумела, што ён выбера таго, хто яму больш той каўбасы паабяцае. Валацужныя і галодныя сабакі, якія збіраюцца вакол такога чалавека, так не зрабілі б. Бо яны спачатку думаюць. А чалавек - істота даверлівая. Таму што лянівая. А думанне вялікіх высілкаў патрабуе. Таму, перш чым прымаць якое рашэнне, чалавек мусіць паесці, каб голад яму мазгі не закручваў і не скіроўваў у няправільны бок.

Нават калі чалавек ідзе ў краму, – працягваў павучаць дзед, – ён мусіць напачатку добра паесці. А то з галадухі панабірае ўсяго, нават таго, што ўжываць не будзе. Таму добра памятай, унучак, прасцей за ўсё надурыць галоднага. Нездарма ў Бібліі напісана, што нельга вучыць галодных. А шулеры ўсялякія толькі тым і карыстаюцца. Як захочуць чалавека зманіць, то адразу на банкет запрашаюць. А той, дурны, прыходзіць туды галодны, а там жарэ і верыць усяму, што яму хлусяць. Таму, калі цябе запрасілі на гулянку, ніколі не ідзі туды, не паеўшы. А то за ўсіх заплаціць прыйдзецца рана ці позна. І ў трайным памеры. На-

ешся ў хаце, а тады і на размову ісці можна. Тады цябе і купіць, і падмануць значна цяжэй. А хто ляціць на дармовае, той ужо падмануты. Дармовы сыр, як вядома, толькі ў пастцы. А самая простая дарога заўсёды вядзе да расстаўленых пастак.

Таму Віталік, як пачаліся першыя дэмакратычныя выбары, добра ведаў кошт гэтым абяцанкам, як цыган ведае сапраўдны кошт кульгавай клячы, перафарбаванай у варанога маладога жарабца пароды арабскіх скакуноў. А кандыдаты ў дэпутаты ў той час, зрэшты, як і ва ўсе часы, аж заліваліся:

– Я вам мост пабудую, – біў сябе ў грудзі адзін.

– А нашто нам мост? – збянтэжана пыталіся выбаршчыкі. – У нас жа рэчкі няма!

– А я вам рэчку пракапаю, – роў другі, як апантаны псіх, якому як доказ псіхічнага захворвання патрэбна медыцынская даведка ў выглядзе дэпутацкага мандата.

Так яны складна лгалі, што нават Віталік, якога дзед асцерагаў ад таго, як ад воўчых ягад, ледзьве не паддаўся на падман. Што ўжо гаварыць пра тых, якія каўбасы хацелі.

А будучыя дэпутаты не замаўкаюць, як сірэна супрацьпаветранай абароны. А што ім?! За семдзесят з лішнім гадоў савецкай улады лгаць навучыліся. І гэта хіба адзінае, чаму яны навучыліся за тых семдзесят гадоў.

Але Віталік не паверыў ім і прагаласаваў за другіх. А тыя, другія, і здабылі Незалежнасць. Хоць іх была не большасць, але крыху было. Бо, відаць, не толькі Віталіку, але і некаторым іншым унукам іх дзяды некалі ў дзяцінстве сказалі:

– Ніколі, унучак, не вер тым людзям, якія ўвесь час гавораць, што будуць рабіць дабро іншым, бо ў такіх людзей бракуе часу, каб рабіць тое дабро. Увесь час на размовы губляецца.

## Для чаго чалавеку розум?

– Ну, мы ўчора і далі коксу, – цяжка ўздыхнуў Толік, пацягнуўшы з толькі што прынесенай Сяргеем бутэлькі некалькі выратавальных ад галаўнога болю глыткоў піва.

Пры гэтым ён меў такі выгляд, як быццам ад яго азадка толькі што прынялі распаленую да чырвонага колеру жалезную качаргу, якая пякла яго тыльную частку цела ўжо доўгі час. Не менш за паўсутак.

– Ні халеры не памятаю, – хітравата прызнаўся ён, усім сваім спакутаваным выглядам просячы, каб яму нагадалі, што цікавага ён прапусціў учора па п'янцы.

– Ды я і сам слаба памятаю, – адказаў Сяргей, дэманстратыўна пацягнуўшыся па другую бутэльку піва, якая, калі меркаваць па яго паказных рухах, мусіла абавязкова асвяжыць памяць. – Разумееш, сёння кожная думка выклікае дзікі галаўны боль, – працягваў ён. – Усё пачалося з таго, што ты прапанаваў слаўна правесці час. Усё прысутныя адразу пачалі будаваць планы, і наша кампанія ператварылася на невялічкі час у канструктарскае бюро па вынаходніцтве метадаў незваротнага знішчэння вольнага часу.

– Ага, – выгукнуў Толік. – Цяпер крыху ўспамінаю. Ёсць усё ж памяць. А мо гэта цудоўны напой пад назвай піва так добра ўздзейнічае на мазгі, як салідол на іржу. Трэба будзе праз паўгода, як будзем здаваць у нашай школе выпускныя іспыты, добра гэтай вадкасці хлебануць, раз яна так файна дзейнічае на памяць. Усё на выдатна паздаём. Настаўнікі, што лічаць нас дэбіламі, вымушаныя будуць застрэліцца, каб хоць

неяк уратаваць свой прафесійны гонар. А можа, зрабіць харакіры. Каму што да твару.

– Во-во, – падхапіў жарт суразмоўца, разагрэты алкагольным напоем. – І як будзем куды паступаць пасля школы, то таксама без піва ні кроку. Уяўляеш, як файна: зрабіў глыток - і ўспомніў, што вучыў учора. Яшчэ глыток - і памятаеш усю праграму за год.

– Давай лепш успомнім, што было ўчора, – прапанаваў Толік, прадчуваючы вясёлую забаву з тых успамінаў. – Наколькі я памятаю, гэта я прапанаваў пацеху ўсяму нашаму дзясятаму класу, паколькі апошні год вучымся разам.

– Так, – ляніва пагадзіўся Сяргей. – І амаль увесь клас з энтузіязмам, а некаторыя нават з фанатызмам падтрымалі гэту цудоўную ідэю. Дарэчы, мушу крыху стрымаць сваю прыродную сціпласць і пахваліцца, што пачаць з гарэлкі - гэта была ўжо мая прапанова. Яе падтрымалі з яшчэ большай апантанасцю, як тоўстае дзіцё падтрымлівае ідэю купіць торт. А пасля, як прыйшла ноч, мы пачалі вешаць на вокны нашым настаўнікам бульбу на нітцы. І за другую нітку тузаць і барабаніць ім у вокны той бульбай. Пачалі з нашай першай настаўніцы. Яе муж выскачыў з хаты ды так ляснуўся галавой аб палена, якое мы загадзя над дзвярамі павесілі, што амаль не падпаліў вёску тымі іскрамі, якія ў яго з вачэй сыпанулі. Весела было. Качаліся па траве, як п'яны дзядзька Міхась пасля палучкі.

– Ну-ну, і што далей? – зарагатаў Толік. – Я ж казаў, што слаўна час правядзём.

– Што слаўна, то слаўна, – працягваў Сяргей, па-даросламу закурыўшы сігарэту і пацягваючы ма-

ленькімі глыткамі піва, як гэта рабіў яго любімы кінагерой у фільме “Кракадзіл Дэндзі”. – Як дабраліся да хаты біялагічкі, ты Алцы дазволіў за нітку цягаць. Але, замест бульбы, павесіў над вакном камень. Той як рэзне па шыбе, а шыба ўшчэнт разляцелася. Алка з нечаканасці хіба ў трусы напусціла, бо так сiганула адтуль, як п’яная вавёрка з ласінымі вачамі. Зрэшты, яна такая і была. І больш ужо не з’яўлялася. А ўсе рагаталі так, што амаль пупы не паразвязваліся. Нават выдатніцы, бо так былі накачаныя, як ім бацькі не дазваляюць.

– Супер, – зарагатаў Толік. – Вось гэта па-нашаму. Трэба і сёння штосьці вытварыць. Ну, а што далей?

– А далей яшчэ цікавей, – усміхнуўся Сяргей. – Ты прывалок плакат з голай бабай, што ў фарцоўшчыкаў купіў аж за дзесяць рублёў. Мы гэтую бабу акуратна выразалі ножанкамі, залезлі ў шпітальны гараж і наклеілі на катафалк, якім нябожчыкаў возяць. Я сёння з раніцы на матацыкле ездзіў за ім. Вось дзе прыкольна было!

– І што там? – узбуджана ўскочыў на ногі Толік.

– Гэта трэба было бачыць, – засмяяўся яго сябра. – Шафёр бабы не заўважыў, бо яна не з ягонага боку наклееная. Так і прыехаў па нябожчыцу. Яе ў машыну паклалі, глядзяць - а там баба голая наклееная. Пачалі да шафёра чапляцца, ажно да рыла скачуць. А той не можа зразумець, у чым там справа. Во дзе хохма была!

Яго за каўнер і ў хату павалаклі. Адтуль званяць у шпіталь і кажуць, што ім машыну з голай бабай прыслалі. Тыя ў шпіталі ажно аслупянелі, нібыта ў іх там усе нябожчыкі падняліся ды танцуюць з мед-

сёстрамі. Потым прасіць сталі, каб слухаўку шафёру далі. І равуць на яго, каб бабу з машыны выкінуў, бо яна паганіць увесь выгляд. Ну, той прыляцеў да машыны, крычыць, ні ў чым не разабраўшыся, каб нябожчыцу з машыны забіралі, а то ён сам яе адтуль выкіне. Маўляў, начальства сказала, што яна аўтамабіль паскудзіць. Што там было, ты не ўяўляеш.

– Шкада, што я гэтага не бачыў, – хапіўся за жывот Толік, і тут хлопцы пачулі за плячамі спакойны голас дзеда.

– Хацеў, унучкі, даўно ў вас спытаць адну рэч, – аказаўся той, разглядаючы новенькую сякеру, якую збіраўся асаджваць. – Як вы думаеце: нашто чалавеку галава дадзена?

– Што, дзед, вучыць жыццю будзеш? – агрызнуліся хлопцы.

– Ды ні ў якім разе, – супакоіў іх дзед. – Ці ж я магу вас навучыць чаму? Гэта ў мой час дзяды ўнукаў вучылі. А зараз у вас школа ёсць. Вы цяперака і без нас разумныя. Разумнейшыя за нас. Таму я не вучу вас, а пытаю: “Навошта галава чалавеку?”. Каб самому ў вас павучыцца. Зразумела, што дзякуючы ёй, чалавек есць, п’е і часамі ёю ківае, калі хоча сказаць “так” або “не”. Але з вашай размовы, я зразумеў, што розум яшчэ для таго дадзены, каб успамінаць тыя дурноты, а можа і подласці, якія зроблены ўчора ці раней. Так гэта ці не? Распавядзіце мне, старому. Я ж шмат пажыў, і зараз думаю, што мне з гэтага ўспамінаць лепш. Бо мой дзед мяне некалі вучыў, што розум дадзены, каб чалавек жыў разумна, а не для таго, каб мог бачыць і ведаць, як неразумна ён жыве.

І, не дачакаўшыся адказу, пайшоў у паветку за чаранком.

– Пайшлі тую бабу з катафалка здзяром, – прапанаваў Толік.

– Пайшлі, – адгукнуўся Сяргей. – А што, дзеда спалохаўся?

– Ды не. Проста апошнія яго словы гучалі так велічна, што страшна моцна захацелася паўтарыць гэту фразу сваім унукам. Як некалі сам стану дзедам.

## Сакрэт мудрасці

Як пажартаваў мой сябра Уладзімір Хільмановіч, гэты свет недасканалы, бо ніяк не можа сканаць. Думаю, гэта найлепшы яго афарызм, варты таго, каб усе выдавецкія фірмы змагаліся за права першымі яго надрукаваць залатымі літарамі на вокладцы новенькай кніжкі афарызмаў. І не толькі надрукаваць, але з апантанасцю распаўсюджваць па ўсёй краіне, шчыра шкадуючы, што гэты афарызм на іншыя мовы свету практычна не перакладаецца. Ён выключна наш, беларускі, прыдуманы беларусам для беларусаў, а таксама і для беларусак.

Слова многа значыць. З гэтым, праўда, ніхто і не спрачаецца. А трапна сказаная фраза замяняе доўгія гады выхавання, як невялічкі кавалак сала значна лепш замяніць галоднаму чалавеку вялікую вязанку сена. Цэлыя ўстановы руплiва і самаахвярна працуюць над тым, як правільна выхаваць чалавека. Каб ён быў сумленны, чэсны, добры, вельмі добры, справядлівы, прыстойны, культурны, добразычлівы, шляхетны, смелы, адважны, праўдзівы, праўдалюбівы, настойлівы, працавіты, верны, прынцыповы, шанаваў усё і ўсіх навокал і, самае галоўнае, каб спраўна і своечасова плаціў падаткі.

Яшчэ ў дзіцячым садку выхавацелі стараюцца закласці ў дзетак тыя высокія якасці чалавечай натуры, якіх не маюць самі. Таму гэтыя якасці не асабліва закладаюцца ў юныя душы, як паветраны шар не змяшчаецца ў маленькай каліце. Хоць некаторыя сцвярджаюць, што ў маленькай каліце можа змясціц-

ца нават падводная лодка з усім яе экіпажам, портам, з якога яна выйшла, а таксама з заводам, на якім яе зрабілі. Усё, маўляў, залежыць ад таго, якой вартасці і якой краіны купюры ляжаць у той каліце.

Ну, гэта тыя людзі выказваюцца на ўзроўні смешных афарызмаў без глыбокай філасофіі. Бо хіба не чулі таго афарызма пра недасканалы свет.

Пасля таго, як намаганні выхавацеляў дзіцячых садочкаў далі нулявы вынік, ужо сярэдняя школа спрабуе, як яна сама сцвярджае, зрабіць з чалавека Чалавека. Але ўсе яе намаганні развальваюцца пасля таго, як гэты маленькі яшчэ чалавек даведваецца, што яго настаўнікі скралі грошы, якія іх бацькі здалі на рамонт кабінета фізікі, або проста, з'яўляючыся сябрамі выбарчых камісій, не з таго боку падлічылі галасы іх татуляў і мамуляў, дзядуляў ды бабуляў і іншых людзей, сваяцтва з якімі пакуль што яшчэ не выяўлена ці паходзіць з вельмі далёкіх часоў і мае агульных толькі дваіх прашчураў - Адама і Еву.

Вышэйшая школа! Сапраўды, многія яе лічаць галоўным тэрмасам краіны для захавання маральна-этычных нормаў грамадства і развіцця станоўчых рысаў чалавечага характару. Але менавіта яна, вышэйшая школа, і сцвярджае, што чалавек прыходзіць туды ўжо з цалкам сфарміраваным характарам, і змяніцца да лепшага ўжо не можа, як не палепшыцца егіпецкія піраміды, завершаны твор мастацтва і чысты медыцынскі спірт. Пагоршыць усё гэта можна лёгка, а вось палепшыць гэта яшчэ ні ў кога не атрымалася. І хіба нікому і не трэба спрабаваць гэта зрабіць. Небяспечна для здароўя. Асабліва эксперыменты з медыцынскім спіртам.

Можна падключыць да працэсу выхавання і ўсё грамадства цалкам. Але як даведваешся, што самай любімай друкаванай прадукцыяй насельніцтва планеты ёсць грошы, то неяк не зусім хочацца аддаваць сістэму выхавання ў лапы ўсяго грамадства. Бо, штодзённа прачытваючы па некалькі разоў купюры з арабскімі літарамі, спецыялісты ад выхавання і гэтыя свае паслугі прапаноўваюць выключна за тыя купюры. А паколькі яны такія важныя нават для людзей гэтай прафесіі, то які дурань будзе мяняць іх за выхаванне. Бо ўсім вядома, што без выхавання і з грашамі выжыць неяк можна. А вось з выхаваннем і без грошай – вельмі цяжка. Значна цяжэй, чым і без грошай, і без выхавання.

Тут хіба больш спадзявання на тое магутнае слова, на трапна сказаную фразу і на асобнага чалавека, які гэтую фразу агучыць у той момант, калі яна дасць наймацнейшы эфект.

– Што гэта ты матку не слухаеш? – гаворыць неяк дзед Яська ўнуку. – Нядобра атрымліваецца.

– Бо яна абы-што гаворыць, – адказвае раззлаваны ўнук.

– Матка не можа гаварыць абы-чаго, – настойвае дзед. – А вось табе можа так здавацца, што яна не тое скажа. Толькі вось у чым справа. Як бы выглядаў гэты свет, каб дзеці бацькоў не слухаліся? Калі чалавек сваю матулю любіць, то можна спадзявацца, што і чужую маці ён шанаваць будзе, ставіцца з павагай, дапаможа ёй у разе чаго. А калі ён сваёй маці не любіць, то што ён зробіць з чужой?

– Вечна, дзед, ты нейкія такія словы знойдзеш,

што не трэба табе доўга тлумачыць. Усё адразу зразумела становіцца. Адкуль такія здольнасці? – пытаецца ўнук.

– А здольнасці тут ні пры чым, – адказвае стары. – Проста трэба гаварыць толькі тое, што думаеш.

– Дык, здаецца, і я гавару толькі тое, што думаю, - не пагаджаецца хлопец. - Але ў мяне чамусьці так не атрымліваецца.

– А гэта таму, што ты вельмі хочаш, каб было па-твойму, – тлумачыць дзед. – А я хачу, каб было правільна.

– Добра, – загарэўся спрэчкай унук, як малады пеўнік, якому ўпершыню ўдалося пракукарэкаць. – То дакажы мне, чаму я цябе павінен слухаць і чаму павінен верыць, што ты ведаеш праўду, знаеш, як трэба паступаць табе і як трэба рабіць мне? Адкуль ты ўсё гэта можаш ведаць? Чаму я мушу прыслухоўвацца да тваіх парад?

І тут дзед Яська спакойна і павольна гаворыць такую фразу, пасля якой уся спрэчка адразу скончылася:

– А ўсё вельмі проста, унучак. Бо я ўжо быў такім маладым, як ты. А ты яшчэ такім старым, як я, не быў ніколі.

## Каханне ці разлік

– Выходзіць замуж можна выключна па каханні, заўсёды па каханні, і аніяк, акрамя як па каханні, – цвёрдым голасам, нібыта новая настаўніца малодшых класаў, якая з першага спаткання вырашыла прывучыць да жалезнай дысцыпліны сваіх бяспраўных і фізічна слабейшых падапечных, выгукнула Ірына. – Асабіста я толькі так і збіраюся, і ніхто мяне не пераканае, што трэба неяк інакш, не так, як я думаю, а так, як нехта нібыта ведае. Нават каб я і была перакананая, што гэты нехта нешта ведае, то гэта не змяніла б маіх поглядаў. А я добра знаю, што ні халеры вы не ведаеце. Жыццё амаль пражылі, а мазгоў зусім не нажылі.

– Во дзе моладзь пайшла, – цяжка ўздыхнула яе матка Ганна, як быццам гаворка ішла не пра тое, як людзі жэняцца, а пра тое, як паміраюць. – У нас некалі маладыя шанавалі бацькоў. А зараз ставяцца горш, чым суседская сучка да вашых кацянят.

– Паважалі, то хіба было за што, – не здавалася дачка. – А ў вас толькі адна гаворка: якія вы разумныя і якая я дурная. Адкуль толькі ў такіх разумных бацькоў такія дурныя дзеці бяруцца? З пункту гледжання генетыкі, такое практычна немажліва. А генетыка - гэта навука такая. Яна нават тлумачыць, чаму ў нашай рудой каровы цялушка ў плямах…

Такім скандалам у Лісоўскіх пачынаўся кожны дзень з таго часу, як яны даведаліся, што дачка закахалася не ў таго, хто падабаўся яе маці. Па праўдзе кажучы, Ірчынай маці ніхто не падабаўся. Ні тады,

як сама была маладой і брыдкай, ні цяпер, калі стала прыглядаць мужа для сваёй Іркі і прыгажэйшай за мінулыя гады не стала. Пражыўшы так да не самага ранняга паўналецця сваёй малодшай дачкі, яна добра ведала, што нарадзіць сабе нашчадкаў можна і без гэтага высокага пачуцця. А яно, тое пачуццё, меркавала Ганна, можа, так патрэбнае людзям, як сабаку другі хвост. А можа, яго ўвогуле не існуе. Можа, гэта пачуццё прыдумалі тыя няўдаліцы, якія не змаглі знайсці сабе вельмі багатага мужа, ды нават проста багатага, і таму выходзілі ўсяго толькі за прыгожага, прыкрываючы свае няўдалыя паводзіны неіснуючым каханнем.

Яе муж Іван нават у часы савецкай роўнасці зарабляў больш за астатніх. У калгасе не корпаўся. То на мора хадзіў матросам, то нафту ў далёкай Расіі здабываў на славу вялікай і бязмежнай радзімы, якая транжырыла тую нафту бяздумна і безгаспадарліва, як Іванава жонка яго грошы. Таму ён Ганне і прыйшоўся даспадобы, багаты і бязмозглы. І яна яго спрытна падчапіла, п'янага і сумленнага, які не змог не жаніцца з ёй раніцай, бо пра прапітую і прагулянную ноч ведаў толькі з яе аповеду. А пасля лічыла сваім абавязкам раскідвацца заробленымі Іванам грашамі направа і налева, каб той з чыстым сумленнем мог называць сябе шчодрым кармільцам сваёй сям'і.

У хаце Іван бываў рэдка. Але за травыласць сваёй сям'і не баяўся. Бо добра ведаў, што яго жонка не толькі яго, але і нікога не пакахае. І яе таксама ніхто. Вярнуўся дахаты настала толькі тады, калі ад неверагоднай колькасці ўжытага алкаголю не самай лепшай якасці стаў яшчэ брыдчэйшым, чым яго абранніца. Думаў, што зарабіў за ўсё жыццё, каб за-

раз у спакоі сустрэць старасць. А тут на табе! Скандал на скандале. Ды такія, што ўся вёска рагоча, як каноплі аб'еўшыся.

– А некалі, – крычыць Ганна, – як бацькі сказалі, так і свята! І сем'і былі добрыя і моцныя. Ніхто разводзіцца і не збіраўся. А зараз яны ўсё кахаюць ды кахаюць, ажно з носу цячэ, а пасля разводзяцца ды разводзяцца. Каханне есці не будзеш. І не апранеш. На ўсё гэта грошы трэба.

– Можа, матка і мае крыху рацыю, – стараецца змякчыць канфлікт Іван, хоць сам яе пагляду на жыццё, і на жаніцьбу, і на сям'ю, а значыць, і на сябе, не падзяляе. Але дзеля міру ва ўсім свеце і ў іх хаце спрабуе неяк выкруціцца з сітуацыі, хоць разумее, што яўна фальшывіць. – Яно, як ні круці, усё адно па разліку атрымліваецца. Адзін разлічвае на грошы, і гэта разлік. А другому каханне трэба, і гэта таксама разлік, – няўпэўнена так гаворыць.

– А каб цябе! – перабівае яго жонка. – Зусім, прыблуда, усіх заблытаў. Што ты за бацька, калі дзіцяці добрага не параіш?

І тут Іван убачыў за вакном дзеда Уладзіміра. Узрадаваўся, нібыта маладосць яго вярнулася і ён зноў мае сілы з'ехаць ад сваёй абранніцы матросам на мора або нафту шукаць, прысылаць ёй грошы, абы не бачыць і не чуць яе. У вёсцы дзеда ўсе лічылі мудрым чалавекам, які на кожную праблему можа што разумнае параіць.

– Дзед Валодзя! – закрычаў ён у вакно. – Зайдзі, калі ласка. Разабрацца не можам, як замуж трэба выходзіць. Па каханні ці па разліку.

– Так, так, дзеду, – запрашае і Ірка. – Зайдзіце. А то мне жыцця тут не даюць. За дурніцу трымаюць.

– Заскоч, Валодзя, – і Ганна туды ж. – Растлумач ты дурням пра жыццё. Яны ж думаюць, што жыццё пражыць - гэта на свінні праехацца.

І кожны мяркуе, што дзед яго думку падтрымае. А той сеў, паслухаў крыху іх, крыху падумаў, ды кажа:

– Неяк незразумела вы разважаеце. Што гэта значыць: па каханні трэба замуж выходзіць ці па разліку? Замуж трэба ісці за некага. За добрага чалавека. Бо ад гэтага і пачынаецца і каханне, і дабрабыт.

Вось твой бацька, – звяртаецца ён да Іркі. – Чалавек харошы. Ажаніўся з тваёй маткай. Ці, дакладней сказаць, яна яго ажаніла. І што? Паколькі ён чалавек добры, то і пакахаў яе пасля жаніцьбы. Бо яна яго жонка. А добраму чалавеку дар даецца вялікі. Ён заўсёды знаходзіцца ў стане закаханасці, нават калі яшчэ няма каго кахаць. І заўсёды пакахае хоць якую жанчыну, з якой жыццё яго звяжа. Таму пакахаць можна і пасля шлюбу. Абы было каго.

Ці вось я, – разважае далей дзед. – Жаніўся я па каханні. І бедны быў тады. Але паколькі я чалавек добры, то дзеля сваёй сям'і грошы зарабляў. Працы не баяўся. Бо кахаў іх. Не галадалі. Не горш, чым іншыя, жылі. Таму пра грошы можна падумаць і пасля шлюбу, а жаніцца па каханні. Быў бы чалавек харошы.

А вось узяць тваю маці, – уздыхнуў стары, – то ў яе няма такога дару. І яна нікога не пакахала ні да замужжа, ні пасля яго. І грошай не зарабіла і зарабляць не будзе, а толькі транжырыць. Але вы не слухайце мяне, старога. Рабіце так, як самі знаеце.

І пайшоў. А ў Лісоўскіх з тых часоў спрэчкі скончыліся. І па каханні выйшла замуж Ірка ці па разліку, ніхто толкам не ведаў. Толькі жылі яны някепска, глядзелі адно на другога закахана ды і не галадалі. А як што, то па дапамогу беглі да дзеда Уладзіміра.

## Дапамога афрыканскім дзецям

– А заўтра, дзеці, прынясіце ў клас па дзесяць капеек, – неяк таямніча і шматзначна, нібыта размова ішла пра стварэнне масонскай ложы, прапанавала новая настаўніца, якая толькі тыдзень як прыехала па размеркаванні працаваць у вясковую школу. – Вы савецкія дзеці, – працягвала яна гэтак жа шматзначна і чамусьці крыху разгублена. – Вы жывяце ў самай шчаслівай краіне на свеце. Таму ў вас усё ёсць: і ваша шчаслівае дзяцінства, і магчымасць вучыцца. Вы не ведаеце, што такое голад. А іншыя дзеці не такія шчаслівыя, як вы. Вось, прыкладам, дзеці Эфіопіі. Эфіопія - гэта вельмі бедная краіна. Міжнародны імперыялізм зрабіў усё, каб яна не пабагацела, і каб дзеці там галадалі. Таму мы збяром па дзесяць капеек і адправім гэтыя грошы ў які-небудзь фонд падтрымкі галодных дзяцей Афрыкі. Гэта будзе наш унёсак у вырашэнне іх праблем. Мы павінны паказаць усяму свету, што мы самыя добрыя людзі і, у адрозненне ад капіталістаў, не можам застацца глухімі да патрэб іншых.

Дзесяцігадовы Міхась слухаў гэтыя словы, зажмурыўшы вочы, і ўспамінаў учарашнюю размову бацькі з сябрамі. Тыя выпівалі ўзятую ў пазыку сіваватую вадкасць вырабу іх суседкі Аліны і таксама разважалі пра жыццё. Праклінали яго на чым свет стаіць. І, у адрозненне ад настаўніцы, зусім не захапляліся сваім дабрабытам.

Найбольш у той размове дасталася менавіта самагоншчыцы Аліне, якая ўжо пасля першай пляшкі

была тройчы праклятая за перавышэнне колькасці сівушных інгрыдыентаў у паглынаемай мужчынамі вадкасці. Мужчыны нават пашкадавалі, што зараз няма інквізіцыі і Аліну нельга спаліць на плошчы на ядлоўцавых галінах, каб другія самагоншчыкі баяліся глуміцца са сваіх вырабаў і не рабілі іх слабейшымі за семдзесят градусаў моцы.

А пасля Аліны галоўным ворагам была аб'яўлена менавіта савецкая дзяржава і праклятае савецкае жыццё, якое так натхнёна хваліла настаўніца. Мужчыны сказалі, што так кепска яшчэ ніколі людзі не жылі і нідзе так блага не жывуць і зараз. Старэйшыя ўспомнілі расказы бацькоў яшчэ пра цара Мікалая. Але і ягонае праўленне было аб'яўлена нашмат лепшым. Успомнілі таксама, які добры селядзец прадавалі габрэі пры паляках. А ўжо чалавек, чый продак з'ездзіў некалі ў Амерыку, дык не мог нахваліць жыццё ў тым, па сцвярджэнні настаўніцы, загніваючым капіталізме.

– Увогуле, – падняў палец угору бацька Міхася, – найлепш жывуць на свеце людзі ў капіталістычных краінах. Пасля някепска жывуць тыя абарыгены, якім капіталісты памагаюць. На трэцім месцы знаходзяцца таксама абарыгены, але ўжо каторых кормім мы, саветы. Ну, а самі мы займаем апошняе месца па дабрабыце, таму і вымушаны піць атруту, якую гоніць Аліна.

Вось дзе сёння была маленькаму Міхасю загадка не з дзіцячай кніжкі. Увесь час гадаў, чыя ж праўда: бацькі ці на настаўніцы. Больш хацелася слухаць бацьку. Але ж сам бацька некалі сказаў яму, каб Міхась слухаў настаўнікаў. Таму першае, што ён надумаўся зрабіць, дык гэта звярнуцца да бацькі.

– Тата, – аказаўся ён да свайго самага блізкага продка адразу, як прыйшоў са школы, пакуль той яшчэ не паспеў напіцца Алінінай вадкасці. – У школе сказалі прынесці заўтра па дзесяць капеек, каб адаслаць іх галодным у Афрыку. Што мне рабіць?

Бацька не стаў асабліва ўпірацца. Крыху скрывіўся, спытаўся, калі будзе чарговы збор для галодных на Марсе, але грошы паабяцаў даць. Толькі дадаў, каб тымі дзесяццю капейкамі яны задушыліся. Меў на ўвазе не галодных Афрыкі, а тых, хто тую даніну збіраў з яго дзіцяці для дзяцей чужых.

Паколькі адказ бацькі хлопчыку раскрыў вочы на рэчаіснасць не больш, чым доўгі і нудны выступ настаўніцы, ён вырашыў пашукаць праўды ў матулі.

– Ну, канешне, мы дадзім грошы, – адказала тая. – Іншым памагаць трэба. Бо чалавек мусіць быць добрым. І настаўнікі, і іншыя людзі зрабілі добрую справу. Адны шукалі тых дзяцей, якія недаядаюць, другія збіраюць грошы. Хтосьці іх паралічыць. Гэта вялікая справа. І галоўнае - добрая.

Міхась спытаў пра тое і ў Алінінай дачкі, якая была ім суседкай, таму яны часта бачыліся. Тая заканчвала школу з медалём і была на добрым уліку ў камсамоле. Яна хлопцу сказала прыкладна тое, што і настаўніца, толькі са значна меншым энтузіязмам і зусім непераканаўча. Менш пераканаўча гучала толькі яе сцвярджэнне, што яе матка Аліна самагонкай ніколі не гандлявала, не гнала яе, а машыну яны набылі за грошы, зробленыя ў калгасе на бураках. І што гэта поўная лухта, нібыта самагонка ў іх атрымліваецца вельмі кепская.

Такія розныя, а часамі і процілеглыя стаўленні дарослых, зусім задурылі Міхасю галаву, як яго бацьку кожны вечар рабіла тое самае Аленіна вадкасць. Але тут хлопец заўважыў дзеда Уладзіміра, які ішоў аднекуль дахаты.

– Дзед Валодзя, – звярнуўся да яго Міхась. – Хто лепш жыве: людзі ў Эфіопіі ці мы? Бо мы збіраем па дзесяць капеек у школе і пашлём іх галодным дзецям Афрыкі.

– А скуль жа мне ведаць, як там жывуць у Эфіопіі? – разважліва адказвае дзед. – Я там ніколі не быў. І не ведаю, дзе яна. Можа і няма яе ўвогуле, той Афрыкі. Гэта вы, маладыя, зараз больш граматныя. А пра грошы я табе вось што скажу. Вы збярыце па дзесяць капеек і аддайце іх бязногаму Грышку. Хай ён каляску для калек купіць, а то не можа перамяшчацца. Ці ў вас тут, на месцы, няма каму памагчы, што вы грошы некуды паслаць хочаце?

– Дык настаўніца казала, што дабро трэба зрабіць тым людзям у Афрыцы, – адкрыў хлопец вочы ад такога нечаканага павароту так шырока, як гэта толькі зрэдку робіць сава ў самую цёмную ноч.

– А вы Грышку дабро зрабіце, – усміхаецца дзед. – А то галодных у Афрыцы ўсе любяць: і настаўніца, і дзеці. А Грышку - аніхто. Бо ён мацюкаецца і гарэлку п’е. І ўсе гэта бачаць. А Афрыкі ніхто не бачыць, і што яны там робяць, таксама ніхто. А нават у Бібліі напісана, каб людзі любілі бліжняга. А хто нам бліжэй? Грышка ці Афрыка? І ведаеш, што я табе скажу. Лёгка ўвесь свет палюбіць. А аднаго суседа цяжка. Таму лепш ты бліжняму дапамажы. А ў афрыканцаў свае

бліжнія ёсць. Яны там і без цябе разбяруцца. Не абражай іх падачкамі здалёк, бо яны могуць падумаць, што ты іх нікчэмнымі лічыш.

Назаўтра Міхась і яшчэ некалькі хлопцаў занеслі грошы Грышку. Той іх прапіў, але не мацюкаўся. Сядзеў і нешта думаў.

І новая настаўніца нічога не сказала. Толькі схадзіла паглядзець, хто гэта такі той дзед Валодзя.

## Права быць чалавекам

Першыя тэлевізары ў беларускай вёсцы людзі набывалі для таго, для чаго і ва ўсім іншым свеце. Для адпачынку. Крыху, канешне, і для пахвальбы перад суседзямі. Але пераважна для адпачынку.

Але як толькі яго ўключалі, то адразу пачыналі разумець: савецкі тэлевізар - гэта адзін з галоўных элементаў камуністычнай прапаганды і з адпачынкам ён мае столькі ж агульнага, колькі духоўная семінарыя ў Жыровічах да прапагандуемых усё па тым жа тэлевізары лекцый па навуковым атэізме.

Таму, акрамя тэлетрансляцый у запісе матчаў па хакею, балета, фігурнага катання і фільма "Сямнаццаць імгненняў вясны", дзе адзін савецкі шпіён перахітрыў усе нямецкія спецслужбы, галоўным элементам адпачынку ўсё ж па-ранейшаму была правераная вякамі гарэлка.

Яе пілі заўсёды і ўсюды. Да работы і пасля яе. Падчас работы абавязкова. Пілі ў цягніках, на вакзалах, у лесе, у полі, у парках, на тэрыторыі дзіцячых садкоў, у кампаніях, у адзіночку, з сябрамі і з непрыяцелямі, з начальнікамі і падначаленымі, з участковым міліцыянерам і міліцыянерам не ўчастковым. Неяк жа адпачываць трэба было людзям. І што – што, а адпачываць яны ўмелі.

Гарэлку ўжывалі пад салёны агурок, пад агурок несалёны, пад кільку, пад хлеб, пад папяросу "Беламорканал", пад іншую папяросу, часамі нават пад цыгарэту з фільтрам. Адным словам, гарэлку паглыналі пад усялякую закуску і без усякай закускі.

Скарыстоўвалі гарэлку і пад тэлевізар. Як гаворыцца – голь на выдумкі хітрая. Вось і тут людзі, якія купілі тэлевізар для адпачынку, а адпачынкам папарaнейшаму заставаўся зялёны змій ў гранёнай шклянцы, пачалі аб'ядноўваць выпіўку з уключаным блакітным экранам чорна-белага тэлевізара.

Менавіта так з'явіўся тэрмін "культурны адпачынак". Азначаў ён распіванне саракаградуснай ля ўключанага тэлевізара. Праўда, крыху пазней нейкія камуністычныя ідэолагі пачалі забіраць гэты тэрмін у свайго народа, як раней забралі зямлю, скаціну і паняцце нармальнага адпачынку. Яны культурным адпачынкам сталі называць паходы на стадыёны або ў кінатэатры. Але народ і туды без бутэлькі ўжо не хадзіў, таму і аспрэчваць аўтарства тэрміна "культурны адпачынак" ні ў кога не стаў.

Вось аднаго разу ў адной вёсцы людзі вырашылі культурна адпачыць. На працу ісці не трэба было з тае прычыны, што краіна адзначала Першага мая -дзень працоўных. Зрэшты, з гэтага і разгарэлася спрэчка. Яшчэ купляючы гарэлку, адзін цалкам непісьменны калгасны вартаўнік пачаў пытацца ў іншых, чаму гэта раней, як краіна не святкавала дня працоўных, то выхадных дзён было значна больш. І Божае нараджэнне, і Вялікдзень, і яшчэ шмат пералічыў. А як улада змянілася на бальшавіцкую і дзяржава стала шанаваць працоўнага чалавека, то той працоўны чалавек, акрамя працы, свет перастаў бачыць. Толькі ў дзень працоўных і можна ад працы хоць крыху адпачыць. Абсурд нейкі.

Іншыя, пакуль былі цвярозымі, не гублялі часу на тлумачэнні. Бо хутчэй трэба было набыць якой

моцнай вадкасці. А як перавярнулі па адной, а пасля і па другой за каўнер замахнулі, то вырашылі таму цёмнаму вартаўніку ўсё растлумачыць. У нас, маўляў, у краіне так збудаваная сістэма, што ёсць і правы, і абавязкі. Таму кожны працоўны чалавек мусіць працаваць, бо мае такі абавязак.

– А якое ён мае права? – запытаўся вартаўнік.

– Як якое? – здзівіліся тыя і адразу адказалі. – Ёсць у яго права на працу, напрыклад.

Непісьменны вартаўнік ад пачутага хапіў газету і з перапалоху прачытаў некалькі радкоў. Бо не ведаў, што адказаць. Аказваецца, для яго і іншых праца - гэта і абавязак, і права. Разабрацца без бутэлькі тут было немагчыма. А як аказалася, і з бутэлькай не так проста. Але паколькі ён не ведаў, што і іншыя ў гэтым не могуць разабрацца, то не стаў перад прысутнымі паказваць сваё невуцтва і ўключыў тэлевізар. А там акурат пра гэта і гавораць. Як падслухалі ўсядно іхнюю размову.

– І вось у гэты вялікі дзень, – кажа ім тэлевізар, – працоўныя ўсяго свету святкуюць найвялікшую сваю перамогу – права на працу. І ўсе працоўныя ўсіх дзяржаў на нашай планеце з надзеяй глядзяць на нашу краіну, у якой працоўны чалавек мае не толькі абавязкі, але і правы.

Калгасны вартаўнік вырашыў, што тэлевізар таксама выпіў гарэлкі, прычым значна больш, чым іх кампанія. Увогуле, выглядала так, што гэты тэлевізар п'е не прасыхаючы, таму і называе адну і тую ж рэч і правам, і абавязкам. І тут ужо вартаўнік не вытрымаў.

– Не можа так быць, – кажа, – што праца - і аба-

вязак, і права. Калі праца ёсць абавязкам, то правам мусіць быць адпачынак.

– Ну, ёсць і такое права ў працоўных нашай дзяржавы, як адпачынак, – пачалі, збіваючыся, тлумачыць іншыя прысутныя, таксама здзіўленыя заявамі тэлевізара так моцна, як здзіўляецца сабака, якому п’яны гаспадар паклаў у міску сена. – Тут усё неяк заблытана, таму вельмі цяжка разабрацца, дзе тут права, а дзе абавязак, халера іх бяры.

– Дык што гэты тэлевізар пляце? – не здаваўся калгасны вартаўнік. – Можа хто мне растлумачыць больш-менш даходліва?

– Давай, можа, я, – вызваўся калгасны ветэрынар. – Вось калі ты кладзешся да жонкі ў ложак, як можна гэта назваць тваім правам ці абавязкам?

Такімі аргументамі ён, не хочучы таго, загнаў у тупік не толькі вартаўніка і ўсіх астатніх прысутных, але і сябе самога, і хіба што нават тэлевізар, які стаў крычаць п’янымі галасамі тысяч працоўных, што былі на першамайскім мітынгу: “Ура – ура-а-а – ура-а-а-а-а!”.

І тут усе пачулі голас дзеда Яські, які нейкі час таму зайшоў у хату і міжволі стаў сведкам спрэчкі людзей і тэлевізара:

– Што вы плецяце? – паківаў ён галавой. – Чалавек ад нараджэння нічога нікому не абавязаны. Якія вы абавязкі на яго вешаеце? У чалавека толькі правы быць павінны.

– А як жа без абавязкаў? – разгубіліся прысутныя. – А ці чалавек будзе добрым, сумленным, чэсным?..

– А яшчэ з аднаго свайго права, – адказвае дзед Яська. – З галоўнага. З права быць чалавекам. І як ён гэтае права не скарыстае, то ніякія абавязкі яго чалавекам быць не прымусяць.

Усе селі за стол, налілі і задумаліся. Ніхто не аспрэчыў высновы дзеда Яські. А пасля, крыху падумаўшы, людзі выключылі савецкі тэлевізар.

# Пытанне да ўнука

Пабіты твар у юнака - справа звычайная. Ёсць такі ўзрост у людзей мужчынскага полу, калі павышаны ад прыроды ўзровень тэстастэрону прымушае некаторых з іх забыцца, што яны належаць да віду хомасапіенса, які мусіць вырашаць канфліктныя праблемы спосабам, які адрозніваецца ад жывёльнага.

Але колькі б грамадства ў цэлым не змагалася за цывілізаваны падыход да боек мужчын, пакуль будуць існаваць прыгожыя жанчыны, датуль будуць непрыгожа пабітыя твары ў людзей мужчынскага полу. І нават калі жанчыны будуць існаваць толькі непрыгожыя, то мужчынскія твары ўсё адно будуць бітымі. Хаця многія сцвярджаюць, што непрыгожых жанчын увогуле не бывае. Але гэта, па сутнасці, справы з пабітымі мужчынскімі тварамі не мяняе.

Амаль кожны мужчына ў сваім жыцці, часцей за ўсё маладым, трапляў у сітуацыі з мардабоем, але праз нейкі час гэтыя гісторыі знікаюць з яго памяці, як вобразы жанчын, праз якіх усё так сталася. Калі мужчына сталее, то разам з унармаваннем узроўню тэстастэрону ў яго цалкам пачынаюць губляцца ўспаміны пра дурноты маладосці. І ён ставіцца да пабітага твару сваіх нашчадкаў ужо зусім не так, як да тых паганых мордаў, якія з задавальненнем біў калісьці сам. Ён пачынае лічыць, што твар яго нашчадка падыходзіць толькі для пацалункаў цудоўных дам і аніяк не стасуецца з ідэяй змагання за іх.

З жанчынамі яшчэ горш. Убачыўшы сінякі пад вачамі свайго любімага сыночка, яны ўпадаюць у страш-

ную істэрыку і пачынаюць ва ўсім абвінавачваць сваіх мужоў. Пры гэтым цалкам забываюцца, што гэтыя няшчасныя мужы менавіта з-за іх таўклі другіх хлопцаў так, як ім дазвалялі іх фізічныя дадзеныя ды байцоўскія навыкі, і самі атрымлівалі столькі, колькі ім іх фізічныя дадзеныя і байцоўскія навыкі не дазвалялі не атрымаць. Але, нягледзячы на шквал абвінавачванняў у адрас сваіх мужоў, у адным яны з імі згодны: твары іх нашчадкаў падыходзяць толькі для пацалункаў цудоўных дам і аніяк не стасуюцца з ідэяй змагання за іх.

Таму, калі Васіль у свае чатырнаццаць гадоў першы раз прыйшоў дахаты з ліхтаром пад вокам, які свяціў уночы лепш, чым фара яго матацыкла, уся сям'я, акрамя дзеда, зляцелася як на канец свету. І паводзіла сябе прыкладна так, як і павінны паводзіць сябе грэшныя людзі напрыканцы свету.

– А што ж гэта такое, – лямантавала маці так моцна, што на крык збегліся суседзі, сваякі з іншых вёсак і паўцякалі некуды на цэлы месяц кажаны, начныя матылі і вясковыя сабакі, якіх гаспадары не пасадзілі на ланцуг. – Хто гэта цябе так? Гавары! Зараз жа выклікаем міліцыю.

– А што тая міліцыя? – умяшаўся раз'юшаны бацька. – Гэта міліцыя толькі нявінных забіраць умее. А ад бандытаў яны самі ўцякаюць, як ад агню пажарнікі. Зараз пойдзем і разбяромся самі, што за паскуда там завялася. Гавары: дзе і хто цябе пабіў! І едзем разбірацца.

– Ды ніхто і нідзе мяне не біў, – насупіўся Васіль і вырашыў паводзіць сябе так, як і большасць падлеткаў у такой сітуацыі. Ні ў якім разе не прызнавацца.

Нават калі сапраўды міліцыю выклічуць. Усё адно маўчаць, як партызан у палоне. – Я сам з матацыкла зваліўся і ляснуўся аб нешта.

– Вы паглядзіце на яго, – зноў загаласіла маці. – Ён яшчэ і лжэ. Дык хто ж цябе абароніць, як не мы? Хто ж цябе пашкадуе? А я ж усё адно даведаюся, як і што адбылося. Мне не салжэш. Людцы мілыя, скажыце яму што.

Тут ужо і радня, і суседзі, недакладна вытрымліваючы субардынацыю, як перапіўшыя на вяселлі далёкія сваякі, па чарзе сталі дапякаць хлопца. І з аднаго боку падыдуць, і з другога. І па адным наракаюць, і цэлымі групамі.

– Ты тут геройствам не займайся, – махала рукой ля носа Васіля цётка Ленка. – Анікому геройства тваё не патрэбнае. Ты пра бацькоў лепш падумай. Яны ж цябе любяць і кормяць. Кормяць і любяць. А ты ім лжэш у вочы. На матцы твару няма. Гавары, што яна просіць.

Тут цётка Ленка пачала напружваць памяць, каб успомніць, што канкрэтна патрабавала матка Васіля. Але пасля, зразумеўшы, што спробы ўспаміну марныя, яшчэ раз замахала рукой і гучна вымавіла:

– У-у-у, ты!

– Трэба выклікаць міліцыю і хуткую, – зрабіла надзвычай заклапочаны твар і суседка цётка Люся. Апошні раз у яе такі гаротны твар быў толькі ў мінулым годзе, як свінка захварэла. Думалі, што такім перакошаным той твар і застанецца. Але як свінка паздаравела, то ўсё прайшло. – Нельга гэта пакідаць проста так. Я ж вашага Васіля з дзяцінства ведаю. Такі

добры хлопчык. Ён-то і мухі не пакрыўдзіць. А з ім, бачыш ты, як абышліся нейкія злыдні. Тут проста так справу кідаць нельга. Не давайце ім ніякога спуску.

За цёткай Люсяй і іншыя суседзі ды сваякі выказаліся. Выступалі, як у тэатры. Натхнёна так, з інтанацымі, робячы інтэрвалы паміж думкамі, у каго яны былі, і акцэнтуючы ўвагу на сваёй ролі ў гатоўнасці весці расследаванне гэтага здарэння. Здавалася, канца і краю не будзе таму ляманту. Не скончыцца ён ніколі, нават тады, калі ўсе галасы пазрываюць. То і тады будуць шыпець.

Адзін дзед маўчаў.

– Што гэта твой бацька маўчыць? – з нараканнямі звярнулася да мужа маці Васіля. – Нават чужыя людцы прымаюць удзел у выхаванні і абароне яго ўнука, а яму усё роўна. Як і не яго ўнук.

– І праўда, бацька, – кажа той, паддаўшыся на істэрыку жонкі. – Скажы што-небудзь свайму ўнуку.

Дзед нават не падняўся. А проста так, з месца, гаворыць:

– А чаго ты, унучак, ходзіш туды, дзе морду б’юць?

І не сказаў больш ні слова.

А кожны ўспомніў пра сваё. І ўсе пакрысе разышліся спаць. Без хуткай і без міліцыі, без пошукаў і помсты вінаватым і без далейшых допытаў Васіля.

## Кароткая лекцыя пра нацыянальную ідэю

Пасля развалу сацыялістычнага лагера маладыя незалежныя рэспублікі, якія вызваліся ад сацыялістычнага ярма, як з кіпцюроў крыважэрнага і ненасытнага цмока, сталі на радасцях хутка будаваць кожная сваю нацыянальную ідэалогію. Паколькі кожны народ на свеце хоча быць не толькі сытым, але і вечным, то само існаванне яго хоць адну хвіліну без нацыянальнай ідэі падаецца вельмі нелагічным і супярэчлівым.

Вось і пачалі яе шукаць ва ўсіх рэспубліках былой сацыялістычнай краіны ўсе, хто не выкарыстаў смутны і мутны час для таго, каб узбагаціцца, заняўшыся бізнесам, або зрабіць кар'еру ў палітыцы. А спрэчак было колькі! І кожны сваё хацеў. Але ўсе будавалі падмуркі на гістарычнай спадчыне.

Беларусы не былі выключэннем. Але пакуль яны займаліся пабудовай гістарычнай іерархіі, іншыя паразбіралі іхніх і агульных нацыянальных герояў, як заўсёды спрытныя бабулькі разбіраюць соль, цукар і запалкі перад пачаткам вайны. А каб у беларускіх навукоўцаў была хоць дробачка інтуіцыі, як у тых бабулек, то не дапусцілі б, каб беларускія героі ў гістарыяграфіі іншых народаў павыплывалі.

У нацыянальных колах тых часоў нават узнік такі анекдот. Нібыта паспрачаліся суседзі беларусаў пра тое, хто больш чалавецтву даў. Палякі кажуць, што яны. Мы далі такога героя і воіна, як Касцюшка. І такога кампазітара, як Агінскі. Але тут рускія з імі не пагаджаюцца. Кажуць: "Наш Чайкоўскі не менш вядомы

ў свеце музыка, чым ваш Агінскі. А такі мысліцель, як Дастаеўскі, увогуле для чалавецтва мае надзвычай вялікае значэнне. Можа нават большае, чым мысліцелі антычнасці. І нават большае, чым мысліцелі будучага. І нават большае, чым уменне чалавека гаварыць".

Тут ужо і літоўцы не пагаджаюцца. Заела іх так, што аж кулакі пасціскалі. Кажуць, што гэта іх Вітаўт Грунвальдскую бітву выйграў, таму і ёсць найвялікшым ваяром. А без перамогі на Грунвальдскім полі гэтая спрэчка ўвогуле не мела б аніякага сэнсу. Бо ўсе прозвішчы вялікіх людзей былі б нямецкія.

Тут палякі кулакі пасціскалі. "Як гэта ваш Вітаўт выйграў, калі гэта заслуга нашага Ягайлы? Гэта ён крыжакоў спыніў!"

Доўга яны спрачаліся. Так стаміліся, быццам сто дзён ішлі ўгару і супраць ветру, анічога не елі. А пасля крыху прыціхлі ды пытаюцца ў беларусаў:

– А вы што далі чалавецтву?

– Ды нічога мы не далі свету, – адказваюць беларусы.

– Як гэта? – дзівяцца суседзі. – Цэлы народ, і зусім анічога ды анікога не далі для чалавецтва?

– Так, – пагаджаюцца беларусы. – Чалавецтву анікога не далі. А вось палякам далі Агінскага, рускім Дастаеўскага і Чайкоўскага ў прыдачу, літоўцам шмат чаго і каго, але і аднаго Вітаўта ўжо шмат. Бо ён сапраўды на Грунвальдзе ваяваў. Дарэчы, разам з Ягайлам, які Вітаўту братам быў, і таксама з зямлі беларускай. Так што мы шмат чаго і каго падарылі іншым народам. А вось чалавецтву неяк не атрымалася. Іншыя народы нас апярэдзілі, пакуль мы ад іх падзякі чакалі.

Ну, гэта ўсяго толькі анекдот. Хаця, як вядома, у кожным жарце ёсць крыху жарту. Але спрэчкі наконт нацыянальных герояў разгараліся не на жарт. Гарэлі, як вогнішчы інквізіцыі, як маякі на Балтыцы, як вочы ў ката ноччу.

Вось аднаго разу сабраліся хлопцы нацыянальнай арыентаванасці і давай спрачацца:

– Наш Адам Міцкевіч, – кажа адзін. – Беларускага ён паходжання.

– Не, наш, – кажа другі. – Паляк ён ад крыві і косці.

– Ты яшчэ скажы, што і Булак-Булаховіч ваш, – ускіпеў першы.

– А табе дай волю, то ты і Пілсудскага сабе прыпішаш толькі з тае прычыны, што той меў няшчасце недзе ў вас нарадзіцца.

– А можа, гэта яго шчасце?

І давай хлопцы спрачацца, ажно пена з роту пайшла. Як у шалёных сабак у перыяд спарвання. Ніхто саступіць не хоча, як бараны на мосце. Ды што там саступіць. Памаўчаць ніхто не збіраецца хоць хвіліну.

Тут да спрэчкі і прыяцелі далучыліся. Раздымаць іх сталі, супакойваць. Напачатку ж было ўсё добра. Нібыта і атрымлівалася памірыць. А пасля пачалося. Хацелі зрабіць як лепш, а атрымалася як заўсёды.

Пачалі ўжо за грудзі хапаць цэлымі камандамі. Сценка на сценку. Невядома, чым бы гэты навуковы дыспут скончыўся, каб не адзін дзед. Сядзеў ён напачатку ціха, слухаў толькі, як той разведчык, справа якога запамінаць, а не ўплываць на сітуацыю. Але як маладыя навукоўцы сталі свае навуковыя аргументы

закасваць па локаць, вырашыў часова змяніць амплуа разведчыка на больш цывільную прафесію.

– Можа, перш чым сваімі гістарычнымі аргументамі паб'еце морды адзін другому, – прапаноўвае ён, – мяне паслухаеце.

– А што, можа, дзед – гісторык? – пытаюцца тыя.

– Гісторык не гісторык, – спакойна працягвае дзед, – а і Пілсудскага, і некаторую гісторыю на свае вочы бачыў.

– Ну то скажы, – крыху супакоіліся маладзёны.

– Ну то скажу, – усміхаецца дзед. – Мне здаецца, што не пра тое спрачаецеся і не пра тое размаўляеце вы. Лепш абмяркуйце, не чый ён, Адам Міцкевіч, а які ён. І ўлічыце, што з яго не грэх прыклад узяць і адным, і другім. Бо адны з вас кажуць: "Наш Міцкевіч", а другія: "Не, Міцкевіч наш". Усе сабе хочуць забраць. А падумайце: чаму кожны хоча яго прысвоіць? І лепш самі паспрабуйце такімі постацямі стаць, каб пра вас хоць нехта сказаў: "Наш". Бо вось, прыкладам, пра Дзяржынскага ўсе кажуць: "Ён не наш, ваш ён". Ніхто сабе яго не хоча. Усе выракаюцца. Адзін другому ўпіхнуць хочуць. А Міцкевіча кожны хоча забраць сабе.

Вы, – працягвае дзед, – і можаце стаць той нацыянальнай ідэяй. Яна з вас і пачынаецца. А гістарычныя постаці пасля скажуць, хто з вас іхні. Вось тады яны і вырашаць, з кім з вас застацца.

## Залік па “ЧэГэДэ”

Алеся Качура спешна выбегла з метро і куляй паляцела на прыпынак маршрутных бусікаў, якія, шукаючы сабе месца, каб на хвілінку спыніцца, коўзаліся туды-сюды, стрымліваючы ўвесь рух ля плошчы імя Якуба Коласа. Часу катастрафічна бракавала. Каб ён згарэў, той час. Вечна яго бракуе, як грошай. Нібыта ён на тое і прыдуманы, каб яго не хапала. А ёй тэрмінова трэба паспець у два месцы адразу. Хоць раздзярыся на кавалкі, як ніжэйшыя арганізмы, якія толькі тым і займаюцца, што клануюць самі сябе. Хоць ты трэсні, як стары клён ад маланкі. Хоць раздваіся. Трэба ехаць у Бараўляны. А так неабходна застацца ў Мінску, каб паспрабаваць атрымаць залік па самым нявывучаным прадмеце - “Чалавек. Грамадства. Дзяржава., ці, як яго прывыклі скарочана называць яе аднакурснікі, па “ЧэГэДэ”. А можа і не так называюць. Студэнты такі народ. Як стрэльне ў галаву, так і кажуць. У маладыя галовы часта страляе і кожны раз па-рознаму. А яна, калі быць шчырай перад самой сабой, нават не ведае, як правільна называецца той прадмет, па якім трэба здаваць залік. А быць там абавязкова як салдату на парадзе. А тут яшчэ, хоць здохні, трэба наведаць шпіталь у Бараўлянах, дзе сёння робяць хірургічную аперацыю яе знаёмаму. Алеся баялася, што калі яна замарудзіць хоць на хвіліну, хоць на адну маленечкую хвілінку, то не патрапіць своечасова нікуды. А трэба быць і тут, і там. Вельмі трэба.

Студэнтка другога курса факультэта псіхалогіі яшчэ наіўна і беспадстаўна цешылася надзеяй, што

калі сёння правільна размеркаваць свой час, які ўжо цэлы год правільна распланаваць не ўдавалася ніяк, то ёсць нейкая ступень верагоднасці, на хвілінку заляцеўшы ў шпіталь, а пасля хуценька злавіўшы таксі, паспрабаваць паспець на залік. Галоўнае – нідзе не затрымацца. Толькі, як на зло, аніводнага маршрутнага мікрааўтобуса. А на таксі ў два бакі няма грошай. Вечна іх няма, тых грошай. Нібыта іх для таго і прыдумалі, каб іх не хапала. Як таго часу.

Ну вось! Нарэшце пад'ехаў патрэбны бусік. Пяцьсот пятнаццаты нумар. Лічбы не такія ўжо і кепскія. Ды зараз не да забабонаў. Хоць бы былі месцы. Ёсць! Дзякуй богу! Можа, усё атрымаецца.

За акном мікрааўтобуса прыгожая і нават велічная ў сваіх шляхетных колерах і пахах восень. Любімая пара года Алесі. Толькі няма калі захапляцца той таямнічай прыгажосцю. Трэба чытаць ненавісны падручнік. Каб ён згарэў. Вось ён. "Поўны курс для падрыхтоўкі да тэставання і экзамену. Чалавек. Грамадства. Дзяржава". Залік ужо на носе, як вялікая болька. Падкраўся так незаўважна, як галодны студэнт да сала ў суседскім пакоі халасцяцкага інтэрната. А матэрыял не тое што не вывучаны, але нават не прачытаны да канца. Ні разу. І нават да сярэдзіны не дачытаны. Ды што там сярэдзіна! Увогуле, не гледжаны. І ўсё таму, што залік перанеслі. Каб яны павыдыхалі, усе тыя разумнікі. Вечна нешта блытаюць. Залік мусіў быць пазней, зімой. Але пастанавілі зрабіць зараз. Нейкія ўсё навуковыя эксперыменты ставяць. Хіба што з вялікага розуму. А можа, ад няма чаго рабіць прыдурваюцца.

Так. Старонка 371. Што тут? Раздзел трэці. “Роля маралі ў жыцці грамадства і чалавека”. Пра гэты раздзел нешта чула ад некага. Хіба штосьці пра тое выкладчык распавядаў, як яна драмала на лекцыі. Ну, вось і знаёмыя літары: “Як фармавалася ўяўленне пра чалавека як пра найвышэйшую каштоўнасць”. Ага. Да Бараўлянаў паўгадзіны язды. Можна многа вывучыць. Ці хоць нешта.

Ужо мінут праз дзесяць Алеся заўважыла, што нічога не запамінае з прачытанага. Навука адскоквае ад яе разумнай галавы як дурны гарох ад дубовай сценкі. Позірк механічна плыве па друкаваных радках падручніка, але думкі зусім пра іншае. Яны даўно ўжо там, у шпіталі. Як там Дзяніс? Ці паспяхова прайшла аперацыя? Напэўна, яму зараз вельмі цяжка і балюча. Хутчэй бы ехаў той бусік. Як на зло, вулічны затор. Што за горад! Як тут людзі жывуць?! Нікуды не паспееш. То заторы, то рамонты дарог, то міліцыя не пускае, бо прэзідэнт кудысьці едзе… Так ён любіць катацца, той прэзідэнт. А яго так любяць ахоўваць. Ці любяць рабіць выгляд, што любяць ахоўваць. Ну, у кожнага свой хлеб.

А то яшчэ якая халера ўб’ецца… Усюды перарыта, перакапана. Нешта ўсё рамантуюць, будуюць непатрэбнае. Бібліятэку нейкую. Гары яна агнём. Тут у збудаваныя раней бібліятэкі часу няма схадзіць, а яны яшчэ адну ставяць. Хіба што ўсё з таго ж вялікага розуму, ад якога ўсе праблемы на свеце робяцца. З-за гэтых мудрагеляў чалавеку нічога планаваць нельга, бо ўсё адно не здолееш паспець. Ды яшчэ маршрутны аўтобус патрапіў у затор. Стаіць нерухома, як помнік Леніну на плошчы, толькі псуе нервы. Больш з яго

аніякага толку. Так яна дакладна не патрапіць туды, куды хоча. Трэба нешта рабіць.

Дзяўчына куляй выскачыла з бусіка, хутка перабегла на другі бок дарогі і падняла руку. Першы ж бліскучы легкавік зарыпеў тармазамі і спыніўся, трохі пераехаўшы месца, дзе стаяла Алеся. Шафёр “Мерсэдэса” нахабна і наўмысна, з выглядам паўліна у перыяд спарвання, парушаючы правілы дарожнага руху, здаў назад і адчыніў перад дзяўчынай дзверы прадмета свайго гонару.

– Прашу, мадмуазель, – не без фрывольнасці ў голасе бадзёра прапанаваў ён. – Мой самакат да вашых паслуг. І ён, і я вольныя аж да заўтрашняй раніцы. А то і даўжэй, пры патрэбе.

– Мне ў Бараўляны, у шпіталь, – спешна перавяла размову ў другое рэчышча Качура. – Там чалавек… хворы… на аперацыі. Чакае маёй дапамогі. Я яму вельмі патрэбная. Калі ласка, падвязіце...

– А гэта ўжо не мае праблемы, дзетка, – кіроўца “Мерсэдэса” імгненна страціў да дзяўчыны ўсякую цікавасць, як стары кот губляе цікавасць да плюшавай мышы. – Мне самому дапамога патрэбная. Ты дзверцы зачыні, а то дзьме, а я скразнякоў баюся. Зачыні і чашы адсюль, пакуль тую лапу, якой ты мяне спыняла, не адарваў і не ўсадзіў у тое месца, дзеля якога я спыніўся.

– Добра, – Алеся ласкава ўсміхнулася на хамства мужчыны. – Калі праз пятнаццаць мінут мы будзем у Бараўлянах, то праз пару гадзін забярэш мяне назад. Паглядзім, ці такі ты файны ў справе, як на словах. Я запішу твой нумар і патэлефаную табе, як вызвалюся.

Згода? – і каб пацвердзіць праўдзівасць свайго намеру, дастала з сумачкі мабільны тэлефон.

Шафёр агледзеў Качуру з ног да галавы. Адкуль у гэтай сціпла апранутай дзяўчыны такі дарагі тэлефон? Няйначай, мае добрага спонсара. Тады чаму так сціпла апранутая, нібы жыве толькі на стыпендыю? Хіба яна яго ўкрала, той тэлефон. Дакладна недзе свіснула. А якая розніца...

– Ну, сядай, – насцярожана працадзіў ён праз зубы. – Толькі не намачы ад страху калготкі. Ехаць будзем хутка. А спяшаешся хіба да свайго мэна?

– Едзь і не сунь нос у чужыя справы. А то мне і без цябе ёсць каму званіць, – жорстка агрызнулася дзяўчына.

– Зразумеў, не дурань, – на гэты раз з немаведама адкуль узніклай павагай да пасажыркі адказаў шафёр, і “Мерсэдэс” панёсся супраць руху, на чырвоныя колеры светлафораў, па пешаходных ходніках, дзе толькі мог…

* * *

Лёс закінуў Алесю Качуру ў Мінск з невялічкай вёскі, што схавалася за маляўнічымі пагоркамі і старым бэзам недзе ў Ашмянскім раёне на Гарадзеншчыне. Здаецца, не так ужо гэта і далёка ад сталіцы, трохі больш за сто кіламетраў. Але калі збочыш з аўтатрасы Мінск – Вільня, каб даехаць да таго бэзу, як у іншы свет трапіш. Нібыта на незнаёмую планету і ў іншую эпоху. Калі гэта летам, то, трасучыся па гравійнай дарозе і ведаючы дакладна правільны кірунак язды, наглытаўшыся аж па горла пылу і праехаўшы яшчэ праз неверагоднай прыгажосці невялічкія лясок і луг, які

дурманіць водарам сваіх кветак, можна дасунуцца да драўляных хатак, якія, утапіўшыся ў зеляніне вішняў, клёнаў і ўсё таго ж бэзу, прытуліліся да старадаўніх маляўнічых пагоркаў. Яшчэ нядаўна вакол іх лёталі дзеці, пасліся коні і іншая скаціна. Людзі спраўлялі вяселлі, будавалі будынкі і мары… А зараз тыя закінутыя хаткі даюць прытулак пераважна старым нямоглым бабулькам. Моладзь даўно адтуль з’ехала. А што там рабіць? Там ваўком завыць можна ад суму. Сабакі так і робяць. А людзі можа і хацелі б скарыстацца з мудрасці сабак, ды толькі ўжо не маюць сіл. Мужчыны амаль усе паўміралі. Хто ад гарэлкі, хто ад хваробаў, хто ад таго сабача-воўчага суму. А іншыя дык проста ад жыцця. Пакінулі старэнькіх жонак дажываць і замольваць грахі маладосці ў роспачы ды хваробах і зусім без сіл. Добра, калі завітае аўталаўка з тоўстым і вечна п’яным шафёрам ды прывязе хоць хлеба. А так адзіны чалавек, які можа зайсці ў хату, – гэта паштальёнка, якая раз на месяц прыносіць пенсію. Калі тую суму можна так назваць.

Дажджлівай восенню і вясной ужо гарадскія людзі, дзеці тых нямоглых бабулек, каб наведаць сваіх матуляў, змушаны за тры-пяць кіламетраў ад вёскі пакідаць свае машыны і ў гумовых ботах, праклінаючы апошнімі словамі сваю маленькую радзіму, чмякаць па гліне і балоце, як прагнаныя з хлява няведама куды каровы. Ну, а зімой тут нібыта іншы кантынэнт. Паўночны полюс. Ні даехаць, ні дайсці. Ні “хуткая” не прыляціць у разе чаго, ні аўталаўка не дацягнецца. Усё замецена. І, як кажуць, сядзі ў будзе і чакай, што будзе. Хоць ваўком вый. Але ж ваўкамі выюць тут сабакі. То лепш завыць ваўкалакам.

Літаральна праз сем кіламетраў сельсавет, крама, паліклініка, фельчар… Ды паспрабуй прайдзі тыя сем кіламетраў па гурбах, з ацёчнымі ад хваробаў і цяжарам сямі дзясяткаў за плячамі.

Вёску яшчэ за саветамі адзначылі як “бесперспектыўную” і перасталі ўкладаць туды грошы і працу. Яе жыхарам вельмі не пашанцавала, бо прытулілася тая вёска да маляўнічых пагоркаў акурат на сутыкненні двух раёнаў, Ашмянскага і Валожынскага, ды дзвюх абласцей, Гарадзенскай і Мінскай. Таму адміністрацыі ўсіх гэтых тэрытарыяльных адзінак лічылі, што менавіта суседзі абавязаны дбаць на гэтай тэрыторыі пра дарогі ды іншыя камунікацыі, якія так і не парадавалі залітае зеллем мясцовага вырабу вока мясцовых сялян.

Алесі даводзілася ў школу хадзіць за сем кіламетраў. Але гэта не перашкодзіла ёй закончыць першую ў сваім жыцці навучальную ўстанову з добрымі адзнакамі. Вельмі матуля хацела, каб дачка выбілася ў людзі, паступіла куды вучыцца, з’ехала ў горад, стала чалавекам. Там больш мажлівасцяў для рэалізацыі сваіх мараў. Матуля ведала, што некаторым пашанцавала.

Вось у суседкі дачка ўладкавалася на працу ў сталіцы, то нават пакой ў інтэрнаце атрымала. І зараз ў разе натуральнай патрэбы няма ёй неабходнасці расчышчаць гурбы, каб дасунуцца да прыбіральні. Ды і пасварыцца як захочацца, то на агульнай кухні заўжды ёсць хтосьці, хто не памыў за сабой пліту. Не жыццё, а казка. А з суседняй вёскі дзяўчыне ўвогуле пашанцавала, як з працай шафёру іх аўталаўкі, які за тое, што прывязе буханку хлеба, бярэ паўлітра сама-

гонкі. Тая выйшла замуж за нейкага старога немца. І зараз яна і ўсе яе сваякі не могуць дачакацца, калі той памрэ, каб была нагода хоць раз у жыцці легальна патрапіць у Нямеччыну не на танку. І не на вайну, а ўсяго толькі на пахаванне старога немца, які сваёй маладой жонцы пакінуў больш маёмасці, чым спаліў тут падчас Другой сусветнай вайны.

Алеся вельмі любіла матулю. Таму дзяўчынка старалася, каб дагадзіць той. І добра ў яе пайшло. Факультэт можа і не з самых прэстыжных, але дастаткова перспектыўны. Псіхолаг – гэта штосьці новае ў Беларусі, як паняцці “дэмакратыя”, “свабода слова”, ноў-хаў усялякія і прэзідэнцкая вертыкаль. На захадзе да псіхолага людзі часцей ходзяць за парадамі, чым да святара на споведзь. Можа, і ў нас хутка так стане. Бо да споведзі ўжо і так мала хто спяшаецца. Палова работы, як кажуць, ужо зробленая. Засталося зусім трошкі, каб, разгубленыя інтэнсіўнасцю ўрбаністычнага жыцця, згубіўшы надзею на свае сілы, людзі кінуліся за дапамогай да спецыялістаў. Бо зусім нядаўна яны яшчэ мелі спадзяванні на ўсемагутную сілу абранага імі прэзідэнта. А зараз хіба толькі на псіхолагаў, псіхатэрапеўтаў, псіхіятраў і шпіталі для псіхічнахворых. Карацей, надзея толькі на псіхушкі. Таму заставалася толькі цешыцца з тае мажлівасці і тых перспектываў, як дзіця цешыцца з абяцання бацькоў, што будзе яно касманаўтам. Трэба толькі спакойна ў звычайным студэнцкім рэжыме вучыцца.

Так і было спачатку. Хоць студэнцкі рэжым багаты на розныя спакусы і жаданні правесці маладыя гады

як мага весялей, Качура старалася выкарыстоўваць час выключна з карысцю для адзнак. Ёй аднакурснікі нават паспрабавалі даць мянушку Бібліятэка, ды яна не прыжылася. Хіба таму, што ў кампаніях, ад якіх у тыя гады, калі жыццё здаецца вельмі доўгім, усё ж нікуды не дзенешся, Алеся была сваім чалавекам. Вясёлая, разумная, з гумарам. Ды і знешне выглядала добра. Хлопцы не абдзялялі ўвагай. Паварочвалі галовы, каб палашчыць юрлівы позірк яе станам, не радзей, чым на іншых прыгажунь. А з вучобай і гаворкі няма. Першая сесія толькі на выдатна. Трэба ж і пра стыпендыю дбаць. На матуліну пенсію, калі яе так можна назваць… Адным словам, доўга не выцягнеш. А калі і выцягнеш, то толькі ногі. Прыкладам, бацьку, пакуль ён жыў, гэтай матчынай пенсіі разам са сваёй, нават на гарэлку не хапала. Прыходзілася, няшчаснаму, вырабляць яе самому. Гэтак, як і ўсё астатняе: хату, хлявы, закуску, вазы, кашы, стол, лаву і нават ложак, да якога рэдка ўдавалася дапаўзці.

Вучыцца старалася. На паспяховасць наракаць не было чаго. Так яно і ішло, можа, так і скончылася б. Банальна, сумна, але правільна. Ды нечакана ў жыцці адбыліся кардынальныя змены. Нібыта сам лёс, што любіць цешыцца з чалавечых праблем, сваёй магутнай і бязлітаснай рукой скіраваў яе жыццё на іншы шлях. На той шлях, дзе дзявочыя мары пра звычайнае асабістае бытавое шчасце саступаюць абсалютна незразумелым для астатніх пачуццям.

А ўсё неяк знянацку. Яе аднакурснікі ішлі на нейкі пікет, які ладзіла моладзь БНФ. А ёй не было чаго рабіць. Пасля – затрыманне ў міліцэйскім пастарунку, выклік у дэканат, сур’ёзная размова з навуковай

кіраўнічкай, якая ад нібыта клопату пра лёс студэнткі плаўна і незаўважна перайшла да адкрытых пагрозаў. Але пагражаць было позна. Алеся ўжо не магла жыць без таго свету, у якім размаўляюць пра правы чалавека, справядлівасць, дэмакратыю, гістарычную і духоўную спадчыну, празрыстыя выбары, свабоднае волевыяўленне народа… Носяць бел-чырвона-белыя значкі і размаўляюць на той мове, на якой і яе матуля. На той мове, якой яна так саромелася і хацела пазбавіцца яе вымаўлення цягам цэлага першага года свайго гарадскога жыцця.

З гэтага часу і пачаліся клопаты. Дзяўчына бачыла, як да яе змянілася стаўленне ў некаторых выкладчыкаў. Не ва ўсіх, праўда. Але хапала і тых, у каго змянілася. Трэба было вучыцца так, каб аніхто не змог падкапацца. А часу і на вучобу, і на грамадскую дзейнасць зусім не было. І акурат у той момант у яе жыцці з'явіўся Дзяніс. Так яно заўсёды. У жыцця своеасаблівае пачуццё гумару.

І зноў усё выпадкова. Або па волі ўсё таго ж усёмагутнага лёсу. Аднаго дня папрасіў яе аднакурснік завезці нейкаму хвораму ў Бараўлянскі шпіталь торбу з харчаваннем. Маўляў, таму бацькі з ягонай вёскі перадалі. Суседзі яны яго бацькам. Ды Алесінаму аднакурсніку бракавала часу на язду да Бараўлянаў. Некуды спяшаўся. А да заўтра ежа магла сапсавацца. Дзяўчына пагадзілася і праз некалькі гадзін ужо адчыняла дзверы дзіцячага шпіталя для хворых на лейкемію, злаякасныя пухліны і іншыя хваробы, пачуўшы пра якія, думаеш: "Не дай божа!".

Першае ўспрыманне будынка не абышлося без захаплення. Качура яшчэ не бачыла такіх дагледжаных шпіталяў. Ён сапраўды рабіў уражанне месца, дзе ўсё прадумана і зроблена для таго, каб хворыя адчувалі сябе як мага камфортней. У палатах санвузлы, нават падлога з ацяпленнем. На вокнах жалюзі. Усё прадумана і з розумам. Нейкі агульны праект з аўстрыякамі, якія дапамаглі зрабіць такі медыцынскі цэнтр для беларускіх хворых. Персанал тут вельмі ветлівы і зычлівы. Цалкам станоўчае ўражанне. Але чым больш дзяўчына там была, тым больш яе перапаўняла незразумелае пачуццё трывогі, болю і жалю. Вакол хадзілі хворыя дзеці - хлопчыкі і дзяўчаткі. Нехта зусім без валасоў, іншыя з мабільнымі кропельніцамі, якія можна перацягваць на колах. Былі і такія, што са скрыўленымі болем тварамі перасоўваліся на крэслах для калекаў або на мыліцах. А многія не маглі падняцца з ложка. Некаторых зачынілі ў палатах і нікога да іх не пускалі з патрэбы звышстэрыльнасці. Нехта патлумачыў, што гэта так званая “хімія”. Апошняя надзея тых, хто хворы на рак крыві.

У дзяўчыны па целе прабегліся мурашкі. Яна недзе глыбока ў сэрцы, куды да гэтай хвіліны ніколі не зазірала і не ведала, што там нешта ёсць, пачула незвычайны, моцны і паралізуючы боль. Цела яе ўздрыганулася, і па спіне нібыта хтось правёў ледзяной рукой. Спачатку зверху ўніз, а пасля наадварот. Невыносны холад пралез аж у пяты, а з ілба пасыпаўся градам буйны ледзяны пот. Ёй нават здалося, што яна пачула пах смерці. Пах, якога раней не чула ніколі, але, удыхнуўшы яго першы ж раз, адразу зразумела, што за ён.

– Гэта вы – Алеся? – вывеў яе са стану аслупянення голас за плячамі. – Мне тэлефанавалі, што вы перадасце торбу з ежай.

Студэнтка павярнулася і ўбачыла перад сабой юнака гадоў чатырнаццаці.

– Скажы, тут хто-небудзь паміраў? – спыталася яна дрыжачым голасам.

– Тут увесь час нехта памірае, – здзіўлена адказаў хлопец. – Гэта ж шпіталь для хворых на рак. Вось і зараз у рэанімацыі памёр мой знаёмы. У адной палаце ляжалі некалі. Дык гэта вы - Алеся?

– Табе не страшна тут? – дзяўчына сунула новаму знаёмаму торбу з ежай.

– Мне няма чаго баяцца, – весела адказаў той. – У мяне добрыя аналізы. Лячэнне прайшло паспяхова. Хутка дахаты выпішуць.

А праз некалькі дзён нейкая незразумелая сіла зноў прымусіла Качуру наведаць шпіталь. Яна проста прынесла некалькі апельсінаў незнаёмай сямігадовай дзяўчынцы і збіралася пайсці. Ды тая вельмі жаласліва папрасіла застацца. Высветлілася, што яна сірата. З дзіцячага дома. І ёй вельмі прыемна, што нехта завітаў і да яе. А праз нейкі час Алеся ўжо не магла, каб хоць раз на тыдзень не наведаць каго з хворых. Яе пазнавалі, з ёй віталіся нават тыя дзеці, якіх Алеся і не бачыла дагэтуль. А аднаго разу яна са здзіўленнем пачула, што дзеці гэтак жа прыязна вітаюць яшчэ некага. І як прыемна было даведацца, што яна не адна, хто ходзіць сюды па закліку сэрца. Гэта былі Маша і Таня. Таксама студэнткі. А пасля Качура пазнаёмілася яшчэ з трыма такімі дзяўчынкамі.

Яны былі з розных куткоў Беларусі і самога Мінска. Але іх яднала тое, што яны, адчуваючы боль душы, рэгулярна наведвалі хворых дзяцей, каб дапамагчы ім развеяцца і забыцца, што іх жыццё пад пагрозай.

Цяпер у Качуры больш ні на што не ставала часу. Не толькі на бібліятэку, але і на дыскатэкі. Толькі грамадская дзейнасць і шпіталь. Дзяўчаты кожную вольную хвіліну стараліся наведваць хворых. Гулялі з імі ў розныя гульні, давалі тэлефанаваць са сваіх мабільнікаў, разам цешыліся з паляпшэнняў у лячэнні і перажывалі пры няўдачах. Шпіталь стаў часткай Алесінага жыцця. Яна плакала разам з матулямі хворых дзяцей і радавалася, калі замежнікі або манашкі прыходзілі да тых з падарункамі. Стала рэгулярна хадзіць у шпітальную царкву і запрашаць туды іншых. Той свет, у якім яна жыла раней, застаўся недзе там, далёка-далёка, на першым курсе, дзе студэнтка Алеся Качура імкліва крочыла да рэалізацыі матулiных надзеяў. Але менавіта зараз яе душа адчувала нейкі камфорт і задавальненне з таго, што яна робіць.

Праўда, былі і крыўдныя моманты, калі хтось з наведвальнікаў-сваякоў казаў, што гэтыя дзяўчаты хіба якія сектанткі ці, можа, медыцынская практыка ў іх, і яны хочуць паказацца добранькімі дзеля будучай кар’еры. Каб тут на працу ўзялі. Ці каб кандыдацкую напісаць. Было балюча гэта чуць. Але пазней дзяўчына перастала звяртаць на такое ўвагу. Хай, думала, тое застанецца на іх сумленні.

– Што гэта ты сабе такую дурную прафесію выбрала? – неяк спытала ў Алесі адна з дактарак. (Мед-

персанал шпіталя добра ведаў дзяўчат і вітаў іх памкненні дапамагаць хворым.) – З тваім сэрцам трэба было ісці ў медыцыну.

– Я б не змагла, – пачырванела будучы псіхолаг. – Я магу пры выглядзе крыві самлець. І яшчэ я не магу трываць стогнаў.

– То хай застаецца так, як ёсць, – умяшалася ў размову маці аднаго хворага дзіцяці. – І хай, дзетачка, у цябе ўсё будзе добра!

Але не было так усё добра. З вучобай пачаліся праблемы. Хворыя дзеці часта прасілі Алесю схадзіць у краму, штосьці прывезці з Мінска. Гэта вымагала часу. Ды і старэнькую матулю таксама трэба было наведваць усё часцей. Неўзабаве высветлілася, што Алеся прапусціла больш заняткаў, чым гэта можа вытрымаць гонар выкладчыка, які разглядае такое стаўленне да вучобы як праяву непавагі да сябе асабіста. Ды тое яшчэ можна было выправіць. Але вось яе палітычныя перакананні, якія кардынальна разыходзіліся з поглядамі дзяржаўных спецслужбаў, не пакідалі надзеі на тое, што яе праблемы з вучобай успрымуцца з разуменнем.

Асабліва вялікія праблемы ўзніклі з выкладчыкам прадмета “Чалавек. Грамадства. Дзяржава.” Хоць гэта быў яшчэ даволі малады мужчына, але вельмі з’едлівы. Як недакормлены казёл. Казалі, што ён яшчэ ў свае студэнцкія гады даносіў на аднакурснікаў у дэканат. І нават не за грошы, а па той жа прычыне, па якой Алеся ездзіла ў шпіталь. Па закліку душы. Ну, а як сам стаў выкладчыкам, то пачаў даносіць у значна вышэй-

шыя інстанцыі. І на студэнтаў, і на сваіх калегаў. Цярпець не мог грамадска-палітычных актывістаў. Такую дзейнасць ён успрымаў як асабістую абразу і да канца вучобы не мог гэтага даравраць студэнту. Яго за такія паводзіны студэнты ўзнагародзілі мянушкай Зануда. І кожны ведаў, што з Занудам лепш не заядацца. Вельмі злапомны і помслівы, як галодны сіямскі кот. Затое вельмі хутка той падымаўся па кар'ернай лесвіцы. Хіба гэта была для яго кампенсацыя высілкаў па выгнанні з універсітэта нелаяльных да існуючай улады студэнтаў.

– Сядайце, Качура, – аднаго разу прывітаўся са студэнткай Зануда. – У вас сёння прагрэс. Вы спазніліся на занятки ўсяго толькі на сем мінут. Хвалю. У вас нарэшце прачнулася цікавасць да навукі? Мінулы раз вы спазніліся на цэлую лекцыю. І не толькі на маю. Справа ваша. Пасля толькі, як вас выкінуць са сценаў нашай навучальнай установы, не шукайце вінаватых апрача сябе. І не кажыце, што да вас прыдзіраліся з-за вашых палітычных перакананняў. Бо чытаў я ў гэтай сметніцы – інтэрнэце, што вы так ужо казалі.

– У мяне так складаюцца абставіны. Я ўсё вучу па падручніках, – збянтэжана прабубніла студэнтка.

– Вось як! – іранічна ўсміхнуўся выкладчык. – А навошта тады патрэбныя лектары? За што дзяржава плаціць нам грошы, калі і без нас надзвычай разумныя студэнткі могуць засвоіць матэрыял па падручніку? А можа, і залік Вы будзеце здаваць без мяне, і самі сабе адзнаку пастáвіце ў залікоўку? Добра. Паглядзім, што вы там вывучылі. Раскажыце, у чым сут-

насць разумнага самаабмежавання паводле Канта.

– Я гэтага яшчэ не прачытала, – ледзьве чутным голасам прашаптала Алеся.

– І не збіраліся, – працягваў дабіваць яе Зануда. – А вам больш за ўсіх гэта трэба ведаць. Бо гэта тычыцца менавіта вас і такіх, як вы, лайдакоў з поўнай адсутнасцю пачуцця абавязку і адказнасці. А маральнасць, па Канту, гэта якраз уменне чалавека пераадолець прыродны эгаізм у імя вышэйшых ідэалаў абавязку і адказнасці, – раз'юшаны выкладчык усё ўзмацняў тэмбр голасу. – Этыка Канта – гэта этыка чалавека абавязку. Чалавека адказнага. Яна вучыць, як стаць вартым шчасця. Яна вучыць ставіцца да кожнай жывой істоты некарысліва і справядліва. А як вы будзеце ставіцца да грамадства ў цэлым і да кожнага асобнага чалавека ў гэтым грамадстве, калі не ведаеце гэтых прапісных правілаў і не збіраецеся іх вучыць? Дарэчы, як вы так ставіцеся да сваіх студэнцкіх абавязкаў, – цяпер Зануда ўжо перайшоў на істэрычны, як у пажарніка пры вогнішчы, крык, – то я ні кроплі не пашкадую, калі наш універсітэт развітаецца з вамі. І я абяцаю перад усім курсам, што паскору гэты працэс, калі вы прапусціце яшчэ хоць адну хвілінку маіх лекцый.

Але Алеся зноў прапусціла. Засядзелася з хворымі ў Бараўлянах, а пасля чамусьці не прыехаў маршрутны мікрааўтобус. Яны заўсёды не прыязджаюць, як гэта вельмі патрэбна.

Чарговая размова з Занудам, а звалі яго па-сапраўднаму Ігар Пятровіч, адбылася ва ўніверсітэцкім калідоры.

– Ах, вы наш універсітэт усё ж наведваеце, – з непрыхаванай ironіяй у голасе звярнуўся да яе Ігар Пятровіч. – Значыць, вы толькі мае лекцыі прапускаеце. Можа, я вас не задавальняю як выкладчык. То вы скажыце. Я сам пайду хадайнічаць у дэканат, каб вам замянілі лектара.

– Прычына не ў вас, – апусціла галаву Алеся. – У мяне вельмі складаны перыяд. Я ўсё наганю.

– Не, даражэнькая. Не нагоніце. Я не дам вам такой мажлівасці! Бо ў вас няма сумлення. Бо вучыцца – гэта не бэнээфаўскімі бел-чырвона-белымі сцяжкамі махаць на плошчы. Дарэчы, вы ведаеце, што такое сумленне? Ну, канечне, не ведаеце. Скуль вам ведаць? Гэта ж можа растлумачыць толькі навуковая дысцыпліна, якую вы настойліва адмаўляецеся вывучаць. Ну то я вам хоць тут, у калідоры, скажу. Сумленне – гэта этычная катэгорыя, якая адлюстроўвае вышэйшую форму здольнасці асобы да маральнага самакантролю, самасвядомасці, самастойнага фарміравання для сябе этычных і маральных абавязкаў, патрабавання ад сябе іх выканання і выпрацоўкі ўмення ацэньваць свае ўчынкі. А ў вас няма аніводнага з гэтых чыннікаў сумлення. Я ўжо не кажу пра залатое правіла маралі, якое патрабуе ад чалавека ставіцца да іншых так, як хочаце, каб яны ставіліся да вас. З гэтага і вынікаюць такія якасці, як дабрачыннасць, спачуванне, некарыслівая дапамога бліжняму. А вы прыехалі вучыцца, а самі нават на заняткі не ходзіце. Скуль вы можаце пра ўсё гэта даведацца? Вы самі зачыняеце сабе дзверы да ўдасканалення і самі будзеце вінаватыя ў страце мажлівасці вучыцца далей у нашай установе. Я ўжо даваў вам апошняе папярэджанне. Зараз даю самы

апошні шанс. Яшчэ адзін пропуск маёй лекцыі – і я на заліку буду ганяць вас па ўсім падручніку, як сабака злодзея. І калі вы не адкажаце хоць на адзін параграф, то я стаўлю пытанне ў дэканаце пра немажлівасць вашай далейшай вучобы.

На гэты раз Алеся вельмі сур'ёзна паставілася да слоў выкладчыка. Ён не жартуе. А калі папруць з вучобы, то як на гэта адрэагуе старая маці? Ці вытрымае яе хворае сэрца такое нечаканае разбурэнне ўсіх мараў і спадзяванняў на дачку? Дзяўчына вырашыла на нейкі час спыніць свае візіты ў шпіталь і наведванне вулічных апазіцыйных акцый, каб падцягнуць веды хаця б па "ЧэГэДэ". Яе сябры ўсё зразумеюць. Тым больш, што сябры турбуюцца за яе. І яшчэ тым больш, што гэта ненадоўга. Толькі да заліку, які (ой, як недарэчы), перанеслі з зімы на восень. Перанеслі на злосць менавіта ёй. Як назло менавіта ёй. Хоць, калі задумацца, то па вялікім рахунку, гэта нічога не мяняе. Якая розніца, калі сканцэнтравацца на тыдзень-другі і вывучыць прадмет? Так яна вырашыла і, можа, так і зрабіла б, каб не Дзяніс.

Яго прывезлі ў шпіталь акурат у той момант, калі Алеся прыйшла сказаць хворым, што яе пэўны час не будзе. Дзяніс быў высокі юнак гадоў пятнаццаці з неверагодна правільнымі і надзвычай прыгожымі рысамі твару і вялікімі выразнымі вачамі, на самым дне якіх затаіўся глыбокі невыносны боль. Алесю мала не спаралізавала, як яна зазірнула ў тыя вочы. Юнак таксама зірнуў на яе, неяк грэбліва, без цікавасці, пасля адвёў позірк убок і на мыліцах пайшоў у сваю палату.

Дзяўчына некалькі мінут, вагаючыся, што ёй рабіць далей – ісці вучыць “ЧэГэДэ” ці зайсці на хвілінку да Дзяніса, – стаяла нерухома перад дзвярыма палаты. Пасля адчыніла іх і бадзёрым голасам прывіталася з пацыентам.

– Прывітанне! Ты новенькі, таму не ведаеш. Тут толькі на пачатку крыху не па сабе. Пасля ўсё наладжваецца. Галоўнае – не падаць духам, і ўсё будзе о’кэйна. Давай знаёміцца.

– Я цябе ведаю, – сумна адказаў юнак. – Ты Алеся. Мне пра цябе расказвалі. Дарэмна ты сюды цягаешся. Мне, прынамсі, ты не патрэбна зусім. Як самалёту чырвоны тармазны сігнал. Ідзі адсюль. Не да цябе мне.

– Я разумею твой стан. Але не трэба адчайвацца. Можа, усё абыдзецца, – пастаралася не перапыняць знаёмства Алеся. – З чым ты лёг?

– А табе што? – у голасе юнака гучалі роспач, боль і крыўда на ўвесь свет. Ён перайшоў на крык: – Ідзі да малалетак і суцяшай іх, калі хочаш. А мяне не чапай! Без цябе абыдуся! Без нікога! Без вас усіх! Што вам усім ад мяне трэба?! Пакіньце мяне ў спакоі! Усе пакіньце! Усе!

І ён расплакаўся ды павярнуўся да Алесі плячыма. Дзяўчыне нічога не заставалася, як ціхенька зачыніць дзверы палаты з вонкавага боку. Але Дзяніс ні на хвіліну не пакідаў яе думкі. На другі дзень студэнтка развярнулася ля дзвярэй свайго ўніверсітэта, села на маршрутку і праз гадзіну зноў завітала ў палату новага знаёмага. Хлопец сядзеў на ложку і гуляў з новенькім ноўтбукам. Здавалася, на гэты раз яго стан быў даволі спакойны і ўраўнаважаны.

– Добры дзень, – пастаралася ўкласці ў голас як мага больш ветлівасці дзяўчына. – Як ты сёння?

– Як і ўчора, – адгукнуўся юнак, адклаў у бок камп'ютар і павярнуўся тварам да Алесі. – Толькі ты не прыходзь да мяне. Не трэба. Я табе ўжо казаў. Ідзі суцяшаць маленькіх. Я мужчына. Я са сваімі праблемамі спраўлюся сам. Мне нічыя дапамога і нічые спачуванні не патрэбны. І ніхто мне не патрэбны. Я сам па сабе. Абыдуся без іншых. І без цябе таксама.

– Добра, – пагадзілася дзяўчына. – Я толькі на хвіліну зазірнула, каб прывітацца. Ну, я пайшла.

У суседняй палаце Алеся спыталася пра Дзяніса. Гэта быў мінскі хлопец. Выдатнік, спартовец. Можна сказаць – гонар школы і надзея бацькоў. Бацькі ў яго заможныя і ўплывовыя. Бацька – палкоўнік міліцыі. Маці займае высокую пасаду ў нейкім выканкаме Мінска. Хлопец з дзяцінства ні ў чым не меў патрэбы. Як сыр у масле качаўся. Але тры гады таму здарылася бяда. Дактары паставілі страшны дыягназ. Злаякасная пухліна. Па-народнаму – рак. Недзе ў назе. Тры гады лячэння нічога не далі. Хвароба то суцішвалася, то зноў абвастралася. Каб паспрабаваць уратаваць жыццё, заставалася толькі адно выйсце. Ампутацыя нагі. Алеся зразумела ўвесь адчай маладога хлопца. Увесь яго боль, усе яго думкі перайшлі да яе. Не зайсці яшчэ раз да яго ў палату яна не змагла.

– Я зноў на хвілінку. Толькі развітацца. Я так заўсёды раблю, – пачала нясмела апраўдвацца яна вінаватым голасам.

– Ну што, усё пра мяне распытала? – буркнуў юнак. – Цяпер ты больш да мяне не зойдзеш. Асабліва пасля

аперацыі. Каму цікава сябраваць з бязногім калекам?

– У чалавека не гэта галоўнае, – не пагадзілася дзяўчына.

– А што? – здзекліва спытаў юнак.

– Напэўна, яго чалавечае “Я”. Чалавек не жывёла. Калі ногі адрэзаць сабаку, то ён стане намнога меншым – на цэлыя ногі. А калі адрэзаць ногі чалавеку, то яго “Я” меншым ад гэтага не стане. Ды і чалавечае шчасце залежыць далёка не ад фізічных формаў. Ёсць таму безліч прыкладаў.

– Ты, можа, нават і мужа сабе будзеш шукаць бязнагага?! І будзеш з ім шчаслівая?! – зноў перайшоў на крык юнак.

– Хіба што адмыслова шукаць такога не буду. Але калі так станецца, то гэта не паўплывае на мой выбар.

– Гэта няпраўда, – з такой крыўдай у голасе прастагнаў Дзяніс, што Алеся мала не самлела.

Сапраўды, яна фальшывіла. І хворы гэта адчуў. Адчуў глыбіннымі фібрамі сваёй спакутаванай душы. У Алесіных марах яе муж – прыгожы, разумны, чулы, добры, моцны мужчына без фізічных заганаў. Яна хлусіла.

– Ты лжэш, – працягваў настойваць юнак. – Лепш будзе, калі я памру падчас аперацыі, чым так жыць далей, – голас яго задрыжаў. – Каб не бацькі, я ні за што не дазволіў бы мяне рэзаць. Пажыў бы з нагамі, пакуль не памру. А так і нагу адрэжуць, і ніякіх гарантый няма, што хвароба не пойдзе далей. Усё адно памру! Толькі без ног! Ды яшчэ рэзаць мяне будуць. На які чорт мне гэта ўсё трэба!

З вялікіх Дзянісавых вачэй пацяклі слёзы. Пацяклі – не тое слова. Паліліся Ніягарскім вадаспадам па яго шчоках, па шыі, па грудзях і па Алесіным сэрцы. Яна ў гэты момант так разгубілася, што не ведала, як ёй быць. Пачынаць супакойваць – не атрымаецца. Сама разравецца так, што ніхто не супакоіць. Добра, што дзверы ў палату адчыніліся і зайшлі Дзянісавы бацькі. Гэта дало мажлівасць дзяўчыне ціха пакінуць пакой.

На наступны дзень Дзяніс быў даволі ветлівым. У яго з'явілася нейкая незразумелая цікавасць да Алесі. Ён стаў цешыцца з яе прыходаў і нават змяніўся знешне. Павесялеў, пасвяжэў твар, вочы ажылі, заблішчалі. Хлопец з нецярпеннем штодня чакаў прыходу дзяўчыны. Яны разам гулялі ля шпіталя, хадзілі ў лес. Аднойчы паехалі ў Мінск у "МакДональдс". Дзянісу было вельмі добра з Алесяй, утульна неяк, спакойна. Яна таксама прызвычаілася да свайго "кавалера". Хоць Дзяніс на пяць гадоў быў малодшы за яе, але з гэтым вельмі высокім шыракаплечым юнаком яна, маленькая, шчупленькая дзяўчынка, выглядала як школьніца. Як пстрычка. І таксама адчувала сябе неяк бяспечна, абаронена, цёпла. Калі пасля аналізаў і праверак Дзяніса на нейкі час адпускалі дахаты да наступнага прыезду, яна хадзіла да яго дамоў. Яны прагульваліся па мінскіх вячэрніх вуліцах, размаўлялі, весяліліся.

Дзяніс вельмі прывык да Алесі. Іншая справа – яго бацькі. Бацька адразу разгледзеў у Качуры апазіцыянерку. Ды і цяжкасці не было разгледзець. Адзін зна-

чок з гербам “Пагоня” чаго значыў. Ён нават перастаў з ёй вітацца. Намаўляў і сына, каб той не звязваўся з гэтымі, як ён іх назваў, “адмарозкамі”. А Дзяніса-ва маці, як убачыла на сумачцы дзяўчыны бел-чырвона-белую стужку і пачула з яе вуснаў беларускую мову, некалькі дзён не магла выйсці са стану істэрыі. Ды пайсці супраць жаданняў хворага дзіцяці бацькі не адважыліся і паступова змірыліся з візітамі Алесі. Неяк прапаноўвалі нават заплаціць ёй грошы за страчаны час і апекаванне Дзянісам. Ды дзяўчо ветліва адмовілася ад такіх падачак.

Тыя шчыра замаркоціліся, але ацанілі годнасць дзяўчыны. І падарылі ёй на дзень нараджэння неверагодна дарагі (у яе ўяўленні) мабільны тэлефон. Яе першы мабільны тэлефон. Хоць ім прыходзілася праз сілу яе цярпець. Бо з сынам пасля пастаўленага дыягназу адносіны сапсаваліся цалкам. Той невядома з чаго вінаваціў ва ўсім бацькоў. Агрызаўся, сварыўся, нават крычаў на іх. Аніводнага нармальнага слова ў адрас бацькоў не казаў. Добра, што хоць падпарадкаваўся іх рашэнню легчы на аперацыю.

А яны цярпелі. Што зробіш? Адзіны сын, ды яшчэ з такім страшным дыягназам. Ды і ўзрост такі. Усё адно на адно налажылася. Сталася так, што сцэнарыст фільмаў жахаў не прыдумае.

І сына зразумець можна. Як яму супакоіць свае юнацкія эмоцыі, калі ён ведае, што хутка можа памерці? А што застанецца на ўсё жыццё калекам, нават калі выжыве, гэта ўжо дакладна вядома.

* * *

Неўзабаве надышоў і дзень аперацыі. І дзень заліку таксама. Які ўдар ад лёсу! Подлы такі, з-за вугла і ў плечы. Тут - разгублены і збянтэжаны Дзяніс, яго глыбокія напалоханыя вочы, яго заплаканыя і знерваваныя бацькі. Там - непрачытаная кніжка, Ігар Пятровіч і яго абяцанні выгнаць Алесю з вучобы. Як той час хутка праляцеў! Яна ж збіралася ўсё вывучыць. Каб даказаць Зануду, што яна можа ведаць усё, нават прапусціўшы заняткі. Але не атрымалася. Што цяпер будзе? Галоўнае – не нервавацца, а ўсё добра распланаваць. Яшчэ застаецца шанс паспець усюды. А там, можа, пашанцуе яшчэ раз. Можа, білет трапіць даволі лёгкі. Хто яго ведае. Галоўнае, што "Мерсэдэс" нясецца, як вецер.

Бараўляны наблізіліся хутка. Алеся на паперцы напісала кіроўцу нейкія хаатычныя лічбы, якія толькі прыйшлі ў галаву, і выдала іх за свой тэлефон. Хутка ўціснула таму гэтую пародыю на студэнцкую шпаргалку і паспрабавала маланкава пакінуць транспартны сродак.

– Хвілінку, – хапіў той яе за руку з выглядам чалавека, які мае багаты досвед такіх падманаў. – Паглядзім, што ты мне падсунула. – І другой рукой набраў той нумар на сваім мабільным.

Тэлефонны аператар пацвердзіў яго падазрэнні, распавёўшы ажно на двух мовах, што такога нумару не існуе.

– Ты што, мяне за дурня трымаеш? – гнеўна працадзіў мужчына праз зубы.

– Адчапіся, прыдурак, – Алеся вырвала сваю руку з палону яго далоні і кінулася з машыны прэч.

– Я цябе яшчэ злаўлю, – рыкнуў той наўздагон, але дзяўчына ўжо шалёнай куляй неслася па прыступках да будынка шпіталя.

Вось і шпіталь. Чаму так доўга не едзе ліфт? Хто яго трымае? Ну і чорт з ім! Уверх, па сходах. Вось так. Праз пяць прыступак адразу. Ну, вось і яго палата. Ля палаты –заплаканая Дзянісава маці.

– Што з ім?! – устрывожана спытала студэнтка.

– Усё добра, – не перастаючы плакаць, абняла тая Алесю. – Толькі ты туды не заходзь. Ён нікога не хоча бачыць. Яму баліць. Вельмі. Ён крычыць на ўсіх. Не пускае да сябе нават дактароў.

– Галоўнае, што ўсё скончылася, – уздыхнула дзяўчына. – Але я на хвілінку зазірну. Я хутка вымушана буду пайсці. У мяне залік. Божа мой! – запанікавала яна, глянуўшы на гадзіннік. – Ён хутка пачнецца! Я зараз.

Алеся ціхенька прыадчыніла дзверы і мышанём прасунулася ў палату. Дзяніс ляжаў з заплюшчанымі вачамі і цяжка дыхаў. Было бачна, што пад накінутай аж па горла бальнічнай коўдрай няма адной нагі. Твар у хлопца быў белы, як папера. Алеся толькі зараз заўважыла, як з гэтых бледных шчок, на якіх адбіўся пячатак моцных фізічных і духоўных пакутаў, прабіваецца першы мужчынскі пух. Ёй нават прыйшла ў галаву нечаканая думка падарыць Дзянісу станок для галення. Яму хіба спадабаецца.

– Ты прыйшла, – прастагнаў юнак, не расплюшчваючы вачэй. – Я ведаў, што ты прыйдзеш. Я чакаў цябе.

– Ты адпачывай. Я на хвілінку. Табе трэба спакой. Не хачу цябе турбаваць, – сфальшывіла яна Дзянісу другі раз. І напалохалася гэтага. Пасля дадала: – Заўтра я прыйду на цэлы дзень.

– Пасядзі са мной зараз, – аслабелым голасам папрасіў хлопец.

– Як хочаш. Я пасяджу з табой. Пасяджу столькі, колькі табе будзе трэба.

Яна ўзяла крэсла і падсунула яго бліжэй да ложка.

– Раскажы мне што-небудзь, – папрасіў хворы і расплюшчыў вочы.

Алеся здзівілася. Вялікія прыгожыя вочы Дзяніса спрабавалі ўсміхнуцца. Былога болю, які раздзіраў душу, у іх не было. Нейкі іншы боль быў. Фізічны. На шчоках, на вуснах, на лбе і нават на павеках… Але не ў вачах. Нават на самым іх дне болю не было.

– Я не ведаю, што табе расказаць, – усміхнулася яна ў адказ. – А хочаш, я табе пачытаю? У мяне тут выпадкова кніжка з сабой, гары яна агнём. Называецца “Чалавек. Грамадства. Дзяржава” Пачытаць?

– Пачытай.

– Ну, слухай. З чаго толькі пачаць? Вось. “Згодна з рыгарыстычнымі суровымі поглядамі Канта (з пункту гледжання прынцыпаў рыгарызму, маральныя паводзіны вызначаюцца выключна абавязкам), да маральных учынкаў не павінен прымешвацца ні пэўны інтарэс, ні схільнасць, ні сімпатыя, ні задавальненне. Чалавек для Канта – заўсёды мэта, ён валодае маральнай самакаштоўнасцю. Нельга зніжаць адносіны да чалавека да ўзроўню рэчы або сродку для дасягнення

мэты. Чалавек – вышэйшая каштоўнасць і мэта". Ну што, падабаецца?

– Так.

– Ну, тады слухай яшчэ. "Чалавек ёсць адзінай істотай, якая дзейнічае паводле "ўнутранай мэты". Яго імкненне да ідэалу бязмежнае і бясконцае. Маральны ідэал, ідэальны вобраз, найвышэйшая нязздзейсненая маральная мэта вызначае спосаб мыслення і дзейнасці чалавека або грамадскай групы".

– Гэта ў цябе ва ўніверсітэце такія разумныя кніжкі вывучаюць? – перабіў яе юнак.

– Так. А што, сапраўды падабаецца?

– Падабаецца. Я, як закончу школу, менавіта туды пайду вучыцца. На твой факультэт. Пачытай што яшчэ.

– Добра. Хочаш пра сувязь маралі і рэлігіі? Слухай. Ёсць тры вялікія сусветныя рэлігіі: будызм, хрысціянства ды іслам.

– Будызм – гэта дзе перасяленне душ? Я б вельмі хацеў, каб у наступным жыцці я нарадзіўся старэйшым за цябе і здаровым. Тады ты мела б такога хлопца, пра якога марыш.

– Дурненькі, у цябе яшчэ гэтае жыццё наперадзе. І будзе яно шчаслівым. Хоць той жа будызм сцвярджае, што галоўная ісціна – гэта ісціна пакуты. Жыццё дадзена для пакут. Але, каб наступнае было лепшым, трэба перамяніцца ў гэтым жыцці. Бо наступнае жыццё вызначаецца сумарным вынікам думак, слоў і дзеянняў чалавека ў гэтым жыцці і ў мінулых. Таму ты мусіш памірыцца з бацькамі і папрасіць у іх пра-

бачэння за свае неабдуманыя паводзіны. Ведаеш, як ім крыўдна. Яны ўсё дзеля цябе робяць. І наша, хрысціянская, рэлігія таксама настойвае на гэтым. Ёсць нават запавет, які абавязвае любіць бацьку і маці, а тваe непаважлівыя паводзіны ў дачыненні да іх кваліфікуе як грэх. А грэх гэта вельмі кепска.

– Добра, паміруся. А ведаеш, мне казалі, што зараз вельмі добрыя пратэзы за мяжой робяць. Зусім незаўважна, што не свая нага. Мне бацька купіць такі. Шкада толькі, што, як я паступлю ва ўніверсітэт, ты яго ўжо скончыш. Я скажу бацьку, у яго сувязі, ён знойдзе табе працу ў Мінску.

Алеся хацела кіўнуць у знак згоды галавой, але не змагла. Не. Больш яна не будзе фальшывіць і падманваць гэтага хлопца, які толькі што ў нешта паверыў. Паверыў ёй, бацькам, жыццю... Паверыў у сябе.

– На жаль, я не змагу скарыстацца з дабрыні твайго бацькі, – сумна ўздыхнула яна. – У мяне на вёсцы засталася старэнькая матуля. Яе трэба даглядаць. Таму ў лепшым разе я пайду працаваць псіхолагам у якую-небудзь вясковую школу на Ашмяншчыне ці ў дзіцячы садок. А ў горшым – мяне заўтра выганяць з універсітэта.

– Знайшла праблему, – здзівіўся Дзяніс. – Я скажу бацьку, і табе адразу выдадуць дыплом. А з універсітэта выганяць тых, хто хацеў выгнаць цябе. А пасля ён забярэ тваю маму да нас у другую кватэру. У нас ёсць яшчэ адна. Усё адно там ніхто не жыве. Будзеш яе тут дагдядаць.

Алесі стала вельмі весела. Мала не рассмяялася. Як добра быць багатым! Тыя праблемы, якія табе зда-

юцца невырашальнымі, імгненна вырашаюцца. А яна з-за сваёй бядноты нават думаць так не ўмее. Ёй і ў галаву не прыходзіла, што неабавязкова ехаць да маці, а можна ўзяць яе да сябе.

Дзяўчына хацела нешта сказаць, але словы застылі на вуснах. Дзяніс заснуў. На гэты раз спакойным здаровым сном. У палаце было так ціха, што Алесі здалося, нібыта яна чуе гук ад кропель у кропельніцы.

Яна ціхенька паднялася і выйшла з палаты. Было сем гадзін вечара. Яе аднакурснікі хіба ўжо ўсе здалі залік, а яна нават не прыйшла. Цяпер з вучобай ўсё скончана. Што ёй сказаць сваёй маці і што рабіць далей?

– Як ён? – спытала маці Дзяніса.

– Спіць.

– Я ведаю. Я чула вашу размову. Ты не хвалюйся моцна так. Сяргей Іванавіч, муж мой, пагаворыць з Клімко – і ўсё будзе добра. Ён яго добра ведае. Сустракаюцца, каб абмеркаваць вашы антыдзяржаўныя дзеянні. Я маю на ўвазе апазіцыянераў вашых, – сказала жанчына ні то асуджальным тонам, ні то голасам чалавека, які просіць прабачэння і сам не ведае за што.

– А хто такі Клімко?

– Як хто? Твой выкладчык. Што залік сёння прымаў.

– А, Зануда. Сапраўды ён Клімко. Я і забылася, што ён Клімко, – задуменна прашаптала Алеся. – Ну, я пайду. Мне трэба. Я прыйду заўтра. Да пабачэння.

Дзяўчына выйшла на вуліцу. Упершыню за апошні час не было куды спяшацца. Як гэта добра, калі

не трэба нікуды спяшацца! Павольнымі крокамі, падкідваючы нагамі жоўтае лісце, яна няспешна рухалася ў бок прыпынку. Вецер пяшчотна гуляў з яе валасамі, заігрываў, задзіраючы крыло плашча. Два маладыя хлопцы, якія праходзілі побач, паспрабавалі з ёй пазнаёміцца. Але яна нават не зразумела, чаго яны хочуць, і моўчкі, паглыбленая ў свае думкі, працягвала няспешна крочыць наперад.

“Якая цёплая восень, – падумала Алеся. – Можа, дзе сесці, пацешыць вока цудамі прыроды. Падыхаць яе водарам, яе пахамі. Шкада толькі, што на залік не паспела. Што цяпер будзе? О, божа! Але ж я не магла кінуць гэтага хлопца. Не магла. Гэта вышэй за мае сілы. Галоўнае, што ён вярнуўся да жыцця. А можа і добра, што я не трапіла на залік. Яшчэ горш было б, каб прыйшла. Узлавала б Зануду да апошняга нерва. Ён тады крычаў бы, што ўсе апазіцыянеры такія бязмозглыя. І што б я яму запярэчыла? Я ж нічога не прачытала, нічога не ведаю. Не змагла б адказаць на самыя простыя пытанні. Ні што такое абавязак, ні што такое адказнасць, ні пра сумленне, ні пра маральнасць – ні пра што. Зусім ні пра што. Але няўжо Зануда не дасць мне яшчэ адзін шанс? Не можа быць, каб не даў! Чалавек, які так шмат размаўляе фразамі тыпу “катэгарычны імператыў маральнасці” ці “сутнасць разумнага самаабмежавання”, не можа са мной так па-свінску абысціся. Павінен жа ён зразумець, што ў мяне таксама можа быць асабістае жыццё, свае праблемы, напружаны перыяд. Ён абавязкова зразумее і пойдзе насустрач. Асабліва, калі бацька Дзяніса паразмаўляе з ім. Хоць наўрад ці параз-

маўляе. Ён жа мяне ненавідзіць за тое, што я апазіцыянерка. У яго работа такая – душыць такіх, як я. Як і ў таго Зануды. А можа… Можа…”

І тут дзяўчына адчула, што ў яе душу засялілася яшчэ адно пачуццё, якога яна ніколі раней не зведвала. Моцнае пачуццё ўпэўненасці, што будзе так, як ёй вельмі хочацца. Такое пачуццё, якое калі і захочаш знішчыць сумневамі, то ўсё адно не зможаш. На душы стала надзвычай спакойна і камфортна, нібы нейкая вышэйшая сіла ўсялілася ў яе і паведаміла праз падсвядомасць: “Нічога не бойся! Усё будзе добра!”

Алеся села ў маршрутны мікрааўтобус, заплаціла за праезд і прытулілася шчакой да шкла. Ноч ужо заявіла пра свае правы. Сустрэчныя машыны ехалі з уключанымі фарамі. Магнітола ў бусіку раўла нейкую папсовую расейскую песню. Кіроўца насвістваў зусім іншы блатны матыўчык. У дамах гарэла святло. Мігацелі блакітнымі агеньчыкамі тэлевізары, з экранаў якіх дыктары расказвалі пра паездку прэзідэнта ў чарнобыльскую зону, пра вайну ў Іраку, пра чарговы тэракт і чарговыя ахвяры… А таксама пра амаральнасць і прадажнасць беларускай апазіцыі, якая ні кроплі не думае пра простага чалавека, а толькі ўсімі намаганнямі рвецца да ўлады…Рэклама выхваляла нейкія прадукты…

На вуліцы хтосьці раздаваў мінакам буклеты. Некалькі маладых людзей з адкаркаванымі бутэлькамі піва ігралі на прыпынку на гітарах. Супрацоўнік ДАІ нешта тлумачыў падвыпіўшаму пешаходу, які спра-

баваў перайсці дарогу на чырвоны колер святлафора. Паўсюдна людзі мітусліва сунуліся ў розныя бакі, і кожны па сваіх справах… Ноч далёкімі касмічнымі вачамі назірала за імі.

Толькі Алеся нічога гэтага ўжо не чула і не бачыла.

Яна спала.

## Школьны акварыум

Зінаіда Пятроўна з палёгкай, нібыта скінуўшы з плячэй стокілаграмовы цяжар, уздыхнула і адкінулася на спінку крэсла. Дзень выдаўся не тое што цяжкі, але нейкі паскудны, нервовы, з надзвычай непрыемным пахам, як тая вада ў трубах яе школы пасля ўчарашняй аварыі на помпавай станцыі. І гэта ж трэба так, каб тая аварыя здарылася акурат  гэты дзень. Дзень правядзення парламенцкіх выбараў, калі яна, заслужаны настаўнік і дырэктар школы, мае гонар быць старшынёй выбарчай участковай камісіі. Мае гонар.

Яна многа разоў мела такі гонар. Колькі дакладна – сам чорт не палічыць. І сто чарцей таксама не здужаюць. Вось колькі сябе памятае, столькі і ўзначальвае тыя камісіі. Нязменны старшыня. Як некалі ў Савецкім Саюзе Генеральны сакратар ЦК КПСС. Пакуль не ўрэжа дуба, пакуль яго зямлёй не заверне, датуль і кіруе дзяржавай. Ужо, здаецца, і зямелькай пахне, і вочкі глядзяць некуды далёка-далёка ў бок выраю, з якога не вяртаюцца, а ўсё адно вылазіць на трыбуну і дакладвае, на колькі больш у гэтым годзе на прасторах бязмежнай краіны нарадзілася парсючкоў. І хоць мяса ад тых парсючкоў чамусьці да крамаў не даходзіла, дэпутаты яму пляскалі ў далоні стоячы і доўга. Доўга-доўга. Аж пакуль той не пачынаў гаварыць чарговую ахінею. Пра цялят ужо. Або пра пагрозы з боку капіталістычных краінаў. Ці хоць пра што. Усё адно пляскалі, як дурні блазану. Сівыя дарослыя мужчыны, жанчыны з медалямі на грудзях, а паводзілі сябе… Ганьба.

Зінаіда Пятроўна не хацела быць ажно такой нязменнай. Або сціпла рабіла выгляд, што не хоча. І кожны раз, калі кіраўнікі выканкама, у прысутнасці паважанага начальства ад адукацыі, з павагай і пашанай прапаноўвалі ёй чарговы раз узначаліць выбарчую ўчастковую камісію, яна рабілася падобнай на загнанага катамі ў кут маладога вераб'я і неяк сціпла, пацiскаючы плячыма, гаварыла:

– Ну, навошта мяне, даражэнькія вы мае? Я ж ужо старая. Мяне пара спісваць, як ламаны трактар з поля. Дарогу трэба даваць маладым. Яны больш разумныя, больш дасведчаныя. Справяцца.

– Куды ж мы без Вас, Зінаіда Пятроўна, мілая Вы наша, – адказвалі тыя. – Вы ў нас незаменны чалавек. Дарэчы, маладыя Вас і выберуць. Мы ж такога права не маем. Але выберуць Вас. Кожнага можна памяняць, але не Вас. Без Вас патоп, Зінаіда Пятроўна. Без Вас патоп…

І яшчэ шмат чаго добрага і цёплага пра яе гаварылі. А ёй прыемна. Вельмі прыемна. Што яшчэ прыемнага можна ўспомніць у яе такім няпростым жыцці. Што яшчэ можна ўспомніць… А такія словы грэюць, лашчаць душу, даюць сілу жыць… І не даюць мажлівасці адмовіцца, павярнуць назад, падвесці, зрабіць нешта не тое, чаго ад цябе чакаюць. Давер. Вось што ў гэтых словах. Ёй давяраюць. Ці шмат хто можа пахваліцца гэтым?

Яна ведае іх усіх як аблупленых. Многія з іх нават вучыліся ў яе. Як і Дзіма. Толькі зараз ён ужо даўно не Дзіма, а Дзмітрый Іванавіч. Яе былы вучань. І гэта ён сёння балатуецца ў парламент. Ён выйграе і будзе

дэпутатам. Зінаіда Пятроўна гэта добра ведае. Сама ж лічыць галасы будзе. А як палічыць - яна ўжо ведае. Ёй сказалі як. І што яе вучань будзе дэпутатам. І гэта для яе шчаслівы дзень.

“Сапраўды гэта так, – думала настаўніца. – Гэта сапраўды шчаслівы дзень. Праўда, гэтае шчасце крыху сапсавалі. Але хто?! Усяго толькі некалькі маладзёнаў з бел-чырвона-белымі значкамі на грудзях, якія размаўлялі выключна па-беларуску. Незалежныя назіральнікі, бачыш ты іх! Сцвярджалі, што выбары фальсіфікуюцца. Нечага там патрабавалі. Хіба што справядлівасці. Але па маім загадзе выбарчы ўчастак міліцыя хутка ад іх ачысціла, як ад непатрэбнага смецця, адразу паказаўшы, хто тут гаспадар і што тут справядлівасць.

Тыя пратэставалі супраць гэтага гвалту, як апантаныя. Адзін юнак нават пачаў палохаць яе:

– А вы ведаеце, што нават па дзеючым сёння заканадаўстве вы трапляеце за фальсіфікацыю выбараў пад вельмі нядобры артыкул, – заявіў ён. – Вас жа падстаўляюць! Няўжо вы гэтага не разумееце. Вас ублытваюць у брудныя справы. Вас прадаюць тыя, каму вы служыце. І пры неабходнасці прададуць цалкам.

– І чаму вы будзеце вучыць у школе дзяцей? – падтрымала яго маладая дзяўчына. – Пра якую мараль вы ім будзеце распавядаць, калі самі парушаеце асноўныя нормы тае маралі?! Вы не маеце права вучыць дзяцей! Вы не маеце права быць настаўніцай! Вы ўвогуле не маеце маральнага права працаваць з людзьмі. Вы ж нахабна лжэце. Вы падманваеце ўвесь народ.

Такія, як вы, пазбаўляюць наш народ будучыні. Вы прымушаеце падманваць і станавіцца лгунамі іншых сяброў камісіі. Ва піхаеце іх на злачынства. Ціснеце на іх. А ўсё дзеля чаго? Падумайце! Навошта? Дзеля чаго гэтае злачынства?! Дзеля каго?!

Зінаіда Пятроўна нічога не адказала. Толькі падумала: "Адкуль такія нахабныя маладзёны бяруцца? І што яны могуць ведаць пра жыццё ў свае маладыя гады? Тым больш пра яе такое доўгае і такое складанае жыццё".

Яна перавяла стомлены позірк на апусцелую залу, дзе зусім нядаўна закончыўся падлік галасоў. Вочы міжволі спыніліся на ўжо пустой скрынцы для бюлетэняў. Штосьці яна ёй нагадвала, тая скрынка. Нешта з дзяцінства. Але што?

Настаўніца на хвілінку заплюшчыла вочы. "Што за часы надышлі? – падумала яна. – Моладзь зусім не мае павагі да старэйшых. І хто іх так вучыў? У іх жа таксама былі свае настаўнікі. Куды яны глядзелі? А куды глядзелі іх бацькі? Калісьці маладыя з большай павагай ставіліся да старэйшых. Мае вучні не такія. Вось і Ніначка, сакратар нашай выбарчай камісіі. Яна таксама настаўніца. Пайшла па маіх слядах. Кажа, што менавіта я натхніла яе абраць гэтую прафесію. Ды і колькі такіх прайшло праз мяне за гэтыя доўгія гады. Паслухмяныя, з павагай да старэйшых, мэтанакіраваныя. А тыя, з бел-чырвона-белымі значкамі… Хто яны? Якое яны маюць права ўказваць мне, што рабіць? Няўжо яны лічаць, што я, заслужаны настаўнік і паважаны чалавек, дапушчу, каб у парла-

мент патрапіў іх кандыдат? Ды нізашто! Хто ён такі?! Нават калі мне прыйдзецца замяніць усе бюлетэні, я гэта зраблю! Але іх кандыдат не пройдзе. Бо тады не будзе парадку. Не будзе! Не будзе ніколі".

Яна яшчэ раз паглядзела на скрынку для выбарчых бюлетэняў, нібыта хацела нешта спытаць у той. Каб скрынка пагадзілася з яе развагамі. Паглядзела і крыху спалохалася. Скрынка нагадвала ёй акварыум. Той самы школьны акварыум, які так доўга пераследаваў яе. Пераследаваў усё яе жыццё, такое доўгае і такое складанае жыццё. Але гэта было так даўно…

* * *

Зінаіда Пятроўна не памятала дакладна, у якім гэта было годзе. Дзе ты зараз усё прыпомніш? Толькі хіба што прыблізна. Апошні раз ёй нагадалі пра акварыум на выбарах у Вярхоўны Савет СССР. У часы Генеральнага Сакратара ЦК КПСС Леаніда Ільіча Брэжнева, калі ўжо скончыўся страх сталінскіх пераследаў і калі яна таксама, як і зараз, узначальвала ўчастковую выбарчую камісію. Яе непаўнагадовая дачка, якая ўвесь дзень з ёй была на выбарчым участку і дзіцячым позіркам паглядала на тое, што робяць дарослыя, нечакана зусім не па-дзіцячы пацікавілася:

– Мама, а праўда, што ты стала самай галоўнай таму, што некалі падарыла школе акварыум?

– Хто табе гэта сказаў? – збялела Зінаіда Пятроўна.

– Лявонаў бацька так сказаў. А яшчэ ён гаварыў, што на выбары не пойдзе, бо ў спісах толькі адзін чалавек. Няма з каго выбіраць. І гэтыя выбары - брахня

і падман. Іх нельга называць выбарамі.

– Ну што ён табе наплёў, – рашуча адрэзала маці і працягнула ўжо больш лагодным голасам. – Не слухай ты розных Лявонавых бацькаў. Хто ён такі, той Лявонаў бацька? Абы-хто. Сядзіць на сваім балконе і круціць з ранку да вечара магнітафон з песнямі Высоцкага. Такі самы лабідуда і падбухторшчык, як і той Высоцкі. Ты яшчэ малая, таму слухайся маму. А выбіраць нам прапаноўваюць. І прапаноўваюць не абы-хто, а дасведчаныя людзі. І абы-каго не прапануюць. Усё робіцца дзеля таго, каб нам жылося добра. А мы можам пагаджацца, а можам не. Ніхто нас не прымушае. Можна выкрэсліць кандыдата і ўпісаць свайго, напрыклад. Ніхто не забараняе зрабіць так. Таму нельга казаць, што няма з каго выбіраць толькі таму, што ў выбарчым бюлетэні адно прозвішча. Зато якое гэта прозвішча. Выверанае, праверанае. Таму лепш прагаласаваць за таго, каго прапанавалі. А то дай толькі волю, дык нашы алкаголікі і такія бесталковыя, як бацька Лявона, дзеля смеху выберуць старога Антона. Ну што гэта будзе за дэпутат? Смех адзін. Падумай сама: што той Антон будзе рабіць у Вярхоўным Савеце нашай неабсяжнай і самай справядлівай савецкай сацыялістычнай Радзімы? Ён жа там нас усіх на ўвесь свет на смех выставіць.

Антон, пра якога яна распавядала дачцэ, быў дзіўнаваты чалавек, які на старасці гадоў перастаў сябраваць з галавой і перапыняў мінакоў, каб распавесці ім пра сваё гістарычнае мінулае, кожны раз рознае. Аднойчы ён знайшоў грошы за абразамі, куды іх ад яго ж схавала старая Ганна, жонка яго. Дык Антон сцвярджаў, што грошы яму сам Бог прыслаў. З

яго ўсе смяяліся. Такі прыклад быў вельмі трапным і пераканаў маленькую дачку адразу.

А вось бацька Лявона – гэта ўжо было сур'ёзна. Зінаіда Пятроўна ведала яго даўно. Яшчэ з тае пары, як той называў яе проста Зінка. Ён родны брат Валеркі. І хіба што помсціць ёй за брата.

Эх, Валерка, Валерка! Колькі яна праліла праз яго слёзак. Вочкі не высыхалі. Сэрцайка не магло патрапіць у нармальны рытм. Яна, яшчэ маладзенькая дзяўчынка, стаяла доўгімі гадзінамі ў двары яго дома, каб нібыта выпадкова сутыкнуцца з гэтым фанабэрыстым хлопцам. А ён такі сур'ёзны, прыгожы і зусім недасягальны. Як невядомая планета ў сузор'і Альфа Цэнтаўра. Вечна нечым заняты. Прывітаецца і пайшоў, нібыта тут стаіць і плача не яна, а ўсяго толькі яе нікому не патрэбны цень.

Толькі яе каханне было аж настолькі моцным, што ён аднойчы заўважыў яе. Паглядзеў зусім не так, як звычайна, пасяліўшы ў сэрцы сонца. І ўжо нічога не было на свеце, акрамя таго вялікага шчасця. Аднаго шчасця на дваіх. Яны хаваліся ад людзей, цалаваліся, цешыліся адно адным. Было ўсё: і яго першае "Я цябе кахаю!", і яе першае "Я таксама! Толькі цябе! Цябе аднаго!", і іх агульнае "Мы будзем разам усё жыццё, і ніхто нас не разлучыць". І здавалася, што так яно і будзе. Бо такое шчасце не па сілах разбурыць нікому.

Але акурат перад нейкімі выбарамі, калі горад быў завешаны партрэтамі тагачаснага кіраўніка камуністычнай партыі і савецкай дзяржавы Мікіты Сяргеевіча Хрушчова, яе выклікалі. Больш не трэба

нічога казаць. Проста выклікалі. І гэтым усё сказана.

– Вы даўно ведаеце Валерыя Сініцкага? – сурова спытаў яе следчы, на пінжаку якога зіхацеў вайсковы ордэн. Гэты ордэн прымушаў яе ставіцца да следчага з павагай і казаць толькі праўду.

– Не… Дакладней, так... Я не ведаю… Не, яго я ведаю… А што?

– А вы ведаеце, якія людзі ў яго збіраюцца? Якія яны спяваюць песні, малююць карціны? Я разумею, што вы маладая, таму не ва ўсім разбіраецеся. Хоць і павінны разбірацца. Вас жа цэняць людзі. Я размаўляў з вашым рэктарам. Ён вас вельмі шануе. Вы ж сакратар камсамольскай арганізацыі. Вам даверылі праводзіць падрыхтоўку да выбараў! А вы звязаліся з такім чалавекам. З чалавекам, якому не месца ў нашым сацыялістычным грамадстве!

– Я не разумею, пра што вы, – спалохана прашаптала дзяўчына дрыжачымі губамі. – Я не разумею…

– Да вас у нас пакуль няма прэтэнзій, – больш лагодным голасам працягваў следчы. – Вы проста заблыталіся. Маладосць, што зробіш. Хоць у вашы гады мае аднагодкі смела ішлі ў атаку і добра арыентаваліся, дзе вораг, а дзе свае. Хоць зараз не пра гэта. Часы зараз іншыя. І вы развучыліся бачыць небяспеку, якая ў вас пад самым носам. Вы не ведаеце, дзе зараз можа быць Валерый Сініцкі?

– Не. Я бачыла яго некалькі дзён таму, – праз слёзы выдушыла дзяўчына. – Ён больш да мяне не заходзіў.

– Калі з’явіцца, абавязкова скажыце мне, – настойліва папрасіў следчы, паклаўшы сваю вялую руку ёй на плячо. Другая рука ў яго бездапаможна

звісала. Відаць, пасля баявога ранення. – Мы ў вас верым. Каб не верылі, я на вас час не губляў бы. Вы ж наш чалавек. Савецкі. Савецкі з вялікай літары. Камсамолка! Вас збіраюцца рэкамендаваць у шэрагі камуністычнай партыі. А ваш Валера займаецца антысавецкай прапагандай! – Тут яго голас павысіўся, але хутка зноў змякчыўся, стаў спачувальным і чалавечым. – Праўда, гэта яшчэ не дакладна вызначана, але выглядае на тое. Таму не псуйце сабе жыццё і не губляйце час на такіх кавалераў. У вас наперадзе - вялікая будучыня. Вы будзеце жыць пры камунізме. Прысвяціце гэтаму свой час. Паверце мне, яго не так ужо і шмат, каб зрабіць нешта вялікае. І калі Сініцкі яшчэ з'явіцца, то паведаміце мне. Нічога не бойцеся. Ён, мажліва, заблытаўся. Сябры ў яго ненадзейныя. Ма з ім пагаворым. Па-нашаму, па-савецку. Шчыра і адкрыта. А вам мы жадаем толькі добрага. Таму пра нашу сустрэчу нікому не паведамім. Ні бацькам, ні на вучобу. І вы не рабіце больш у жыцці памылак. Хопіць вам той памылкі, якую вы зрабілі з акварыумам.

Яна ляцела дахаты куляй і раўла, як параненая ваўчыца, у якой, у дадатак да яе раны, яшчэ пастралялі ўсіх ваўчанят. Адкуль яны ведаюць пра той пракляты акварыум? Колькі той акварыум будзе пераследаваць яе? Каб ён згарэў, той акварыум! Каб яго зямлёй завярнула! Каб пабіла на мільёны кавалкаў…

Валера спаткаў яе ля дзвярэй пад'езда.

– Што з табой? – спалохаўся ён.

– Што ты тут робіш? – збянтэжана адказала яна пытаннем на пытанне.

– Да цябе прыйшоў. Мы з сябрамі ездзілі на некалькі дзён на прыроду. Планавалі яшчэ адну паездку. Далёка. У тайгу. На возера Байкал. І цябе тады возьмем. Зараз табе не прапаноўвалі з намі, бо ты вельмі занятая нейкімі там выбарамі. А каго выбіраеце? – ён засмяяўся шчырай і адкрытай усмешкай. – Можа, цябе кіраўніком усіх камсамольцаў? – пажартаваў.

– Мяне выклікалі, – прашаптала яна. – Цябе шукаюць. Не прыходзь больш да мяне. Ніколі не прыходзь.

– Ты што, Зіна, – глянуў ён ёй у вочы. – Што ты гаворыш? Як ты можаш? Мне няма чаго баяцца. Я сам да іх схаджу, – ён адразу, не перапытваючы, зразумеў, хто гэта - яны, якія выклікалі яго любую дзяўчыну. І ведаў, куды да іх ісці. – Я нічога такога не зрабіў, каб баяцца ці ўцякаць!

– Я сказала не прыходзь! – закрычала яна і кінулася да дзвярэй.

Больш яны не бачыліся. Ніколі. Яго не пасадзілі. У астрог не пасадзілі. Праўда, доўга цягалі, як якога гада, не адзін раз. І сяброў яго таксама трэслі як спелую грушу. Ён пісаў нейкія не такія песні. Некага не таго крытыкаваў. Патрапіў неяк у шпіталь да псіхічнахворых. Адны казалі ад гарэлкі. Другія сцвярджалі, што туды яго заперлі як дысідэнта за яго песні. Як дзікага звера, далей ад людзей схавалі. А яшчэ пазней, як яна ўжо была замужам, дачулася, што Валерка Сініцкі ўцёк у Амерыку. А там спіўся і памёр. Праўда гэта ці не, Зінаіда Пятроўна высвятляць не стала. Навошта?

У яе сваё жыццё, у яго сваё. Прынамсі, каб звязалася з ім, то не дасягнула б таго, што мае зараз. І хоць не ўсё клеілася з мужам, але ж яна мела цудоўную працу, павагу, асобную кватэру, дзе як магла так і стварала ўтулак для сваёй дачкі.

Дачка, на жаль, зусім нядаўна з'ехала за мяжу. Сказала, што тут, у гэтай краіне, ёй лавіць няма чаго. Зараз жыве ў Італіі, даглядае нейкага хворага дзеда і марыць выйсці замуж за іншаземца. Зусім не важна за якога. З Італіі ці з Кітая, з Нігерыі ці з Бразіліі. Абы за іншаземца. Абы не за нашага. Абы не вяртацца назад.

Зінаіда Пятроўна паднялася і прайшла некалькі крокаў туды-сюды, нібыта вартавы, які ахоўвае палонных. "Нейкі сёння дзень няўдалы, – думала яна. – Усе выбары ў мяне праходзілі ўрачыста, весела. Уздымалі настрой. І я павінна была ўзнімаць настрой іншым, запальваць усіх сваім успрыманнем важнага моманту. Такая перада мной пастаўлена задача. І я ўмею гэта рабіць. Колькі такога зроблена!? І выбары, і школьныя мерапрыемствы, і першамайскія дэманстрацыі… І ўсё гэта я. А сёння нешта не так. Нейкія не такія гэта выбары, як раней. Нешта змянілася. І ўсё гэта з-за тых, з бел-чырвона-белымі значкамі, што прыйшлі мяне вучыць справядлівасці. Я сама ведаю, што такое справядлівасць. Справядлівасць тут - гэта я сама. Справядлівасць - гэта тое, што мне скажуць з райана, з аблана, з выканкама… Як скажуць, так я і зраблю. І не буду псаваць перад тымі людзьмі зверху свайго аўтарытэту з-за нейкіх там незалежных назіральнікаў. Неяк і без іх раней абыходзіліся. І ўсё

было добра. А зараз яны тут пра мараль апавядаць будуць… Я сама ведаю, хто павінен быць дэпутатам. Дзіму я са школьнай парты ведаю. Больш вартага ніхто не знойдзе”.

– Куды глядзіць міліцыя? – прабубніла яна сабе пад нос, зноў уставілася на выбарчую скрынку і яшчэ раз паўтарыла: – А Дзіму я са школьнай парты ведаю.

* * *

Яна зноў села і стомлена заплюшчыла вочы. І нечакана Зінаіда Пятроўна ўбачыла сябе за школьнай партай. На сцяне - партрэт кіраўніка краіны Іосіфа Вісарыёнавіча Сталіна. А перад ёй - разгублены і збялелы ў смерць твар тагачаснага дырэктара яе школы Івана Мікалаевіча.

– Што ты нарабіла?! – дрыжачым, як шэлест асінавага ліста, голасам казаў ён і трос у яе пад носам скалечанай на вайне рукой, як у таго следчага. Шмат людзей вайна пакалечыла. – Што ты нарабіла!? Навошта ты разбіла акварыум? Гэта ж школьная маёмасць. А гэта значыць, што маёмасць дзяржаўная. Ён нават інвентарны нумар мае. Мы такую цяжкую вайну выйгралі. Нам краіну падымаць трэба. А ты знішчыла дзяржаўную маёмасць. Гэта шкодніцтва. Наўмыснае. Прызнавайся: хто цябе падвучыў? Прызнавайся! Не маўчы! Не плач!

А яна плакала. Плакала наўзрыд і нічога не магла сказаць. Хацела патлумачыць, ды толькі задыхалася, як хворая на астму, і ўсё тут. І ні слова не змаглі з яе выдушыць, колькі ні стараліся і белы ад страху ды-

рэктар, герой і ардэнаносец, які ні разу так не бялеў ад страху, нават калі, рызыкуючы жыццём, ішоў у атаку на ворага, і напалоханыя настаўнікі, якія на прыкладах гістарычных герояў усё жыццё вучылі іншых смеласці і адвазе. Толькі, як дурныя, разводзілі рукамі па баках ды пераглядаліся між сабой, шукаючы ці то вінаватага, ці то паратунку. Толькі адзін чалавек быў спакойны. Нейкі дзядзька ў галіфэ, які сядзеў і вельмі пільна назіраў за ўсім, што адбываецца.

А праз некалькі дзён яе зноў выклікаў дырэктар.

– Зіначка, – няўпэўнена пачаў ён, – Клімчука арыштавалі. Ну, значыць, нашага дзядзьку Флёру. Цьфу ты! Не нашага, а гэтага, што ў нас у школе печку паліў. Што акварыум прынёс у школу. І арыштавалі яго яшчэ да таго, як ты разбіла той праклятый акварыум. Таму, калі цябе нехта будзе пытацца, чаму ты пабіла акварыум, ты кажы, што зрабіла гэта наўмысна. Што нашай школе не патрэбны акварыумы ад былых фашысцкіх прыхвасняў. І ты, як даведалася, хто такі дзядзька Флёра, то адразу пайшла і пабіла яго акварыум. Не стрымалася, значыць…

Зіначка нікому гэтых слоў не казала. Ніколі ў жыцці. Але яе ніхто і не пытаў. На наступны дзень, на школьнай лінейцы, дырэктар сам распавядаў усёй школе пра яе гераічны ўчынак. А дзядзька ў галіфэ вывеў яе за руку на сярэдзіну школьнага пляца і з гонарам паказваў усім як прыклад савецкага патрыятызму і сацыялістычнага сумлення. А яна стаяла і трэслася, нібы зімой без вопраткі, хоць быў даволі цёплы восеньскі дзень. І не ведала, плакаць ёй ці проста

сціснуць зубы і вусны ды маўчаць. Яна толькі бачыла напалоханыя вочы сваіх таты і мамы, якіх адмыслова на гэтую лінейку забралі з працы і прывезлі ў чорнай машыне. А бацькі глядзелі на яе і стараліся хоць крыху зразумець, што тут адбываецца.

– Сфатаграфуйце гэтую дзяўчынку і дайце здымак у мясцовую газету, – загадаў некаму пасля лінейкі дзядзька ў галіфэ. – Трэба падумаць і пра прэсу больш высокага рангу. І дайце гэты матэрыял у рубрыцы “Справа Паўліка Марозава жыве”. Гэты Клімчук – нейкі сваяк Зіне. Парадніце іх яшчэ бліжэй. І матэрыял пра яе бацькоў дайце. Пахваліце іх. Пра Паўліка Марозава не забудзьце. І што Зіна не звярнула ўвагу на сваяцтва з Клімчуком. Так і напішыце, што староста класа…

– Яна не староста, – перабіў яго бледны дырэктар школы, пасля спалохаўся і збялеў яшчэ больш.

– Як не староста? – грозна перапытаў дзядзька ў галіфэ. – А каго ж вы тады выбіраеце старастамі, як такія актыўныя і адукаваныя вучні ў вас не старасты? Чым вы тут увогуле займаецеся ў гэтай школе? На работу ўзялі фашыста! Здрадніка! Нацысцкага халуя! Прымаеце ад яго нямецкія акварыумы! А гэтая дзяўчынка, якая адзіная рашуча выступіла супраць здрадніка, у вас не староста?! Растлумачце.

– Староста, староста, – стаў заікацца дырэктар. – Яна староста. Я забыўся. Староста. І выдатніца. Я сам сёння праверу класны журнал. Я перакананы, што яна выдатніца. Мы ўсё зробім, каб іншыя цягнуліся за ёй.

– Цудоўна, – зноў незнаёмы дзядзька павярнуўся да фатографа. – Гэта староста і выдатніца. Так у ва-

шай газеце і павінна быць. І самая актыўная ў класе. Па ўсіх пытаннях. Перадайце рэдактару, каб асабіста пра ўсё распытаў у дырэктара школы. Матэрыял да заўтра павінен быць гатовы! – загадаў ён і зноў павярнуўся да дырэктара. – І вось што яшчэ, Іван, як там вас, Мікалаевіч. Трэба ад імя гэтай вашай старасты і выдатніцы Зіначкі арганізаваць кампанію па зборы грошай на новы школьны акварыум. Маўляў, усе аднакласнікі і аднашкольнікі дачуліся пра патрыятызм Зінаіды і збіраюць зараз грошы на акварыум. Каб паказаць усім, што ад ворагаў нам нічога не трэба. Мы ўсё можам самі набыць і нават лепш можам.

– Я і сам пра гэта ўжо думаў, – лепятаў, сагнуўшыся ў тры пагібелі, дырэктар школы. – Будзе ў школе акварыум ад нашай Зіначкі.

У гэты ж дзень у Зінаіды Пятроўны, тады яшчэ проста Зіначкі, адбыліся першыя ў жыцці выбары. Яе выбралі ў класе яшчэ кімсьці. Толькі яна не памятае кім. І яшчэ яна даведалася, што яе некалі раней выбралі старастай класа. І ўсе яе віншавалі. Толькі Каця Міхасёва плакала. Бо думала, што некалі даўно старастай класа выбралі не Зіну, а яе. А пасля гэтага дня Зінаіду Пятроўну заўсёды выбіралі на першыя ролі ў школе, і пазней у інстытуце, і пасля на працы… Паўсюдна. Яна стала незаменнай. Як некалі ў Савецкім Саюзе Генеральны сакратар ЦК КПСС. Пакуль не ўрэжа дуба, пакуль яго зямлёй не заверне, датуль і кіруе дзяржавай. Ужо, здаецца, і зямелькай пахне, і вочкі глядзяць некуды далёка-далёка ў бок выраю, з якога не вяртаюцца, а

ўсё адно вылазіць на трыбуну і дакладвае, на колькі больш у гэтым годзе…

* * *

Вось і зараз яна – старшыня ўчастковай выбарчай камісіі. Як яе ўшанавалі! І яна справіцца са сваёй задачай. Зараз па яе прыедзе Дзяніс. Ён міліцыянер. Ён ахоўваў парадак на выбарчым участку. І ён таксама яе вучань. Дзяніс ужо звазіў яе аддаць пратакол і прывёз па яе просьбе назад. Толькі спытаў:

– А чаго вы на ўчастак? Усё ж скончылася.

– Не ведаю, нешта цягне, – усміхнулася яна.

– Як злачынцу на месца злачынства, – пажартаваў міліцыянер.

Настаўніца спачатку насцярожана глянула на яго, мяркуючы, што той іранізуе наконт фальсіфікацыі вынікаў галасавання. Але пасля супакоілася. Дзяніс нічога кепскага сказаць не хацеў. Так, ляпнуў ад балды. Абы ляпнуць. Ну, што зробіш? Ён і ў школе інтэлектам не вылучаўся. А зараз дык зусім стаў загаварвацца. Затое абяцанні выконвае. Прапанаваў Зінаідзе Пятроўне адвезці яе пасля выбараў дахаты і слова датрымаў. А гэта важна.

– Як там Дзмітрый Іванавіч? Не дазваніліся да яго? – пацікавіўся Дзяніс ужо ў міліцэйскай машыне, якая сунулася па начных вуліцах горада да хаты настаўніцы.

“Дурны, дурны, а сала любіць”, – падумала пра яго Зінаіда Пятроўна словамі старой беларускай прымаўкі.

На вуліцы, дзе ліхтары, патухаючы, паказвалі, што хутка будзе ранак, то там то тут групамі хадзілі людзі. Маладыя ды больш сталага веку, выпіўшыя і добра заліўшыя за каўнер.

– Сёння, у дзень выбараў, у нас загад п’яных не чапаць. Зразумела, што калі тыя моцна не хуліганяць, – патлумачыў Дзяніс. – Ды і куды іх дзець? Раптам у ізалятары прыйдзецца зачыняць гэтых хуліганаў, што незалежнымі назіральнікамі сябе называюць. Нахабныя, паскуды. Ты ім загадваеш, каб адышлі, не перашкаджалі выбарчаму працэсу, а яны ўсё адно лезуць, як ненармальныя. Ты іх у дзверы выпіраеш, а яны ў вакно лезуць. Ну што ты будзеш з імі рабіць? Зусім зрабіліся нахабнымі. Дык што там Дзмітрый Іванавіч?

– Я яму яшчэ не званіла, – вяла адказала настаўніца. – Сам ведаеш, заняты ён зараз. Як-ніяк будучы дэпутат Палаты Прадстаўнікоў. Глядзіш – і да міністра дарасце. Пазней звяжуся. Крыху яшчэ пачакай.

– Добра, пачакаю.

Зінаіда Пятроўна схлусіла. Яна званіла Дзмітрыю ўвесь час. Толькі ён не адказваў. І яна ведае чаму. Бо не хоча памагчы Дзянісу. Нават на яе просьбу не адгукаецца. І не перазваньвае, хоць яна і прасіла. У Дзяніса сястра прадпрымальніца. І хоча магазін у добрым месцы мець. А Дзмітрый за такія рэчы акурат і адказвае. Можа і з арэндай дапамагчы, і з іншымі бюракратычнымі перашкодамі. Яму не цяжка. Варта толькі пальцам пашавяліць. Толькі не хоча дапамагаць чамусьці. А чаму? Халера яго ведае чаму. Не хоча - і ўсё тут.

– Ну, вось і прыехалі.

Зінаіда Пятроўна выйшла з машыны і пасунулася ў кватэру. Яна пустая, тая кватэра. Муж уцёк да іншай. І хоць тая, іншая, па прыгажосці не дацягвае і да сярэдніх стандартаў нават у межах іх горада, і старэйшая за Зінаіду Пятроўну і нават за яе былога мужа, ён вяртацца не збіраецца.

“А я яго калісьці вывела ў людзі, – падумала яна. – Гэта я яго выцягнула з завода, уладкавала вучыцца на завочнае. А пасля, дзякуючы маім знаёмствам, ён атрымаў добрую працу і зрабіў пад маім наглядам някепскую кар’еру. Які аказаўся няўдзячны чалавек. Падонак. Таму я правільна з ім абышлася. Сказала каму трэба – і яго выкінулі з працы, як злы гаспадар выкідае аглухлага сабаку. Хай ведае зараз, няўдзячная жывёла! І хай яго новая гадзюка цяпер яму работу знойдзе, калі зможа. Бо ён у гэтым горадзе не ўладкуецца нават грузчыкам. Ён нідзе працы не знойдзе, як тыя апазіцыянеры, што сунуць усюды свой нос не ў свае справы як незалежныя назіральнікі. Ад каго яны незалежныя?! Справядлівасці захацелі! Вось так вазьмі і дай ім справядлівасць! А справядлівасць заслужыць спачатку трэба. А што яны зрабілі для гэтага? Ды нічога. Толькі языкамі трапацца ўмеюць. Якой яны справядлівасці хочуць? Здаровыя лбы, а лазяць ды за нечым сочаць. Хай у калгас лепей працаваць едуць! На заводы хай ідуць! У Чарнобыль хай з’ездзяць хоць раз. Працаваць трэба, а не займацца абы-чым. А то давай ім праўду ды справядлівасць! Ах, заразы бязрогія”.

Яна села на крэсла і ўспомніла дачку. Дзе яна цяпер? Як ёй зараз? Што з ёй? Як было добра, калі тая была малая і можна было загадаць ёй рабіць тое, што трэба. А якая была смешная! А цяпер зусім іншая. Неяк успомніла тыя

выбары брэжнеўскіх часоў і матуліны запалохванні дэпутатам Антонам. І напісала маці, што ў Італіі выбіраюць самі людзі. Ніхто ім не ўказвае. І не прапаноўвае. І ніякіх Антонаў яны не выбіраюць. Ну, а калі і выбіраюць, то ім гэта не шкодзіць. Бо жывуць не горш за нас, а лепш. Нашмат лепш. І не толькі ў матэрыяльным плане.

А яшчэ напісала пра Лявона. Лявон, на яе думку, малады, чулы, добры і прыгожы хлопец. Ён з ёй перапісваецца і прапаноўвае вярнуцца дахаты. Хоча з ёй ажаніцца. І яна за Лявона пайшла б. Слаўны такі той Лявон. І вельмі падабаецца ёй. Толькі вось бяда, ён не іншаземец.

“Цікава, як там зараз бацька Лявона? – незразумела чаму пацягнула на настальгічныя ўспаміны Зінаіду Пятроўну. – Хіба ўжо Высоцкага не слухае. Слухае недзе гэтых з апазіцыі. І, напэўна, сам папёрся ў апазіцыю адным з першых. Ён такім заўсёды быў. Як і яго брат Валерка. Таму і не даравоў мне, што я кінула яго брата. А я правільна зрабіла. Ну што я рабіла б за ім замужам? Была б жонкай дысідэнта. Вось жа радасць. Ха-ха-ха! Спявала б яго бардаўскія антысавецкія песні. А зараз была б у апазіцыі і стала б незалежным назіральнікам. Ці яшчэ кім незалежным. Вось дык кар’ера! Ха-ха-ха! Смех адзін. І нашто мне ўсё гэта? А так у маім жыцці ўсё было і ўсё ёсць. І кватэра, і праца… Мяне шанавалі, паважалі, шануюць і паважаюць…”

* * *

Зінаіда Пятроўна ўключыла тэлевізар і ўзяла ў рукі кніжку. Нешта з рускай класікі. З яе любімай.

Як хораша ў вершах напісана пра абавязак, сумленне, праўду. Усё пра тое ж, на чым настойвалі тыя маладзёны з бел-чырвона-белымі сцяжкамі. І пра тое, чаму яна сама вучыць дзяцей у школе.

Яна сама, як настаўніца, усё сваё прафесійнае жыццё прысвяціла навучанню іншых гэтым святым ідэалам!!! Яна ўсё пра іх ведае, і гэта яна можа навучаць, а не яе будзе павучаць хтосьці. Гэта яна можа расказаць пра філасофію Дастаеўскага або Канта, пра змаганне за свабоду ў сярэднія вякі і ў часы антычнасці… Гэта яна можа каму хочаш давесці пра недаўгавечнасць і бесчалавечнасць дыктатур… Расказаць, як людзі на працягу сваёй гісторыі змагаліся з імі, тымі недэмакратычнымі і несвабоднымі ды несправядлівымі рэжымамі. Добра, пісьменна і прафесійна давесці. А тут нехта спрабуе павучаць яе…

“Чаму ўсё так складана? – падумала Зінаіда Пятроўна і пастаралася перавесці думкі на іншае”.

Але нічога вясёлага ў галаву не ішло. Наадварот. Не пакідаў думак той пракляты акварыум, які візуальна, і чамусьці менавіта сёння, нагадваў ёй скрынку для бюлетэняў. Ці скрынка для бюлетэняў нагадвала той акварыум. Няважна.

Раптам яна ўбачыла ў акварыуме сябе. Яна адчула сябе той акварыумнай рыбкай, якая паела сваіх уласных дзяцей, той мамай-рыбкай, якая бязлітасна і бяздумна, не разумеючы, што яна робіць, паядае сваіх жа дзетак-рыбак!

На хвіліну Зінаіда Пятроўна жахнулася гэтага параўнання. Пастаралася супакоіцца. Выкінуць хутчэй усё з галавы. Але думкі дакучліва змагаліся з яе жа-

даннем. І яшчэ, гэтак жа дакучліва, як няпрошаны госць у хату, лез ва ўспаміны стары Флёра Клімчук.

Флёра жыў непадалёку ад яе. Яго ўсе паважалі, шанавалі, можна сказаць, любілі. Зычлівы, чулы чалавек, хоць да раны прыкладай. Мухі не пакрыўдзіць. Як пачалася вайна, яшчэ тая, 1939-га года, калі прыйшлі савецкія войскі, ён уцёк у лес. З якой нагоды, ніхто не ведае. Як, з кім і супраць каго ён ваяваў, Зінаіда Пятроўна таксама ніколі не ведала. Ды і ніхто не ведаў. Скуль ты даведаешся такія рэчы? А калі хто што чуў, то маўчаў. Народ тут такі. Прывык маўчаць. Праўды ніхто не скажа. Асабліва ўладам. Бо прывыклі за столькі гадоў – што ні ўлада, то чужацкая. Дабра ад яе не чакай. Добра, калі не забілі. І за тое дзякуй.

А ўжо ў 1944-м, калі прыйшлі савецкія войскі яшчэ раз, высветлілася, што атрад Флёры, партызанскі і геройскі, так даваў гітлераўцам пад хвост, што аж пер'е ляцела. І першую савецкую ўзнагароду Флёра атрымаў акурат тады. І быў залічаны ў рэгулярнае савецкае войска ў званні сяржанта. Браў Берлін. Прыехаў адтуль праз палявы шпіталь. З медалямі, але ўвесь пакалечаны. Уладкаваўся працаваць у школу і рабіў там розную чорную працу. Якую скажуць, такую і рабіў. І маўчаў. Як усе тут маўчаць. Ні з кім не задзіраўся і нікога не чапаў. І, у адрозненне ад ветэранаў, якія прыехалі з усходу, сваімі вайсковымі геройствамі не кічыўся. І медалі не насіў. Нават на Дзень Перамогі не надзяваў. Толькі казаў, што забіваць людзей - гэта кепска. Гэта ўспамінаць цяжка. Пра такое не гавораць.

Яго надта любілі дзеці. Бо ён ім то яблыкаў прынясе, то з дрэва што змайструе. А аднаго дня на радасць і ўцеху ўсім, а асабліва Зіне, прынёс акварыум з рыбкай. Акварыум быў невялічкі, трафейны. Як пасля высветлілася, нямецкі. Але для Зіны ён стаў самым любімым прадметам. Яна кожны перапынак прыбягала ў жывы куток і назірала за рыбкай. Такой прыгожай, элегантнай, пластычнай, з доўгім хвастом. Зіна не магла адарваць вачэй ад гэтай грацыёзнай істоты. Яна сачыла за кожным яе рухам і цешылася кожнаму ўзмаху яе плаўнікоў.

Аднойчы нейкія хлопцы прывалаклі з сабой аблезлага ката і сталі палохаць Зіну, што аддадуць кату яе рыбку. Дзяўчынка так плакала, што прыйшлося выклікаць лекара. Тады зноў ёй дапамог Флёра.

– Ах вы, скуралупы, жывадзёры! – крыкнуў ён на хлопцаў. – А ці можна ж здзекавацца з жывога? Яно ж жыць хоча, як і вы.

І прагнаў іх.

Калі арыштавалі Флёру, яна не ведала. Ніхто ёй не сказаў. Яе бацькі маўчалі, як і ўсе астатнія грамадзяне. А ўсе астатнія грамадзяне маўчалі так, як і яе бацькі. Толькі дзяўчынка чула, што людзі шапталіся, нібыта нехта на некага данёс, што Флёра ваяваў за свабодную Беларусь.

І яшчэ памятае, як заўважыла, што старога Флёры больш няма ў школе і печку паліць бабка Зоська. Зіне тады і ў галаву не прыйшло, што здарылася нешта кепскае. Яна па-ранейшаму прыходзіла да сваёй любімай рыбкі і цешылася яе хараством. Пляскала

ў далоні на кожны рух воднай істоты. Рагатала, падміргвала, бавілася. А як рыбка вывела яшчэ некалькі маленькіх рыбак, ледзьве не самлела ад шчасця. Ад чыстага і светлага дзіцячага шчасця.

Цяпер яна магла назіраць за мамай і дзецьмі. І гэта была вышыня яе дзіцячых пачуццяў ды эмоцый.

Толькі радавацца ёй давялося нядоўга. Рыбка-мама ўзяла і на вачах дзяўчынкі паела ўсіх сваіх рыбак-дзетак.

Спачатку дзяўчынка стаяла моўчкі. Яна на нейкі час аслупянела, як засохлы дуб. Пасля ў яе душы прачнулася нешта моцнае і неўтаймаванае. Не. Гэта была не злосць, не нянавісць, не помста. Гэта было пачуццё справядлівасці. Бязмежнае, велічнае і неадольнае пачуццё яе наіўнай і бескампраміснай дзіцячай справядлівасці. Гэта было яшчэ няспелае, эмацыйнае, бяздумнае, такое неасэнсаванае і размытае, першароднае і натуральнае пачуццё простай чалавечай справядлівасці.

Яна адчыніла вакно, узяла ў рукі акварыум і з усяе сілы кінула яго на каменны і маўклівы холад брукаванай школьнай дарожкі.

## Паштоўка палітвязню

Аб'яву Марына ўбачыла выпадкова. У сацыяльных сетках. Нават не памятала, на якой спачатку. Здаецца на фэйсбуку. Ды і якая розніца? Нехта з сяброў яе перапосціў з профіля "Гарадзенскай бібліятэкі". А ёй яна ў вочы кінулася, як маланка ўначы, калі глядзіш праз вакно ў цемру і марыш пра поўную цішыню. А вечар тады быў нудны і сумны, нібыта вочы галоднага калгаснага цяляці. Няроўны стукат дажджу за вакном толькі ўзмацняў мелодыю самоты, што ўжо пачала браць небяспечна глыбокія ноты на ўнутрысардэчным раялі, якія ў сваю чаргу сталі нашэптваць песімістычныя матывы. Адзіны, хто мог імгненна змяніць сумную мелодыю на рамантычна-аптымістычную, - гэта яе любы Алег. Але ён не тэлефанаваў.

Не тэлефанаваў. Таму Марына праглядала сацыяльныя сеткі без настрою, без асаблівай цікавасці і ўвагі, што цалкам адпавядала яе агульнаму стану і настрою. Але вось профіль таго сябра, дзе з'явілася аб'ява, быў пад нацыянальнымі беларускімі сімваламі бел-чырвона-белага колеру. Пад тымі сімваламі, што прыцягваюць да сябе павышаную ўвагу ўсіх трох тыпаў беларускіх грамадзян. Калі, канешне, людзей можна класіфікаваць адпаведна з іх стаўленнем да нацыянальных колераў. Дык вось, яны прыцягваюць да сябе ўвагу не толькі першай катэгорыі, хто змагаецца за іх, і не толькі другой, хто зарабляе сабе на свой лакейскі хлеб змаганнем з імі. Але прываблівае і кожнага іншага беларуса, генатып якога яшчэ не сцёрся канчаткова пад уплывам больш чым двухсотгадовай

хлусні, якую прыйшлося слухаць і вытрымліваць ужо шматлікім пакаленням беларусаў.

Марына належыла да трэцяга тыпу людзей. Да тых, генатып якіх яшчэ не сцёрся канчаткова і нешта памятаў. Але памятаў не абвострана, без неадольнай прагі адстойваць сваё. А так, проста памятаў. Пасіўна так. Вока гэтыя колеры нечым вабілі, у сэрцы нешта краналася. Але, што іменна там кранаецца, яе не вельмі моцна цікавіла. Не тое, каб зусім не цікавіла. Цікавіла. Але не вельмі моцна.

А вось гэтым разам яна чамусьці не змагла адвесці вачэй ні ад саміх колераў, ні ад тэксту пад імі. А тэкст быў кароткі і абсалютна зразумелы, як стрэл з навагодняй петарды:

“У Гародні пройдзе акцыя “Гарадзенцы ў падтрымку палітвязняў”. У сераду 10 ліпеня ад 16.00 да 20.00 па адрасе: вул. Будзённага, 48а (зала ва ўнутраным дворыку) кожны ахвотны зможа напісаць паштоўку беларускім палітвязням. У часе акцыі выступіць вядомы гарадзенскі музыка Алесь Дзянісаў з сябрамі.

Уваход вольны, удзел нічога не каштуе. Асадкі, паштоўкі і высылку адрасатам гарантуюць арганізатары акцыі. Пры сабе дастаткова мець толькі падрыхтаваны тэкст са словамі гонару і падтрымкі палітычным зняволеным у Беларусі”.

Рука сама пацягнула камп’ютарную мышку і навяла стрэлку на маніторы на надпіс “падзяліцца”. І хутка ўжо Алег запытаў яе па тэлефоне:

– Прывітанне, малая, – загучаў такі родны голас каханага. – Вось не думаў, што ты аж настолькі вырашыла мяне здзівіць, што пачала збіраць мітынгі. З чаго гэта?

– Ды не збіраю я нічога, – усміхнулася яна. – Так, перапосціла аб’яву. Чаму б не перапосціць, калі людзям трэба? А ты пазваніў, каб спытаць гэта ў мяне?

– Ну, ясна, што не, – яго голас гучаў міла і пяшчотна. – Я патэлефанаваў, каб чарговы раз паведаміць, што кахаю цябе. І хачу гэта сказаць сёння яшчэ раз не па тэлефоне, а гледзячы табе ў вочы. Так што накідвай што-небудзь прыстойнае сабе на плечы ды шалёнай куляй вылятай на вуліцу. Я ўжо чакаю ля пад’езда, як укапаны слуп з пабітым ліхтаром.

– Дождж ідзе, – крыху папрыдурвалася яна, згодна з этычнымі нормамі паводзін юначкі, што выпрацаваліся ў выніку шчырага выхавання строгімі бацькамі і разумення маральнага зместу прачытаных у юнацтве кніг. Хоць на душы адразу стала светла ды ўтульна і захацелася хутчэй накінуць што-небудзь прыстойнае або не зусім прыстойнае сабе на плечы ды шалёнай куляй вылецець на вуліцу, дзе, як укапаны слуп з пабітым ліхтаром, чакае яе каханы.

– Маю парасон, – крыху дабавіў металу ў тэмбр голасу ён. Дабавіў выключна для таго, каб дзявочыя прыдурванні не зацягнуліся занадта.

– Я стамілася сёння на занятках, – ласкава мяўкнула яна.

– І я, – ласкава гаўкнуў ён.

– Ну, хіба толькі ненадоўга, – папрасілася дзяўчына.

– Да той хвіліны, як ты мяне адпусціш, – жартуючы, прапанаваў хлопец.

– А як зусім не адпушчу? – засмяялася юначка.

– Я згодны, – засмяяўся юнак.

– Алег, ты і мёртвую ўгаворыш!

– Гэта я ўмею. Але ж ты жывая.

– Жывая. І твая. І жыву дзеля цябе.

– Аналагічна.

Яны ішлі, узяўшыся за рукі. І дакраналіся адно аднаго. І ўсміхаліся. І глядзелі адно другому ў вочы. А навокал так дыхалася іх каханнем, што мінакі з зайздрасцю азіраліся ўслед ім. І здавалася, дрэвы зноў вось-вось зацвітуць, як увесну. І нават дождж замілаваўся імі, злітасціўіўся і крыху супакоіў свой імпэт. А пасля і зусім перастаў надакучаць. Але вяртацца назад сапраўды трэба было. Вечна так. Шчасце не можа быць вечным нават у межах аднаго вечара. Дзіўнае яно, шчасце. У межах жыцця бывае вечным. Рэдка, раз на мільён, але бывае. У межах вечнасці – абавязкова. Тут, паводле адной філасофіі, усе мусяць некалі стаць шчаслівымі. А вось у межах аднаго вечара…

– Можа, па хатах? – няўпэўнена спытала яна. – Заўтра дзень цяжкі. Уставаць рана. Я і так тры дні практыкі прапусціла ўжо.

– А чаго прапусціла?

– Чаго, чаго? Праз цябе. Сам жа мяне звёў. Забраў тады з кампаніяй тваіх прыдуркаў на шашлыкі.

– А што, кепска было?

– Ды не, было добра. Толькі потым…

– Але ж ты сама казала, што ніхто не заўважыць!

– Заўважылі, як бачыш. І заўтра заўважаць. Таму пайшлі хіба, – прапанавала дзяўчына.

А так не хацелася вяртацца. Ажно гаворка пайшла нейкая не такая. Не пра каханне. Зусім не пра каханне. Хлопец і сам не зразумеў, навошта закрануў іншую тэму. Не збіраўся ж. Але…

– Што ты там чужыя аб'явы сабе на сцяну ставіш? – занепакоена, нават шчыра занепакоена прабубнеў Алег. – Ты ведаеш, што за такое ў цябе могуць быць нашмат большыя праблемы, чым за ўсю прапушчанаю практыку.

– За што гэта? – вылупіла яна вочы.

– А за палітвязняў тваіх. Ты як дзіця ўсё адно і не разумееш, чым гэта можа кончыцца! Нашто ты пра іх пішаш?

– Ды ні пра кога я не пішу! Проста перапаставіла інфу. Што тут такога?

– А ты ведаеш, што ў нас нават выкладчыка з працы выперлі за нешта падобнае. І не аднога. Кніжкі яны нейкія пісалі. Пра гераічнае мінулае нашага горада. Таксама думалі, што нічога такога. Ну вось і дапісаліся. Праз тыя кніжкі цэлы факультэт зліквідаваць могуць. Не магу сказаць, што гэтак жа гераічна, затое хутка. А з табой дык увогуле ніхто няньчыцца не будзе. А ў цябе стыпендыя павышаная…

– Ты мне натацыі вырашыў пачытаць? – перабіла яго Марына. Раззлавалася. Моцна раззлавалася.

– Нічога я табе не чытаю, – патлумачыў Алег. – Я

перажываю за цябе. Навошта табе гэтыя праблемы?

– Але я не магу ўцяміць, адкуль у мяне праблемы павінны ўзяцца? Сам падумай. Ну, паставіла я чужую аб’яву! І што? Па-першае, яе ўжо і няма. Яна ўніз зляцела. І наўрад ці яе хто заўважыў. Ну, а калі хто і бачыў, дык гэта толькі мае сябры.

– Дык вось, сябры твае ў першую чаргу і данясуць на цябе, сяброўку бесталковую, – Алег спыніўся і шматзначна глянуў на дзяўчыну. – Сяргея ведаеш? Сябра майго. Ён увогуле нічога не рабіў. Праходзіў па горадзе, калі нейкія маўклівыя акцыі былі. Ну і пляскаў у далоні разам з усімі. Дык яму і начальства на працы папляскала па адным месцы, і ў адзін цікавы кабінет на размову выклікалі. А як ты думаеш, хто данёс на яго? Зразумела, што сябры. Як іх прыціскаюць, яны тады ўсіх выдаюць. А некаторыя і без прыціскання. Каб сабе дывідэнты якія набыць на праблемах іншых.

– І што з ім сталася?

– Ну, пакуль нічога не сталася. Бо з сацыяльных сетак ён увогуле сябе выдаліў. І на ражон больш не сунецца. Ходзіць па Гародні ледзьве не на пальчыках. Яго так папярэдзілі, што зараз нават артыстам не апладзіруе, не тое што на плошчах пляскае. А ў цябе стыпендыя, аўтарытэт і, адпаведна, зайздроснікі. Зараз яны сябры на фэйсбуку. Але гэтыя сябры ўжо даносяць на цябе па месцы тваёй вучобы. Упэўнены ў гэтым. А можа, куды і пастрашней за месца вучобы.

– Ты сам разумееш, што ты пляцеш? – не вытрымала дзяўчына і павысіла голас. – Мы што, баімся

ўжо па сваім горадзе хадзіць? Баімся ў свае далоні пляскаць? Нават артыстам? Баімся ў фэйсбуку перапісвацца? Можа, увогуле схавацца пад тоўстую, як бронекамізэлька, коўдру ды не высоўвацца?

– Ну, калі пад коўдру са мной… – хацеў аджартавацца юнак, але яго прэтэнзіі ўжо закранулі яе. Глыбока закранулі. Вельмі глыбока. Нават раз'юшылі. Па-сапраўднаму. Як гарадскога randomaродзістага ката доўгая адсутнасць ў ягонай місцы ежы.

– Ты не прыдурвайся, – адрэзала яна. – Табе самому не сорамна прызнацца, што ты такі баязлівец? Ой, мужчына! Абаронца краіны і сям'і! І сваёй дзяўчыны абаронца, зразумела ж! Мне страшна з табой ісці стала. Глядзі, на вуліцы цёмна. Ты не паміраеш ад страху? А то жудасьць як жахліва. Не бойся. Я з табой. Абараню ў разе чаго!

– Ды перастань ты юродстваваць, – цяпер ужо абразіўся ён. Моцна абразіўся. Яшчэ мацней, чым гарадскі randomaродзісты кот доўгай адсутнасцю ў яго місцы ежы. – Я пра цябе думаю, а ты іранізуеш з мяне.

– А я дастаткова дарослая, каб самой пра сябе падумаць! – крыкнула Марына і вырвала свой локаць з яго рукі, за які ён узяўся хіба для таго, каб спыніць спрэчку. – Пусці, мне дахаты пара, – задэкларавала жорстка, тонам, які не церпіць пярэчанняў.

– Ну і валі! – не стрымаўшыся, выкрыкнуў ён.

І яна, рашуча павярнуўшыся, пайшла. Спачатку спакойна, роўным, як на парадзе, крокам. А пасля міжволі паскорылася і пабегла, прыкрыўшы твар левай далонню.

Ён спачатку махнуў рукой і хацеў кінуць услед:

“Ідзі, ідзі”. Пасля схамянуўся. Развёў рукі ў бакі. Пляснуў імі.

– Марына, – выгукнуў. – Марынка! Пастой! Ну, стой ты, прашу цябе!

Але яна ўжо бегла так хутка, што спыніцца магла б толькі паваліўшыся. Але не паваліласе. Хацела спачатку. На адно калена. Ці на два. Толькі крыўда на Алега ў той момант была крыху большай, чым жаданне памірыцца вось зараз. Таму і перадумала падаць. Нават на адно калена перадумала.

Бацькі ўжо былі ў хаце. Яна не хацела, каб яны бачылі яе такой узбуджанай, такой знерваванай. Пастаралася цішком, на пальчыках, праціснуцца ў свой пакой. Нават атрымалася. Ніхто не заўважыў. Можа, таму, што бацькі таксама нешта голасна абмяркоўвалі.

– Ты не ўяўляеш, – грымеў бацькаў голас. – Працаваць зусім стала немажліва. Не даюць! Я ўсё жыццё там працую. Усяго нагледзеўся. Толькі такога, як зараз, ніколі не было. Кожны баіцца ініцыятыву праявіць. Усе чакаюць загаду з вобласці, а то і з Мінска. Куды гэта ўсё коціцца?

– Ой, думаеш, у нас лепш? – уздыхала маці. – Нават настаўнікаў з вялікім стажам прымушаюць пісаць анікому не патрэбныя планы. Бясконцыя праверкі. Ідэалагічную працу ўвялі. Як у Савецкім Саюзе было. Нават горш. Рукі апускаюцца. Які тут узровень ведаў будзе? Глянь, ці Марына прыйшла. Курыца ўжо гатовая. Пара за стол сядаць.

Бацька асцярожна, нібыта хацеў прашпіёніць

нешта сакрэтнае, прыадкрыў пакой Марыны. Ён быў інтэлігент па прыродзе. Акуратны, уважлівы, прыстойны. Зазірнуў туды нясмела, як кот у чужую торбу. І толькі пасля, нічога не заўважыўшы ў цемры, пацягнуўся рукой да ўключальніка святла.

– Тут я, – адгукнулася дзяўчына. – Толькі есці не хачу. Вячэрайце без мяне.

Бацька з першага позірку зразумеў, што дачка нечым расхваляваная. Здушаны голас юначкі толькі пацвярджаў здагадку. Улічваючы яе ўзрост і закаханасць, няцяжка было здагадацца, чым яна расхвалявана.

– Ты што, з Алегам пасварылася? – запытаў ён. – Нічога, памірыцеся. Ён у цябе закаханы больш, чым сабака ў цялячыя сардэлькі вышэйшай якасці, украдзеныя п’яным вартаўніком з Ваўкавыскага мясакамбіната, – вырашыў паправіць настрой дачкі жартамі.– Не перажывай. У закаханых так бывае.

– Нічога я не пасварылася, – уздыхнула дзяўчына. – Проста ён перастае бачыць ува мне чалавека. Як той сабака не бачыць чалавека ў п’яным вартаўніку з Ваўкавыскага мясакамбіната, – усміхнулася ў адказ, падтрымаўшы бацькаў жарт.

– А што такое?

– Разумееш, тата, – пачала яна, – ён мне пачаў указваць, што ставіць на сваю сцяну ў фэйсбуку, а што не.

– Ну, гэта недапушчальна, – ці то жартам, ці то ўсур’ёз падтрымаў бацька. – Хіба ён цябе проста зарэўнаваў. Ты, можа, на яго думку, з кім фліртаваць стала ў сацыяльных сетках?

– Якія там флірты! Была аб’ява ў некага. Таксама

перапастаўленая. З “Гарадзенскай бібліятэкі”. Я яе паставіла на сваю сцяну. А Алег пачаў вучыць мяне, што можна ставіць, а чаго нельга. Што я, дурніца якая?! Сама не разбяруся! Без яго парадаў не абыдуся?! А яшчэ павучаць мяне стаў, як прыдурачную якую. Зняважыў.

– Ну, гэта ён перагнуў палку, канешне. Але ўсё наладзіцца, – супакоіў бацька. І сам крыху супакоіўся. – А што за аб’ява такая? – спытаў.

– Ды звычайная. Нічога такога. Запрашаюць людзей на акцыю. Паштоўкі палітвязням будуць падпісваць.

Бацька насцярожыўся, як заяц, якога акружылі два з паловай дзясяткі ліс. Нават больш, чым два з паловай.

– Якія палітвязні? – працадзіў ён праз зубы, як сок праз марлю. – Ты думаш, што ты такое пляцеш? – павысіў голас бацька.

– А што я раблю такога?!

– Табе вучыцца трэба! І не сунуцца ў палітыку! Спецыяльнасць трэба атрымаць!

– А я і вучуся! Я кепска вучуся?! – Марыны вочы сталі вільготнымі.

– Ціха, ціха, дачушка, – пачаў супакойваць бацька. – Давай пагаворым без непатрэбных эмоцый. Вучышся ты добра. Мы табой ганарымся. Толькі навошта табе хадзіць туды, дзе падпісваюць паштоўкі палітвязням?

– Ды я нікуды і не збіраюся хадзіць! І ад пачатку не збіралася! Я толькі перапаставіла аб’яву! Як усе ро-

бяць! Націснула гузік - і ўсё.

– Навошта?

– Разумееш, мы зараз так жывём.

– Хто мы?

– Мы, моладзь! І як бачым нейкую аб’яву, то стараемся яе парапосціць.

– Для чаго?

– Каб больш людзей яе прачыталі. Людзі звычайна звяртаюцца па дапамогу. Просяць дапамагчы хворым або знайсці свойскую жывёлу, якая прапала. Бывае нават людзі прападаюць. Іх нехта шукае. Некаторыя кватэры шукаюць. Ці яшчэ што. І такія перапастаўкі аб’яў дапамагаюць. Разумееш?

– Разумею. Толькі палітвязні тут пры чым? Ты ведаеш, у якія я пазыкі залез, як рэпетытараў табе наймаў? Па сённяшні дзень яшчэ не разлічыўся. І не ведаю, калі разлічуся. І ўсё для таго, каб ты паступіла ва ўніверсітэт, адукацыю атрымала, у людзі выбілася. І як мне будзе весела, калі цябе з універсітэта адлічаць? З-за тваіх аб’яваў пра палітвязняў. Хто табе тады дапаможа адукацыю атрымаць? Можа, палітвязні?

– Што ты гаворыш, бацька? – вочы дачкі сталі такія вялікія, як у начной савы. Хоць у Марыны вочы і так былі вялікімі, але зараз сталі яшчэ большымі. – Ці не ты мяне вучыў быць самой сабой? Нічога не баяцца? Не дрыжаць? Умець выказваць сваю пазіцыю? Хаця б мець яе! Сваю пазіцыю!

– Я, – кіўнуў ён галавой у знак згоды. – Я, я, я і яшчэ раз я! Толькі я цябе вучыў і галаву на плячах мець. Праўда? А цяпер падумай галавой. Чым ты

ім, палітвязням тым, можаш дапамагчы? Ну, напішаш ім паштоўку. Яшчэ невядома, ці дойдзе яна. Да іх ці дойдзе - невядома. У іншае месца то абавязкова дойдзе. А нават калі дойдзе да іх. Яны ж цябе нават не ведаюць. Паштоўкай больш, паштоўкай менш - ім ад гэтага лягчэй не будзе. А ў цябе могуць праблемы пачацца з вучобай. Ты думаеш, каб гэтым ім можна было дапамагчы, я не пісаў бы паштоўкі сам? Ды кожны дзень пісаў бы! І ўначы яшчэ! Толькі што з таго толку?

– Ты ж сам галасаваў за гэтага, як яго, Саннікава, – заплакала дзяўчына. – І іншых агітаваў. Які ў тым толк быў? А цяпер што? У кусты?!

– Галасаваў. Так. Было. Бо надзея была. А зараз чаго тузацца? Які сэнс? Дзе логіка? Толькі сабе нашкодзіць? Ну, выпруць мяне з працы. Хто цябе карміць будзе? Хто пазыкі за мяне аддасць? Палітвязні? Ды яны і не ведаюць пра мае праблемы. І пра мяне. І пра цябе не ведаюць. Ды і Саннікава ўжо выпусцілі. І іншых выпусцяць, як час прыйдзе.

– Чаго ж вы з мамай тады стогнеце на кухні, што ўсё ў нас не так?

– Бо хочацца як лепш. Але сама прыкінь. Яны, тыя палітвязні, ведалі, на што ідуць. Нехта, можа, зарабляў добра. Ці марыў выбары выйграць. Ім было за што рызыкаваць. І зараз яны маюць пэўную падтрымку. Ведаюць, за што змагаюцца. За імі ўвесь свет стаіць. Іх там не кінуць. А калі нас прыцісняць, хто нам дапаможа? Хто за нас заступіцца? Я табе адкажу на гэтае пытанне. Ніхто! Вось і ўся розніца.

– Можа, яно і так. А можа, і не, – задуменна ўздых-

нула Марына. – Я чамусьці веру, што чалавек здольны змагацца за ідэалы проста таму, што іх мае. Што верыць у іх. І мне прыпамінаецца, што і ты, і мама мяне гэтаму вучылі. Нават настаўнікі ў школе вучылі так. На прыкладзе герояў класічнай літаратуры і жыцця гістарычных постацяў. І навучылі, што людзі могуць і мусяць адстойваць тое, у што вераць. Без падтрымкі аднекуль, без выгады якой! Шкада што ты ў гэта ўжо не верыш. Няўжо і я стану такой з гадамі?

– Не, не станавіся, – бацька апусціў галаву. Мінут пяць маўчаў, як статуя на плошчы. Як заняло ўсё адно. – А ведаеш, ты ў чымсьці маеш рацыю, – нарэшце адгукнуўся. – Я зараз табе гаварыў прыкладна тое, што гаварылі мне калегі па працы, як я агітаваў за кандыдата ад апазіцыі. А я быў упэўнены, што людзі так кажуць са страху. Бо баяцца штось рабіць, вось і апраўдваюць сябе гэтымі развагамі. Праўда твая. Прабач мне. Калі хочаш, падпісвай паштоўкі. Толькі маці не кажы раней часу. А то ўсё зноў пачнецца.

– Ды не збіраюся я нікому нічога падпісваць! – узняла вочы дзяўчына. – І не збіралася! Я ж ужо казала пра гэта. Толькі аб’яву перапасціла. Можа, хтосьці захоча, то хай ідзе падпісвае. Каб іншыя ведалі, перапасціла тую аб’яву! Ды нават проста выпадкова перапасціла. Проста так. Не ведаю нават чаму!

– Ідзём вячэраць, – прапанаваў бацька і пастараўся ўсміхнуцца. Хоць выгляд меў настолькі збянтэжаны, як вегетарыянец, які ў банцы з ёгуртам знайшоў свіное вуха. І свіны хвост у прыдачу. – А то маці злавацца будзе. Хадзем давай.

Вячэра была смачная. Як заўсёды ў матулі. Толькі Марына аніяк не магла пазбавіцца ад незразумелай напружанасці. Маці гэтага не заўважала. Яе ўвагай цалкам завалодаў маленькі тэлевізар, які кожны вечар на кухні распавядаў ёй пра жудасныя душэўныя пакуты нейкага аргентынца Хуліо, які ўжо сто трыццаць восьмую серыю запар так і не мог уцяміць, што Анна-Марыя кахае яго, а не Эрнэста, яго ворага.

А вось бацька сядзеў задуменны і сумны. Марыне здавалася, што яму няёмка перад ёй за немужчынскую слабасць, якая спантанна была авалодала ім. Яна ведала, як ён яе любіць, таму самой было неяк не па сабе. У гэтай неадназначнай сітуацыі тэлефон загаласіў вельмі дарэчы. Звычайна тэлефоны звоняць не тады, калі хочацца. Нібыта іх намаўляюць на стварэнне нязручнасцяў. Але гэтым разам тэлефон апраўдаўся за ўсе былыя казусы, створаныя ім. Тым больш званіў Алег.

– Як ты там, малая? – пачаў ён размову ў сваёй звычайнай манеры.

– Пачакай крыху, – адказала дзяўчына, падзякавала маці за вячэру, міла ўсміхнулася бацьку і павалілася на ложак у сваім пакоі. – Усё нармальна. А ў цябе што? – пацікавілася.

– А што ў мяне?! Сяджу вось, перажываю! Не магу ніяк уцяміць, чаго ты так уз’елася на мяне. За што? Я ж цябе кахаю! Ну, сказаў нейкае глупства, дык не паміраць жа зараз.

– Не, не памірай. Ты мне жывым больш падабаешся. Але я і не ўз’елася. Усё добра.

Нядаўнюю крыўду як карова языком злізала. Ні-

чога ад яе не засталося. Эх, каханне-каханне!

– Ты ведаеш, я думаў пра нашу размову, – узрадваўся знікненню непаразумення юнак. – Не магу ўцяміць, навошта я яе пачаў. Я так не думаю, як сказаў. Па вялікім рахунку, ты маеш рацыю. Я проста перажываю за цябе. Ну вось і атрымалася па-дурному неяк. Але ты залезь зараз у інтэрнэт. На фэйсбук. Паглядзі.

– А што там?

– Ну ты паглядзі!

– Лянота мне. Ды і мае злуюцца, як я па начах у нэце сяджу. Ты сам скажы.

– Ну, добра. Слухай. Уважліва слухай. Я паставіў тую аб’яву сабе на сцяну. З твайго профілю перапосціў.

Яна аж запішчала ад эмоцый, якія раптам выбухнулі недзе ў сярэдзіне душы. І палезла адразу па ноўтбук. Настрой скокнуў на дзесяць балаў уверх па дзесяцібальнай шкале вымярэнняў. І яшчэ вышэй. Толькі там ужо шкалы няма, каб памераць.

– А навошта? – Спыталася.

– Каб цябе парадаваць.

– Парадаваў.

– І яшчэ, каб ты зразумела, што я не тое хацеў сказаць, што сказаў.

– Я зразумела.

– І ведаеш, я пайду з табой таксама падпісваць тыя паштоўкі. Палітвязням.

– Алег, – узмалілася дзяўчына. – Не трэба гэтых

ахвяраў. Ты зразумей, я не збіраласяісці нікому падпісваць ніякіх паштовак!

– Праўда?

– Ну, праўда! І зараз не збіраюся. Я ўсяго толькі паставіла інфармацыю. І ўсё. Мне, канешне, цікава пабольш даведацца пра гэтых людзей. Але я пакуль нікога з іх асабіста не ведаю. І яны мяне таксама. Таму нічога я пасылаць ім не буду. Думаю, у іх багата паплечнікаў, якія з імі лістуюцца. То хай яны і пасылаюць.

– А вось тут я не цалкам з табой згодны, – задуменна, нясмела, каб зноў не актывізаваць канфлікту, прамовіў Алег. – Ты супярэчыш сама сабе.

– Як гэта?

– А так! Калі ты лічыш, што ім павінны пісаць выключна паплечнікі, то навошта паставіла аб'яву? Яна яўна не на паплечнікаў разлічана, бо тыя і так лістуюцца. Яна запрашае іншых людзей, неабыякавых да лёсу палітзняволеных, далучыцца да гэтай акцыі.

– Ну, так,– пагадзілася яна, шырока і шчыра ўсміхаючыся ў экран ноўтбука.

Фэйсбук ужо загрузіўся. Але яе ўсмешка ззяла яшчэ ярчэй, чым экран ноўтбука ў цёмным пакоі. Яна глядзела на аб'яву, якую яе каханы перапаставіў з яе сцяны на сваю, як галоднае кацянё глядзіць на гаспадыню, якая налівае ў яго міску малако. Як маленькі дзіцёнак на матулю, што працягвае яму цукерку. Як зранку з дзікім галаўным болем муж-алкаголік глядзіць на такую жонку, якая ласкава і з усмешкай падае яму поўную аж па краі шклянку гарэлкі. А цешча прапаноўвае піва.

І ёй было цёпла на сэрцы. Цёпла і ўтульна. Утульна і пяшчотна. Бо ён яе кахае. І даказвае гэта. І яна больш не хоча з ім сварыцца. Ніколі. І зараз трэба ёй зрабіць крок у адказ. Пагаджацца з ім. Ва ўсім пагаджацца. Пацешыць яго. Парадаваць. Усяліць у яго сэрца такія ж эмоцыі, якія атрымала.

– Ты даруй мне сённяшнія капрызы, – прамямліла яна голасам вінаватай, але мілай і ласкавай котачкі. – Я не хацела сварыцца. І больш мы не будзем гэтага рабіць. Добра?

– Добра.

– Я цябе кахаю!

– І я цябе!

– Я мацней!

– Не я!

– Я!

– Не спрачайся са мной1 Ты толькі што абяцала!

– Не буду.

Далей яны гаварылі выключна пра сябе. Гаварылі доўга. Яны часта гаварылі перад сном вельмі доўга па тэлефоне. Не хацелася развітвацца. Ні яму, ні ёй. Нават ноч не магла сваёй нябачнай сілай сплюшчыць іх вочы сном. Яны б гаварылі бясконца. Толькі разуменне таго, што бязлітасны ранак адпомсціць ім, нагадаўшы з дапамогай будзільніка, што трэба падымацца, чарговы раз прымусіла пераадолець прагу паслухаць адно другога яшчэ.

– Пара ўжо. Заўтра рана ўставаць, – зноў, як і трэба па этыкеце, першай прапанавала развітацца дзяўчына.

– Ну, так, – неахвотна пагадзіўся юнак.

– Дабранач.

– Дабранач.

Ранак, як і прадбачылася, быў сапраўды бязлітасным. Марына снедаць адмовілася, на аўтамаце зрабіла ўсе ранішнія працэдуры і толькі пасля гэтага неверагоднымі высілкамі змагла расплюшчыць вочы да канца. На практыку яе падвёз на машыне бацька, таму ўдалося не спазніцца. І толькі тады, калі да яе падышла сяброўка Люда, якая па сумяшчальніцтве была яшчэ і аднакурсніцай, і калегай па практыцы, ды нечакана ў лоб задала пытанне, Марыне ўдалося канчаткова прачнуцца.

– Ты ў апазіцыю запісалася ці што? – вылупіла вочы яна так, нібыта слова апазіцыя было сінонімам словаў вораг народ.

– З чаго ты ўзяла?

– Ты ж збіраеш людзей падпісваць паштоўкі палітвязням.

– Нікога я не збіраю. Перапрасіла выпадкова.

– А не баішся?

– Чаго?

– Ясна чаго. Праблемаў з вучобай. Памятаеш, былі ў нас вельмі актыўныя хлопцы. Вучыліся разам. Дык ужо не вучацца. Толік, прыкладам. Ён зараз у Польшчы па нейкай праграме Каліноўскага давучваецца. Казаў, добра там. Ты, можа, таксама вырашыла на гэтую праграму стартануць? Прызнавайся. Мне прызнацца можаш. У мяне язык заўжды за зубамі. А зубы на замку.

– Навошта? – Марына паціснула плячамі. – Мне і тут добра. Мяне мая вучоба задавальняе. Не хачу я нікуды ехаць давучвацца. Хай ужо там Толік без мяне, – пастаралася пажартаваць.

– То чаго стала такія аб'явы ставіць?

– Проста паставіла, і ўсё. А што, нельга? Не магу зразумець, чаму ўсе перапалохаліся. І бацька ўчора, і Алег. Ледзьве не пасварылася з абодвума. Што, мы ў Паўночнай Карэі жывём? Чаго ўсе баяцца?

– Ты як дзіця, – паціснула плячамі Люда. – Ты ж сама аб'яву тую ставіла! А што ў той аб'яве? Чытала ўважліва?

– Што? Не зразумела, пра што ты?

– Ну, дзівачка! А ў тваёй аб'яве чорным па беламу напісана, што паштоўкі будуць падпісваць каму?

– Палітвязням, каму ж яшчэ.

– Вось іменна! Так і напісана. Палітвязням. У нас, аказваецца, як сцвярджае твая аб'ява, ёсць палітвязні. Ну, а калі ў краіне ёсць палітвязні, то што гэта азначае?

– Што?

– А гэта азначае, што за актыўную сувязь з імі праблем можна нажыць хутчэй, чым твае паштоўкі да іх дойдуць. Калі яшчэ дойдуць.

– Але слухай, – пачала тлумачыць Марына. – Я з імі не маю аніякай сувязі. І мець не хачу. Але ж у нашай культуры і ў нашай рэлігіі, заўсёды віталася падтрымка тых, хто, не так важна, па якой прычыне, апынуўся за кратамі. Гэта ж так зразумела і натуральна: паспачуваць людзям, якім не пашанцавала, падтрымаць іх маральна. Што тут кепскага? Асабліва такім

людзям. Палітычным.

– А я і не кажу, што гэта кепска, – махнула рукой Люда. – Я сказала толькі тое, што гэта можа закончыцца непрадбачанымі клопатамі.

– А можа і не.

– Можа і не. Я не ведаю. Не варажбітка. А можа і так. Я пра разумны ўлік рызыкі.

– А знаеш што, – раптам, нечакана нават для сябе самой у Марыны ўзнікла рашэнне. – А я вось схаджу і пагляджу, хто там збіраецца. І чаму яны не думаюць пра праблемы так, як мы. А табе задам толькі адно пытанне: ці не замаладая ты, каб ажно так разумна ўлічваць ступень рызыкі?

– І паштоўку падпішаш? – здзівілася Люда.

– Паштоўку не, – упэўнена заверыла Марына. – Я ні з кім там не знаёма, і паштовак ад мяне ніхто не чакае. Ды і навошта мне падстаўляцца ажно гэтак? Але пайду і пагляджу, ці ўсе такія, як мы. Гляну, хто туды прыйдзе, чаму яны прыдуць.

– Там усе свае прыйдуць, – пераканаўча заявіла Люда. – Апазіцыя.

– Свае? А мы якія? Чужыя? Каму мы чужыя? Мы ж адзін народ! Нават у адным горадзе жывём!

– Ну, мала з кім мы жывём у адным горадзе.

– Усё. Я вырашыла. Я схаджу.

– Ну, ідзі. Потым мне распавядзеш. Толькі памятай, што палітычных зняволеных у нас няма. Я сама па тэлебачанні гэта чула. Прычым, з вуснаў вельмі ўплывовых дзяржаўных асоб.

Каханы сустрэў яе на вуліцы. Ён часта яе сустракаў пасля практыкі. Праводзіў дахаты. Часамі заходзілі куды ў кавярню ці да сяброў. Да сяброў часцей.

– Алег, мушу табе сказаць адну рэч, – адразу пачала дзяўчына. – Мяне Людка на каня падсадзіла. Не на белага, але на шалёнага. Знервавала ўшчэнт. Мяне носіць. Я месца не знаходжу. І ўсё з-за той аб'явы. У мяне такое ўражанне, што ўжо ўвесь свет прачытаў тую аб'яву і шчыра перапалохаўся за мяне. Дык вось, я вырашыла схадзіць туды.

– Давай, – усміхнуўся хлопец. – Я з табой.

– Ну, ты як хочаш. Неабавязкова. Я проста гляну, што там робіцца.

– І я гляну, – ён абняў яе за плечы. – Падпішам паштоўкі і пойдзем дахаты з пачуццём выкананага абавязку, – прапанаваў і ўсміхнуўся.

– Не. Думаю падпісваць мы не будзем. Я нават не ведаю каму. Але калі ты не супраць, то давай зойдзем. Паглядзім.

– Давай. А што бацька скажа?

– Ён не супраць.

– Ну то й добра. У цябе ўся сям'я - апазіцыянеры, – засмяяўся Алег. – Бацька твой, памятаю, за нейкага апазіцыйнага кандыдата агітаваў. Толькі пачакай мяне трошкі. Заўтра я крыху заняты. Таму сустрэнемся пазней ды пойдзем. Гэта ж будзе заўтра?

– Так. Заўтра. Толькі я пайду адразу. А ты , калі вызвалішся, тады і прыходзь. Я пачакаю цябе там.

– Добра. Так і зробім. Глядзі дачакайся.

Яна прыйшла нават раней, чым было напісана ў аб'яве. Дзверы ў пакой былі адчынены. Зайшоўшы туды, Марына ўбачыла некалькі чалавек, якія весела расказвалі смешныя гісторыі. Прапанавалі ёй прайсці. На сценах пакоя віселі партрэты людзей. Дзяўчына адразу ўцяміла, што гэта і ёсць палітвязні, якім тут будуць падпісваць паштоўкі. На сталах таксама стаялі іх партрэты, раздрукаваныя на звычайнай паперы. Пад выявамі людзей былі іх імёны і прозвішчы, коратка апавядалася пра іх, а таксама паведамляўся адрас, па якім яны адбываюць пакаранне. На яшчэ адным стале ляжалі паштоўкі і маркі. Ля іх асадкі, кніжкі, часопісы, брашуры… На сцяне вісеў вялікі бел-чырвона-белы сцяг. Сцяг з тымі колерамі, якія прыцягнулі яе ўвагу да профіля, на якім стаяла аб'ява. З тымі колерамі, які прыцягваюць да сябе ўвагу ўсіх трох тыпаў беларускіх грамадзян…

– Праходзьце, – сказаў ёй адзін з прысутных. – Можа, чым дапамагчы? – запытаў ён.

– Не, дзякуй. Я пачакаю тут свайго хлопца. Можна?

– Пачакайце, – дазволіў незнаёмец і зноў вярнуўся да сваёй кампаніі.

У пакой увесь час заходзілі людзі. Многія ведалі асабіста арганізатараў і ведалі, што рабіць далей. Яны віталіся з прысутнымі, бралі паштоўкі, падпісвалі іх. Але заходзілі і такія, якія, як і Марына, патрапілі сюды ўпершыню.

– Скажыце, а хто з іх сядзіць у гарадзенскай турме? – спытаўся адзін з такіх. – Мы, гарадзенцы, мусім

у першую чаргу гэтых падтрымаць, – сцвердзіў гэта велічна, з пачуццём гонару за тое, што ён робіць.

– А гэта як вы ўжо самі вырашыце, – адказалі яму, і паклалі партрэты двух чалавек. – Вось, пачытайце. Гэтыя людзі адбываюць пакаранні ў Гародні. Як што незразумела, то пытайцеся.

– А хто тут за плошчу сядзіць? – запытаў другі.

Яму таксама паказалі.

Марыну вельмі зацікавіла пытанне аднаго пажылога чалавека.

– Скажыце, – пытаў ён нейкім таямніча ціхім і насцярожаным голасам, як на сустрэчы рэзідэнтаў у савецкіх фільмах, – а мне за гэта нічога кепскага не будзе?

– Калі вы баіцеся, то не рызыкуйце, – адказалі яму. – Мы не страхавая кампанія і гарантый даваць не можам.

– Але ж я хачу падпісаць, – не супакойваўся чалавек. – Хачу падтрымаць хлопцаў. Толькі баюся. Не за сябе. За дзяцей. У іх там павышэнне па службе.

– Ну, то можаце не пісаць ад каго, – патлумачылі яму. – Паштоўку падпішыце, але не падпісвайцеся. І зваротнага адрасу не пазначайце. Так ніхто не будзе ведаць, ад каго яна. А людзям за кратамі, можа, будзе прыемна атрымаць і ад невядомага чалавека, які не падпісваецца.

Людзей заходзіла ўсё больш. Хтосьці падпісваў адну паштоўку і зыходзіў. Некаторыя бралі для ўсіх зняволеных. Дзяўчыне усё было вельмі цікава. Яна старалася зразумець матывы ўчынку гэтых людзей. Увогуле, хацела зразумець, што за яны, тыя людзі,

якія ідуць падпісваць паштоўкі незнаёмым зняволеным. І хто такія арганізатары ўсяго гэтага, і чаму арганізавалі. Якія ў іх матывы.

Час ляцеў хутка. Нарэшце з’явіўся і Алег.

– Прывітанне. Ну як ты, малая? – адразу запытаў ён.

– Нічога. Сачу вось за ўсім і ўсімі. Як шпіён, падасланы адсачыць дзеянні апазіцыі.

– Глядзі, каб цябе тут так і не ўспрынялі. Не падпісвала яшчэ? – усміхнуўся ён шчыра, упэўнены, што яна гэта зробіць.

– Не. Не падпісвала. Але камусьці аднаму я падпішу. Так мне захацелася. Ну, вырашыла я так.

– Тады і я каму аднаму падпішу. Як і ты. Ты не супраць?

– Не, канешне. Толькі не таму, каму я.

– Добра. Давай вырашаць хто каму.

– Давай. Тым больш што падпісвацца не абавязкова.

– Як так?

– А так. Чалавек атрымае паштоўку, і яму ўжо прыемна. А ад каго яна, ён і так не будзе ведаць. Падпішамся мы ці не, ён усё роўна нас не ведае.

– Ага, затое як не падпішамся, то і ніхто не будзе ведаць, што напісалі мы. Нават тыя, хто нас ведае добра.

– Ага, – і маладзёны рассмяяліся.

Яны селі за стол і сталі ўзірацца ў твары на партрэтах. Пасля ўважліва чытаць пра іх. Іх нават здзіўляла, што людзі, якія прыходзілі, ведалі практычна ўсё пра палітвязняў. Але вось ім было вельмі цяжка вы-

значыцца. Каго аднаго выбраць з гэтых пятнаццаці, партрэты якіх стаялі на сталах. І чаму менавіта гэтых людзей нехта абвесціў палітвязнямі? І хто гэты нехта?

– Вам нечым дапамагчы? – зноў ім прапанаваў той мужчына, які падыходзіў да Марыны раней.

– Ну так, – гэтым разам пагадзілася яна. – Мы вырашылі падпісаць па адной паштоўцы. Але не можам вызначыцца каму.

– Як па мне, то няма прынцыповай розніцы, каму вы падпішаце, – усміхнуўся той, – Кожны з іх варты падтрымкі. Гэта людзі, якія пакутуюць за свае перакананні, і наша маральная падтрымка ім неабходна. І, як я мяркую, гэта яшчэ больш, чым ім, патрэбна нам самім.

– Можа і так, – пагадзілася дзяўчына. – Але ж вызначыцца з кандыдатурай нейк трэба. Можа, вы нам распавядзеце коратка пра каго з іх. Напрыклад, вось пра гэтага, – і яна паказала на першы партрэт, які трапіў на вочы.

– Гэта Алесь Бяляцкі, – прысеў да маладзёнаў мужчына. – Ён атрымаў чатыры з паловай гады. Адбывае пакаранне ў Бабруйскай калоніі. Цяжкавата там. Асабліва яму. Бо адміністрацыя праяўляе да яго павышаную ўвагу. Гэта праваабаронца, віцэ-прэзідэнт Міжнароднай федэрацыі за правы чалавека. Таксама ён кіраўнік пазбаўленага ўладамі рэгістрацыі праваабарончага цэнтра “Вясна”. Пазбаўленага рэгістрацыі, як разумееце, за актыўную дзейнасць. Апошнім часам Алесь Бяляцкі сам дапамагаў пацярпелым і іх сем’ям. Таксама займаўся назіраннем за выбарамі. Думаю, такая бурная дзейнасць многім была не даспадобы.

– А хто ён у звычайным жыцці?

– Алесь Бяляцкі – пісьменнік, літаратурны крытык, журналіст. Мне асабіста яго творы падабаюцца. Раней быў дырэктарам музея Максіма Багдановіча ў Мінску. Жанаты. Мае сына. Грамадскай дзейнасцю займаўся ўсё дарослае жыццё. Натура ў яго такая, неабыякавая. Імкнуўся заўсёды людзей сарганізаваць на лепшае. Таму і паважалі яго ўсе, хто ведаў. Ён сапраўдны лідар, хоць і неверагодна сціплы і лагодны чалавек па натуры. Нездарма яго абвесцілі ганаровым грамадзянінам некалькіх замежных гарадоў. Прэстыжных міжнародных прэмій у яго безліч. Я нават сам іх пералічыць не ў стане. Некалькі разоў намінаваўся на Нобелеўскую прэмію міру…

– І што такі чалавек робіць за кратамі? – перабіла прамоўцу збянтэжаная дзяўчына. – Я, вядома ж, чытала пра яго. Але пачуць ад чалавека, які асабіста з ім знаёмы, - гэта нешта іншае. Вы ж з ім асабіста знаёмыя?

– Так, мы сябры. І я з вамі цалкам згодны, што такому чалавеку не месца за кратамі. Тут, на волі, у любым месцы ад яго было б значна больш карысці. Але ў заключным слове на сваім судзе ён добра растлумачыў, чаму ён за кратамі. Таму, што і ў такі час нацыя мусіць мець людзей, якія пойдуць да канца за праўду. Каб нашчадкі не праклялі наш час і наша пакаленне. І гэтыя людзі, партрэты якіх вы разглядаеце, можа, і ўратоўваюць усіх нас, хто сёння жыве на гэтай зямлі, ад праклёну нашчадкаў. Бо на вачах усіх нас нішчацца вечныя каштоўнасці. Такія, як нашы нацыянальныя сімвалы, наша мова… Шмат чаго. А абыякавых да гэтага безліч.

– А вы не думайце, што ўсе людзі абыякавыя, – запратэставала Марына. – Я многіх ведаю, хто ў душы падтрымлівае гэта. Проста жыць прыходзіцца па-іншаму. У кожнага свае прычыны. Умовы такія. Хоць, можа, яны маюць акурат такія перакананні, як у вашых палітвязняў.

– Я вам скажу вялікую мудрасць, – парыраваў расказчык. – Не я прыдумаў яе. Яшчэ старажытныя казалі, што чалавек, які не жыве паводле сваіх перакананняў, з'яўляецца ворагам ім.

– Гучыць пераканаўча. Я гэта адчуваю.

– А вось гэтыя людзі, партрэты якіх бачыце, жывуць па перакананнях. Можна не пагаджацца з перакананнямі каго з іх, ці нават усіх, але адмовіць ім у мужнасці і паслядоўнасці адстойвання сваіх поглядаў нельга.

– То я вырашыла. Я напішу Алесю Бяляцкаму. Зараз трэба вызначыцца майму хлопцу, – Марына пяшчотна глянула на Алега.

– Ну, так, – пацвердзіў той. – Распавядзіце мне пра гэтага чалавека, – ён узяў партрэт. – Я і сам пра яго чытаў. Але вы хіба знаёмыя і з ім асабіста.

– Так, знаёмы і з ім, – чарговы раз усміхнуўся расказчык. – Гэта Павал Севярынец. Ён зараз адбывае пакаранне ў Пружанскім раёне. Павал Севярынец - беларускі моладзевы хрысціянскі палітык і публіцыст, адзін з заснавальнікаў Маладога Фронту і адроджанай Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі. Таксама журналіст і літаратар. Як і Алесь Бяляцкі, шмат піша з няволі. І вельмі цікава піша. Раю пачытаць таксама. Думаю, не толькі беларуская, але і сусвет-

ная філасофская думка будзе вывучаць некалі яго нататкі. Таксама сціплы і вельмі прыстойны чалавек. Асуджаны не першы раз. Ужо аднойчы адбыў свой тэрмін. Але, як бачыце, патрапіў ізноў.

– Жанаты?

– Не. Малады яшчэ. Паспее. Можа, чакае сваё сапраўднае каханне, – і разказчык зноў засмяяўся. А пасля пасур'ёзнеў і ўзяў у рукі яшчэ адзін партрэт.

– Калі вас цікавяць жанатыя, то ёсць тут і такія, якія ў турме ажаніліся. Вось партрэт Зміцера Дашкевіча. Сядзіць у нашай гарадзенскай турме. Ён таксама малады, як вы. Ён аказаўся за кратамі. У яго засталася нявеста, Наста. Таксама вельмі актыўная. Яны вырашылі ажаніцца, пакуль ён зняволены. Шлюб адбыўся ў турме. Цяпер яна яго ўжо чакае ў статусе жонкі. І ўпэўнены, што дачакаецца.

– Як у рамане якім, – вырвалася ў Марыны. – Вы нам тут такія рамантычныя гісторыі распавядаеце.

– У нечым рамантычныя, у нечым даволі трагічныя. Самае галоўнае, і я ў тым перакананы, што нашчадкі будзуць ганарыцца гэтымі людзьмі. Іх жыццё будзе прыкладам.

– Ну, так, – нясмела пагадзіліся маладзёны.

Усе крыху памаўчалі. Задумаліся.

– А вось ты мяне з астрога чакала б ці не? – жартаўліва аднавіў размову Алег.

– А ты сумняваешся? – пяшчотна глянула яна на яго.

– Не, не сумняваюся. Ні кроплі, – адказаў ён і крыху пачырванеў. Можа, таму, што агульная атмасфера не спрыяла жартам і інтымным размовам, ці, можа,

яшчэ чаму. Сам не зразумеў. Але думку завершыў: – Ты была б ужо другой такой.

– Другой не атрымалася б, – усміхнуўся мужчына, які распавядаў пра палітвязняў. У нас Зміцер і Наста не адны такія.

– Не?!

– Не. Вось, паглядзіце, – і ён паклаў перад імі яшчэ адзін партрэт. – Гэта Мікола Статкевіч. Яго Марына таксама ўзяла шлюб з ім падчас адбывання пакарання. Дарэчы, ён таксама не першы раз асуджаны.

– Цікава. Скажыце, а чаму вы пра гэта толькі нам расказалі, а не напісалі пад партрэтамі? Я гляджу пра іх дзейнасць толькі напісана. А людзям, можа, і гэта цікава. Асабістае.

– Навошта? – усміхнуўся расказчык. – Іх жа не за каханне пасадзілі, а за дзейнасць. Мы ж не па прыватным жыцці тут людзей падбіралі, а па факту іх зняволення. Гэтых людзей мы лічым палітвязнямі і прапаноўваем падтрымаць іх. Інфармацыю пра іх мы напісалі. Калі хто, як вы, цікавіцца іншымі падрабязнасцямі, хоча даведацца больш, чым мы напісалі, хай пытаецца. Усё, што ведаем, распавядзём.

Марына і Алег пераглянуліся. І адразу зразумелі, чаго хоча кожны з іх. Тым больш што цяпер іх жаданне супала.

– Мы б вельмі хацелі, каб вы так распавялі нам пра кожнага, – папрасіў Алег.

– Добра.

Мужчына прысеў да іх бліжэй і, па чарзе беручы партрэты, стаў коратка распавядаць пра зняволеных.

Юнакі слухалі, часам перапытвалі, зрэдку задавалі пытанні, удакладнялі штось.

– Ну, вось і ўсё, – завершыў расказчык. – Усё, што ведаў. Хіба зараз вам ужо будзе лягчэй вызначыцца.

І пайшоў да сваіх.

Юнакі толькі зараз заўважылі, што ў зале шмат чаго памянялася. Было значна больш людзей. Яны падпісвалі паштоўкі, гаманілі між сабой. На адным з крэслаў сядзеў хлопец з гітарай і спяваў песні. Відаць, той, пра якога пісалі ў аб'яве. Яны таксама далучыліся да слухачоў, якія расселіся ля гітарыста. Той спяваў з імпэтам, нешта тлумачыў. Перарываўся на рэплікі да знаёмых. Тыя таксама яго тузалі, кожны прасіў яго заспяваць штосьці сваё любімае.

Праз адчыненыя дзверы было бачна, што на вуліцы ўжо валадарыць вечар. Але зыходзіць не хацелася. У гэтай мітусні ім было чамусьці ўтульна. Нібыта яны тут былі шмат разоў. Як быццам бы тут усе іх знаёмыя, сябры. І, як ні дзіўна, ім здавалася, што яны тут свае.

– Ну што, хутка ўжо ўсе будуць разыходзіцца, – штурхнула Алега Марына.

– Ну, так.

– Трэба вызначацца.

– Трэба.

– Ты каму вырашыў падпісваць?

Ён усміхнуўся. Пяшчотна глянуў на яе. Каб не пры людзях, то пацалаваў бы. У мілыя, родныя, цёплыя вусны. Ён жа так добра яе ведае! Кожную яе думку. Кожны яе ўздых. І зараз дакладна ведаў, пра што яна думае і што яна хоча зрабіць.

– Я вырашыў падпісаць таму, каму і ты, – усміхнуўся. Не, нават засмяяўся ён.

– Праўда?!

– Праўда.

– То пайшлі па паштоўкі.

– Пайшлі.

Яны ўзяліся за рукі і разам падышлі да стала з паштоўкамі.

– Дайце мне пятнаццаць паштовак, – папрасіў Алег. – Я хачу падпісаць усім.

– І мне пятнаццаць, – далучылася Марына.

Яны ўзялі паштоўкі, селі за стол. Спачатку наклеілі маркі. Пасля на кожнай паштоўцы напісалі адрасы палітвязьняў. Далей тэкст. Кароценькі. Кожнаму свой. Але для ўсіх вельмі падобны, прыблізна такі: “Прывітанне. Ты мяне не ведаеш. Але я ганаруся табой і чакаю цябе на волі…”

А пасля, не згаворваючыся, на кожнай паштоўцы разборлівым прыгожым юнацкім почыркам пазначылі свае прозвішчы, імёны, зваротныя адрасы.

## Суткі стажора

Гадзіннік паказваў без пяці мінут восем.

Але ў працоўным пакоі, на дзвярах якога шыльда ўпарта сцвярджала, што праца там пачынаецца толькі з васьмі, ужо было шмат супрацоўнікаў. І як толькі Ігар нясмела, нібы злодзей-навічок, адчыніў дзверы свайго будучага кабінета, яго сустрэлі так, нібыта ён там ужо быў раней, працаваў і жыў ад самага пачатку ўтварэння ў краіне пракурорскай службы. Людзі ў сініх мундзірах і ў цывільным ужо чакалі яго. І цешыліся з яго прыходу як дурні з фанціка. Або рабілі выгляд, што цешацца. Ці рабілі выгляд, што дурні.

– Давай, стажор, запаўзай. Самы час для пачатку працы,– усміхнуўся яго даўні знаёмы, а цяпер ужо і начальнік Іван Аркадзевіч. І, хіба з даўніх савецкіх часоў успомніўшы безнадзейна састарэлы і да зубнога болю прымітыўны жарт, дадаў: – Знаёмся з тымі, з кім давядзецца разам праводзіць нашы нялёгкія будні, так бы мовіць, дні і ночы, і бяздарна праціраць казённыя порткі аб казённыя крэслы.

Ігар па чарзе працягваў супрацоўнікам пракуратуры доўгую, як юнацкія мары, руку, калі ў кабінет зайшоў яшчэ адзін чалавек. Прысутныя імгненна адрэагавалі на яго з'яўленне хуткім распаўзаннем, нібыта тараканы з-пад мокрай ганучы, рэзка падкінутай чалавечай нагой. У розныя бакі. Хтосьці сеў за камп'ютар, хтосьці за паперы, хтосьці ўзяўся рабіць гарбату. А некаторыя неяк па-лакейску, са штучнай бадзёрасцю акружылі яго з розных бакоў.

– Ну, як там працэс закончыўся? Што ў выніку? – пасыпаліся пытанні, па змесце ідэнтычныя, але настолькі розныя па тэмбрах і інтанацыях галасоў, што гэта шматгалоссе нагадала брэх некалькіх дзясяткаў вясковых сабак на нетутэйшага алкаголіка, які памылкова завітаў тут.

– Чатыры з паловай гады ўвалілі, – з незразумелым гучаннем - ні то з задавальненнем у голасе, ні то з расчараваннем, - вяла адказаў той. – Як і планавалася, – уздыхнуўшы, удакладніў ён.

– Віншуем усіх, хто папрацаваў над гэтай справай, – сказалі ў адзін голас адразу некалькі чалавек з тых, якія неяк па-лакейску, са штучнай бадзёрасцю акружылі гэтага з розных бакоў.

Але ўнісон не атрымаўся. Разнастайнасць інтанацый гэтых галасоў была яшчэ больш незразумелая, чым ранейшае шматгалоссе, якое нагадвала брэх некалькіх дзясяткаў вясковых сабак на нетутэйшага алкаголіка… Ігар пачуў там усе мажлівыя ноткі - ад захаплення і злосці да зайздрасці і ліслівасці.

– Хутка і ты так ад усіх апазіцыянераў грамадства ачысціш, – паўжартам паспрабаваў нехта ўклініцца ў размову. Нехта з тых, хто не акружыў. І сказаў неяк з дакорам і непрыкрытым сарказмам.

– Усіх перасадзіш. Мы перасадзім. Усе мы, – убіўся ў размову яшчэ адзін, які, па ўсім відаць, не зразумеў і так не асабліва прыкрытай іроніі папярэдніка і вельмі хацеў выказаць захапленне суразмоўцам, як недасвечаны афіцыянт выказвае захапленне неахайна кінутымі на падлогу чаявымі ў выглядзе стодаляравай купюры. І так няўпэўнена і нерашуча ён гэта зрабіў,

што здавалася, нібыта агучаная фраза напалохала яго самога. І не толькі яго.

Некалькі чалавек ад гэтых слоў уціснулі галовы ў плечы, як быццам бы патрапілі пад электрычны молат. Толькі пачырванелыя вушы тарчалі з-пад каўняроў. І зрабілі выгляд, што нічога не чулі. Некаторыя пераглянуліся між сабой з выглядам абсалютнага незразумення. А Пятро Кавальчук сплюнуў. Праўда, не адкрыта і рашуча ды з агідай, а так, нясмела. Але ўсё адно з агідай, быццам выплёўваў смярдзючую муху, якая выпадкова заляцела ў рот.

“Цікавы ў мяне атрымліваецца пачатак першага працоўнага дня”, – падумалася Васілюку, і ён са здзіўленнем кацяняці, вочы якога пралупіліся літаральна зараз, пачаў сачыць за далейшым ходам падзей.

* * *

Ігар Васілюк ужо да паступлення ў вышэйшую навучальную ўстанову добра ведаў, што працаваць ён будзе ў пракуратуры.

– Мой сын парсюкоў гадаваць не будзе, – яшчэ ў дзяцінстве пачуў ён такое сцвярджэнне ад п’янага бацькі, які бурна замочваў сваё павышэнне па службе і надта ж ганарыўся тым месцам у сацыяльнай пірамідзе грамадства, якое ўдалося заняць Васілюкам яшчэ з часоў Савецкага Саюза. – Ні маладых, ні хворых і старых - ніякіх парсюкоў гадаваць не будзе. Асабліва хворых і старых.

Чаму яго бацька, у мінулым вясковы хлопец з цэнтральнай часткі Беларусі, так часта, напіўшыся, узгад-

ваў парсюкоў, для Ігара было загадкай. Нейкі смутны ўспамін з дзяцінства ў яго наконт гэтага быў з расказаў старой бабулькі. Нібыта яго дзед некалі жорстка і бязлітасна высек бацьку, як благога ката, які ў муку нагадзіў. Высек за тое, што той не паспеў давалачы да мясакамбіната іх хворага старога кнура, які бясслаўна здох па дарозе, і таму, каб здыхляціну ў выглядзе добрага мяса прынялі на каўбасы, прыйшлося дзяліцца і так нешматлікімі грошыкамі з п’яным прыёмшчыкам. Бо толькі прыёмшчык, атрымаўшы ў кішэнь пару грашовых папераў з партрэтамі Леніна, мог ажывіць на іншых паперах таго здохлага кнура і прызнаць яго мяса прадуктам першай катэгорыі з усімі патрэбнымі медыцынскімі паказчыкамі. Хоць поўнай упэўненасці, ці гэта праўда, у Ігара не было. Затое ён быў перакананы ў паспяховасці сваёй кар’еры больш, чым той хворы стары парсюк быў перакананы перад смерцю ў тым, што ў вельмі хуткім часе ён наведае шматлікія харчовыя крамы краіны ў выглядзе мясных кансерваў.

Упэўненасць Васілюка грунтавалася яшчэ і на словах дзядзькі, Анатолія Іванавіча, таксама Васілюка, які на вечарынцы з нагоды атрымання Ігарам атэстата аб заканчэнні сярэдняй школы тэатральна падняў кілішак за будучага слаўнага пракурора.

– За будучага слаўнага пракурора, – вымавіў ён свой тост такім тонам, нібыта аднекуль зверху, значна вышэй, чым Міністэрства юстыцыі і сяброўскае паляпванне па плячы далонню самога міністра, атрымаў права распараджацца лёсамі не толькі тых, каго абвінавачваў, але і тых, каго любіў і меў намер ашчасліваць. Вымавіў з гонарам. Хоць маленькія хітрыя вочкі пры гэтым так шпарка бегалі ў розныя бакі,

беспамылкова скануючы настрой і рэакцыю прысутных, што факт неразумення ім сапраўднага значэння слова “гонар” становіўся відавочным. – Не ўсё ж мне гарбаціцца. Адпачыць некалі трэба. І трэба ж некаму мяне замяніць у старасці. А мы, Васілюкі, сваіх не кідаем, сваіх цягнем да апошняга, – патлумачыў ён цвёрда, не пакідаючы аніводнага шансу прабіцца да мяккага пракурорскага крэсла ў яго кабінеце іншым шматлікім беларускім прозвішчам. – Ну, а для каго мне прытрымаць сваё месца, як не для свайго любімага пляменніка?

Тост быў успрыняты з натхненнем і энтузіязмам усімі прысутнымі, сярод якіх быў і той міністр, які пасля тосту ўхвальна паляпаў Анатоля Іванавіча па плячы яшчэ раз. Яшчэ адзін чарговы раз. Неяк так па-апякунску. Па-сваяцку. Адабральна так паляпаў.

Бацька ж Ігара, зноў жа не самы апошні чалавек у шэрагах узгаданага міністэрства, таксама ўзяў слова:

– А для каго мы жывём і працуем?! – ні то пытальным, ні то сцвярджальным тонам заявіў ён. – Найперш для сваіх дзяцей. І Ігар - наша галоўная надзея. Ён вельмі далёка пойдзе. Хлопец з разумнай галавой. Башкавіты, халера яго. Увесь у бацьку. Ды і радня ў яго башкавітая. А кожны бацька хоча, каб яго нашчадак перасягнуў продка і падняўся яшчэ вышэй. Ну, а што ад нас трэба, то мы заўсёды зробім.

Лёс юнака быў вырашаны хоць і ў яго прысутнасці, але без яго ўдзелу. І Ігар гэтаму не пярэчыў. Ніхто ж на свеце не супраціўляецца, калі яму штосьці дораць проста так і на ўсё жыццё. Нават цешыўся спачатку. Бо шчыра лічыў людзей гэтай прафесіі не толькі

ўплывовымі, паважанымі і сацыяльна значнымі асобамі, але і ідэаламі служэння справядлівасці і законнасці ў роднай краіне. Пачуцці, уласцівыя юнацкаму рамантызму, проста перапаўнялі маладога чалавека.

Толькі ўжо на трэцім курсе юрыдычнага факультэта ў абвостраных веліччу і ўзвышанасцю першага кахання думках з'явіліся сумненні ў бездакорнай справядлівасці абранага шляху менавіта ў гэтай краіне, якая, так ужо сталася, была ягонай Радзімай. Прычына сумневаў стала нечаканай. Зматэрыялізавалася яна ў выглядзе Ігаравага былога выкладчыка, які на той момант быў ужо суддзёй. У той дзень студэнтаў іх факультэта з мэтай азнаямлення з судовай сістэмай ветліва і настойліва папрасілі паприсутнічаць на разборы адной адміністрацыйнай справы. Судзілі нейкага апазіцыянера. Яго абвінавачвалі ў бруднай лаянцы падчас правядзення масавага мерапрыемства. Стандарт для такіх спраў у нашу эпоху. А студэнтамі запоўнілі ўсе месцы ў невялічкай зале, каб туды не маглі патрапіць ні настойлівыя, як ранішні гарадскі шум, сябры абвінавачанага, ні дапытлівыя, як вясковыя цёткі, журналісты, што называлі сябе незалежнымі.

Ну, то вольных крэслаў ні тым незалежным журналістам, ні тым залежным сябрам абвінавачанага не засталося. Аніводнага. Ледзьве праціснуўся няшчасны адвакат, падобны на аблітага памыямі сабаку. Хоць мог і не старацца. Суддзя і так не ўспрымаў ні яго, ні яго аргументы і нават неяк наўмысна дэманстратыўна падкрэсліваў усім сваім выглядам поўную абыякавасць да яго слоў і высноў. Да мэблі ставіўся з большай пашанай. Значна з большай.

– Я не мог мацюкацца, бо размаўляю толькі па-беларуску, – заявіў тады апазіцыянер. – А ў нашай мове такія мацюкі, якія нібыта ці то чулі, ці то недачулі ілжэсведкі-міліцыянты, звычайна не ўжываюцца. Ды і паказанні іх яўна разыходзяцца адносна прасторы і часу з імі ж складзеным пратаколам. Не супадаюць не толькі з маімі паказаннямі, але і іх уласнымі. Перакананы, што, калі дапытаць іх яшчэ раз, яны ні слова не паўтораць са сказанага раней.

Сведчанні міліцыянтаў сапраўды былі настолькі адрознымі адно ад другога і ад складзеных імі пратаколаў, што ўсялялі ў душу Васілюка ўпэўненасць у тым, што суддзя зараз памяняе месцамі сведкаў з падсудным апазіцыянерам. Але здарылася адваротнае. Апазіцыянер атрымаў сем сутак арышту, а на яшчэ некранутых пачуццём справядлівасці тварах двух міліцыянтаў-сведак свяцілася радасць. Пачэпленыя дзяржавай на іх плечы пагоны ў камплекце з іх пераможнымі ўсмешкамі толькі ўзмацнялі ўражанне, што яны зусім не разумеюць, для чаго на свеце існуюць суды, следства, сведкі і міліцыя.

– Сяргей Пятровіч, – адразу пасля абвяшчэння прысуду звярнуўся да суддзі апазіцыянер. (Гэта быў юнак мала старэйшы за Ігара.) – Вы ж у мяне былі выкладчыкам некалі. Як я быў студэнтам. І там зусім іншае выкладалі. І пра законнасць, і пра права ўвогуле. Што з вамі здарылася?

Сяргей Пятровіч зрабіў выгляд, што не чуе юнака, а той не спыняўся:

– Сяргей Пятровіч, вы ж ведаеце, чым гэта ўсё скончыцца. З гісторыі ведаеце. Гэта толькі сён-

ня вам загадалі даць мне сем сутак. Сем сутак – дробязь. Адсяджу неяк. Але ж усё пачынаецца з дробязей. А заўтра вам загадаюць распачаць крыміналку. А як уцягнецеся і дарогі назад ужо не будзе, то прымусяць расстрэльваць. Вы ж гэта ведаеце. І ведаеце, што пазней гэта ўдарыць і па вас. Дык што ж вы робіце?!

Суддзя маўчком пакінуў залу, а ў Васілюка на душы стала моташна, нават ванітна. Нібыта пад прымусам быў вымушаны з'есці пратухлае мяса здохлай жабы. І нават яшчэ горш стала, чым ад пратухлага мяса здохлай жабы.

Ён доўга думаў пра ўбачанае. Ён, будучы пракурорскі работнік, будучы ахоўнік законнасці, стаў непасрэдным сведкам нейкай незразумелай змовы. Змовы, якая адбылася без факту змаўлення, але па разуменні кожнага з удзельнікаў таго судовага спектакля, як трэба зрабіць, каб нехта нябачны быў задаволены. Зрабіць па паняццях, як кажуць у злачынным свеце. Але ж гэта ў злачынным. А тут жа суд.

Было відавочна, што гэты суд ад пачатку быў на баку абвінавачвання так рашуча, як толькі маладая сакратарка суда займае сваё месца за паперкамі, перакананая ў тым, што яе місія на працэсе значна важнейшая, чым усіх астатніх, уключаючы і тых, каго судзяць. Нават адваката ніхто не ўспрымаў як ўдзельніка працэсу. Увогуле аніяк не ўспрымалі. Дзіўна нават, што і яго не пасадзілі. Аніякага кантролю з боку пракуратуры за непаслядоўнымі паказаннямі міліцыянтаў і да непрыстойнасці бязграматна складзеным пратаколам не было ўвогуле…

Але самае страшнае, балючае і агіднае, што менавіта ён, Ігар Васілюк, студэнт трэцяга курса юрыдычнага факультэта, сын і пляменнік пракурорскіх работнікаў, сам будучы пракурорскі работнік, выдатнік у веданні права, надзея і гонар усёй радні, сядзеў і нічога не рабіў. Ён супакойваў сябе, што не ён адзін там сядзеў і нічога не рабіў. Што і іншыя выдатнікі таксама сядзелі і нічога не рабілі. Суцяшаў тым, што ў яго стане і немажліва было паўплываць хоць на нешта з таго, што адбывалася. І за тое ненавідзеў сябе. І саромеўся. Моцна саромеўся. Як расшпіленай маланкі на святочных портках, якая распаўзлася, як ён быў у гасцях у прыстойных людзей. Бо побач сядзела яна. Яго аднакурсніца і каханая дзяўчына. Яго Рыта. І ўся яго бездапаможнасць і бяздзейнасць адбывалася на яе вачах.

Пасля ўсесь гэты букет змешаных пачуццяў змяніўся адным. Здзіўленнем. Здзіўленнем, што яна, яго Рыта, такая чыстая, такая рамантычная, такая ўзвышаная, шчырая, праўдзівая, разумная, найлепшая і самая-самая, таксама нічога не рабіла. Не пратэставала, не абуралася і нават не стала ўзгадваць аб гэтым пасля заканчэння працэсу. Забылася пра гэта раней, чым асуджанага і яўна невінаватага хлопца завалаклі, як непаслухмянага барана, у міліцэйскую машыну, каб адвезці, як патрабавалася сухой казённай мовай, да месца адбывання пакарання.

Яны ішлі па зімнім горадзе. Яна смяялася, зрывала з дрэў замерзлую рабіну, ганяла галубоў, кідалася ў яго снежкамі. І з кожнай снежкай станавілася для яго ўсё больш чужой… І сам для сябе ён станавіўся ўсё больш чужым…

Ён тады яшчэ не ведаў, што згрызоты сумлення вельмі хутка ўцякаюць, не пакідаючы адрасу свайго новага месцазнаходжання, як толькі чалавек скажа сам сабе фразу: “На гэты раз я нічога не мог зрабіць, але наступны раз на такое фуфло не пападуся”.

– На гэты раз я нічога не мог зрабіць, але наступны раз на такое фуфло не пападуся, – ціха сказаў, а можа нават толькі падумаў Ігар і абняў Рыту за плечы. Цяпер яна, як і да гэтага недарэчнага працэсу, здавалася яму такой чыстай, такой рамантычнай, такой узвышанай, шчырай, праўдзівай, разумнай, найлепшай і самай-самай… Ды і ён ужо сам сабе здаваўся не такім і кепскім, як на тым працэсе. Прынамсі, ён быў як мінімум не горшы за іншых аднакурснікаў.

Праз нейкі час Рыта, начапіўшы на галаву белы вэлюм, надзявала ў ЗАГСе шлюбны пярсцёнак на палец правай рукі Арнольду. А Ігар Васілюк у той дзень моцна напіўся ў нейкім незнаёмым бары з незнаёмымі мужыкамі і ранкам прачнуўся ў Люды. У адрозненне ад астатніх удзельнікаў начной катавасіі, яна была знаёма яму і раней. Студэнтка іх факультэта, толькі курсы на два старэйшая. Як ён да яе патрапіў, засталося загадкай, як і тое, чаму каханне да Рыты так хутка перакінулася на Люду. А крыху пазней і Люда прадублявала Рыцін стандарт паводзін да яго і не адчыніла перад Ігаравым здзіўленым тварам дубовых дзвярэй сваёй кватэры. Толькі паведаміла праз іх, што яна не адна.

У такія сумныя часіны самашкадавання і самапрыніжэння, калі чалавек упэўнены, што ён нікчэм-

насць, і ніхто яго не любіць, і нікому ён не патрэбны па-сапраўднаму, як бяздомны, ды ў дадатак яшчэ і непародзісты сабака, да Ігара наведвалася смутнае падабенства таго сумлення. Таго, якое не давала яму пакою на колішнім працэсе над апазіцыянерам ажно да моманту, пакуль ён не сказаў сабе: “На гэты раз я нічога не мог зрабіць, але наступны раз на такое фуфло не пападуся”. Але завітвала тое падабенства душэўнага неспакою ўжо не ў выглядзе ўнутранай пакуты, а проста ў вобразе нейкага непрыемнага ўспаміну, ад якога трэба хутчэй пазбавіцца, паўтарыўшы яшчэ раз: “Наступны раз на такое фуфло я не пападуся…”

А для поўнага супакаення можна прыняць яшчэ не канчатковае, але ж цвёрдае рашэнне, што, як ён будзе весці справы, такой відавочнай беззаконнасці ні за што не дапусціць. Ні за што.

А вось з Ленай было ўсё па-іншаму. З ёй пяты курс праляцеў як куля пад пахай. Нечакана, хутка і з прыемным адчуваннем, што ўсё закончылася добра. Яна яго кахала, і ён гэтым скарыстаўся. Ён ведаў спачатку, што ў іх нічога не будзе сур’ёзнага. Бо тое, што было, ён, у адрозненне ад яе, за сур’ёзнае ўжо не лічыў. Не меў наконт яе доўгачасовых і трывалых планаў увогуле. Не падабалася яна яму аж настолькі.

Крыху пазней гэта зразумела і яна. Таму і не выказала аніякіх прэтэнзій з таго, што на выпускным вечары яна была адна, а ён - не. Хіба зразумела, што так лепш. А ён сам здзівіўся, што, застаўшыся сам-насам з малазнаёмай Светай, чамусьці стаў распавядаць ёй пра той працэс над апазіцыянерам. Ці то настальгічная туга па каханні да Рыты прачнулася і абудзіла

падзеі амаль двухгадовай даўніны, ці то сумленне ў выглядзе ўспаміну нагадала яму, што ён хутка адзене мундзір, а тады ўсё будзе залежаць ад яго: пападацца на тое фуфло ці знайсці іншую развязку.

* * *

І вось Ігар Васілюк у сваім кабінеце. Без пяці хвілін восем. Яго сустракаюць як старога знаёмага, нібыта ён там ужо быў, працаваў і жыў ад самага пачатку ўтварэння ў краіне пракурорскай службы. Людзі ў сініх мундзірах і ў цывільным цешацца з яго прыходу. Або робяць выгляд, што цешацца…

– Што гэта за справа, пра якую тут усе размаўляюць? – запытаў ён у Кавальчука.

Ведаў ён Пятра Кавальчука даўно. Пятро быў некалі стажорам у бацькі Ігара і часта заходзіў да іх. Пераважна па службе. Ну а цяпер яго прызначылі стажыраваць Ігара. Бацька паважаў Кавальчука як спецыяліста. Але Ігару казаў павучыцца ў таго толькі прафесіяналізму. І не дай божа нахапацца іншых звычак. Бо Пятро быў неаднаразова заўважаны ў цесных сувязях з бутэлькай. А паколькі ён аддаваў перавагу мнагагаміі, то бутэлькі мяняліся з большай частатой, чым дні. Як і людзі, што памагалі знішчаць іх змесціва. А пракурорская прафесія, на думку бацькі Ігара, патрабуе дакладнага ведання, з кім, у якім месцы і ў якой сітуацыі можна выпіваць. І з кім і дзе нельга гэтага рабіць пад страхам смяротнай кары.

– Табе ў гэта лепш не лезьці, – крыва, нібыта прыйшлося з'есці жменю горкіх таблетак, адказаў

Пятро Кавальчук. – Твая кар'ера і без такіх спраў папаўзе ўгору, як полымя па вяроўцы. Ты ж у нас Васілюк. Не тое, што я, Кавальчук. Я адзін Кавальчук на ўсю пракуратуру нашага раёна. І нават горада. Таму мне за вочы і далі мянушку Сірата. Хоць бацька і маці мае жывуць і на здароўе не скардзяцца. А Васюлікі да самога міністра ў кабінет нагой дзверы адчыняюць. Прычым, левай нагой. Таму я не сумняваюся, што хоць зараз ты ў мяне стажор, але вельмі хутка станеш маім начальнікам, – і ўсміхнуўся. Гэтак жа крыва ўсміхнуўся, як і мінулы раз. Нібыта зноў з'еў горкія таблеткі.

– Усядно неяк цікава, – не без гонару за свой род прашаптаў Ігар. – Мне ўсё ведаць хочацца. Тым больш што я хіба здагадваюся, пра што размова. Я ўвесь інтэрнет па крымінальных справах пералапаціў перад уладкаваннем на працу. Так рыхтаваўся да стажыроўкі. Каб дурнем не выглядаць. Хіба гаворка пра справу таго праваабаронцы? Мяне яна вельмі цікавіць.

– То пасля пра гэта, – падміргнуў Сірата. – А зараз ужо дзясятая гадзіна. Пара за працу брацца. У мяне вунь які стос папераў. Зарывайся.

Пятро тлумачыў спакойна, даходліва, таму час ляцеў хутка. Кожная паперка ў яго мела сваё месца і сэнс, як дэталі ў рухавіку “Фольцвагена”. Усё канкрэтна і зразумела нават на першы дзень стажыроўкі. Нават мазгі не стамляліся засвойваць навуку.

Неўзабаве гадзіннік паказаў на гадзіну дня, ці, як прынята гаварыць у службоўцаў, на трынаццаць нуль-нуль. Абед – святая справа для ўсіх службоўцаў.

Можна на працу не выйсці, гэта не смяротны грэх. А вось на абед прыйсці мусіш абавязкова.

Абедаць стажор з настаўнікам зайшлі ў недарагую кавярню, дзе падавалі танныя, але даволі смачныя комплексныя абеды, якія яскрава даказваюць, што кошты вячэрняга меню можна зніжаць разы ў два без рызыкі страты прыбыткаў.

– Дык што там за справа такая? – аднавіў перарваную размову Ігар.

– Апазіцыянера аднаго схавалі далей ад вачэй грамадства, – зноў крыва, нібыта прыйшлося яшчэ раз прыняць тыя горкія таблеткі, адказаў Пятро.– Ты не памыліўся. Гэта той праваабаронца, пра якога ты і думаеш. Але я ў гэта не сунуся. Яшчэ раз паўтараю, для асабліва тупых. Табе гэта таксама непатрэбна.

– А я акурат сёння ўспамінаў пра аднаго апазіцыянера, – цяпер чарга праглынуць віртуальныя таблеткі дайшла да стажора. – Некалі ў студэнцтве нас у суд адпраўлялі з вучобы. Тады яго ні за што ўпяклі.

– Можа, і гэтага ні за што таксама, – не адрываючыся ад паглынання ежы, глуха адгукнуўся Кавальчук. І нават вачэй не падняў на суразмоўцу.

– Як гэта – ні за што?

– Проста. Ты з дуба зваліўся ўніз галавой? А яшчэ кажаш, што чытаў пра гэту справу? Гэта ж усім вядома!

– Я так і думаў адразу, што гэта нашумелая справа мае сваю падаплёку. А чаму ты думаеш, што яго несправядліва асудзілі?

Пятро нарэшце павольна ўзняў вочы на стажо-

ра. Ажно жаваць перастаў. Холадна так зірнуў. Замерзлымі ў блакітны лёд вачамі. Як бы перад ім сядзеў даўні непрымірымы вораг.

– А я хіба сказаў, што несправядліва?! У цябе ўсё добра са слыхам, хлопец? – працадзіў праз зубы.

– Ты ж сам сказаў: “Можа, ні за што”.

– “Можа” азначае “можа”. І нічога больш. Не трэба нічога дадумваць! Я меў на ўвазе, што ніхто не застрахаваны ні ад судовай памылкі, ні ад памылкі следства. Гэта ты, хлопчык, сказаў зараз, што некалі некага няправільна асудзілі. І гэта ўжо пасля рашэння суда сказаў. Для пракурорскага работніка - недапушчальныя паводзіны. Што на гэта твой татка?! Што дзязька?

– Перастань, Пятро, – узмаліўся Васілюк. – Пры чым тут бацька з дзядзькам? Я ж па-сяброўску пытаю. Хочацца разабрацца. Я адразу зразумеў, што гэта тая гучная справа. Усе пра яе гавораць. Толькі не з усімі. А ў каго мне спытаць, як не ў цябе?

– Няма ў мяне чаго пытаць, – вяла адмахнуўся Кавальчук. – Я табе праўды не скажу. Нельга гаварыць праўду цяпер. Часы зараз такія. А гэтай справы я не вёў, таму падрабязнасцяў не ведаю. І ведаць не хачу. Суд усё вырашыў. Як хочаш, у Матыкевіча спытай. Ён усё ведае.

– Што за Матыкевіч?

– Які ў кабінет зайшоў і звестку прынёс пра вырак над праваабаронцам, які цябе так зацікавіў.

– А якое ён мае дачыненне да гэтай справы?

– Аніякага. Проста ён думае, што на апазіцыянерах можна хутка па службовай лесвіцы падняцца. У нерацыянальнасці такога мыслення яго абвінаваціць

нельга. Дык вось ён стараецца адсачыць усе працэсы над імі, спадзеючыся, што яго імпэт будзе заўважаны. І што наступная такая справа даручыцца яму. Ну, а пасля і ўсе іншыя дывідэнды пасыпуцца. Па заканчэнні справы, канешне. Па правільным заканчэнні.

– Халера ведае, што атрымліваецца, – з расчараваннем выгукнуў Ігар. – Няўжо такое пракатвае?

– А ты не ведаеш? – зарагатаў настаўнік. – Ты ж у нас Васілюк. Ты ўсё ведаць павінен. Табе гэта мусіла перадацца на генетычным узроўні.

– Нешта ты пляцеш абы-што.

– А мне-то што, – скрывіўся Пятро. – А ты ведаеш, што твой дзядзька хацеў у настаўнікі табе менавіта Івана Сямёнавіча падсватаць. Матыкевіча. Бацька твой запярэчыў. На мяне спіхнулі тваю асобу. І я цяпер вымушаны слухаць гэтыя глупоты з вуснаў учарашняга студэнта-выдатніка.

– Не жартуй!

– Не жартую. Толькі я цябе магу не дастажыраваць. Бо калі мне такую справу прапануюць, як з тым праваабаронцам, я ж магу і запіць. Лепш бы цябе Матыкевіч стажыраваў. Той не зап’е. Усё да канца давядзе. І справу, і стажыроўку. Незаменны супрацоўнік. А галоўнае – надзейны.

– А чаму Матыкевіч хоча такія справы, а ты не?

– Таму што я не Матыкевіч. Ведаеш, якую яму мянушку ў нас далі і як за вочы называюць?

– Якую?

– Вільфор! Вось так во. Ён Вільфор, а я Сірата. Розніцу адчуваеш? То не пытай тады дурное. І хопіць

пра гэта. Абед заканчваецца. Зірні на гадзіннік. У нас за спазненні не ўзнагароджваюць. Трэба працаваць. І забудзься пра гэтую размову. Не ведаю, як табе, а мне дакладна так будзе лепш.

Роўна ў чатырнаццаць гадзін настаўнік са стажорам сядзелі за сваім сталом і перакідвалі паперкі. Кавальчук зноў нешта доўга і сур'ёзна тлумачыў, толькі, у адрозненне ад даабедзеннай навукі, гэта адскоквала ад Ігаравай галавы як гарох ад сцяны. Ён уважліва, як малпа з засады, паглядаў то на Кавальчука, то на Матыкевіча. Шукаў між імі розніцу. Абодва працавалі з сур'ёзнымі і мэтанакіраванымі, як у космасе, выразамі твараў, нешта пісалі, нешта падшывалі, нешта адкладалі ўбок. На першы погляд, між імі не было аніякай розніцы.

– Слухай, Пятро, – не вытрымаў нарэшце ён. – Распавядзі мне пра той працэс. Мне вельмі трэба.

Настаўнік падняў вочы, уважліва паглядзеў на стажора.

– Я тут прыстаўлены да цябе не чужыя працэсы аналізаваць, а на прыкладзе маіх навучыць цябе выконваць пастаўленыя перад намі задачы. Ну, а калі табе так хочацца, то запытай у нашага начальніка і вернага сябра тваёй сям'і Івана Аркадзевіча. Ён у сябе ў кабінеце. А лепш пацікаўся ў свайго бацькі або дзядзькі. Думаю, яны значна больш табе распавядуць, чым мая сціплая персона.

Роўна ў сямнаццаць нуль-нуль Ігар развітаўся са сваім настаўнікам і іншымі супрацоўнікамі ды паціху

пасунуўся дахаты. Кавальчук зрабіў тое самае. Матыкевіч застаўся корпацца ў паперках далей, прыгаварваючы, што ў яго столькі работы, што гадзінкі дзве яшчэ мусіць папрацаваць за кошт свайго вольнага часу. Зусім заваўся гэтай работай. Аніякага ўласнага жыцця.

– Не паверыце, – стагнаў ён, – у прыбіральню няма часу схадзіць.

Начальнік, Іван Аркадзевіч, таксама нешта набіраў на камп’ютары і зыходзіць не спяшаўся.

Ігар няспешна сунуўся па шматлюднай вуліцы. Дахаты чамусьці не хацелася. На душы было неяк так, незразумела як. Здавалася, гэтая незразумеласць вось-вось вырвецца і паведаміць пра прычыну яго роспачы. Але ўсё заставалася па-ранейшаму. І роспач без відавочнай прычыны, і незразумеласць у душы.

Прыпомніўся той апазіцыянер, якога судзіў яго былы выкладчык. “Якое супадзенне, – думаў Васілюк. – Гэта ж і мой былы выкладчык, і таго хлопца таксама. Мы ўсе трое маем ідэнтычную адукацыю. Чыста тэарэтычна, той апазіцыянер мог бы быць зараз на маім месцы і стажыравацца ў Сіраты. А нават мог бы быць на месцы суддзі. Але ўсе мы займаем розныя месцы. Кожны сваё. Цікава, гэта за нас нехта зверху вырашыў ці мы маем мажлівасць выбіраць самі?”

Ён злавіў сябе на думцы, што ідзе нібыта на расстрэл сябе самога. А пасля са здзіўленнем племяннога жарабца, якому замест кабылы прывялі карову, заўважыў, што ногі прывалаклі яго пад дом дзядзькі. “Можа, гэта нейкі знак,” – падумалася яму, і ён вырашыў зайсці.

– Прывітаньне, – здзіўлена і весела сустрэў яго шырокі твар з маленькімі вачамі, якія ўвесь час бегалі, як накручаныя. – Ну, заходзь, пляменнік. Госцем будзеш. Дарагім госцем. Як прайшоў першы працоўны дзень? Расказвай! Падрабязна расказвай. Нам жа цікава. Ну, і трэба замачыць! Наташачка, – звярнуўся ён да жонкі, – хуценька ўсё лепшае на стол. Паглядзі, якога шаноўнага госця маем!

Стол хутка набыў належны выгляд. Каньяк імгненна перамясціўся з кілішка ў жылы, сагрэў, расслабіў.

– Ну, расказвай, што прывяло цябе да нас, – заядаючы каньяк злёгку пасоленым лімонам, працадзіў праз зубы дзядзька. – Там у хаце бацька хіба таксама паляну накрыў. Чакае, нябось, нашчадка і надзею сваіх мараў!

– Дзядзя Толя, – нерашуча пачаў пляменнік, – ты чуў пра гэту справу з нейкім апазіцыянерам? Ну, канешне, чуў. Справа нашумелая. Ды ён нават не з палітычнай партыі. Нейкі змагар за правы чалавека. Праваабаронца ці яшчэ хто. Халера іх ведае. Развялося, што і не пазапамінаеш, хто ёсць хто. Суд учора скончыўся. Ён там канкрэтны тэрмін дастаў. Што ты думаеш пра гэта?

– А што мне думаць? – маленькія вочы Анатоля Іванавіча на хвілінку спыніліся, а пасля прадоўжылі свой шлях па толькі ім вядомай арбіце. Толькі крыху хутчэй, чым раней. – Мне няма рэзону галаву абычым забіваць. Справа не мая. Пытай у тых, хто яе вёў. А навошта табе? Нешта ты, пляменнік, цямніш. Табе што гэты праваабаронца - кум, брат, сват ці яшчэ які

сваяк? Ці, наадварот, перайшоў табе асабіста дарогу? Ці перайшоў дарогу твайму куму, брату, свату ці яшчэ якому сваяку? Каб ты мне быў не родны, то я бы мог падумаць, што цябе нехта падаслаў да мяне з такімі пытаннямі, каб разнюхаць, чым я зараз дыхаю.

– Ну што ты, дзядзя Толя, – пачырванеў Ігар, для якога такі паварот гутаркі стаў поўнай нечаканасцю. – Я так пацікавіўся. Там Матыкевіч зайшоў увесь узбуджаны са словамі: "Чатыры з паловай гады. Як і планавалася". Ну, мне стала цікава.

– А-а-а, Іван Сямёнавіч, – прабубнеў дзядзька. – Усё ніяк не супакоіцца. Ну, гэта яго справы. Ён такі. А нам у чужое лезці не трэба. Ты, плямаш, пакуль прыглядайся, прыслухоўвайся. Але рот трымай на замку. Рот у прысутнасці іншых разяўляць увогуле не рэкамендуецца. Можна толькі, як адзінае выключэнне, раскрыць яго на прыёме ў стаматолага. І то нешырока.

– Дык што ж, мы на работу як на вайну ходзім?! Ці мы шпіёны якія, каб усяго баяцца? – пацiснуў плячамі малады Васілюк. – Гэта ж ненармальна: усіх баяцца і нікому не давяраць! Тым больш баяцца нам, дзяржаўным людзям.

– Ну, баяцца нікога не трэба, – супакоіў яго Васілюк-старэйшы. – Гэта нас хай баяцца. Але асцерагацца не пашкодзіць. Ты паглядзі, у які час жывём. – Тут ён шматзначна падняў палец угору. – Буйнейшыя, чым у нас, галовы ўжо з плеч пазляталі. А ты гаворыш! Як дзіця, чэснае слова! Калі ўжо вырасцеш? Мне ж памочнік патрэбны, страхоўка. А ты ўсё наіўнічаеш. А пад мяне, між іншым, даўно ўжо капаюць. І пад бацьку твайго таксама. Пад нас усіх. Пад Васілюкоў!

Думаеш, у гэтых умовах мне лёгка было цябе прыстроіць на перспектыўны трамплін?! Я ж усё для цябе зрабіў. У тым ліку і тое, каб ты не пэцкаўся ў брудных справах над усякімі там абаронцамі-шмонцамі, апазіцыянерамі-херэрамі. А ты з першага дня нос сунеш не ў сваё. Ты што, можа, гэтаму Матыкевічу зайздросціш? Можа, ты хочаш кар'еру на апазіцыянерах пабудаваць?

– Нічога я яму не зайздрошчу, – напалохана прабубнеў Ігар. – Я, наадварот, не хачу такіх спраў.

– Ну, і добра, – паспакайнеў дзядзька, наліўшы па чарговым кілішку каньяку. – Не сунь свой доўгі нос не ў свае справы. У нас яшчэ сваіх столькі будзе, што абы іх разгрэбці. І ведай адно: не ўсе там табе рады, хто ў вочы ўсміхаецца. А можа, ты за таго праваабаронцу? То ведай: нам, Васілюкам, бел-чырвона-белыя колеры не вельмі патрэбныя.

– А якія патрэбныя?

– А вось якія ёсць, такія і патрэбныя.

– А як зноў будуць бел-чырвона-белыя? Як некалі?

– Ну, вось як будуць, тады і паглядзім. А зараз не лезь, куды цябе не просяць. Трымайся сваіх.

– А Кавальчук свой? – нечакана для сябе спытаў Ігар.

– Кавальчук нічый. Яго гаспадар – гарэлка, – хмура адказаў дзядзька. – Але цябе трэба было да яго адправіць на стажыроўку. Інакш ніяк не атрымлівалася. Таму не злуй. Так трэба.

Малодшы Васілюк хацеў далей развіць гэту тэму,

але пісклявы гук яго мабільніка палажыў канец сваяцкай дыскусіі.

– Ты дзе гэта прападаеш, лабідуда? – запытаў тэлефон ласкавым бацькавым голасам. – Каньяк кісне на стале!

– Я зайшоў да дзядзі Толі. Мы тут таксама па кілішку перавярнулі, – збянтэжана адказаў юнак.

– А-а. Прывітанне Толіку. Але ж мог бы і папярэдзіць. А то не ведаю, што і думаць. Глянь на гадзіннік. Дзявятая гадзіна ўжо.

– Ну, прабач. Так атрымалася. Ты яшчэ пачакай крыху. Мне яшчэ трэба ў адно месца заскочыць.

Ігар ужо ведаў, куды хоча завітаць. Рыта,са здзіўленымі, як у начной драпежніцы, вачамі, нервова сустрэла яго на вуліцы ля свайго дома. Яе незадаволены погляд не абяцаў нічога добрага. Злосны такі, як у раз'юшанай каралеўскай кобры. Здавалася, нават слупы з ліхтарамі пачалі ад страху распаўзацца ў розныя бакі, пазбаўляючы вулічных мінакоў належнага асвятлення.

– Ты чаго звоніш сярод ночы? – сустрэла яна яго прэтэнзіямі. – А каб муж быў дома? Ён цябе ў зямлю хутка зарыў бы, як сляпое кацянё. Ён жа ўсё пра нашае мінулае ведае, прыдурак ты!

– Пагаварыць з табой трэба, – буркнуў Ігар.

– Гавары хутчэй. Мне дзіця класці трэба ўжо.

– Ты памятаеш, як мы былі з табой на трэцім курсе, нас на суд над апазіцыянерам нейкім адпраўлялі. Памятаеш?

– Ды не памятаю я аніякіх апазіцыянераў! Патрэбныя яны мне як зайцу стоп-сігнал. Ты па сутнасці кажы.

– Ну, як жа так! Яго тады за лаянку судзілі. Ну, справа такая смешная! Суддзя адвакату рот затыкаў. А той падсудны быў колішнім студэнтам суддзі. А суддзя таксама і наш былы выкладчык. Памятаеш?

– Не-а. А табе нашто? Што, ты на апазіцыянерах вырашыў кар’еру паскорыць? А ў студэнцтве такім наіўным здаваўся! Аказваецца, у цябе мазгі пры сабе! Цябе недаацэньвалі! – жартаўліва засмяялася.

– Ты звар’яцела?! Якая кар’ера можа быць на людзях?! Я акурат наадварот… Зусім іншае…

– То што тады?

– Разумееш, сёння на працы… Як табе распавесці? Карацей кажучы, аднога праваабаронцу ўчора асудзілі.

– Ну і што? – скрывілася Рыта. – Гэтых праваабаронцаў зараз як сабак нярэзаных развялося. Куды не сунься, усюды яны нешта абараняюць. Жыцця за імі няма. Ты б у майго мужа спытаў, дык яго званітавала б. Яны яму пакою не даюць. Калі нейкага і асудзілі, дык што з таго?

– Разумееш, там дзіўная сітуацыя нейкая. Ніхто нават гаварыць не хоча, ці не нацягнулі яму пакаранне, ці ўсё справядліва. Яго справа мне нечым аддалена нагадала справу таго апазіцыянера, пра якога ты не памятаеш. Што мы ў студэнцтве на працэс хадзілі. Яму тады сем сутак далі. У мяне ён увесь час з галавы не выходзіў, пакуль я вучыўся. Я нават сабе абяцанне даў, што як буду працаваць у пракуратуры, то такой лажы не дапушчу. А тут у першы дзень працы, як падстроена ўсё адно… Не ведаю, як табе растлумачыць…

– Нічога мне не трэба тлумачыць, – гучна зарагатала Рыта. – Даліся табе гэтыя апазіцыянеры. Як па мне, то хай іх усіх перасадзяць. Ты з гэтымі апазіцыянерамі лепш да сваёй Людкі схадзі. І што ты ў ёй быў знайшоў!? Яна ж за цябе на цэлыя два гады старэйшая!

– Выпадкова атрымалася. Пасля развітання з табой. А Люда пры чым тут? – здзіўлена вылупіў вочы Ігар.

– Яна ж у судзе працуе. На адміністрацыйных справах сядзіць. І гэтых апазіцыянераў садзіць на суткі пачкамі. У яе там іх цэлы канвеер, які не спыняецца ні на дзень. Казала неяк, што калі ў кожнай іх справе разбірацца, то трэба павялічваць колькасць суддзяў разоў у сто.

Ігар замоўк. Думкі блыталіся ў галаве, як шчаняты пад нагамі. Толькі зараз ён зразумеў, што нічога не зможа патлумачыцць Рыце, бо сам не разумее, што робіцца ў яго душы. Нейкі суд. Нейкія справы. Чужыя. І ён тут пры чым?

– А ты магла б асудзіць чалавека, ведаючы, што ён можа быць невінаваты? – раптам спытаў ён.

– Не давялося яшчэ, – зарагатала яна. – Я ж яшчэ на пятым курсе ў дэкрэт пайшла. Кватэрка наклёўвалася. Крэдыт трэба было льготны ўзяць. Прыйшлося ахвяраваць на нейкі час кар’ерай. Так што з маім судовым досведам прыйдзецца пачакаць. Толькі вось, што я табе скажу. Невінаватых не бывае. Калі яго прывалаклі ў суд і завялі на яго справу, то ён ужо вінаваты. Асабліва калі гэта апазіцыянер. Хай не лезе, куды не просяць. І яго ніхто чапаць не будзе. А ўлез, то сам і вінаваты.

Васілюк апусціў галаву, і ўпершыню узрадваўся, што лёс яго развёў з гэтай крыважэрнай прыгажуняй. Такой яна яму зараз паказалася. Толькі не на самай справе крыважэрная. Хутчэй абыякавая і тупая. Сыпраўды толькі прыгажуня. Але ўсё адно ўзрадваўся, што лёс яго развёў з ёй.

– А раптам мяне судзіць прыйдзецца? – пацікавіўся ён. – Таксама разбірацца не будзеш? Як загадаюць, так і зробіш?

– Ясна, што не буду. Толькі твой дзядзька не дапусціць гэтага. Не давядзе справу да суда, што б ты ні зрабіў. Нават калі банк абчысціш. У яго падвязкі моцныя.

– А раптам парвуцца?

– Ну, калі парвуцца, тады кірдык. Такое жыццё, нічога не зробіш. Час зараз такі. Літасці не чакай ні ад кога.

Ён паглядзеў на неба не таму, што хацеў пацешыцца святлом зорак. Ён ведаў, што з-за святла ліхтароў іх не бачна. Проста не ведаў, што сказаць. А ўвесь час у дол глядзець ужо абрыдла. І гэтая абстрактная фраза “Час зараз такі…” Што за такі час? Чаму ён цяпер такі? Калі ён быў іншы? Але на такую фразу няма чаго адказаць.

– Чаму ты мяне кінула? – пасля кароткай паўзы загаварыў ён.

– Нікога я не кідала, – нервова адказала яна. – Я з дзяцінства ведала, за каго выйду замуж. Мне мой дзядзя гэта сказаў, як табе сказаў твой, што ты будзеш пракурорам. Памятаеш, ты мне расказваў. А мне мой сказаў, што я буду працаваць у судзе і муж мой таксама там працаваць будзе. І нават прозвішча мужа назваў. Як у ваду глядзеў. Такое прозвішча ў яго і аказалася. А цяпер ідзі праспіся. А мне дзіцё класці трэба.

Няма часу на цябе. Ужо дзесяць гадзін ночы.

– А можа, у таго праваабаронцы таксама дзеці ёсць? Ці жонка? Ці старыя бацькі? – вырвалася ў яго з грудзей, як з гарматы. – Што зараз яны робяць? Як там яго сям'я? Хіба не каньяк п'юць? Цябе гэта не хвалюе? Людзі перажываюць, можа нават пакутуюць. А раптам ён невінаваты?

– Не, не хвалюе, – адмоўна пакачала яна галавой. – Нават калі ён і невінаваты. Але ён вінаваты. Вінаваты. Разумееш ты? Я табе ўжо казала пра тое. І не суньcя не ў свае справы, прыдурак ты. А то пазнаёмішся з тым праваабаронцам асабіста. У адной камеры. А яшчэ пытаешся, чаму я цябе кінула. Бо ты прыдурак. Прабач. Я не са зла так сказала.

І пайшла.

Ігар павольна плёўся дахаты, паглыблены ў свае разважанні. Таксі само спынілася ля яго. Ці то таксіст зразумеў па яго няўпэўненай постаці, што тут можна падзарабіць, ці то выгляд у яго быў аж настолькі гаротны, што не спыніцца і не прапанаваць паслугу было немажліва. Седзячы на ўтульнай задняй сядушцы легкавіка, стажор патэлефанаваў настаўніку.

– Пятро, ты не спіш?

– Не. Рана на сон, – адказаў той. – А ты яшчэ цвярозы? Няўжо не адзначаеце пачатак твайго працоўнага шляху?

– Усё нармальна. Святкуем. У мяне толькі да цябе пытанне. Я думаю пра тую справу з праваабаронцам.

– Што, вырашыў кар'еру рабіць разам з Матыкеві-

чам? На апазіцыянерах? – пацікавіўся настаўнік.

– Ды што вы ўсе з гэтай кар'ерай?! Я зусім пра іншае. Раптам мне некалі даручаць падобную справу. І што тады? Неяк незразумела ўсё там. Я яшчэ раней чытаў пра яе ў інтэрнэце…

– А ты менш думай. І сайты выбірай правільныя для чытання. І ўвогуле, не магу зразумець, што табе трэба? Можа, лепш заўтра пагаворым.

– Давай заўтра.

– Ну, да заўтра.

– Да заўтра.

– Ну вось і з'явіўся! – памахаў бацька пальцам у Ігара перад носам. – Маці ўжо некалькі разоў ежу грэла. Ты дзе цягаешся, лабідуда? Зараз ужо дванаццатая гадзіна. Гэта табе не жарты. Зноў завёў сабе дзеўку? – усміхаючыся, сказаў бацька.

Стажор стомлена прысеў за стол.

– Прабач, – прастагнаў. – Ужо я тут. Не прайшло і паўгода.

– Ну, і добра. Зараз маці прысядзе. Я наліваю, а ты распавядай.

Ігар расказваў пра Кавальчука і пра Івана Аркадзевіча. Крыху пра свае ўражанні ад усяго.

– А скажы мне, – нарэшце не вытрымаў, – што гэта за Матыкевіч па мянушцы Вільфор? Хто ён такі?

Бацька спахмурнеў.

– Ты лепш ад яго далей трымайся, – параіў. – Небяспечны чалавек. Родную матку прадасць, калі трэ-

ба будзе. Плячэй у яго моцных няма. Але за яго іншыя службы заступяцца ў разе чаго. А ён на кожнага кампрамат мае. Ты з ім ветліва так: “Добры дзень”,”Да пабачэння”, і на гэтым завяршай. Не сварыся, але і не збліжайся.

– Я тут у інтэрнэце пра адну справу чытаў. Ну, ведаеш, паколькі мне працаваць у гэтай сістэме, то цікавіўся ўсім. У тым ліку і па апазіцыйных сайтах палазіў. Там адна справа цягнулася даволі доўга. Я спачатку думаў, што аднаго незгаворлівага папалохаць хочуць. А сёння гэты Матыкевіч усім абвесціў, што таму канкрэтны тэрмін упаялі. Прычым вакол гэтага нейкая незразумелая мітусня паднялася.

– А табе што? – здзівіўся бацька. – Ты на апазіцыі вырашыў кар’еру рабіць?

– Ды што ты пляцеш, бацька! – узмаліўся Ігар. – Якая кар’ера?! Я проста хачу разабрацца: куды я патрапіў і што там, зрэшты, робіцца?

– Ты менш свой нос сунь не ў свае справы. Прыдурак. І такія размовы ні з кім не заводзь. Ты ведаеш, якія зараз часы? Кожнага могуць узяць за адно месца. І гэтае месца даволі пікантнае. Трэба ж хоць крыху арыентавацца ў рэчаіснасці. Асабліва з апазіцыянерамі асцярожна трэба. Не сунуць цябе ў іх справы, то рабі выгляд, што нават не ведаеш пра іх існаванне. Ну, а калі дадуць справу весці табе, тады нікуды не дзенешся. Тады і будзеш аддувацца. А зараз забудзься. Забудзься! І свае меркаванні трымай пры сабе, а не сунь іх іншым!

– Нават калі там справу робяць ліпавай?

– Ты што, не разумееш, у які час жывеш?

– Ды што вы ўсе гэтым часам тыкаеце, – не вытрымаў Ігар і ледзьве не перайшоў на крык.

– Часы вам нейкія не такія. І дзядзька Толік пра гэтыя часы. І астатнія. А хто іх робіць такімі, гэтыя часы? Хто? Яны самі такімі становяцца?! Вы ж іх такімі робіце, а пасля ад страху трасецеся і дзяцей палохаеце!

Бацька наліў па кілішку і жэстам папрасіў маці пакінуць пакой. Тая так і зрабіла. Моўчкі ўстала і пайшла да сябе. Зашылася так, быццам мыш пад мяцёлку, і ні гуку. Не першы раз за жыццё з пракурорскім работнікам. Звыклася.

– Я табе вось што скажу, – аднавіў спрэчку бацька, хмура пазіраючы на стол недзе паміж талеркамі, нібыта шукаў чаго. – Ты яшчэ замалады, каб такія высновы рабіць. Ты ў жыцці яшчэ не арыентуешся. У цябе з дзяцінства ўсё гатовае было. І кватэра, і адукацыя, і ўсё самае-самае. А адкуль, ты думаеш, гэта ўзялося? А ўзялося гэта з майго мазаля! Ты думаеш, што проста было падняцца да гэтага ўзроўню? І ў гэтым жыцці калі не ты пераможаш, то пераможуць цябе. А ты апазіцыянераў шкадуеш? А ты ведаеш, што яны з табой зробяць, як прыйдуць да ўлады? Ды яны цябе ў парашок сатруць за адно тваё прозвішча. Нават пікнуць не паспееш.

– Бацька, ды ты баішся, што цябе сатруць у парашок і без апазіцыянераў! Баішся, што свае сатруць! Сам неяк казаў сп’яна, і дзядзька Толік казаў сёння, што пад цябе капаюць! А хто капае?! Свае! Не апазіцыянеры ж! – парыраваў сын. – Я ўвесь час лічыў цябе найразумнейшым на свеце чалавекам. І цябе, і

дзядзю Толю. А зараз гляджу, вы самі не разумееце, што робіце. І не разумееце, што робіцца вакол вас!

– У нас зараз цяжкія часы, гэта праўда, – перакуліў кілішак стары Васілюк. – Пад нас капаюць. Але гэта не першы раз. Мы моцна стаім на нагах. Выкруцімся. Выкручваліся ўжо і нашым непрыяцелям нос падцёрлі. Туалетнай паперай падцёрлі. Выкарыстанай паперай. Неаднаразова выкарыстанай. І гэтым разам таксама будзе.

– Моцна, нямоцна! – закрычаў Ігар. – Я не пра гэта пытаю! Я пра справядлівасць хацеў пагаварыць! Пра нашу прафесію! Пра законнасць! Пра тое, як мне прыйдзецца пражыць усё жыццё! Як я зраблю зараз, так і пойдзе далей. А ты мне пра тое, хто пад каго капае, з кім можна гаварыць, з кім не, каго паважаць, а каго баяцца! Мы што, у джунглях жывём? Ці ў заапарку?!

– Мы жывём у горшых варунках, чым джунглі, – сур'ёзна адказаў бацька. – І я табе пра гэта ўвесь час тлумачу. А ты, замест таго, каб слухаць, пачынаеш мяне вучыць. Але яйка курыцу не вучыць. Я для цябе зрабіў усё.

– Што ўсё? Што ўсё? Гэта ты лічыш нармальным? Баяцца на працы пагаварыць з калегамі? І, працуючы ў пракуратуры, словы "чэснасць" і "законнасць" ужываць на працэсах толькі скрыжаваўшы за плячамі пальцы?

– Ах вось як загаварыў, – абурыўся бацька. – А ты хацеў бы ўсё мець і нічым не ахвяраваць?

– Мне не трэба нічога! – не вытрымаў сын. – Можа, чыстае сумленне - гэта таксама немалаважна!

– Ах, табе нічога не трэба!? Ну, то хто цябе тры-

мае?! Ідзі ў калгас круціць быкам хвасты. Чаго не ідзеш? Цябе няволіць нехта?! Толькі некалі твой сын табе скажа, што ты неварты называцца бацькам. Бо ты не зможаш нічога яму даць, акрамя бычыных хвастоў. І пляваць яму будзе на тваё чыстае сумленне. Нават размовы пра чыстае сумленне - гэта вялікая раскоша ў наш час. Іх сабе могуць дазволіць толькі такія лабідуды, як ты, у каторых усё было за бацькавы кошт. І жыллё, і ежа, і вопратка, і адукацыя, і прыстойная кампанія, і перспектывы ў жыцці, і ўсё астатняе. А каб у цябе гэтага не было, ты думаў бы, дзе ўкрасці кавалак хлеба. І аніякую мараль тут не разводзіў бы. І на сумленне ты пляваў бы. Бо хацеў бы есці. А што ты зробіш, калі твае будучыя дзеці захочуць такі ж планшэт, як у іншых, а ў цябе - шыш у кішэні. Калі захочуць такую ж машыну, як мае суседчын сын, такую ж вопратку, як нейкі аднакурснік, а ты ім - дулю з макам? Гэта я табе ўсё даў, у тым ліку і тваю мажлівасць пагаварыць пра чыстае сумленне. Дык вось слухай і вучыся! Для таго вучыся, каб маім унукам лакеямі не прыйшлося працаваць ва ўсялякіх там Матыкевічаў! Вучыся, пакуль я жывы. А не навучышся, то з такімі думкамі табе самому прыйдзецца ў апазіцыянеры запісацца. Вось тады і завыеш па-сапраўднаму! Даведаешся, дзеля чаго трэба ўмець жыць!

Ігар не хацеў крыўдзіць бацьку. Ён насамрэч быў яму вельмі ўдзячны. Удзячны за ўсё. Але спрэчка загучала на такіх павышаных танах, што яе гучанню пазайздросцілі б нават дынамікі, якія выкарыстоўваюць выканаўцы цяжкога рока.

– Пайду я падыхаю, – рашуча скончыў ён спрэчку і пакінуў раз’юшанага і пакрыўджанага бацьку за сталом сам-насам з паўбутэлькай недапітага, надзвычай добрага і гэткага ж дарагога каньяку, набытага адмыслова для адзначэння першага працоўнага дня любімага сына.

Было далёка за поўнач. Гэта было ясна і без гадзінніка. Ніякага канкрэтнага плана не было. Нічога больш-менш талковага ў галаву не лезла. На вуліцы пахла свежасцю і сумам. І нейкай, незразумела па чым, настальгіяй. Мажліва, па дзяцінстве, дзе бацька быў заўсёды добрым і аўтарытэтным. У прыгожым мундзіры. З яго хацелася браць прыклад, хацелася стаць такім, як ён. І крыху хацелася быць падобным на дзядзю Толю. На такога ўпэўненага ў сабе мужчыну. Такога вясёлага, добрага і моцнага. Хоць і з круглым тварам з маленькімі вочкамі, якія ўвесь час чагосьці бегалі. Гэта цяпер ён здагадваецца, чаго яны бегалі. І то, толькі здагадваецца. А тады і не задумваўся пра гэта. Бегаюць, то хай сабе і бегаюць. Іх справа.

А можа, гэта была настальгія па студэнцкіх гадах, дзе выкладчыкі заўсёды вучылі правільнаму і добраму. І ніякіх сумневаў у велічы іх навукі. А можа, гэта настальгія па першым каханні? Па той Рыце, такой чыстай, такой рамантычнай, такой узвышанай, шчырай, праўдзівай, разумнай, найлепшай і самай-самай... А можа, па Людзе ці Лене. Ці… Цяжка разабрацца. Бо ў душы панаваў хаос і роспач. Ды не хацеў ён крыўдзіць бацьку! Ён яму за ўсё ўдзячны. І нікога не хацеў крыўдзіць! Так неяк па-дурному ўсё атрымалася.

– Прывітанне, Пятро, – стажор ледзьве чутна прастагнаў у слухаўку.

– Ды толькі нядаўна развіталіся да заўтра, – адгукнулася адтуль.

– Заўтра ўжо надышло.

– Ну, так. Твая праўда.

– Слухай, Пеця. Я ўжо з усімі, з кім трэба, замачыў свой першы працоўны дзень. Поспехі невялікія. Праўду кажучы, іх зусім няма. Як вынік – я пасварыўся з бацькам, не паразумеўся з дзядзькам, загрузіў нечым Рыту і па-ранейшаму яшчэ зусім цвярозы, як шкло ў акулярах Івана Аркадзевіча.

– Ну, а я табе нашто?

– Ды вось, з табой яшчэ толькі не выпіў. А ты ж мой настаўнік і калега. І яшчэ даўні сябра. Непарадак гэта.

– Сапраўды, непарадак, – голас Кавальчука павесялеў. – Асабліва калі да ўсяго пералічанага дабавіць той неаспрэчны факт, што ты мой будучы начальнік, – весела засмяяўся.

– Ну, гэта не факт.

– Факт.

– Добра. Я не пра гэта. Запрашаю цябе на кілішак добрага напою. У начны клуб, што ля цябе недалёка. Каб табе спрасонку доўга не бегчы.

– Толькі адна ўмова. Ты мне больш пра справы над апазіцыянерамі галаву дурыць не будзеш.

– Пастараюся. Але не абяцаю.

Праз нейкі час хлопцы сядзелі за ўтульным столікам. Гучная музыка не пакідала шансаў на размову, таму заставалася толькі піць. Ад гэтага Ігару станавілася яшчэ больш паскудна. Кавальчук жа адчуваў сябе як рыба ў вадзе. Перакрыкваючы музыку, агучваў нейкія тосты, стараўся на вуха расказаць пару-тройку новых анекдотаў. І піў. Піў бесперастанку.

– Давай выйдзем, – прапанаваў Васілюк. – Душна тут.

Пятро станоўча адрэагаваў на прапанову, і хлопцы пад пільнымі позіркамі ахоўнікаў начнога клуба ўселіся на прыступках.

На здзіўленне Ігара, падвыпіўшы Кавальчук сам распачаў размову.

– Навошта ты па тэлефоне пра справы гаворыш? Ты ніколі не чуў, што тэлефоны праслухоўваюцца?

– Ну дык гэта ж з санкцыі.

– З якой санкцыі, прыдурак? Ты амерыканскіх фільмаў наглядзеўся хіба?

– Ды я нічога такога і не гаварыў, што магло б зацікавіць тых, хто праслухлўвае.

– А гэта з якога боку глянуць. Калі б раптам нашу размову праслухоўваў разумны супрацоўнік, то ён адразу зразумеў бы, што ад такога работніка, як ты, трэба хутчэй пазбавіцца.

– Чаму?

– А ненадзейны ты.

– Ненадзейны для каго?

– А ні для кога. Проста ненадзейны. Такія ідэалісты, як ты, могуць праблем нарабіць. Таму ад іх пазбаўляюцца ў першую чаргу.

– Ну, а каб праслухоўваў не самы разумны, – шчыра пацікавіўся Ігар, – што б ён такога пачуў?

– А вось тут самае цікавае, – засмяяўся Кавальчук. – Ён бы мог твае словы ўспрыняць так: ты цікавішся гэтымі справамі дзеля кар'еры і вырашыў пайсці самым лёгкім і перспектыўным кар'ерным шляхам. Шляхам Матыкевіча. Гэта значыць, душыць ворагаў існуючай сістэмы. Апазіцыянераў. У гэтым выпадку ты будзеш падседжваць самога Матыкевіча, каб яго адпіхнуць далей, а самому заняць яго месца. Матыкевіч, зразумела, так проста здавацца не захоча. І хто каго? Як ты думаеш?

– Думаю, ён мяне перамог бы, – усміхнуўся стажор.

– А чаму так думаеш?

– Ну, ён больш дасведчаны. Старэйшы. Мае ўжо напрацоўкі. І нейкія службы ў яго за спіной. Ты сам казаў.

– А вось і памыляешся, – зарагатаў настаўнік. – Тыя службы яго здадуць адразу, як убачаць, што змогуць Васілюка мець. Хоць аднога. А за адным і астатнія Васілюкі пацягнуцца. Галоўнае пачаць. Таму стаўка адназначна была б на цябе. На вялікую радасць нашаму слаўнаму шэфу Івану Аркадзевічу.

– А шэфу якая розніца?

– Проста шэфа Матыкевіч ужо дастаў, як стары гемарой. Ты ведаеш, чаму Іван Аркадзевіч учора па заканчэнні працоўнага часу на працы застаўся?

– Чаму?

– Бо Матыкевіч застаўся. Шэф і дахаты хоча ісці, і хоча з працы зыходзіць апошнім. Ну, як той капітан,

які мусіць апошнім пакідаць карабель. А той гад, Матыкевіч, не дае яму такой мажлівасці. Прыкідваецца, што працай загружаны. Сцвярджае, што нават у прыбіральню не мае часу хадзіць. Мы неяк падкалолі яго. На дзень нараджэння падарылі вялікую скрынку. Ён узрадваўся, думаў там нешта вартае. Адкрыў, а там памперсы. Вось дзе злаваўся. Скакаў, як абвараны. Але такія людзі без гонару. Працягвае, як і раней, сцвярджаць, што не мае часу на прыбіральню. А зрабі шэф хоць адзін няправільны крок, як Матыкевіч імгненна скарыстае гэта і данясе наверх.

– А чаму яго шэф першым не выкіне?

– Бо яго выкідваць нельга. Такіх выкідваць не дазваляюць, пакуль раўназначная замена не знойдзецца. А пажадана і лепшая.

Стажор уважліва паглядзеў у вочы настаўніку. Пільна так, можа, упершыню ў жыцці па-даросламу.

– Гэта не пра мяне, – цвёрда запэўніў ён. – Я на такую ролю не згаджуся і пад страхам смерці.

– Ды смерці ніхто не баіцца, – уздыхнуў настаўнік. – Змена жыццёвай накатанай хады страшней. Аб гэта ўсе спатыкаюцца. Бо губляецца тады ўсё. Праца, сябры, перспектывы, звычкі… Усё. Чалавек баіцца гэтага больш, чым смерці. Памерці кожны дурань можа. А вось як жыць? Во пытанне… І гэта яшчэ не самае горшае, калі табе справу нейкага прыдуркаватага апазіцыянера падсунуць. Тыя ведаюць, на што ідуць. Яны ідэйныя. І галаву маюць. Таму ведаюць, чым усё можа скончыцца, і псіхалагічна гатовыя на тое. А калі табе падсунуць справу нейкага наіўнага прадпрымальніка, які зарабіў большую суму, чым

камусьці здаецца сціплым? І здуру забыўся пра хрысціянскія запаветы і ні з кім не падзяліўся.

– Ну, і як ты ў такім выпадку жыць вырашыў?

– Я?! Лепш пра сябе думай. Невядома, які ты зрабіў бы выбар, каб аказаўся ў бязвыхаднай сітуацыі, хлопча. – А я свой зрабіў даўно, – засмяяўся Кавальчук, і па міміцы яго твару было бачна, што ён задаволены сваім выбарам. – Я ў любую хвіліну, калі мне што не спадабаецца на працы, магу пайсці ў глухі запой.

– І гэта выбар? – вылупіў вочы стажор. – Так кожны можа зрабіць.

– А вось і няпраўда. Не кожны зможа. Не ў кожнага сілы хопіць. Не кожны асмеліцца. Ды не кожнаму і дазволяць.

– Як гэта?

– А вось так. Часамі трэба мець вялікую мужнасць, каб запіць.

– Я не бачу ў гэтым мужнасці. Ты проста хаваешся за шклянку. Мужнасць - гэта калі можаш адкрыта заявіць пра сябе.

– Хочаш, я табе адзін тост скажу цікавы? – надзвычай сур'ёзна вымавіў п'яны настаўнік.

– Толькі скажы спачатку: ты паэзію любіш?

– Чытаю часамі.

– А такога Губермана ведаеш?

– Чуў.

– Ну дык вось. Прачытаю адзін яго вершык. Ён у мяне як тост. Заўсёды за сталом чытаю. На недакладнасць з арыгіналам не звяртай увагі. Я пару-тройку

слоў там увесь час перастаўляю.У залежнасці ад кампаніі. Думаю, твой цёзка, дружа Ігар Губерман, не пакрыўдзіцца.

Шанцуе мне на тых, хто побач
Са мной шукае ў шклянцы дно;
Чым век падлей, тым большы гонар,
Для тых, хто з ім не заадно.

І Кавальчук застыў у чаканні рэакцыі стажора.

– Губерман у пракуратуры не працуе, – парыраваў Васілюк. Яму прасцей. А я ўпэўнены, што як мне прыйдзецца, то я зраблю свой выбар больш акрэслена.

– Ха-ха. То чаму ты тады не з тым праваабаронцам у адной камеры сядзіш? Вось ён зрабіў свой выбар свядома. У яго была мажлівасць зліняць. Але дзе ён цяпер? І чаму ты не там? Ведаеш, што я табе скажу. Ты займаешся самападманам. І ён цябе давядзе да таго, што ў момант ікс ты не зможаш зрабіць не толькі такі выбар, як я, але і такі, як твой бацька ці нават як твой дзядзька Толік.

– А ты за мяне не вырашай. Вы толькі і наракаеце на не той час. Маўляў, часы такія! А самі ж і зрабілі іх такімі!

– Ну і дурны, – паківаў галавой Кавальчук. – Людзі не робяць аніякія часы: ні добрыя, ні злыя. Часы ім даюцца такія, якія даюцца. А людзі ў тых часах проста робяць выбар. Кожны свой.

– А што ты скажаш пра адказнасць?

– Калі ты пра вышэйшае пакаранне, то яно ўжо прыйшло. Заранёў. Яшчэ да здзейсненага злачынства. Бо нарадзіцца і жыць у такі час і ў канкрэтным месцы,

дзе зараз мы, гэта і ёсць вышэйшая кара. Ну, а калі пра зямную, то хто ж цябе пакарае, – усміхнуўся. – Ты ж сам - карная сістэма. А цябе пакараць можа толькі той, хто вышэй за цябе па пасадзе. Нехта з такіх, як ты.

* * *

З ранку галава балела так, нібыта цэлую ноч піў. Зрэшты, так яно і было. Пабудзіў Ігара бацька. Стары Васілюк ужо быў апрануты ў мундзір, гладка паголены, свежы. Як і належыць адказнаму дзяржаўнаму чыноўніку, які шмат рознага пабачыў на сваім працоўным шляху.

– Пара на працу, – буркнуў ён.

– Прабач за ўчарашняе, – адазваўся сын.

– Нічога страшнага.

Бацька не злаваўся, і гэта палепшыла настрой сына. Ён хацеў яшчэ нешта сказаць у сваё апраўданне, але вырашыў, што лепшае ёсць ворагам добрага, і прамаўчаў.

Збіраўся ён хутка. Баяўся спазніцца. Таму паспеў яшчэ да пачатку працоўнага дня. Але людзі ў кабінеце ўжо былі. А за дзвярамі шэфа Івана Аркадзевіча была чутна размова на павышаных тонах. Ігар разабраў галасы самога шэфа і Матыкевіча. Яшчэ адзін голас быў яму невядомы. Але прадчуванне адразу стала нашэптваць, што ўладальніка менавіта гэтага голасу трэба асцерагацца.

– Як жа гэта так? – крычаў як рэзаны Матыкевіч. – Ды хто ён такі? Ён толькі прыйшоў. Стажор яшчэ! За

што яму такі падарунак? А я тут гарбачуся, як ішак, і мне - шыш! А яму ўсё на талерачцы!

– Мы пра гэта паразмаўляем пазней, – данёсся з-за дзвярэй яшчэ адзін голас. Роўны і спакойны. – А зараз мы вас не затрымліваем.

Праз хвіліну з кабінета шэфа як ашпараны выскачыў Матыкевіч. Злосным, як у раз’юшанай гадзюкі, позіркам ён прастрэліў Ігара і нацягнутым тонам прашыпеў:

– А-а. Малады ды ранні. Ужо прыпёрся. Цябе чакаюць у шэфа.

Стажор пагрукаў у дзверы і няўпэўнена зайшоў у кабінет Івана Аркадзевіча. Той быў вельмі сур’ёзны. Нават занадта. Такім Васілюк яго яшчэ ніколі не бачыў. Крыху адсунуўшыся ад яго працоўнага стала, ля вакна, сядзеў яшчэ адзін чалавек у цывільным. Незнаёмы. Сядзеў і глядзеў некуды ў нікуды. Здавалася, ён не заўважаў прысутных, бо аніяк не адрэагаваў на прыход стажора. Ігар, як яго ўбачыў, адразу прыпомніў словы героя аднаго фільма, бандыта Гомельскага, які ў падобнай сітуацыі выказаўся неяк так: “Як толькі я ўбачыў ваш твар, у мяне адразу мільганула думка, што я вельмі не хацеў бы мець справы з супрацоўнікамі спецслужбаў, асабліва ў ваенны час”.

“Але ж зараз не вайна”, – спахапіўся Ігар, але яго думкі перарвалі словы шэфа:

– Ну вось, Ігар Сяргеевіч, – загаварыў ён надзвычай афіцыйным тонам. Надзвычай. – Мы заўважылі, што вы хочаце працаваць. Прычым хочаце працаваць не па дробязях якіх, а на сур’ёзных справах. Ну, што ж, пахвальна. Думаю, мы можам пайсці вам на-

сустрач. Вось тут у нас некалькі папак завалялася з матэрыяламі. Людзі ў іх вядомыя ў пэўных колах. У апазіцыйных колах, як вы разумееце. І занадта яны актыўныя. Як іх не спыніць, то самі не спыняцца. Вы паглядзіце іх паперы, пасупрацоўнічайце з калегамі з іншых службаў. Можа, што знойдзеце.

І ён, не даўшы стажору мажлівасці хаця адкрыць рот, нядбайна кінуў на стол перад яго носам некалькі шэрых папак.

Гадзіннік паказваў без пяці мінут восем.

## Паэзія прозы

Калі жонка хапіла дзяцей і, выгукнуўшы напаследак так часта гаворанае жанчынамі ўсіх рас і народнасцяў: "Жыві са сваёй гарэлкай і падохні ад яе", зачыніла дзверы з вонкавага боку кватэры, Сяргей Касцюковіч нават не павёў брывом. Ён быў спакойны, як нябожчык на ўласных урачыстасцях, прысвечаных адлёту яго несмяротнай душы ў лепшы свет. Ніштo не магло прымусіць яго мужнае і суровае мужчынскае сэрца здрыгануцца з прычыны ныцця і ляманту жанчыны, якая за ўсе доўгія гады начных скандалаў так і не зразумела, што на гэтай зямлі ў яго ёсць надзвычай важная місія. І ён яе мусіць выканаць любым коштам, нават калі за тое давядзецца заплаціць сямейным шчасцем і ўтулкам. Хоць апошняе рабіць не абавязкова. Прынамсі, Сяргей так спадзяваўся.

Да жонкі тыя аргументы не даходзілі. Яны адскоквалі ад яе галавы, як гарох ад бетоннай сцяны іх двухпакаёвай кватэры, дзе ёй прыходзілася пакутаваць з мужам-алкаголікам і трыма дзецьмі. Яна старалася нешта змяніць. Намагалася з апошніх сіл. Пераконвала мужа, што, акрамя сямейнага шчасця, Сяргей плаціць яшчэ і сваёй вантробай, ныркамі, сэрцам, падстраўнікавай залозай, памяццю, страчаным часам, а горш за ўсё, што і сваім сумленнем, але гэта толькі ўзмацняла перакананне Касцюковіча, што ён на тым шляху, на якім і павінен быць.

– Больш тупых істотаў, чым бабы, на свеце няма, – казаў ён сябру за пляшкай гарэлкі праз гадзіны паўтары пасля таго, як жонка паўтарыла любімую фразу

ўсіх жанчын свету, якія жывуць з алкаголікамі. – Яна не разумее, што такое творчы пошук. А ты, Пятро, разумееш пра што я гавару? Ты мяне разумееш?!

– Я?! – здзіўлена тыкнуў сябе пальцам у грудзі добра падпіты суразмоўца Касцюковіча. – Сярожа, ты ж мяне ведаеш! Мы ж з табой прайшлі о-го-го! Ды я ж за цябе падзяру каго хочаш. Як Тузік шапку. Нікому літасці не будзе. Хочаш, лыч наб'ю бармену. Ён нам ужо каторы год недалівае.

– Ат, што там недалівае! – махнуў рукой Сярожа, даючы суразмоўцу зразумець, што гэтая тэма хвалюе яго не больш, чым улюбёнага жончынага ката-мясаеда кошты на бульбу на гарадскім рынку. Але чамусьці працягваў ужо пачатую размову. – Горш за ўсё тое, што нас пояць паленай гарэлкай. Падробкай. Я ўвесь свет аб'ехаў, але большай дрэні, чым у нас, не піў. Нідзе! Жывы ацэтон наліваюць, нягоднікі. Падонкі!

– Што праўда – то праўда. Вось я пазаўчора ўзяў з Дзянісам Міхнюком для апетыту. Па пару кропель. Не каб напіцца, а так, каб было з чым пасядзець. Выключна для паху. Дык мала не паздыхалі, як тыя каты ад атруты, якую мая цешча пасыпала мышам. І выпілі ўсяго нічога. Па бутэльцы на рыла. Праўда, крыху пазней Сцёпка Вінаградаў заваліўся. За мяжу збіраецца з'язджаць, такі спрытны. Назаўсёды. А грошай у яго - як у бяздомнага сабакі блох. Ну і паслалі яго ў краму. Колькі ён прынёс – не памятаю. Першы раз то дзве бутэлькі і піва. Гэта памятаю. А пасля - халера яго ведае. Некалькі разоў хадзіў… Дык пра што гэта я… А! Ну дык назаўтра так галовы балелі, нібыта іх заціснулі ў ціскі і кувалдай лупілі па лбе. Вось і кажу.

Атруту прадаюць. Звесці род чалавечы надумалі…

Размову перарваў чыйсьці вясёлы вокліч. Да кампаніі радасна далучыўся яшчэ адзін знаёмы.

– Весела тут у вас, – сказаў ён і паставіў на стол бутэльку гарэлкі, купленую ў краме. – Гарэлка хоць і з сабой прынесеная, але сёння мой знаёмы бармен працуе. Нічога на тое не скажа, брыда. Дазволіць ужыць яе, смаркач. Ды і самі падумайце, які сэнс пераплачваць у кнайпе, калі ў краме, усяго за сто метраў адсюль, прадаецца ўдвая таннейшая. І такая ж паскудная, паленая, падробленая і паганая. Адзін у адзін. Я чуў, пра што вы тут гаварылі. Трэба адзначыць, тэма падабрана правільна. Да таго ж яна на сённяшні дзень яшчэ надзвычай актуальная.

Напачатку пілі моўчкі, кожны са сваімі думкамі. Пасля Касцюковіч з усяе сілы так рэзнуў кулаком па стале, што ў бармена ледзьве акуляры ўтрымаліся на носе. Бармен толькі нясмела ўсміхнуўся, нібыта прасіў прабачэння ва ўсіх на свеце. Тупавата неяк усміхнуўся. Па-дурному. І паднёс да вуха гадзіннік, нібыта баяўся, што ён ад таго ўдару перастаў цікаць.

– А мая, дэбілка, зышла! – выгукнуў Касцюковіч. – Забрала, падла, дзяцей і ў-у-цю-цю да мамы. Ну і добра. Хоць спакой будзе ў хаце. Можа, тады справа пойдзе. А то не магу засяродзіцца. Разумееш, Мікола, – і ён штурхануў трэцяга за сталом у плячо, – зышла, брыда.

– Разумею, – засмяяўся той. – Але ж яна ўжо не першы раз зыходзіць. Праз пару-тройку дзён вернецца. Яна ў цябе такая. На выхадныя зыходзіць. Каб папалохаць. А пасля прылятае назад, як паштовыя галубы.

– А як сабе хоча, – адрэзаў Сяргей. – Яна мяне не разумее і разумець не хоча. Я пісьменнік. Я ў творчым пошуку! Мне трэба знайсці свой стыль. Сябе, зрэшты, патрэбна знайсці. Я мушу напісаць такое, чаго яшчэ ніхто не пісаў. І так, як ніхто не змог напісаць да мяне. Мне неабходна знайсці формулу паэзіі прозы! Разумееце? Паэзіі прозы! Каб проза чыталася так, як паэзія. Я павінен гэта зрабіць. Як не, то лепей здохну.

– Вось гэта праўда. Усе здохнем рана ці позна, – прыпадняў галаву Пятро, які ўжо мала не заснуў за сталом. – Давайце вып'ем. За паэзію прозы!

– Ото ж брыда, – выпіўшы, скрывіўся Сяргей, нібыта ў шклянцы была не гарэлка, а сок або мінеральная вада. – Табе абы напіцца. А ты паслухай разумнейшых. Мы з Міколам колькі разам прайшлі. Яшчэ маладымі былі, калі сцягі нашы, бел-чырвона-белыя, падымалі. Савецкі Саюз гэта мы разваліді, а не Гарбачоў. Ну, не толькі мы, а такія ж, як мы, таксама. Памятаеш, Мікола, якія спадзяванні былі тады? На сваю краіну, на свой народ… А той народ плюнуў нам прама ў вочы. А найперш сабе. Вецер тады быў такі, што ў каго ні плюй, усё сабе ў вочы патрапіш. Мова ім патрэбная?! Ці вялікая гісторыя неўміручай беларускай нацыі?! Я вас пытаю? Што ім патрэбна? Ды анічога. Схаваліся ў бульбу ды чакаюць, пакуль хто ім шчасце прынясе. На талерачцы з блакітным абадочкам. І толькі ўсё крадуць ды ў панчохі зашываюць. Заробяць якія дробныя грошы, дык і тыя схаваюць, а не жывуць на іх, не цешацца з жыцця, зберагаюць для нечага абстрактнага, што ніколі не надыдзе. І ўглядаюцца, каб дзе на халяву напіцца ды пажэрці. Налі, кажуць, а то грошай сёння не ўзяў з сабой.

І так з дня ў дзень. Памруць – то тых грошай ніхто і не знойдзе. Жывуць абы для чаго. Нават не верыцца, што гэта нашчадкі тых вялікіх ваяроў. Вось адзін мой знаёмы кватэру купіў. Радаваўся, як цялушка ў бульбоўніку. Толькі рамонт зрабіў і дуба ўрэзаў. Нават не паспеў пацешыць вока. Яго закапалі, па чарцы выпілі ды разышліся. А ў той адрамантаванай кватэры зараз жончын хахаль жыве. Сумная ўдава і году жалобы не панасіла. А ён валяецца ў кепска зробленай труне з гнілых дошак, абабітых таннай матэрыяй. Вось і пытанне: для чаго чалавек, падла, жыў? Рэжыму баяўся, на мітынгі не хадзіў, з начальствам не сварыўся, супраць жонкі і цешчы ані аднаго кепскага слова не сказаў, усім хацеў быць добрым, толькі грошы збіраў і для сваёй куркульскай морды ўсё будаваў. А дзе ён зараз? Кранты яму. Цю-цю-цю, арыведэрчы. Як кажуць у народзе, чао бамбіна, прыдурак. І чаго жыць было?

– Хлопцы, я таксама такі, – раптам з болем і крыўдай усяе душы заплакаў Пятро, б'ючы сябе кулаком у грудзі. – І я, падла, такі самы! Я ж усяго баюся. Я з дзяцінства ўсяго баяўся і ўсіх слухаўся. Я баяўся і слухаўся бацькоў, старэйшых брата і сястру, дзядулю і бабулю, настаўнікаў у школе, старшыню калгаса і брыгадзіра, афіцэраў у войску, начальніка цэха на заводзе... Я баюся і слухаюся жонку, цешчу... А зараз ужо і ўласных дзяцей слухаюся ды баюся...Усіх... Адна радасць, калі з вамі вып'ю. Затое пасля цэлы месяц баюся, што я з вамі піў. Вы ж апазіцыя. Вы ж супраць улады. А ўлада ўсё ведае. І хто з кім п'е, і дзе, і навошта... А я і ўлады баюся. Больш, чым каго. А ў мяне дзеці падрастаюць, якіх я таксама баюся. У іх могуць быць праз гэта, што я з вамі гарэлку п'ю, непрыемнасці...

– Дык навошта з намі п’еш і выеш тут, як воўк зімой на месяц? – не вытрымаў Мікола. – Ідзі з кім так наліжыся.

– А няма з кім, – Пятро пачаў выціраць рукавом слёзы, ды так смешна, нібыта хлопчык у дзіцячым садку, які чакае, калі яго супакоіць чулая выхавацелька. – Больш ні з кім жонка не пускае. А з вамі як іду, то кажу, што дзеля дзяцей з вамі тузаюся. Што як яны закончаць школу, то вы дапаможаце ім знайсці вучобу на Захадзе. Я ж ваш як-ніяк. І мову ведаю. То вы маіх дзяцей не кінеце.

– Усё зразумела, – плюнуў на падлогу Сяргей. – А сказаць жонцы, што ідзеш да нас, а самому пайсці, куды табе хочацца, баішся. Вы ўсе такія. Цeню свайго баіцеся. У наступным жыцці вы за гэта будзеце даўгавухімі і чырванавокімі ангорскімі трусамі і з вашых шкураў будуць рабіць шапкі для расейскага рабочага класа і для кітайскага горнага дэсанта спецыяльнага прызначэння. А вы будзеце працягваць баяцца. Чаму я спіўся? Усё праз вас. Бо мая душа балела, як агнём прыпечаная, калі вы мову маю бэсцілі. Пайшлі за маскалямі з-за нафты і газу, як быццам бы вам з таго сапраўды была карысць. Не магу больш вытрымаць. Я таксама дзеля вас больш пальцам не паварушу. Я займуся сваім. Я зраблю нешта вечнае, што вам і не снілася. Я знайду формулу паэзіі прозы! Бо я хачу, каб хоць нешта засталося. Дзеля той Беларусі, якую я люблю. І некалі нехта прачытае маю прозу і спытае: “А хто гэта напісаў?”, яму адкажуць, што гэта напісаў нейкі беларус. І я з таго буду шчаслівы.

І ён ускочыў і імкліва кінуўся да дзвярэй. Як апараны.

Хлопцы ўгаворвалі Касцюковіча яшчэ крыху пасядзець у кнайпе. Але той, як упарты ёлупень, нічога не хацеў слухаць. Ён цяжка дыхаў, нібыта раз’юшаны бык, які толькі што прыкончыў тарэадора і прагнуў пасадзіць на рогі як мінімум яшчэ трох, распіхваў усіх рукамі ўправа і ўлева, і перамешваючы беларускія словы з расейскімі мацюкамі, абяцаў усім нешта даказаць. Пасля пазычыў у Міколы грошы на таксі і купіў бутэльку гарэлкі. А яшчэ праз некалькі хвілінаў зноў пазычыў грошы (цяпер ужо на бутэльку гарэлкі) і выклікаў таксі.

* * *

Зайшоўшы дахаты, Касцюковіч не стаў уключаць святло. Таго святла, якое праз вакно на кухні кідаў сумны вулічны ліхтар, яму хапала аж занадта. Паставіўшы на стол бутэльку і чарку, ён працягваў выкрыкваць фразы і асобныя словы, такія, як “паэзія прозы”, “я праз вас…”, “падонкі”, і ўжываць іншыя выразы з расейскай мовы, якія па-беларуску і на іншых мовах гучаць гэтак жа, як і па-руску, і якія паўтараць не рэкамендуюць школьныя настаўнікі мовы і літаратуры ды яшчэ напышлівыя дамачкі з нічым не абгрунтаванымі прэтэнзіямі на элітарнасць. Сумны гадзіннік, паглядаючы на ўсё гэта са сцяны, цярпліва чакаў, адбіваючы роўны такт хады часу, калі гаспадар хаты, асушыўшы бутэльку, прыціхне на стале або зваліцца пад стол і будзе спаць, на некага наракаючы, храпучы і цяжка дыхаючы. Так ужо было неаднойчы.

І гаспадар заснуў. На гэты раз не асушыўшы бутэлькі і нават яе не адкаркаваўшы. Проста паклаў галаву на

стол і стомлена заплюшчыў вочы. Можа, так бы і спаў да раніцы, каб не кот. Той прайшоўся туды-сюды па кухні і прыціснуўся да нагі чалавека. Чалавек прачнуўся.

– А што гэта яна ката з сабой не забрала? Заўсёды ж забірае яго з сабой. Баіцца, каб я яго голадам не замарыў, – прабубніў чалавек і крыкнуў кату: - Псік, зараза! Паспаць не даеш, брыда. Псік!

Але кот не спяшаўся ўцякаць. Ён толькі цяжка, як чалавек сталага веку, які расчараваўся ў паводзінах іншых, уздыхнуў і глянуў проста ў вочы Касцюковічу. Вочы ката блiснулi, як зоркi зiмовай ноччу. Блiснулi незвычайным чырвоным агеньчыкам і згаслi. А кот спакойна развярнуўся, ускочыў на табурэтку насупраць п'янага мужчыны і важна там усеўся. Ён глядзеў чалавеку ў вочы цяпер ужо зялёнымі агеньчыкамі.

– Гэта не мой кот, – прашаптаў пісьменнік і ўзрадаваўся. – Што гэта? Прывіды?! Глюкі?! Здані?! Цудоўна! Як цудоўна! Я ведаў, што гэта будзе! Мне гэта патрэбна! Я творчы чалавек! Цяпер я гэта ведаю гэтак жа дакладна, як тое, што майго ката жонка ўсё ж забрала з сабой. Я чытаў, што творчым людзям ад гарэлкі мрояцца каты. Менавіта каты! І менавіта творчым людзям! Якія могуць зрабіць тое, чым апантаныя. А я апантаны! А глюкі ў кожнага свае. Я чытаў. Яны чатырох відаў. Творцам – каты. Іншым людзям бачацца голыя бабы, чэрці і нейкія маленькія чалавечкі. Бабы мрояцца тупым. Чэрці злым. Маленькія людзі няшчасным. А да мяне прыйшоў кот! Менавіта кот! Як добра! Значыць - я творчы чалавек!

Кот яшчэ раз глянуў на творчага чалавека, і вочы

ў яго зноў заблішчалі. Гэтым разам яшчэ мацней, чым папярэднім. І правае вока ярчэй, чым левае. Белым і цёплым, як летнія зоркі, колерам. І кот зноў уздыхнуў, а на кухню невядома адкуль зайшла голая жанчына. Яна была сярэдняга росту, з кучаравымі доўгімі валасамі цёмнага, але не чорнага колеру. Яна ўвогуле не звяртала аніякай увагі на гаспадара кватэры, нібыта таго тут не было зусім і быць не магло ў прынцыпе. Жанчына падышла да табурэткі, узяла ката на рукі і спакойна села. Ката пасадзіла сабе на калені. Кот адразу стаў да яе лашчыцца, як да добрай знаёмай.

Творчы чалавек застыў, як той бетонны слуп, ліхтар якога кідаў сваё бляклае святло на Сяргееву кухню. Пасля, крыху ачуняўшы ад шоку, не зводзячы вачэй з жанчыны і ката, уключыў святло. Нічога не змянілася. Жанчына гладзіла ката, які сядзеў у яе на каленях. Вочы цяпер у ката зноў былі зялёныя, а ў жанчыны аж настолькі сумныя, што нельга было разабрацца, якога яны колеру.

– Так, так, так, – пачуў Касцюковіч голас за плячамі. Ён рэзка развярнуўся і ўбачыў маленькага крываногага чалавека, які фамільярна і ўпэўнена зайшоў да яго на кухню, нібыта ва ўласны замак. Ростам ён быў не большы за паўтара метра. На ім была вялізная кепка, адзетая брылём назад, кароткія вузкія порткі і на некалькі памераў большы ад патрэбнага пінжак.

– Зноў чалавека напалохалі, прыдуркі. Зайшлі, дык хоць прывітайцеся, назавіце, хто вы, як гэта робяць культурныя джэнтльмены і дамачкі з катамі. Дык вось, Сяргей Жоржавіч, – звярнуўся ён да Касцюковіча, – дазвольце прадставіцца. Мяне завуць Хуан Ан-

тоніа Хорхе Уільямавіч Джон. Сябры, за мой выключна прывабны знешні выгляд, называюць мяне проста Масёл. Вам жа, як свайму будучаму сябру, дазваляю звяртацца да мяне скарочана Хахуд. Цяпер дазвольце прадставіць іншых гасцей. Вось гэтую кралю завуць Аксана Львоўна Жульцэрнбаўм-Кустоўская. Будучая знакамітая паэтэса, а таксама радыё- і тэлевядучая. Удзельніца будучых конкурсаў, сябра безлічы журы і неверагоднага мноства рознага кшталту імпрэзаў. Творчы псеўданім Ксана Кустоўская. Два К. Кы і кы. Кыкы. Вось так. Праўда, да свайго таямнічага псеўданіма яна яшчэ не дарасла. Гэтак жа, як і не дацягвае ў творчасці да сваіх сапраўдных ініцыялаў. Але гэта пакуль што. У будучым многія, хто сёння задзіраюць нос вышэй за ўсе свае напісаныя літары, нават калі іх скласці адна на адну, будуць імкнуцца хоць ананімна пазнаёміцца з спадарыняй Кустоўскай, чые вершы будуць перакладаць на ўсе мовы свету, акрамя беларускай. І гэта зразумела чаму. Бо яна іх будзе ствараць па-беларуску ад пачатку. Дарэчы, дзіўная справа. Чаму, калі мастак малюе карціны, усе кажуць, што ён іх піша. Значыць, калі паэт піша вершы, трэба гаварыць, што ён іх малюе. Пра прозу таксама так трэба гаварыць. Адным словам, рабіце ўсё наадварот, і гэта спадабаецца людзям. Гэта ім заўсёды падабаецца. Яны ад такога балдзеюць. Так што, Сяргей Жоржавіч, малюйце сваю паэзію прозы. Чалавецтва гэтага прагне.

– Мяне завуць не Сяргей Жоржавіч, а Сяргей Георгіевіч, – нарэшце нешта ўдалося вымавіць збянтэжанаму Касцюковічу.

– А якая розніца? – вылупіў вочы Хахуд. – Вось гэтыя

творчыя людзі! Да кожнай літары прыдзіраюцца. А як у народзе кажуць? Называй мяне хоць саганом, толькі ў печку не сунь. А вы на сваіх імёнах і псеўданімах павар'яцелі. Ну, нічога. Я зраблю з цябе чалавека. Абяцаю.

– А як завуць ката? – пацікавіўся Касцюковіч.

– Даўся табе той кот, – раззлаваўся Хахуд. – Навошта катам мянушкі? Я цябе пытаю? Дзе ты бачыў, каб гэтыя паскудныя жывёліны адзываліся на свае мянушкі? З сабакамі ўсё ясна як божы дзень. Яму скажаш Тузік там ці Мухтар, і той ужо ляціць да гаспадара, махаючы хвастом. А кату хоць у вуха крычы, ён ім нават не павядзе. А прыйдзе толькі тады, калі, жывёліна, жэрці захоча. І не будзе чакаць, што ты яго паклічаш, дрэнь. Таму катам даваць мянушкі – бессэнсоўшчына і непатрэбшчына. Ката завуць проста – кот. І хопіць з яго. Хай і гэтаму радуецца. Гэта толькі ў Міхаіла Булгакава, у “Майстры і Маргарыц”, ката завуць Бегемотам. Але калі ты ўважліва чытаў гэты несмяротны твор, то павінен ведаць, што Бегемот быў не зусім кот. А гэты зусім. Кот, ён і ў Афрыцы кот.

Сяргей зірнуў на ката. Той спакойна ляжаў на каленях у спадарыні Кустоўскай і глядзеў некуды ўбок, нібыта тая размовы не мела да яго аніякага дачынення. Вочы ў яго былі спакойныя, колеру спелага персіка.

– А ён умее гаварыць? – пацікавіўся пісьменнік.

– Ну ты і цемната, – зарагатаў Хахуд. – Дзе ты бачыў, каб каты гаварылі. Хіба толькі ў тваіх п'яных глюках. Каты мяўкаюць. Разумееш? Сабакі брэшуць, каровы мыкаюць, свінні рохкаюць, а каты мяўкаюць. Гэта забаўка для дзяцей двухгадовага ўзросту. Мамы

ім кажуць, каб зрабілі як коцік. І дзіцянё паказвае, як робіць коцік. А ты дарослы чалавек і не ведаеш, як робіць коцік.

– Ведаю. Ён дзе папала пазначае тэрыторыю ў кватэры і на абутку гасцей.

– Правільна. А яшчэ ён мяўкае. І ўсё. Гэта мы, людзі, можам і брахаць, і мыкаць, і рохкаць, і пазначаць тэрыторыю там, дзе нам у галаву стрэльне. Бо мы вышэйшыя істоты. А каты толькі мяўкаюць. А пазначаюць тэрыторыю толькі там, дзе ім інстынкты падказваюць. Магу выдаць сакрэт. Гарадскія каты пазначаюць тэрыторыю на абутку людзей выключна для таго, каб людзі, разыходзячыся, разнеслі іх пах па свеце і асобам супрацьлеглага полу, скарочана іх можна назваць коткамі, было зручней іх знайсці. Заўважце, робяць яны гэта толькі таму, што яны абмежаваныя сценамі кватэры і гаспадарскімі дзвярамі ў мажлівасцях самім разнесці свой пах.

Касцюковіч, яшчэ не верачы, што ўсё гэта адбываецца з ім, нерашуча пацягнуўся да кішэні па цыгарэты і нарэшце ўсеўся на сваё былое месца ды закурыў. Хахуд куляй выскачыў з кухні і праз хвіліну з’явіўся з плакатам у руках. На плакаце было напісана: “Адказны за супрацьпажарную бяспеку – КОТ”. Ён прыбіў плакат да сцяны чатырма вялікімі цвікамі, усеўся за стол, адкаркаваў гарэлку і спрытна наліў Касцюковічу. Пасля з кішэні дастаў двухсотграмовую гранёную шклянку і наліў сабе. Кот толькі ўздыхнуў і скасавурыў вочы на вулічны ліхтар. Вочы былі лімонныя, і, як здалося Сяргею, з аднаго вока цякла сляза.

– Ну, – падняў шклянку Хахуд, – за славутую і

доўгачаканую паэзію прозы, – і адным махам, нагбом асушыў шклянку.

– Скуль ты ведаеш пра паэзію прозы? – здзівіўся Касцюковіч.

– Ды вось, – адказаў яго новы знаёмы, – пакуль хадзіў па плакат, знайшоў у іншым пакоі твае рукапісы. Пачытаў крыху. Нічога так. Толькі не хапае зялёнага колеру. Ты ўсё пішаш чорнай фарбай. Я разумею. У цябе такая друкарка. Купі сабе каляровую друкарку і паспрабуй надрукаваць сваю пісаніну ў зялёным колеры. Паглядзіш, будзе значна лепш. Ну, а калі і тады не спадабаецца, то паспрабуй надрукаваць сіняй фарбай. Так крыху паэксперыментуеш і, можа, знойдзеш сябе як творцу. Я ведаю аднаго паэта, дык той цэлы год працаваў над колерамі. Не мог ніяк падабраць тыя колеры, якія патрэбныя для вокладкі яго несмяротных вершаў. Шукаў ён у той вокладцы сябе як творцу, шукаў, а знайсці аніяк не ў змозе. Ужо і знаёмых стаў пытацца, пазней у знаёмых знаёмых, а пасля і незнаёмых. Нехта яму параіў выкарыстаць шэра-бура-малінавую фарбу. Але і гэта яму не спадабалася. І так яго гэты творчы пошук знерваваў і застрэсаваў, што бедны хлопец залез у бутэльку на самае дно і вырашыў кніжкі не выпускаць.

А яшчэ адзін мой знаёмы напісаў несмяротны твор. І ўсё ў яго добра ішло, пакуль не стаў прыдумваць сабе псеўданім. Высветлілася, што аніводзін прыдуманы ім і яго знаёмымі псеўданім не дацягвае да велічы напісанага ў рамане. Таму раман ужо гадоў пятнаццаць, запылены, валяецца пад ложкам і не выдаецца. Бо няма імя аўтара. Сваё кепскае, і псеўданімы кепскія. Як падпісаць

твор? Во дзе бяда! Во дзе творчы пошук і творчыя пакуты! А ў цябе ўсё добра. Толькі назвы няма. Дык паспрабуй выдаць без назвы. Гэта так смела і арыгінальна. Так яшчэ ніхто не рабіў. Ты будзеш пачынальнікам новай традыцыі. А людзі любяць менавіта арыгінальнасць, як мага далей адарваную ад нармальнасці. Яны ад гэтага аж пішчаць. Асабліва жанчыны. Ну тыя, памятаеш, з нічым неабгрунтаванымі прэтэнзіямі на элітарнасць. А яшчэ больш пішчаць некаторыя вялікія паэтэсы.

– І спадарыня Кустоўская?

– Як ты мог так падумаць?! Ты што?! А чаму пра яе пытаеш? Ага, гэтая прыдуркаватая табе спадабалася! Я так і ведаў! Не. Спадарыня Кустоўская крыху не такая. Яна ўвогуле жыве не на гэтым свеце. Дурная, як дзіравы бот з левай нагі. Дзівачка. Я табе пра яе раскажу. Яна ж, адначасна, і ўзвышаная натура. Дзве ў адной. Людзі, што не сябруюць з галавой, часамі раздвойваюцца. Можа, чуў калі, раздваенне асобы называецца. А ў гэтай усё наадварот. Яна ўся розная такая, раздвоеная або раздзесяціненая ад нараджэння. Але часамі з'ядноўваецца ў адно. І гэта мяне палохае больш за ўсё. Бо не ведаеш тады, чаго можна чакаць ад сабранага ў адно чалавека. Ты ведаеш, які несусветны скандал учыніла гэта прыдуркаватая асоба?

– Які?

– Адмовілася фатаграфавацца голай для часопіса "Плэйбой".

– Ну і што?

– Як што?! Ты не зразумеў. Нават за грошы не захацела.

– І што з таго?

– Што,што... Некалькі чалавек ледзьве ў скрынку не згулялі. Уяві сабе. Ходзіць увесь час у святочным нарадзе Евы задарма, а фатаграфавацца голай і за грошы не захацела. Усе гэтыя спявачкі і кіназоркі ды іншыя знакамітасці, якія ў тых часопісах фатаграфуюцца, кажуць таксама, што робяць тое не дзеля грошай. Я іх усіх добра ведаю асабіста. Сцвярджаюць, што яны аж настолькі творчыя натуры, што жыць без публічных скандалаў і шакуючых фактаў творчай біяграфіі не могуць і права не маюць. Натура такая ўзвышаная і тонкая ў іх, сцвярджаюць. Таму і ідуць на такі крок скандальны, і фатаграфуюцца ў сукенцы Евы. А дзе скандал у тым, што фатаграфуюцца, апрануўшы толькі завушніцы? Можа, гэта некалі быў скандал, у часы дрымучыя. Але не сёння, у час прагрэсу і сэкэнхэнду. Няма аніякага скандалу, як высветлілася. Паглядзець той часопіс - гэта ўсё адно, што п'янаму ў лазні пераблытаць залы і зайсці ў жаночую. Паўсюдна голыя бабы. Ну, і дзе тут шок?!

А вось Аксана Львоўна нарабіла сваёй адмовай такога скандалу і шухеру, што і за грошы не купіш. Ніхто не мог зразумець падобнага ўчынку. Вядомая і неардынарная паэтэса - і не хоча фатаграфавацца ў завушніцах. Ва ўсіх быў шок. Некалькі чалавек зразу звольніліся з рэдакцыі часопіса. Палічылі, што прыйшоў канец свету, і кожны кінуўся па сваё. Хто ў кнайпы прапіваць заробленае, а хто грахі замольваць. А фатограф выклікаў з псіхіятрычнага шпіталя санітараў. Думаў, спадарыня Кустоўская паехала мазгамі. А пакуль санітары прыехалі, дык у яго самога дах праваліўся, і лекары забралі яго разам з фотаапаратурай. А як паглядзелі, каго ён фатаграфуе, бо

ў фотаапараце былі яго ранейшыя фотасесіі з голай элітай нашага часу, то вырашылі, што гэта страшэнны серыйны сексуальны маньяк, ды выклікалі паліцыю і іншыя спецыяльныя службы. І толькі як на фотаздымках пазналі голых знакамітасцяў, зразумелі, што фатограф не маньяк, а проста няшчасны чалавек, які зарабляе сабе на хлеб усім, чым давядзецца, у тым ліку і фатаграфаваннем паскудства ўсялякага, і выпісалі таго з псіхушкі. А таксама, крыху павесяліўшыся і пасмяяўшыся, вярнулі ўсе здымкі і апаратуру. А куды іх дзець? Дахаты ж іх не панясеш. Бо там дзеці. Сораму не абярэшся. І яны з жалем такім праводзілі фатографа на яго цяжкую працу. Санітаркі і медыцынскія сёстры плакалі ў тры ручаі з кожнага вока, як п'яныя вавёркі з прычыны ад'езду халастога бабра. А фатограф яшчэ раз перапытаў, ці будзе Кустоўская фатаграфавацца. І як даведаўся, што не, то кінуў сваю працу і пачаў фатаграфаваць матылёў.

Ужо трэці фотаальбом выпускае. Знакамітым стаў нарэшце. А вось адзін гад пастараўся зрабіць фатамантаж спадарыні Кустоўскай. Прыляпіў ейную галаву да няведама чыйго азадка. Атрымалася някепска. Але рэдактар зразумеў, што гэта дабром не скончыцца, і ў часопіс не паставіў.

– Вось табе і на, – задуменна працадзіў праз зубы Касцюковіч. – Ніколі б не падумаў пра яе так, убачыўшы спадарыню Кустоўскую ўпершыню.

– Вось і я кажу, – падняў палец угору Хахуд. – Ніколі не мяркуй пра чалавека па вопратцы, асабліва калі яе ў яго няма. У іншых, паглядзі, вопратка каштуе мільярды. Ад Армані ды ад Версачы. Ды яшчэ якая безгустоў-

ная стужка, пачэпленая ад Славы Зайцава. Глядзіш на такую фіфу і бачыш, што на ёй апранута на большую суму, чым гадавы бюджэт краіны. А навошта, калі фатаграфавацца ўсё адно голая лезе? А іншая апранута сціпленька, як наша Львоўна, толькі катом прыкрытая, а нейкі гонар мае. У фотаапарат не лезе птушачку ганяць, калі не мае на сабе прыстойнага адзення.

– Вось яно як! – задуменна прашаптаў паэтычны празаік. – Ну, налівай яшчэ.

– Не, няма калі. Занадта шмат наліваеш. Калекцыянерам хочаш стаць. Адзін мой знаёмы геній-класік казаў, што і ён некалі быў калекцыянерам. Збіраў этыкеткі ад алкагольных напояў. Але пасля, як лекары забаранілі, то кінуў. А я вазьму твой рукапіс, пачытаю. Як-небудзь наступным разам вярну з заўвагамі. Адрэдагую. Табе ж моцна патрэбны добры рэдактар. Хоць гэта і не адзінае, чаго табе не хапае.

І Хахуд панёсся да дзвярэй.

– Стой, падла! – зароў, як паранены дыназаўр, Касцюковіч і рашуча кінуўся наўздагон.

Але маленькі чалавечак нёсся з хуткасцю ветру ў самым цэнтры цунамі. Ён пераскокваў праз некалькі прыступкаў адразу і хутка выскачыў на вуліцу. Сяргей стараўся не адставаць. Ён ужо амаль дагнаў новага знаёмага, як аслупянеў ад убачанага. Ля яго пад'езда стаяў з уключанымі фарамі новенькі бліскучы кабрыялет чырвонага колеру з жоўтымі палосамі, за рулём якога сядзела спадарыня Кустоўская. Кот стаяў на задніх лапах на сядзенні побач, пярэднімі лапамі абапіраючыся аб шыбу, і з надзвычай сур'ёзным выразам морды ўважліва глядзеў наперад. Хахуд скочыў

у машыну, і тая імгнення рванула з месца, як ракета будучага са стартавай пляцоўкі.

– Таксі, таксі! – залямантаваў Касцюковіч, і жоўтая машына з зялёнай лямпачкай на шыбе спынілася ля яго.

– За той машынай, хутчэй, – загадаў ён таксісту.

* * *

Кабрыялет удалося знайсці толькі ля начнога клуба. У кінутай машыне нікога не было. Касцюковіч здзівіўся, што таксіст не запатрабаваў грошы за праезд. Ахоўнікі начнога клуба таксама прапусцілі яго без білета. Музыка грымела так моцна, што Сяргею здалося, нібыта ўся будаўнічая тэхніка горада тут забівае ў зямлю бетонныя і металічныя слупы. Пад гэты шалёны гукавы гвалт смешна, і нават камічна, скакалі людзі, мяркуючы, што яны танцуюць. Найбольш недарэчна выглядалі асобы мужчынскага полу. Бо, ў адрозненне ад жанчын, якія рабілі выгляд, што проста адпачываюць, гэтыя рабілі выгляд, што прыйшлі толькі напіцца. А як пачыналі нарэшце рабіць тое, дзеля чаго яны сюды прыйшлі насамрэч, то высвятлялася, што яны ўжо сапраўды напіліся.

Хахуд сядзеў за столікам у таварыстве трох незнаёмых дзяўчат, кожная з якіх па-рознаму рэагавала на яго прысутнасць.

– Оу-у-у, пазнаёмцеся, – звярнуўся ён да дзяўчат і рассмяяўся, паказаўшы амаль усе свае гнілыя зубы. – Гэта мой знаёмы геній. Ну, Сяргей Жоржавіч, сядайце, калі ласка, бліжэй. Я зараз вам пакажу паэзію гульні і прозу жыцця.

– Давай, – незадаволена адгукнуўся Касцюковіч, не зводзячы вачэй з няголенага твару Хахуда.

– Дык вось, мае даражэнькія, – Хахуд цалкам пераключыўся на жанчын. – Я нездарма прысеў за гэты столік, бо тут самыя прыгожыя, на мой густ, кабеты. І вось – час уступу, які я скарачаў як мог, скончыўся. Цяпер пытаю коратка, дакладна і ясна. Хто з вас пойдзе са мной добраахвотна?

Дзяўчаты пераглянуліся і ўсміхнуліся. А адна пачала шукаць у галаве найбольш брудныя і агідныя словы, каб наймацней абразіць гэтага няголенага, смярдзючага і неверагодна брыдкага чалавека. Але той не здаваўся:

– Ну, калі не хочаце па добрай волі, як гаворыцца, па чыстым і ўзвышаным каханні, то пойдзеце пад прымусам, – зарагатаў ён. – І зараз буду выбіраць я. Я і толькі я. А вы цяпер усяго толькі статысты.

– Ты? – адгукнулася дзяўчына, якая шукала словы, каб абразіць. – Ды ты на сябе зірні, страшыдла. Цябе ўвогуле за наш столік ніхто не клікаў. Чашы адсюль, пакуль не выклікала ахову. І наступны раз хоць адзенься больш прыстойна перад тым, як заходзіць, дзе людзі сядзяць.

– Гляньце, што яна гаворыць, – развёў рукі ў бакі Хахуд. – Гэта я непрыстойна апрануты? Ну, крыху закароткія порткі. Ну, шкарпэтак няма. Але што ж тут непрыстойнага? Падумаеш, лапсердак вялікаваты! Памеры на два. Але, яшчэ раз пытаю, што тут непрыстойнага? Вы лепш на сябе гляньце. Вы ж зусім голыя. Сярожка, памятаеш, я табе цэлую лекцыю нядаўна прачытаў пра вопратку і яе адсутнасць. Дык

вось, паўглядайся. Сядзяць мамзэлі ў такіх кароткіх набедраных павязках, што мая гумка ад трусоў утрая шырэйшая. І яны кажуць, што гэта не яны, а я непрыстойна апрануты. Які несусветны цынізм!

– Нармальна мы апранутыя, – у адзін голас закрычалі дзяўчаты. – Нармальныя ў нас спадніцы.

– Жоржавіч, ты толькі глянь. Яны гэтыя шнуркі называюць спадніцамі, – не здаваўся Хахуд. – Яшчэ пару сотняў гадоў таму назад вас на плошчы палілі б на яловых дровах за такія спадніцы. Але гэта не галоўная тэма нашых рамантычных размоваў. Галоўнае, што зараз выбіраю я. І выбіраю я цябе, – і ён ткнуў пальцам у тую дзяўчыну, якая старалася яго найбольш абразіць.

– Ну ты і прыдурак, – усміхнулася тая.

– А давай паспрачаемся, што я цябе куплю. Спрачаемся на даляр.

Усе за сталом рассмяяліся. А Хахуд усеўся насупраць дзяўчыны і дастаў з кішэні торбачку. Пасля выцягнуў адтуль адзін даляр і кінуў на стол.

– Я купляю цябе за даляр.

– А я выклікаю ахову, – не вытрымала дзяўчына і перайшла на крык.

– Добра, прабачце. Я не ведаў, што вы такая далікатная. Даляра ёй мала. Хто мог падумаць, што вы каштуеце даражэй. Я даю сто адзін даляр, – і ён кінуў на стол стодаляравую купюру.

– Ідзі к чорту, – адказала дзяўчына, але ўжо без крыку.

– Тады пяцьсот адзін даляр, – і на стол, пад затое-

нае дыханне дзяўчат, ласкава ляглі яшчэ чатыры стодаляравыя купюры.

За сталом стала ціха. Адна з дзяўчат нешта старалася паказаць астатнім на пальцах. Другая прашаптала:

– Пагандлюйся яшчэ.

– Тысяча адзін даляр, – урачыста крыкнуў Хахуд, кінуў на стол яшчэ пяць купюр і раскрыў сваю торбачку шырэй. Стала бачна, што грошай у яго там шмат. Вельмі шмат. Ну, вельмі!

– Гэта мала, – нерашуча прапішчала дзяўчына, паглядаючы на сяброваk.

– Мала, – хапіўся рукамі за галаву Хахуд. – Ай, я няшчасны. Ніхто мяне не любіць. Я ж ад шчырага сэрца, а ёй усё мала. Я, можна сказаць, з каханнем да яе, а ёй усё мала грошай. Ну, добра, – і твар у яго стаў сур'ёзным. – Ты выйграла. Я прайграў. Забірай свой законна выйграны даляр, а я сваю тысячу, ад якой ты так бяздумна адмовілася, нібыта я табе прапаноўваў гэтую суму ў беларускіх рублях.

Твар у дзяўчыны набыў выгляд разгубленага імбрычка, які паставілі на стол пасля таго, як з'елі торт. Яе сяброўкі выглядалі не лепш.

– Дэбілка, – нарэшце ў адной з'явіўся голас. – Чаму ты не брала? Гэта ж цэлая тысяча. Дзе ты яшчэ возьмеш столькі грошай?

– Вы самі раілі гандлявацца, – спачатку адбівалася дзяўчына з тварам разгубленага імбрычка. А пасля рэзка, як падключаная пад дзвесце дваццаць вольт, павярнулася да Хахуда і прапанавала: – Я гатовая згуляць яшчэ.

– Не, не, не, – адмахнуўся той. – Не магу. Па-першае, я гуляю толькі раз на вечар. Гэта традыцыя. Па-другое, каханне прапала. Прайшло, як і не было. Як з белых яблыняў, як сцвярджаў адзін паэт… Як учарашні рамантычны сон. Кудысьці пайшло і не вяртаецца. Ну, і мой сябра вельмі засмучаны ходам гульні. У яго ад такіх гульняў узнікае вострая патрэба ванітаваць. Праўда, Жоржавіч?

– Праўда, – адгукнуўся Касцюковіч. – Больш, чым ад няякаснай гарэлкі.

– Ну дык пайшлі адсюль. Гэтае месца знішчальна ўплывае на тваю няспелую псіхіку непрызнанага генія, каторы працуе над формулай паэзіі прозы. І яшчэ, – ён зноў павярнуўся да дзяўчат, якія сядзелі шырока разявіўшы раты, нібыта вырашылі пералавіць усіх мух у любімым начным клубе. – На жаль, для другой гульні, як і для далейшага майго знаходжання ў гэтай гнілой установе, я недастаткова прыстойна апрануты.

На вуліцы ўжо стаяла машына з уключаным рухавіком, за рулём якой, як і раней, сядзела спадарыня Кустоўская. Побач на задніх лапах, пярэднімі абапіраючыся аб машынную панель, стаяў кот і ўважліва глядзеў наперад. Толькі цяпер на яго вачах былі матацыклетныя акуляры старадаўняй мадэлі, якія ён час ад часу папраўляў то правай, то левай пярэдняй лапай. Спадарыня Ксеня Кустоўская была ў сваёй звычайнай вопратцы, і таму вострай патрэбы штосьці папраўляць у яе не было.

* * *

Горад застаўся ззаду за зялёнымі вясковымі пагоркамі і пылам гравійнай дарогі. Узыходзячы, сонца лашчыла верхавіны дрэў сваімі юнымі праменямі і ўражвала веліччу падзеі, якая адбываецца штодня. Босы юнак пераводзіў праз дарогу статак нахабных кароў, якія, дзе б ні былі, мяркуюць, што яны пад ахoвай індыйскіх законаў, і не збіраюцца саступаць месца на дарозе прыдуманаму чалавекам транспарту. Усё навокал захапляла і цешыла, абуджаючы ў душы кожнай жывой істоты высакародныя і рамантычныя пачуцці. І толькі плявальны рык рухавіка трактара "Беларус" не дазваляў пакласці ўсё бачанае на неўміручую і велічную музыку вершаў.

– Якія яны прадажныя, – парушыў цішыню другім пасля трактара Касцюковіч. – Вось жа паскуды, ганьбяць нашу нацыю.

– Ты яшчэ пра дзяўчат думаеш, – засмяяўся Хахуд. – Ды супакойся ты. Не ганьбяць яны тваёй нацыі больш за цябе.

– А чым жа я яе ганьблю?

– А тым, што не любіш яе.

– Я?

– Ты!

– Я? Я?

– Ты. Ты.

– Ды я за свой народ каго хочаш прыкончу!

– І яны таксама.

– Як ты можаш мяне з імі параўноўваць?

– Проста. Яны хоць не прыдумваюць сабе геніяў, як іх геніі прыдумваюць сабе свой народ. Не такі ён, як ты хочаш, твой народ. І ніколі не быў такім, як ты лічыш. Ён быў такі, які ёсць. Гены. З імі нічога не зробіш. Навукай даказана. І такім будзе заўсёды. Ва ўсе вякі. Толькі ты бачыш у ім кепскае і дадумваеш добрае. А ў ім і без тваіх дадумак добрага аж зашмат. Трэба толькі ўбачыць. І прабачыць усё кепскае, што ў ім ёсць. Бо ўсё што ў ім, тое і ў табе.

– Як гэта можна даравяць кепскае?

– Так, як ты гэта робіш у дачыненні да сябе.

– Я так не раблю.

– А я дакажу.

– Ну то дакажы.

– Ну то паехалі за тым трактарам.

Трактарыста дагналі ля вясковай крамы, на паліцах якой валялася ўсё тое, што ў вёсцы было непатрэбнае. Таму мясцовыя жыхары прасілі дзяцей патрэбнае прывезці з горада, дзе яно ёсць. Толькі там, у горадзе, яно нікому не трэба. Хлеб, соль ды алкаголь – вось і ўвесь тавар, які карыстаўся тут попытам.

Трактарыст купіў бутэльку пладова-ягаднага віна, і са шчаслівым, як у паўліна, што выйграў джэк-пот, тварам палез у трактар. Але з унутранай кішэні пінжака, як ён нахіляўся, выслізнула гэтая бутэлька віна. У трактарыста ледзьве не спыніліся ў грудзях рытмічныя ўдары, якія там былі ад нараджэння. Твар стаў белы, як палатно парашута паветрана-дэсантных

войскаў, у якіх яму прыходзілася абараняць радзіму ад незразумелых яму агрэсараў да таго, як зведаў усю калгасную асалоду язды па полі на трактары.

Бутэлька стукнулася аб адну прыступку трактара і ацалела. Перавярнулася ў паветры і стукнулася аб другую. І зноў ацалела. Трактарыст назіраў за працэсам падзення, бачыў усё ў запаволеным рэжыме і нічога не мог зрабіць, бо быў напалову спаралізаваны ад страху за тое, што можа здарыцца. Бутэлька яшчэ раз перавярнулася і ляснулася на цэглу ля крамы. І зноў засталася цэлая.

Трактарыст адышоў ад паралічу і ўсміхнуўся. Яго твар засвяціўся радасцю і цеплынёй, паказваючы шчыры і добры характар чалавека, які нікому на свеце ў душы не пажадаў зла. Ён спрытна злез з трактара, падняў бутэльку, з пяшчотай пацалаваў яе і зноў паклаў у кішэню. Але прамазаў. Бутэлька слізганула ля кішэні і ляснулася аб зямлю. І на гэты раз разляцелася на некалькі вострых кавалкаў, пакінуўшы ўспамінам пра віно толькі мокрую пляму на пяску.

Роспачы чалавека не было межаў. Напачатку ён прысеў і хапіўся рукамі за галаву, нібыта пахаваў блізкага сябра. Пасля падняўся, развёў рукі ў бакі і паглядаў навокал, як быццам бы пытаючыся ў пустых вясковых хат, як такое магло стацца. Затым махнуў рукой, ускочыў у трактар і рвануў з месца так рэзка, нібыта сядзеў у рэактыўным самалёце і стартаваў з амерыканскага авіяносца "Німец". А праз хвіліну, задыміўшы чорнай парай усю ваколіцу, знік за зялёным пагоркам, маляўнічы пейзаж якога толькі што псаваў сваім паржавелым выглядам яго старэнькі трактар.

– Ты ўсё падстроіў, – вызверыўся Касцюковіч на Хахуда.

– А я тут пры чым? – стаў апраўдвацца той. – Зусім не пры чым. Я такі самы назіральнік жартаў лёсу, як і ты.

– Ты ўсё ведаў, – настойваў Сяргей. – Ведаў і нічым не дапамог гэтаму няшчаснаму чалавеку.

– А, вось як ты загаварыў, – зарагатаў яго суразмоўца. – Пашкадаваў алкаголіка, значыць. Пашкадаваў піяку, які апошнія грошыкі вырывае з зубоў сваіх дзяцей і прапівае ўсё, нават хатнюю атруту для мышэй. Заступіўся за чалавека, якога праклінае ўся радня, уключаючы ўласную сям'ю.

– Лжэш!

– Сам ілжэш. Нябось, у самога жонка з дзецьмі ўцякла з хаты. І нават ката забрала, каб ты яго не спаіў.

– Не твая справа!

– Ясна, што не мая. Але мушу канстатаваць той факт, што ты пашкадаваў алкаголіка, бо ты сам алкаголік.

– Няпраўда!

– Праўда-праўда! Чаму ты тых дзяўчат у начным клубе не пашкадаваў, а асуджаў? Адкажы.

– Бо яны сваімі паводзінамі абражаюць чалавечае аблічча і маю нацыю, якую я вельмі люблю.

– А ты і твой трактарыст не абражаеце? Гэта тое самае.

– Не тое!

– Тое-тое. І нікога ты не любіш, акрамя сябе. Усіх

ненавідзіш. А трактарыста пашкадаваў, бо ён такі, як ты. Алкаголік. Вось і ўся праўда. Бяры прыклад са спадарыні Кустоўскай. Яна хоць не ненавідзіць нікога. Яна да ўсіх спакойна ставіцца, нават да такіх ахламонаў, як ты. Таму яна і мае будучыню. Бо яна мае пачуццё меры. Мера – вось галоўнае ў паводзінах і думках чалавека. Меру трэба ведаць і ў любові, і ў нянавісці. А ты чалавек крайнасцяў. І любіш без меры, і ненавідзіш зашмат. Ты злы. Спадарыня Кустоўская надзвычай добрая. А я вось не такі добры. Таму пайшоў бы ты падалей. Няма мне часу на цябе. Аўфідэрзэйн, прыдурак, бай-бай.

І ён ускочыў у машыну, а спадарыня Кустоўская націснула на педаль газу адразу і да канца, нібыта хацела ў хуткасці першага рыўка паспаборнічаць з кіроўцам трактара “Беларус”, які нядаўна адсюль стартануў.

– Я дабяруся да цябе, сабака ты, жывёла бязрогая, – закрычаў услед Касцюковіч, кідаючы па машыне камянямі.

– Не ўздумай даганяць, – пачуўся адтуль ледзь ужо чутны голас. – Гэта машына зробленая з “Бэнтлі” і “Ламбарджыні-Д’ябло”. Яе пехатою не дагоніш. І запомні: каб кагосьці любіць, адмысловай прычыны не трэба.

Касцюковіч плёўся па пыльнай гравійнай дарозе, думаючы толькі пра адно: каб хто завесіў якой фіранкай тую нябесную патэльню, якую называюць сонцам. Падняўшыся на пагорак, ён агледзеўся і накіраваўся да невялічкага ляска, каб хоць крыху паляжаць у цяньку дрэваў. Зваліўшыся там на зямлю, ён адчуў

неверагодны спакой, як быццам бы патрапіў у космас і ў такое месца, дзе не дзейнічаюць сілы гравітацыі і ўвогуле няма аніякіх знешніх раздражняльнікаў. Пад нейкія незвычайныя, надзвычай урачыстыя пераліvы птушынага спеву ён заснуў. Прачнуўся ад іншага гуку. Прыслухаўшыся, зразумеў, што нехта капаецца рыдлёўкай у зямлі.

Сяргей падняўся і толькі цяпер заўважыў, што ён на могільніку. А зусім недалёка ад яго трое мужчын сталага веку і адзін юнак капалі свежы дол. Рыдлёўка ў іх была адна, але і так яны не спяшаліся працаваць хутка. Адзін капаў, трое сядзелі на траве, ля ручніка, на якім стаяла дзве бутэлькі самагонкі і ляжала два агуркі.

– Памагай бог, – прывітаўся Касцюковіч.

– Дзякуй, – адказалі тыя. – І табе добры дзень.

– Памёр нехта? – не ведаючы з якой тэмы завязаць размову, нібыта гэтым пацікавіўся Касцюковіч.

– Адпакутаваў чалавек. Бабулька. За восемдзесят мела. Пара ўжо. Тут маладыя паміраюць кучамі. А ёй і самой ужо жыць хіба што абрыдла. Хадзі, прысядзь. Памянём чалавека. Добрая яна была, толькі лёс гаротны мела.

Шклянка была толькі адна, і яе пусцілі па коле. Пасля, пасядзеўшы, паўтарылі тое яшчэ раз.

– Давайце памагу вам, – прапанаваў Касцюковіч, узяў рыдлёўку ды скочыў у дол. Але работа не клеілася. Зямля была цяжкая, камяністая. Рыдлёўка толькі білася аб камяні, скрыпела, паскудным рыпеннем пяску па жалезе выклікала бег мурашак па спіне, і ніякай карысці з таго не было.

– Пасядзі, не здзекуйся з прылады працы, – прапанаваў адзін з мужчын. – Выпі, закусі. Адпачні. Работа нікуды не ўцячэ. Не воўк. І нават не карова. Яна як стаяла, так і стаяць будзе.

– Расказаць, можа, пра сябе? – пацікавіўся госць.

– А мы тут не маем звычкі цікавіцца іншымі.

– Дзіўныя вы людзі. Тады раскажыце, як вы тут жывяце?

– А вось так і жывём.

– А лепш хацелася б?

– А чаму ж не? Кожнаму хочацца лепшага.

– Ну то я вам скажу: за лепшую долю трэба змагацца. Як гэта нашы суседзі зрабілі. Зараз ужо ў Еўразвязе. Толькі мы адны па-ранейшаму пад маскалямі ходзім.

– А што яны табе кепскага зрабілі? – пацікавіўся адзін мужчына.

– Эх вы, цемната, – махнуў рукой Касцюковіч. – Што вам можна растлумачыць? Вы ж не пачуеце. Вы нарадзіліся глухімі, як пні, на якіх нават апенькі не растуць. Вам і калом праўды не ўваб'еш.

– А і не трэба, – усміхнуўся мужчына. – І тлумачыць нічога не трэба. А паклічаш, то табе мы дапаможам.

– А чаму менавіта мне? Можа, ведаеце мяне?

– Ведаем. Ты з Касцюковічаў. Тут недалёка сваякі тваёй цешчы жывуць. Але дапаможам не таму.

– А чаму? Можа, таму, што я дол вам памог капаць?

– Нам твая дапамога не патрэбная. Да працы мы

прывучаныя. Неяк без цябе і без такіх, як ты, справімся. Дагэтуль спраўляліся і зараз не прападзём.

– Ну дык?

– А таму мы табе дапаможам, што ты з намі гарэлку разам піў. І не пагрэбаваў ні нашай гарэлкай, ні нашай кампаніяй. А чалавек ты адукаваны, гарадскі. Пісьменнік, кажуць. Не тое, што мы тут, цемната вясковая.

– Дзіўныя вы людзі, – паўтарыўся Касцюковіч і заматаў галавой направа ды налева. – Вельмі дзіўныя.

Ён крыху яшчэ пасядзеў, пазіраючы, як мужчыны няспешна, мяняючы адзін другога, капаюць дол. Пасля пачаў думаць, дзе ён знаходзіцца і як зараз яму дабрацца дахаты, якая засталася невядома дзе і невядома нават у якім кірунку. З задумення яго вывеў голас юнака.

– Дзядзька Косця, я зараз на ровары пад'еду да дзядзькі Сямёна. Ён зранку купіў віна ды не давёз на сваім трактары. Пабіў недзе па дарозе. Дык зараз ляжыць у роспачы і ні з кім не размаўляе. Дэпрэсія нейкая, кажуць, апанавала яго. І на працу ў калгас не ідзе. А наш заатэхнік кажа, каб я да яго з'ездзіў і прывёз бутэльку віна яму. Бо работа на полі стаіць без дзядзькі Сямёна. А заатэхнік і грошы даў на віно. Кажа, каб завёз хутчэй, бо той з роспачы і заўтра не пойдзе ў калгас. А як надвор'е сапсуецца пасля, то ўсё ляснецца. Працаваць і так няма каму, а тут трактарыст у роспачы.

– Ну то едзь, – адказаў дзядзька Косця. – Толькі глядзі, каб яго Ганна таго віна не заўважыла. А то патаўчэ бутэльку на тваёй галаве. І спытай, калі нябожчы-

цу прынясуць, каб нам тут па часе ведаць што і як.

– Добра, – адказаў юнак і скочыў на ровар.

– Стой, – падхапіўся Касцюковіч. – Ты ў вёску? То я з табой. Мне аўтобусны прыпынак патрэбны. Хоць куды. Ехаць трэба.

І ён, як у дзяцінстве, скочыў на раму ровара і праз пятнаццаць мінут ужо сядзеў на вясковым прыпынку аўтобусаў, побач з двума ўкапанымі ў зямлю на пачатку вёскі крыжамі. Каталіцкім і праваслаўным.

Яму пашанцавала. Аўтобус у гэты дзень прыйшоў. Зароўшы некалькі разоў, ён вырваўся з палону глыбокай каляіны і патрос пасажыраў па гравійнай дарозе. Пасля на хвілінку спыніўся, прапусціў сумную працэсію, якая праводзіла ў лепшы свет добрую бабульку, якая пражыла больш за восемдзесят і ўжо адпакутавала, і папёрся далей, праз зялёны лясок, ля става, да асфальта…

* * *

Прачнуўшыся, Касцюковіч доўга не мог разабрацца, дзе ён. Праз нейкі час ён здзіўлена адзначыў, што сядзіць на сваёй кухні, за сваім сталом, на якім пад самым яго носам стаіць неадкаркаваная бутэлька гарэлкі. Тая самая бутэлька, якую (ён гэта добра памятае) яны выпілі з Хахудам.

Ля пліты плячамі да яго стаяла жонка і гатавала штосьці смачнае. Гэта было чуваць па паху. А ў суседнім пакоі лямантавалі, нешта не падзяліўшы, яго дзеці. І нават кот на падвоканні сядзеў таксама ягоны.

– Жэрці будзеш, алкаголік? – ласкава спыталася жонка.

– Ы-гы, – адказаў муж, яшчэ не да канца разумеючы, што тут адбываецца.

– Нешта ты бутэльку не асушыў, – усміхнулася жанчына. – Што, ужо і на тое сілаў не хапае?

– Лепш раскажы, што тут было, як ты прыйшла. Я нешта сніў незразумелае. Не магу ўспомніць.

– Вярнуліся мы вечарам. Дзеці мяне ўгаварылі. Кажуць, татку кепска, здохне без нас, як сабака. Я ім кажу, што халера вашага татку не возьме. А яны ў плач. Каб не яны, у жыцці не вярнулася б да гада такога. А ты ўжо валяўся на стале п’яны. Хроп, як свіння нямытая. Ажно бурбулеў. А тут кот нешта падышоў да морды, ты яго схапіў і не адпускаеш. Ён выкручваўся, а ты трымаў, як азвярэлы злыдзень. Зваруган ты такі. Ну, мы з дзецьмі селі тут насупраць, дасталі тваю шуфляду з шафы і разглядалі рэліквіі тваёй маладосці. А пасля, як кот ад цябе вырваўся, пайшлі спаць. Вось і ўсё.

– Якую шуфляду? Пакажы, – прастагнаў гаспадар хаты.

– Ды вось гэтую. Я яе не прымала яшчэ, – і жонка падсунула яе да яго.

Касцюковіч падцягнуў да сябе шуфляду і зазірнуў у сярэдзіну. Яго вочы напоўніліся буйнымі слязамі, сэрца стала разрывацца на кавалкі, і нейкае незразумелае пачуцце болю і жалю, спачування і роспачы праляцела недзе па тым месцы, дзе хіба што знаходзіцца душа.

Ён асцярожна засунуў руку ў шуфляду і дастаў нейкую невялічкую паперку з яго фотаздымкам. Гэта было пасведчанне сябра Руху БНФ “Адраджэньне”. Яшчэ таго руху, самага першага, калі партый ніхто і не збіраўся рабіць. Таго, сябры якога яшчэ ў часы Савецкага Саюза асмеліліся гаварыць пра незалежнасць Беларусі. І мала хто з саміх фронтаўцаў верыў, што тая незалежнасць можа прыйсці яшчэ пры іх жыцці.

А вось і першыя апазіцыйныя ўлёткі, бюлетэні, самаробныя газеты, абвесткі, напісаныя ад рукі. А яшчэ значок з “Пагоняй” на люстэркавым фоне. Яго любімы значок. Тады цяжка было такія дастаць. Іх недзе ў самой Вільні рабілі…

– Хадзі глянь, – паклікаў ён жонку ласкавым галасам. Тая, здзіўленая паводзінамі мужа, моўчкі падышла і села побач. – Бачыш гэты здымак? Якія мы былі тады маладыя! А як мы змагаліся за свае ідэалы! Калі хтосьці са старэйшых казаў, што трэба запрасіць людзей на мітынг, то мы, прыйшоўшы дахаты, усю ноч перапісвалі ад рукі ўлёткі з запрашэннямі на мітынг. Друкаркаў і іншай памнажальнай тэхнікі тады яшчэ не было. А пасля, нараніцы, ішлі і самі клеілі ўсё па слупах.

– Я гэта ведаю.

– Якія часы былі рамантычныя!

– Ну так.

– Зараз хіба што таксама такія. Толькі са мной, напэўна, штосьці не так?

– Ну дык ты ж сябе шукаеш, – сказала яна з іроніяй у голасе. – Шукаеш формулу паэзіі прозы.

Глядзі, не згубіся там канчаткова. У той формуле і ў тых пошуках.

– А вось паглядзі на гэты значок. Тады бел-чырвона-белы значок купіць было немажліва. І мы бралі белы пластык і клеілі на яго чырвоную стужку. А пасля паяльнікам упайвалі з другога боку шпільку, каб значок можна было прышчапіць да вопраткі. Уяўляеш, як гэта было?

– Уяўляю. Гэты значок я сама табе рабіла.

– Так? Няўжо?

– Так. Ты ўжо зусім памяць адпіў.

– Гэта ўжо ў мінулым, – ціха прашаптаў Касцюковіч і сам нечакана для сябе задумаўся над тым, што сказаў.

– Няўжо? – усміхнулася жонка. – Што гэта значыць? Няўжо знайшоў сябе пасля такіх доўгіх пошукаў?

– Не ведаю што, але, здаецца, нешта знайшоў.

– А можа, формулу паэзіі прозы?

– Такой формулы няма.

– Няма?

– Няма. Яе як бы няма, і адначасова яна паўсюдна.

– А калі да цябе тое дайшло?

– Не знаю. Мне зараз здаецца, што я гэта ведаў заўсёды. І ты ведала, што я гэта ведаў увесь час.

– Ведала.

– Чаму не казала?

– Казала.

Кот ціха хадзіў па хаце, не маючы спраў і заняткаў, і не мог знайсці сабе забаву. Затым, згубіўшы надзею, што атрымаецца чым сябе заняць, улёгся на мяккім крэсле і заплюшчыў вочы. Услед за катом пазасыналі змучаныя бяссоннай ноччу дзеці. Жонка пайшла ў краму купіць чаго-небудзь для святочнай вячэры.

Яны так вырашылі разам. Вось стрэліла ім так у галаву – ні з таго ні з сяго зрабіць вячэру святочнай. Кожны на тое мае права, асабліва калі закаханыя былі ў сварцы, пamірыліся, высветлілі ўсе непаразуменні і зараз знаходзяцца ў стадыі адноснай нірваны, якая невядома як хутка можа закончыцца.

Сяргей Касцюковіч сядзеў за сталом, на якім ляжала шуфляда з яго значкамі, пасведчаннямі, запрашэннямі на кангрэсы і з'езды беларусаў свету, сходы партый, кааліцый… Дзе знаходзіліся яго партыйны білет, фотаздымкі з розных апазіцыйных акцый, рукапісы выступаў на мітынгах… І яшчэ халера ведае што! Дакладней сказаць, чаго там толькі не было! Цэлы кавалак жыцця…

Побач стаяў уключаны ноўтбук.

# ЗМЕСТ

